*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС*

**1** (963)

*СТУДЗЕНЬ*

# ПОЛЫМЯ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2010**

## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

## Мікола МЯТЛІЦКІ



* * *

Гоману поўныя далі адкрытыя,
Весніцца восені — травы зялёныя.
Шчэ прыблукаюць таемнай арбітаю
Дні беспрасветныя, шэра-замглёныя.

Выстыне-зжурыцца, возмецца верадам
Тое, што светліцца мудра і сцішана.
Сёння ж красуе зрошаным верасам
Восень пад небам гожа-узвышана.

Неба над светам святлістае самае,
Вечар успыхне ірдзістымі зорамі.
Цешуся ўслодыч — быццам душа мая
Гэтак красуе ўсімі калёрамі.

Колькі яшчэ ў ёй святлыні прасторнае,
Водбліску неба з глыбіннаю просінню,
Гэтага ззяння высокага зорнага,
Гэтае велічы,
Ўзнесенай восенню…

---

**Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч** *нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002 годзе прызначаны галоўным рэдактарам часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986) і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998).*

* * *

Са Смаргоні у Хойнікі
Дзень пісьменства падасца,
У зялёныя хвойнікі
Залатога юнацтва.

Галасіста і велічна
Узнясецца ў аблокі
З тых абсягаў, дзе Мележа
Незабыўныя крокі.

Будзе гулкасцю пругкаю
Калыхаць далячыні,
Звонкай радасцю шугкаю
Браму лёсу расчыніць.

Паляшучкі дародныя
У павышытых строях
Заспяваюць пра роднае —
Свята ўдачу патрояць.

Каранеўка і Глінішча
Шмат вяселля пабачаць.
Толькі ўздыму быліннага
Не пачуе мой Бабчын.

Ён, бядой апустошаны,
Будзе зорыць паўсонна, —
Быццам госць незапрошаны, —
З ачужэлае зоны.

* * *

Паэтычнае свята гуло…
Звон Ушаччынай коціцца.
Старына…
Еўдакія Лось.
Завіталі на котлішча.

Ні аконца, ані сцяны.
Сцежка прошласці затравелая.
Перастылыя валуны
Ды бяроза, як плачка, белая.

Старана мая, старана,
Як прасветла
Ля той бярозы!
Старына твая,
Старына
Роніць слёзы.

Як узлётна душы было
Тут тваёй незабыўнай Дусі!
У журбе
Еўдакія Лось
І прастор Беларусі.

* * *

Марэнныя пагоркі Беларусі.
Як плужыў дол старэчы ледавік,
Сыходзячы умлеўна ў потнай скрусе, —
Які ландшафт курганны тут узнік!

Як важка адступалі глыбы лёду,
Здзіраючы, як з рыбіны луску,
Мяшаючы ўсялякую пароду —
Ад крэмнію да рыжага пяску.

Ўціналіся, як гойстрыя кінжалы,
Асколкі ў грудзі голае зямлі.
І гладдзю вод азёры задрыжалі,
І плынню воднай рэкі паплылі.

Прыйшлі здалёку першыя падлескі,
І прыпаўзлі сырэчыя імхі,
І лёг балотна родны кут палескі,
Дзе між балоцін жоўты жвір сухі.

Было яно, вячыстае тварэнне —
Ў стыхіі нараджалася зямля.
І чэпкае, упартае карэнне
Узнесла пошум гнуткага галля.

З праменным, шчодрым сонцам у хаўрусе,
Адкрытыя скразным зямным вятрам,
Марэнныя пагоркі Беларусі
Трымаюць свет — святлісты Божы храм.

## ДОМ ДРУЖБЫ

### 1

Віхураць моў жывыя галасы —
І дружбы дух вітае скрозь нятленны.
Пасунутыя аж на палюсы
Душы цяплом утульнай залы сцены.

Які абсяг! Які жывы прастор!
Яднае ўсіх адна зямная доля:
І выша неба ў блёстках зыркіх зор,
І шчодрае на спелы колас поле,

І боль мінулай вогненнай вайны,
І грозны цень чарнобыльскай навалы…
Ўжо валанцёраў рослыя сыны
Мінаюць мытні й часу перавалы.

Уцёршы спачувальную слязу,
Душу дабру паставіўшы на службу,
Бясцэнны скарб штодня сюды вязуць —
Пяшчотаю зацепленую дружбу.

І дружба не прытоміцца ў хадзе,
Кранаючы жывыя струны лёсаў.
Як мёдны вулей, дружбы дом гудзе
На мовах свету — гучна, стогалоса.

І ў кожную пагодную пару, —
Ці сееш поле, ці ўбіраеш жыта, —
Ты ў гэтым доме годна, Беларусь,
Душою свету цэламу адкрыта.

**2**

Нямецкіх сяброў страчаем.
Гасціннасцю свеціцца дом.
У шчыльнай сябрыне за чаем
Гаворку пра дружбу вядзём.

— Ну як там жывецца ў свеце?
Якія навіны чутны?
Сягоння з бацькамі і дзеці —
Двух валанцёраў сыны.

Хлопцам па дзевятнаццаць,
Вочы — адно святло.
Іх залатое юнацтва
Хораша расцвіло.

Светлая ўсмешка весніцца.
Шчыры, адкрыты пагляд.
Раптам: «Яны ж равеснікі
Колішніх тых салдат…»

Сэрца ад згадкі стыне
І ледзянее кроў:

«Тых, што палілі Хатыні,
Хадзілі ў скуры звяроў…»

Памяць сурова кратае
Прывіды-цені вайны.
«Чым яны вінаватыя?
Як і твае — сыны…»

Дружбу ухвальна славяць.
Бачылі шмат ужо.
Веру, што не паставяць
Прыхвасні іх пад ружжо.

Гісторыя — рана скразная —
Новы дае нам шанц.
Са шчырасцю вас вітаю,
Міхель і Ганс.

Лепей сядзець у сябрыне,
Як ваяваць,
На мове сваёй Айчыны
Песні спяваць.

## БАГДАНОВІЧУ

У памяці радкі твае ўсплылі,
І сэрцу стала так шчымотна-міла.
«Паміж пяскоў егіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла…»

Мой любы край, я веру і цяпер,
Што нігілізму цішачы ашчэр,
Тваё насенне залатое — мова —
У новых пакаленнях прарасце,
І на зямной разветранай вярсце
Сад беларускі расцвіце вяснова.

* * *

Дождж танцуе на плёсе рачным,
Адзываецца музыка ў лёсе.
У зацішным закутку лясным
Дождж танцуе на плёсе.

Са стагоддзя ў стагоддзе ідзе,
Не зазнае супыну ніколі,
Гэты танец на ціхай вадзе,
Гэты выдых жыццёвай сваволі.

І пакратаеш сэрцам адным
Светлай музыкі чуйныя струны.
Дождж танцуе на плёсе рачным,
Свет становіцца росным і юным.

Хай прытомлены шляхам зямным,
Хай зняможаны кожнаю стратай, —
Дождж танцуе на плёсе рачным
І гаворыць так сэрцу багата.

Зноўку чуецца песня вясны,
Адзываецца музыка ў лёсе.
Дождж танцуе на плёсе рачным,
Дождж танцуе на плёсе…

## ПЕХАЦІНЕЦ

*Герою Савецкага Саюза*
*Івану Ільічу Куставу*

Са штольняў руднага Урала
Услед за бацькам і братамі
Яго вайна на фронт забрала.
Ішоў з сябрамі-юнакамі.

Разбіты бомбамі гасцінец
Пабліз Растова лёг пад ногі…
Вайны Айчыннай пехацінец,
Салдат Вялікай Перамогі.

У дваццаць год са смерцю побач.
Як сябра гібель бачыць цяжка!
Як рэжа ногі кірзай чобат,
Як бок намуляла біклажка.

Байцу гаворыць украінец:
— Здарова, брат! Цябе чакалі.
Вайны суровай пехацінец
Сцінаўся смуткам на прывале.

Пажарам знішчаныя хаты,
І гарады — адны руіны.
І едкі дым, і вораг кляты,
І ў доле гразкім каляіны.

І кут маленства ва ўспаміне
Зірне ратоўча і прыветна.
На Захад крочыць пехацінец
Вайны Айчыннай і Сусветнай.

І вось, даўно сівагаловы,
На плошчу ранішняга Мінска
Ідзе, прымоўклы і суровы,
Да вечнай стэлы абеліска.

І сэрца зболенае стыне,
І кветкі сыплюцца пад ногі…
Вайны апошні пехацінец,
Герой Вялікай Перамогі.

* * *

Поле памяці не скосіш,
Не паставіш густа копы.
Зноў слязой яго абросіш,
Як успомніш пра акопы.

І салдат, што маладымі
Засталіся ў тых акопах.
Гэта сёння па-над імі
Гучна цвеліцца Еўропа.

Разрываюць іх магілы,
Зносяць помнікі святыя.
Гасіць памяць небасхілы
Той трагічнае стыхіі.

Прагне з памяццю расстацца
Малалетні хлопец з Рура,
Каб хутчэй сумеў узняцца
На трыбуну новы фюрэр.

Кожны сыты і спакойны,
Замкі ўзводзіць пад аблокі…
Ды сусветнай новай бойні
Зноў чутны драпежна крокі.

## УЗВІЖАННЕ

Сягоння зноў Узвіжанне святое,
І сонца — вераснёвай зіхаты.
О, як балесна ведаць мне пра тое,
Што Бабчын мой бязлюдны і пусты,

Што некалі, было, у раз апошні,
На вуліцы павынесшы сталы,
Ён развітаўся воклічна-галосна,
Гасцям аддаўшы смутна чэсць хвалы.

А госці тыя — юнакі-салдаты —
Разлукі горкай чарчыну пілі,
Што палівалі трасцай нейкай хаты,
Ды вось — адужаць атам не змаглі.

Рыжэлі жвірам голыя падворкі,
Сцінаўся дзень у слёзнай гамане.
І не было тут іншае гаворкі,
Як сумнае — пабачымся ці не?

І пад сляпучым, жоўтым сонцам зоны
У горычы краналі смутны лёс.
Стаялі з хат забраныя іконы —
Глядзеў на свет пакутліва Хрыстос.

## УШАЦКАЕ СВЯТА

*Віктару Праўдзіну*

Гэта падзея вялікая
І — гістарычнай цаны.
Едзем радзімаю Быкава,
Сцежкамі ходзім вайны.

Спелае жыта калосіцца,
Свет — на чатыры бакі.
Простая сціплая вёсачка
З назвай сялянскай — Бычкі.

Хата на ўзгорыне першая.
Сцены… Сучасны штыкет…
Крочым дарогаю пешаю.
Тут ён з’явіўся на свет.

Грозна юнацтва паклікала
Жахам пякельным вайны.
Хата бацькоўская Быкава,
Сонечны зруб смаляны.

Пройдзены вёрсты суровыя,
Памяці скрушнай — крыляць.
Побач — фацэтныя новыя
Хаты бычкоўцаў стаяць.

Свет і зімуе, і летуе,
Хлеб спажывае і соль.
Толькі адзіная гэтая
Хата ўмясціла ўвесь боль.

Так і стаіць, не забытая,
Рада людской гамане.
Хата вясковая Быкава,
Ты і цяпер — на вайне.

Сховішча памяці грознае,
Вузел айчынных трывог.
Гора народнае слёзнае
Пераступае парог.

Шчыра душа абнадзеіцца,
Што пераможана зло.
Ціха плыве над аселіцай
Быкаўскай хаты цяпло.

## 29 КАСТРЫЧНІКА 1937 ГОДА

Сякера ГУЛага не раз з-за пляча
Жыцці і лёсы секла…
Пад сосны Платона Галавача
Вядуць з турэмнага пекла.

Ён, горды, нязломны, моўчкі ідзе,
Паглядам — сосен кранууцца.
Ён чуе душою ў гэтай хадзе,
Што болей жывым не вярнуцца.

А следам маркотна ступаюць сябры,
Паэты — Дудар і Вольны.
У парку Чэлюскінцаў, як у бары,
Водар цягучы смольны.

З іх ведае кожны, што быць бядзе —
Прышытая крэпка крамола.
І нехта спытаў:
— Які сёння дзень?
— Дзень памятны,
Дзень камсамола…

Утрох яны ўсталі пад соснамі ў рад,
Шырокіх плячэй не сагнулі.
І вось ужо вызваны спецатрад
Навёў смертаносныя рулі.

А ў кроне сасновай ірдзісты прамень
Свяціўся свавольна-вясёла.
І граў недалёка святочны дзень
Народзінаў камсамола.

Як камсамольскі лідэр-трубач,
Самы для ўлад крамольны,
Першым упаў
Платон Галавач,
Потым — Дудар,
Потым — Вольны…

## ПАМЯЦІ ЛЮДМІЛЫ ЗЫКІНАЙ

Была ў Расіі спявачка вялікая.
Толькі ў часіну загула,
Людміла Георгіеўна Зыкіна,
Расія Вас не чула.

Расія слухала безгалосых,
З тэлеклоунаў шчэрылася.
Вялікіх людзей сумныя лёсы.
Расія ў сабе зняверылася.

І вось стаіць, як над рэчкай вольха, —
Горкая новымі ўдовамі.
Расія не чуе, як цячэ Волга,
А чуе,
Як цякуць долары.

Ды веру, — часінай прывабна-весняй,
Калі гніль да дна ўскрыецца,
Голасам Вашым і Вашай песняй
Расія ад бруду адмыецца.

* * *

Маўчаць асеннія Жупраны,
Сцінаюцца на халадах.
Тут Багушэвіч пахаваны —
Прайшло стагоддзе на кладах.

І ўжо другое спачывае.
Ды горды класік не маўчыць.
І сёння сцішана над краем
Святая запаведзь гучыць:

«Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,
каб не ўмёрлі!»



**Анатоль БРЫТУН**

# ПАХ МУСКУСУ

*Раман**

## *1. Белы сабака*

**Задраўшы** галаву, стражнік з захапленнем разглядаў вяршаліну камлюкаватага дуба. Яго таўшчэзныя галіны нібы расхіналі лясны гушчар уверсе. Здавалася, быццам імі ён падтрымлівае неба. Вакол дуба сцяной стаяў цёмны лес. Павольна абышоў ляснога волата, прысеў і асцярожна адгарнуў снег, затым мох і апалую лістоту. Пад мохам ляжаў урослы ў зямлю камень. На ім быў выразна бачны запоўнены вадой адбітак жаночай ступні. Укленчыўшы, стражнік перахрысціўся, прагна ўдыхнуў паветра і зрабіў глыток. Потым прыклаў мох на месца, узняўся на ногі і зноў перахрысціўся.

Стомленасць адступіла — зрабілася лёгка. Дзіўна гэта: мароз, а вада не ператвараецца ў лёд. Апошні раз прыходзіў сюды ўлетку, спёка высушыла ўсё навокал, а адбітак жаночай ступні быў з чыстай як сляза вадой. Невытлумачальная таямніца прыроды.

Думкі стражніка перапыніў крык крумкача. Рэдка ў лесе можна чуць гэтую птушку. Не любіць яна нетры.

Ціха і ўрачыста драмалі ў нерухомай велічы векавыя дрэвы. Часам з верхняй галіны зрываўся снежны камяк, і чуваць было, як ён шамацеў, падаючы і чапляючыся за галіны.

Трэба ісці. Стражнік яшчэ раз зірнуў угору. Пакланіўся векавому гіганту і прыклаў абедзве рукі да кары дуба:

— Да наступнай сустрэчы, волат!

Прысеў і амаль паўзком пачаў прабірацца пад густымі перапляценнямі дрэў.

Гэта была сапраўдная неруш. Вакол так змрочна, нібы стаіць ноч. Так давялося прабірацца даволі доўга, пакуль змог распрастацца і ісці ў поўны рост, толькі зрэдку нахіляючыся. Цемра адыходзіла, і лес паступова святлеў.

---

**Брытун Анатоль Арцёмавіч** *нарадзіўся 7 лістапада 1957 года ў вёсцы Баранцы Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці.*

*Скончыў Пінскі гідрамеліярацыйны тэхнікум, Беларускую сельгасакадэмію, факультэт грамадскіх прафесій Брэсцкага педагагічнага інстытута.*

*Працаваў інжынерам у «Галоўпалессеводбудзе», гідам-перакладчыкам у «Інтурбюро». Цяпер працуе старшым інспектарам Брэсцкай мытні.*

*Друкаваўся ў часопісе «Паляўнічы і рыбалоў», у газетах «Заря» і «Народная трыбуна».*

---

* Часопісны варыянт.

Пра камень з адбіткам ведалі тры чалавекі: ён сам, ягоны брат Ціхан і іх бацька Ян. Бацьку Яна да дуба прывёў яго бацька, а бацьку — паказаў ягоны бацька. Цікава, колькі стагоддзяў таму дубу? Можа, нават тысяча гадоў, а то і болей — хто яго ведае?

Дарма сёння хадзіў да дуба і каменя, на снезе засталіся сляды. Так рабіць нельга, хтосьці чужы можа прасачыць і выкрыць таямніцу. Але ўжо вельмі карцела ўпэўніцца, ці замерзла на марозе ў жаночай ступні вада. Больш такога промаху не зраблю, разважаў стражнік.

Трэба ісці дахаты. Натупаўся за дзень, але так і не ўбачыў на сваім абходзе зубрыных слядоў. Ужо тыдзень дзесьці гуляюць. Даўно брата не бачыў. Заўтра з’езджу да Ціхана, можа, ён ведае, куды сышлі зубры.

Паправіў рэмень стрэльбы і пайшоў далей па ледзь прыкметнай сцяжынцы.

За сённяшні абход зацікавілі іншыя сляды, напатканыя непадалёку гасцінца да Гайнуўкі.

Чые яны? Ваўка? Не, ваўчыныя сляды ён добра ведае. Сабакі? Але такіх сабак у акрузе няма. Можа, хто з важных людзей прыязджаў да обер-фарстмайстра на паляванне? Але тады старшы стражнік паведамляе пра гэта. Без спецыяльнага загаду ніхто не мае права паляваць у пушчы. Здараецца, прыязджаюць людзі з дазволам на паляванне і губляюць сабак. А ў пушчы сабака доўга не жыве, яго хутка знаходзяць ваўкі. Для шэрых драпежнікаў сабака — далікатэс. А калі гэта сляды сабакі, то нейкай невядомай пароды. Моцны, дужы сабака.

Няўжо палявалі на зуброў, а ён не ведаў, праваравоніў? Тады можа страціць працу. Ад гэтай раптоўнай думкі стражніку стала горача, ён спыніўся і зняў шапку.

Не, не можа такога быць. За зубра або штраф у дзве тысячы рублёў, або Сібір. Дзве тысячы рублёў — вялікія грошы. Гэта трэба працаваць дваццаць гадоў. Стражнік нават уявіць не мог такія грошы. Трохі супакоіўшыся, паглядзеў на кукарду, на двухгаловага арла і надзеў шапку — не хапала яшчэ застудзіцца перад Калядамі.

Раптоўна нешта цяжкае абрынулася на яго. Ад нечаканасці стражнік страціў раўнавагу і ўпаў тварам у снег. Зверху чулася сапенне і трэск кажуха. Рысь! З вялікім высілкам правай рукой ліхаманкава адшукаў нож на папрузе. Намацаў дзяржальна, але выцягнуць нож перашкаджаў рэмень стрэльбы. Скінуў рэмень з пляча, выхапіў нож і рыўком павярнуўся на левы бок. У гэты момант пачулася гырчэнне і брэх адначасова. Звер кінуў яго. Стражнік ускочыў на ногі. Рысь у два скокі апынулася на дрэве і бясшумна знікла сярод густых галін. Па шыі цякла кроў. Сунуў руку за каўнер — уся далонь была ў крыві.

— Ат, чарцюга лазаты, усё-ткі цапнуў…

Павярнуў галаву і ад нечаканасці здрыгануўся — побач стаяў вялікі, з шырокімі грудзьмі, на высокіх лапах, сабака. Раскосыя, размашыста пасаджаныя вочы з асцярогай глядзелі на яго.

Стражнік усміхнуўся свайму выратавальніку.

— А-а, гэта ты напалохаў рысь?

Абмацаў свае галаву і шыю. Асцярожна, каб не напалохаць сабаку, нахіліўся, узяў жменю снегу і прыклаў да раны. Сабака ў гэты момант напружыўся.

— Не палохайся, я цябе не пакрыўджу, бо ты мяне ўратаваў, — ціха сказаў стражнік і прысеў на бліжэйшы выварацень. Зняў з пляча скураны ягдташ, разгарнуў ільняную анучу і падкінуў на снег лусту хлеба.

— Ты, пэўна, галодны? Ідзі, паеш.

Сабака не варушыўся, стаяў на месцы, шырока расставіўшы пярэднія лапы.

— Ты мяне баішся? Ну, падыдзі, не бойся, — рукой паказаў на хлеб.

Памарудзіўшы хвіліну, сабака падышоў, панюхаў і з прагнасцю праглынуў скібку.

Стражнік разглядаў свайго выратавальніка. Сабака быў белы з невялікімі шэрымі круглымі плямкамі. На правым баку, бліжэй да пярэдняй лапы, былі дзве рудыя плямы, галава руда-шэрая, хвост таксама белы ўперамежку з рудымі і шэрымі крапінамі. На моцнай шыі прыгожы скураны нашыйнік з металічным колцам.

— Цудоўны ты. Такіх сабак я ніколі не бачыў. Хто твой гаспадар?

Уважліва агледзеў адбіткі лап на снезе — гэта былі тыя самыя сляды, якія сустрэў ля гасцінца.

— Можа, хто ехаў дарогай, і ты адстаў? — услых разважаў стражнік.

Сабака аблізваўся і насцярожана глядзеў раскосымі вачамі на чалавека.

— Гэ! Дык ты, мусіць, добра згаладаў? — зноў палез у торбу, дастаў яшчэ лусту хлеба, але кідаць не стаў, а працягнуў у руцэ.

— Ну, падыдзі, вазьмі. Ты вельмі галодны, я бачу. На, бяры!

Сабака падышоў да чалавека, асцярожна ўзяў хлеб зубамі і адышоў. Паклаўшы яго на снег, пачаў есці, нахіляючы галаву і зіркаючы на чалавека.

Сабака па выглядзе маладым, можа, нават да года, падумаў стражнік. Падняўся і нахіліўся па стрэльбу. Агледзеўшы, ачысціў яе ад наліплага снегу і падышоў да дрэва, на якое скокнула рысь. Паглядзеў уважліва ўверх, нібыта рысь магла там сядзець.

— Нічога, я цябе злаўлю, я табе кінуся на чалавека. Табе што, ежы не хапае ў лесе? — пагрозліва сказаў стражнік.

Нават калі ўбачу рысь, стрэльба можа не стрэліць, крэмень адмакрэў, падумаў ён і паглядзеў на сабаку. Той з цікаўнасцю назіраў за чалавекам.

— Ну што, сабачка, калі ўжо на тое пайшло, хадзем разам, а то ты, братка, адзін у лесе згінеш. Пажывеш у мяне некаторы час, можа, твой гаспадар знойдзецца і адгодзіць. Нудзішся, нябось, па гаспадару? Клічуць цябе як?

Тут ён злавіў сябе на думцы, што размаўляе з сабакам, як з чалавекам. Усміхнуўся, ускінуў стрэльбу на плячо і, прайшоўшы некалькі крокаў, азірнуўся. Сабака стаяў на ранейшым месцы і глядзеў на яго.

— На, цю на! — папляскаў рукой па назе.

Сабака падышоў да яго.

— Ай, малайчына!

Стражнік крочыў, азіраючыся. Сабака пакорліва ішоў следам. Прайшоўшы з вярсту, стражнік спыніўся, спыніўся і сабака. Асцярожна падышоў і пагладзіў па карку — той не ўцякаў.

— Патрывай трохі, засталося ісці з вярсту, і мы дома, — як мага ласкавей сказаў.

Пад ботамі прыемна рыпеў снег. Сунуў руку за каўнер, асцярожна дакрануўся да раны; кроў запяклася і не цякла. Ну, дзякуй Богу, абышлося, а магло быць і горш, разважаў стражнік.

Чамусьці ўспомнілася жонка. Год мінуў, як яны пабраліся. Цяпер яна цяжарная — чакае першынца. Добра, каб Малання нарадзіла сына. Калі падрасце, быў бы памагаты ў ахове лесу, але і дзяўчынка таксама нядрэнна — будзе памагатай жонцы. Ногі самі неслі дадому.

У прасвеце паміж верхавінамі дрэў віднелася сцямнелае неба. Нездарма каркаў крумкач — хутка пойдзе снег. А, можа, той крумкач хацеў папярэдзіць мяне перад нападам рысі? Бог яго ведае, чаго ён хацеў?

З дзяцінства жывучы ў лесе, стражнік абвык усё аналізаваць. Каб выжыць у пушчы, трэба вельмі шмат чаго ведаць, а галоўнае — заўсёды быць напагатове.

Вось і сёння. Як зваліўся тварам уніз, доўга не мог выцягнуць нож, які вісеў узбоч. А чаму? Перашкаджаў рэмень стрэльбы. Саслізгнуў з пляча і замінаў выпрастаць руку, каб дастаць нож. Трэба насіць стрэльбу на левым плячы, тады правая рука заўсёды будзе вольнай. Але стрэльба вельмі цяжкая, і цэлы дзень на адным плячы не наносіш, даводзіцца часта яго змяняць. Можа, у тым месцы, дзе рэмень цісне на плячо, зрабіць яго шырэйшым — не будзе так муляць.

Пайшоў снег. Вялікія сняжынкі, кружачыся, паволі клаліся на зямлю і галінкі. Дрэвы стаялі нерухома. У лесе — казачная цішыня. А вось і віднеецца саламяны дах роднай хаты.

Стражнік азірнуўся, сабака сунуўся следам. Стала радасна на душы, хутка ўбачыць каханую. Ля паркана самотнай хаты гучна сказаў:

— Вось тут я і жыву, давай, заходзь, будзеш госцем.

Чытачу цікава будзе ўведаць, як выглядала жыллё стражніка Белавежскай пушчы ў першай палове XIX стагоддзя. Паспрабую спыніцца на гэтым больш падрабязна.

Уся ахоўная тэрыторыя Белавежскай пушчы была падзеленая на пяць леснікоўстваў. Кожнае мела два аб’езды, а ў кожным аб’ездзе — сем абходаў. І ўся гэтая тэрыторыя ахоўваецца падлоўчымі, ляснічымі, стражнікамі…

Для стражнікаў Белавежскай пушчы хаты будаваліся ў тых месцах, дзе былі абходы. Зваліся яны вартавымі хатамі. Звычайна ставіліся яны ў глухіх мясцінах, на адлегласці ад селішчаў. Хаты былі казённыя: пасля 25 гадоў службы стражнік абавязаны быў пакінуць хату і пераехаць жыць у любое ўпадабанае ім селішча на ўскраінах пушчы. За кошт казны адмерваўся ці купляўся значны надзел зямлі, будавалася хата, якая пераходзіла ў пажыццёвае валоданне. Праца стражніка была небяспечнай, але прэстыжнай і ў тыя часы высокааплатнай.

Нашаму герою хата дасталася пасля пераезду бацькі ў селішча. Гэта была вялікая і прасторная хата з тоўстых і смалістых сасновых бярвенняў. Хаты стражнікаў былі збудаваныя замежным гандляром, лесапрамыслоўцам Сімундам, па распараджэнні обер-фарстмайстра, галоўнага распарадчыка Белавежскай пушчы. Кожная такая хата дзялілася на дзве палавіны: адна прызначалася для сям’і стражніка, другая для гасцей. Пасярэдзіне размяшчалася вялікая печ з ляжанкай. Пячныя сцены былі ва ўсіх чатырох пакоях. Акрамя хаты меліся дзве адрыны: адна для скаціны, другая для сена. На падвор’і стаяла невялічкая лазня, сярод двара — студня: драўляны зруб і жуpавель з вядром на ланцугу. Увесь двор абнесены загараддзю з тоўстых бярвенняў. Земляробствам не займаліся, бо агароды спусташаліся дзікамі...

Стражнік адчыніў цяжкія варотцы і жэстам паказаў сабаку зайсці. На драўляным ганку бярозавым дзеркачом стаў чысціць боты ад снегу. Сабака адразу насцярожыўся. Заўважыўшы напругу сабакі, паставіў венік у кут і, расхінуўшы дзверы, ласкава запрасіў:

— Ну, дарагі госць, запрашаю ў хату!

Сабака асцярожна ўзышоў на ганак і спыніўся. Бачачы нерашучасць сабакі, стражнік яго злёгку падштурхнуў.

— Уваходзь, не бойся!

Сабака зрабіў некалькі крокаў і зноў спыніўся. Перад ім стаяла жанчына з вялікім жыватом, ад якой зыходзіў смачны пах.

— Рыгорка, ты каго гэта прывёў?

Яна асцярожна абышла сабаку. Рыгор абняў жонку. Сабака, павярнуўшы галаву, уважліва глядзеў на гаспадыню. Стражнік зняў стрэльбу і павесіў на ўбіты каля ўвахода гак. Затым падышоў да печкі, нахіліўся і, папляскаўшы далонню па каляровым дыванку на падлозе, сказаў:

— Тваё месца будзе тут! Хадзі сюды.

Сабака паслухмяна сеў на вызначанае яму месца.

— Рыгорка, чаму гэта ў цябе на спіне кажух падраны?

— Ой, Маланння, дай нам што-небудзь з'есці, і я табе ўсё раскажу, што з намі сёння было.

Гаспадыня выцягнула чыгунок з печы і апалонікам наліла гарачую страву ў дзве гліняныя міскі. Стражнік зняў кажух, павесіў яго побач са стрэльбай і прысеў да стала. Маланння ўзяла адну міску і падсунула бліжэй да мужа. Побач з міскай паклала драўляную лыжку і паставіла накрытую льняной сурвэткай плеценую з лазы кашолачку з духмяным хлебам.

— Моцна не наядайся. Заўтра Каляды, а сёння яшчэ пост.

Над гарачай міскай віўся смачны пар.

— Калі астыне, налі сабаку. Няхай з'есць, бо ён моцна галодны, — сказаў гаспадар і дадаў: — Яму можна не пасціць.

Стражнік нахіліўся над міскай. Маланння ўскочыла з лаўкі і падышла да мужа ззаду.

— Пачакай, у цябе разадраны каўнер кашулі і ўся спіна ў крыві. Што здарылася?

Рыгор паказаў рукой, каб прысела на лаўку, і пачаў павольна есці, распавядаючы пра выпадак у лесе.

— І вось атрымліваецца, што гэты сабака ўратаваў мяне, — паказаў вачыма на госця.

Разамлелы ад цеплыні, сабака лёг, паклаў галаву на пярэднія лапы і глядзеў на людзей.

Маланння дастала мяса, паклала ў міску і паставіла на падлогу перад сабакам. Ён прыўзняўся і пачаў есці. Яна хацела яго пагладзіць, але муж папярэдзіў:

— Калі сабака есць, яго гладзіць нельга. Не ўкусіць, дык напалохае.

Маланння дбайна вымыла рукі і сказала мужу:

— Здымай кашулю.

Рыгор паслухмяна зняў кашулю, споднюю сарочку і павярнуўся спінай да акенца. Яна ўважліва агледзела рану.

— Рана неглыбокая — дзве вялікія драпіны, — разважліва сказала гаспадыня. — Але трэба на ўсялякі выпадак змыць засмяглую кроў і драпіны чым памазаць, каб не гнаіліся.

З палічкі ў куце, дзе вісеў абраз, дастала бутэльку першака, настоенага на лекавай траве. У лекавых травах Маланння разбіралася з маленства, гэтая навука перайшла ёй ад бабулі. Намачыўшы чыстую льняную анучку першаком, асцярожна працерла раны. Ад дакранання жончыных рук па целе пайшла цеплыня. Стражнік ад задавальнення нават зажмурыўся.

— Што ты там, дарагая, шэпчаш?

— Малітву, замову, мяне бабуля навучыла.

— Яна ў цябе што, шаптуха? — іранічна спытаў Рыгор.

Маланння ўсміхнулася.

— Не ведаю. Яна заўсёды дапамагае людзям. Многаму мяне навучыла, у тым ліку і розным малітвам на ўсе выпадкі жыцця.

— Так ты, можа, таксама вядзьмарка? І мяне зачаравала, калі я цябе два гады таму спаткаў? — зноў жартаўліва спытаў ён.

Яна засмяялася і пляснула далонькай па спіне.

— Можа і вядзьмарка, табе дрэнна са мною?

— Вочы ў цябе вялікія і шалёна прыгожыя, як у вядзьмаркі, — дабрадушна ўсміхнуўся Рыгор.

Маланння забрала пустую міску ад сабакі і вярнулася да стала.

— Рыгор, трэба прыдумаць нейкую мянушку. Як яго зваць будзеш?

— Напэўна, у яго ўжо ёсць мянушка і ёсць гаспадар, — разважыў гаспадар. — Трэба паведаміць пра сабаку лоўчаму, можа яго шукаюць.

— Заўтра раніцай з'ездзіш. Заадно заскочыш да маіх бацькоў, няхай прыедуць да нас у адведкі. Заўтра Каляды, хай пасля царквы і завітаюць.

— Куды табе прымаць гасцей? — сказаў ён пасля нядоўгага маўчання. — Табе радзіць хутка.

— А ў мяне да свята пірагі выпечаныя, — усміхнулася яна.

— Добра, дарагая, ты адпачывай, — пляснуў рукамі па каленях Рыгор, пазяхнуў і дадаў — А я пакармлю скаціну і таксама буду адпачываць. Заўтра пабачым, як лепш зрабіць.

— Я карову і падаіла, і сена кінула. Каштан таксама пакормлены, паклала яму сена і насыпала аўса. Так што ты, Рыгорка, можаш адпачыць.

— І калі ты, Маланння, паспяваеш усё рабіць? — пацісну плячамі здзіўлена стражнік.

— Калі? Я ж вядзьмарка, начаравала, усё само па сябе і зрабілася, — жартаўліва адказала яна.

— Добра табе!

Рыгор праз акно зірнуў на вуліцу: снег перастаў ісці.

— Вой! — спахапіўся ён. — Ледзь не забыўся. Заўтра Каляды, а я не прынёс ялінку. Збіраўся з раніцы дарогай ссекчы і запамятаваў.

— А я чакала і прыгатавала цацкі, а ты замест ялінкі прывёў во каго, — кіўнула галавой Маланння, паказваючы вачыма на сабаку.

— Маланння, скажы, табе сапраўды спадабаўся сабака?

— Спадабаўся, — уздыхнула яна. — Ён вялікі і моцны, падобна, можа, управіцца нават з ваўком. Бацька прыносіў некалькі разоў дадому шчанюкоў, але доўга яны не жылі. Толькі абвыкнеш, як ваўкі пацягнуць у лес. Вось у селішчах сабакі жывуць доўга, а тут, у лесе, цяжка зберагчы іх. Ды і ў хаце было б весялей. Калі ты сыходзіш на службу, цэлы дзень сама, — гаспадыня сумна схіліла галаву. — Пагаварыць няма з кім, вось і працую… Часам што раблю і ціха спяваю… Тады не так журботна.

Рыгор падышоў да жонкі, абняў яе, потым паклаў руку на жывот.

— Га-аротніца ты мая! Хутка табе некалі будзе сумаваць. Добра, схаджу па ялінку, а то зусім сцямнее.

Ён надзеў кароткую бравэрку, шапку, узяў з-пад лаўкі сякеру і адчыніў на вуліцу дзверы. Сабака падняўся.

— Ляжы, адпачывай, — паказаў рукой на дыванок.

Сабака паслухмяна лёг на сваё месца.

Стражнік выйшаў на ганак і зірнуў на неба.

Там пачыналі паказвацца зоркі, а над лесам вісеў малады месяц. Ветру не было. Вакол стаяла чарадзейная цішыня — сапраўдная перадкалядная ноч.

Рыгор накіраваўся ў лес. Ён быў яму вельмі добра знаёмы, тут прайшло яго дзяцінства. Высек ялінку і прыслухаўся: прычулася далёкае выццё самотнага ваўка.

— Даўненька вас не было чуваць, — услых сказаў сам сабе.

У хаце ўжо гарэлі свечкі, сабака нерухома стаяў і глядзеў на дзверы.

— Чуе воўчае выццё, не спіць, хоць і стаміўся, — сказаў Рыгор.

— Мажліва, хоць у хаце выцця ваўкоў і не чуваць, — здзіўлена адказала яна.

— Гэта табе ў хаце не чуваць, а ён чуе, — упэўненым голасам выказаў сваё меркаванне стражнік.

З каморкі прынёс драўляную крыжавіну з дзіркай пасярэдзіне, усталяваў ялінку на зэдлік.

— Дарагая, можаш упрыгожваць лясную прыгажуню.

— Вой! Якая ялінка пухнатая, — весела засакатала Малання і з задавальненнем узялася за прыемную працу.

Увесь гэты час за ёю сачылі дзве пары вачэй. Адна пара вачэй мужа, другая — сабакі. Стражнік любіў назіраць, як яго жонка нешта робіць.

Цацкі былі немудрагелістыя, з кавалачкаў каляровай паперы. Зялёная прыгажуня змянялася на вачах. Убачыўшы фігурку зубра, стражнік усміхнуўся.

— Хораша выйшла, нічога не скажаш. Хто цябе навучыў?

— Усё гэта я падгледзела ў хаце обер-фарстмайстара, калі гадоў пяць таму разам з бацькам была ў іх на Каляды. Толькі цацкі там былі сапраўдныя, а гэтыя я зрабіла сама, — не зводзячы вачэй з ялінкі, трохі ганарліва сказала гаспадыня.

— Хораша, вельмі хораша, — Рыгор падняўся і пацалаваў жонку.

— Давай спаць, нешта мне цяжка. У жываце брыкаюцца, — Малання ўзяла руку мужа і прыклала да свайго жывата.

— Чуеш?

— Так, чую. Моцна хтосьці стукае. Хадзем, табе трэба больш адпачываць.

Стражнік зноў пацалаваў сваю каханую. Яна выйшла ў суседні пакой слаць пасцель.

Стражнік прысеў на кукішкі ля сабакі і пагладзіў яго; сабака не ўстаў, толькі прыўзняў галаву.

— Адпачывай, тут каля печкі цеплыня.

## *2. Нараджэнне сына*

Прачнуўся ад таго, што яго нехта катурхаў.

— Рыгорка, ачуйся, прачынайся.

— Га-а! Што здарылася? — ухапіўся з падушкі.

— Я, мусіць, буду раджаць.

— Ты-ы што, Малання?

Сон як рукой зняло. Расплюшчыўшы вочы, сеў на краі ложка. Сэрца пачало ашалела грукаць, здавалася, вось-вось выскачыць з грудзей. Што рабіць?

— Ты што, спалохаўся? Не зараз жа буду раджаць, можа, заўтра, — супакойваючы мужа, сказала яна.

— Адкуль ты ведаеш?

— Ведаю, мне бабуля сказала, як гэта будзе. Трэба, каб з’ездзіў да маіх бацькоў. Прывязі бабулю Марфу…

Рыгор ускочыў з ложка. Апрануўшыся, вылецеў на двор. Спыніўся, вярнуўся ў хату, нахіліўся і пацалаваў Маланню ў вусны.

— Ты, любая, трымайся, я хуценька.

На вуліцы была ноч. Надвор’е стаяла марознае і зацішнае. На небе іскрыліся зоркі і блішчэў яркі месяц, а пад нагамі гучна рыпеў снег.

Стражнік запрэг жарабца, кінуў у сані абярэмак сена, паклаў стрэльбу і два зараджаныя пістолі ў скуранай кайстры.

Цяпер якраз тая пара, якую завуць ваўчыным месяцам. У гэты час у ваўкоў пачынаецца гон і яны збіраюцца ў гайні. Барані Бог адзінокаму чалавеку сустрэць такую зграю.

Вярнуўся ў адрыну, узяў вілы і прывязаў скураным рамянём да санак.

Каштан жвава бег зімовай дарогай у напрамку селішча. Прабегшы з вярсту, перайшоў на мерны крок. Ад яркага святла месяца лес здаваўся прыбраным і таямнічым. Марудлівая язда навеяла ўспаміны; узгадаў, як пазнаёміўся са сваёй жонкай. Здавалася, гэта было толькі ўчора, а мінула ўжо два гады.

Калі жаніўся старэйшы брат Ціхан, згодна з мясцовым звычаем, моладзь на некалькіх санях адправілася на вяселле ў хату нявесты.

Насупраць Рыгора сядзела дзяўчына з коскамі, пераплеценымі яркімі стужкамі. Ён зірнуў на яе і не змог адарваць вачэй.

Потым узяў відэлец, доўга спрабаваў нанізаць кавалачак вяленай каўбасы, але рука стала як быццам чужой. Так-сяк падчапіўшы, пачаў падносіць да рота, але каўбаса звалілася на падлогу. Пачуўшы, як дзяўчына хіхікнула, ён адклаў відэлец на стол і паклаў рукі на калені. Падняць вочы і пaглядзець на яе ўжо не мог. Яму здавалася, што ён з-за сваёй няспрытнасці займеў ганьбу.

Хвілін праз пяць да яго падышоў гаспадар і паклаў руку на плячо.

— Рыгорка, а чаму гэта ты сядзіш і нічога не ясі? Малання! — звярнуўся да дзяўчыны. — Наглядай за нашымі гасцямі, бо яны з дарогі, запрашай да пачастунку.

Яна адразу ўсхапілася, перахілілася праз стол, пачала накладваць на талерку Рыгора каўбасу і мяса, на край паклала кавалачак хлеба і цёртага хрэну.

Ён яшчэ больш счырванеў.

Тут пачуўся голас свата:

— Трэба яшчэ выпіць за здароўе маладых.

Дзяўчына зноў паднялася, узяла бутэльку і пачала наліваць гарэлку, запрашаючы выпіць і добра закусіць. Рыгору наліла першаму. Голас у яе быў вельмі прыемны.

Ён узяў чарку ў руку. Госці пачалі крычаць: «Горкая! Горкая! Горкая!» Рыгор таксама крыкнуў і не пазнаў свой голас. Разам з усімі выпіў, не падымаючы вачэй, павольна закусваў.

Хваляванне паступова праходзіла. Ён паглядзеў на старэйшага брата Ціхана, які сядзеў побач са сваёй нявестай. Брат яму падміргнуў, Рыгор у адказ усміхнуўся.

Зайграла музыка, і моладзь запрасілі да танцаў. Музыкі гралі ў суседнім пакоі. Іх прылады былі ўпрыгожаныя каляровымі стужкамі. Гармонік у руках старэйшага вусатага музыкі, здавалася, сам танчыў. Яму дапамагала скрыпка маладога музыкі гадоў пятнаццаці. Трэці музыка гадоў дваццаці пяці стукаў выбівачкай у вялікі бубен са званочкамі.

Рыгор у нерашучасці спыніўся, прыхінуўшыся ля сцяны, разглядаў музыкаў. Гаспадар хаты прасіў дзяўчат адважней запрашаць гасцей. Музыкі зайгралі вясёлы танец-завіруху, і моладзь пачала весела скакаць. Дзяўчына з коскамі падышла да яго. Усміхнулася, плюснула вялікімі вачыма, з паклонам запрасіла да танца.

У Рыгора ногі падкасіліся, але, не падаючы выгляду, працягнуў у адказ руку, паспеўшы сказаць:

— Танцор я кепскі.

— Нічога, усё будзе добра, — дзяўчына яшчэ раз шчыра яму ўсміхнулася.

Яна расшпіліла пояс на сукенцы і адзін канец уручыла яму. Танчачы, нахілілася да вуха і сказала:

— Мяне клічуць Малання, а ты — Рыгор?

— Я ведаю!

І яны зарагаталі.

Музыкі гралі хутчэй і хутчэй. У адно імгненне тэмп музыкі паднімаўся, нібыта віхура, пары па чарзе праскоквалі пад паясамі. Сапраўды, усе кружыліся як завіруха. Усё гэта рабілася з незвычайнай шпаркасцю, усімі парамі адначасова.

Сярод моладзі з'явіўся дзядзька, падпяразаны ручнікамі маршалка. Гучна стукаючы ў бэльку, абвясціў:

— Дарагія госці, сваякі, суседзі, сябры, запрашаю вас на каравай. Даставайце кашалькі і прыгатуйце падарункі маладым. Не скупіцеся! — Усе гучна зарагаталі і чарадой высыпалі на вуліцу.

Калі сваякі нявесты сем'ямі падыходзілі з падарункамі, ён убачыў бацькоў дзяўчыны. Маланнінага тату ведаў раней, некалькі разоў дзядзька Мікалай быў у іх дома. Ён таксама працаваў стражнікам, як і Рыгораў бацька. Пасля ўручэння падарункаў нявесце і жаніху госці з боку жаніха пачалі збірацца дадому.

Малання на развітанне памахала яму рукой, пагаварыць яны так і не паспелі. Вярталіся дадому госці весела. Толькі Рыгор сядзеў і маўчаў — яму было вельмі журботна. Перад вачамі стаяла Малання з вялікімі і незвычайна цудоўнымі вачыма.

Праз тры месяцы, вясною, пасля заканчэння службы стралком, ён прыехаў адведаць брата Ціхана. За вячэрай прызнаўся брату, што яму падабаецца Малання, якая была ў іх на вяселлі. Ціхан хітравата бліснуў вачыма:

— Жонка некалі гаварыла, што гэтая дзяўчына таксама распытвала пра цябе. Цяпер паспрабуем зладзіць вам сустрэчу.

…І вось Рыгор і Малання засталіся за сталом удваіх. Рыгор сядзеў моўчкі, не ведаючы з чаго распачаць гутарку. Малання загаварыла першай. Стала распытваць Рыгора пра службу. Так, неўзаметку, яны разгаварыліся.

Адвячоркам, калі вёў Маланню дадому, ён узяў яе за руку і спытаў:

— Ці выйдзеш за мяне замуж?

— Так! — яна выхапіла руку і спрытна знікла за варотцамі.

На вуліцы ўжо наступіла раніца, развіднела. Нібы ачнуўшыся ад успамінаў, стражнік пугай падагнаў жарабца, той пабег жвавей. Да хаты цесця заставалася з паўвярсты — трэба спяшацца. Пад'ехаў да хаты і пачаў прывязваць каня.

На парозе з'явіўся цесць. Паспеўшы толькі абняць зяця, Мікалай хутка пабег у хату. За дзвярамі з галашэннем пачуўся жаночы голас.

— Ой, божачкі мае, як там мая дачушка, мая крывіначка?

— Ціха ты, баба... Адразу галасіць, — перапыніў жонку цесць. — Едзем усе, дома застаюцца толькі дзеці.

З вузельчыкам у руцэ на парозе з'явілася бабуля Марфа.

— Добры дзень, саколік, — старая нізка пакланілася Рыгору.

— Добры дзень, бабуля. Малання прасіла перадаць, каб вы прыехалі і дапамаглі ёй, — перадаў просьбу жонкі Рыгор.

— Ведаю, ведаю, я ўжо даўно цябе чакала.

Старая села ў сані, і крануліся ў зваротную дарогу. Каштан бег дробнай рыссю. Спачатку ехалі моўчкі, потым бабуля Марфа пачала весці гутарку.

— Ну, як вы, маладыя, ладзіце?

— Так, бабуля, ладзім, усё ў нас добра, — шчыра адказаў стражнік.

— Беражы яе, Рыгорка, — працягнула размову старая. — Табе вельмі пашанцавала, кахае яна цябе. Я яе выхоўвала з самога маленства ў строгасці.

Як мой нябожчык муж, царства яму нябеснае, загінуў на пажары, я не хацела жыць адна, тужліва вельмі. Як толькі дачка выйшла замуж, перайшла жыць да яе. Вось тады і нарадзілася Маланння. Так і вырасла яна каля мяне. Калі што зробіць не так, свары, строга свары, але біць не трэба. Я цябе прашу, саколік дарагі.

— Што вы, бабуля! Не бі яе, не бі, — разважліва буркнуў Рыгор. — Я не бачыў, каб бацька біў маму. Нас, дзяцей, часам лупцаваў, лазінай або папругай, і толькі за дзела, дарма не чапаў.

— Малайчына, Рыгорка, — расчулена сказала старая. — А то сёння моладзь такая, не паспелі звянчацца, а ўжо спрачаюцца, а бывае, і таўкуцца.

Каштан спыніўся ля варот сам. Старая жвава саскочыла з санак, схапіла свой вузельчык. Не чакаючы, калі адчыняць вароты, і не гледзячы на свой век, спрытна пралезла між пражылін плота і пабегла ў хату. Рыгор адкрыў вароты і таксама шпарка пайшоў следам. Насустрач яму выскачыў сабака. Ён, спяшаючыся, рукой правёў па сабачым карку і накіраваўся ў пакой, дзе ляжала жонка, крыкнуўшы на ходу:

— Трывай трохі.

Маланння ляжала на ложку, побач сядзела бабуля і аберуч трымала руку ўнучкі.

— Як ты?

— Усё добра, — з палёгкай уздыхнула Маланння. — Нарэшце дачакалася вас. Пачала хвалявацца, але цяпер не турбуюся — бабуля і ты побач.

— Ну, калі ў цябе, Маланння, усё добра, ідзіце сюды, бабуля, пакажу вам госця.

Старая ўстала з ложка і ўслед за Рыгорам прайшла на кухню.

— Ой, божачкі вы мае! Я такога белага сабакі зроду не бачыла — і пляснула рукамі.

Сабака стаяў, падняўшы галаву, з цікаўнасцю глядзеў на старую.

— Ён мне ўчора, можна сказаць, жыццё ўратаваў, — сказаў Рыгор.

— Як гэта?

— Распранайцеся і ідзіце да Маланні, яна вам раскажа.

На дварэ зарыпелі палазы. Неўзабаве паказаліся і сані.

— Тп-ру-ру, стой! Куды прэ-эш!? — пачуўся голас цесця.

Сабака насцярожана глядзеў на прыбылых людзей. Рыгор расчыніў вароты, цесць заехаў у двор. Маці Маланні прывіталася і хутка пабегла ў хату. Стражнік пачаў дапамагаць цесцю распрагаць кабылу. У гэты момант рыпнулі дзверы, і бабуля, высунуўшы галаву з-за дзвярэй, паклікала яго.

— Рыгорка, дзетачка, трэба выцепліць печ, у хаце вельмі халодна. Прынясі вады і пастаў на агонь.

— Добра, — буркнуў Рыгор. — Зраблю. Як там Маланння?

— Усё пакуль добра, але ёй будзе цяжка, першы раз родзіць.

Разам, нясучы ў руках клункі, зайшлі ў хату. Бацька і цесць, гучна тупаючы ботамі, пачалі здымаць верхнюю адзежу.

Рыгор, седзячы на кукішках, кідаў дровы ў печ.

— Праходзьце сюды, бліжэй да агню.

— Як там справы? — бацька кіўнуў у бок пакоя, дзе знаходзіліся жанчыны.

— Я не заходзіў, не ведаю, ціха там, здаецца, гутараць, — цяжка ўздыхнуў Рыгор.

Бацька і цесць селі за стол.

— Сын, годзе кідаць дровы ў печ, садзіся насупраць. Ты абяцаў расказаць нам, адкуль у цябе гэты сабака.

Стражнік падрабязна расказаў аб учарашняй прыгодзе. Нават паказаў кажух і драпіны на шыі.

— Так, сын, здаралася такое і раней. Са мной такога не было, але аб нападзе рысі на чалавека чуў шмат разоў. Кажуць, яна нападае толькі ў двух выпадках: або раненая, або хварэе калі. Наступны раз, сыне, будзь асцярожней. Наконт сабакі: трэба аб знаходцы заведаміць старшага падлоўчага, або ляснічага, а можа, і самога обер-фарстмайстра. Магчыма, хтосьці шукае страту. Падумаюць, затаіў, потым бяды не абярэшся.

— Дык, тата, я сёння і хацеў так зрабіць, але вось Малання…

Тут з пакоя прачыніліся дзверы, і бабуля падышла да дачкі. Нахіляючыся да вуха, пачала нешта шаптаць, тая толькі ківала галавой.

Старая павярнулася і сышла ў пакой да ўнучкі. Рыгорава мама распачала запальваць на падсвечніках свечкі. На кухні зрабілася святлей.

Цесць працягваў гутарку.

— Рыгор, як толькі ты забраў з нашай хаты Маланню, старую бы падмянілі. Не знаходзіць месца, ходзіць па хаце, усё да мяне чапляецца, тое не так, гэта не гэтак. Я адразу зразумеў, нудзіцца па Маланні. Некалькі разоў ёй гаварыў: не магу ж у прыдачу да пасагу цябе аддаць. Людзі будуць смяяцца: і дачку замуж выдаў, і ад цешчы пазбавіўся.

Рыгорава мама прынесла бярэмя сена і паклала на стол; зверху заслала белы абрус. Жанчыны насілі з каморы нарыхтаваныя стравы. Паставілі куццю з ячменю, гароху і жыта. Неўзабаве стол быў застаўлены талеркамі з грыбамі: салёнымі і марынаванымі, з вяленым і вэнджаным мясам, рыбай, ляжалі пірагі з белай мукі. Былі тут ласіны язык і ласіныя губы.

Мужчыны моўчкі, не перашкаджаючы жанчынам, назіралі. Марыя выйшла ў пакой да Маланні. Праз некаторы час вярнулася з бабуляй.

Старая ўважліва агледзела стол. Падышла да абраза і запаліла свечку, узяла яе ў левую руку, правай тройчы, гледзячы на ікону, з паклонам перахрысцілася.

Мужчыны падняліся. Старая гаварыла малітву, астатнія, гледзячы на ікону, слухалі. Скончыўшы малітву, старая ізноў тройчы з паклонам перахрысцілася, за ёю і ўсе. Потым яна тройчы перахрысціла стол з ежай. Узяла лыжку, набрала куцці і кінула ў кут пад абраз, сказаўшы пры гэтым:

— Гэта табе, зюзя[1].

Пасля гэтага ізноў набрала лыжкай куцці, выйшла на парог хаты і паклала яе на ганак. Узяла венік і вярнулася да стала. Набрала ізноў куцці. Несучы ў адной руцэ венік і свечку, а ў другой лыжку з куццёй, накіравалася ў пакой да Маланні.

Перад дзвярамі спынілася.

— Можаце распачынаць.

Мужчыны адразу ажывіліся.

— З Калядамі! Дачакаліся, дзякуй богу.

Спачатку паспрабавалі куццю, потым узяліся есці. Пасля жанчыны падняліся і накіраваліся ў пакой да Маланні

Рыгор распачаў гутарку:

— Учора вечарам хадзіў за ялінкай і чуў выццё ваўка.

Бацька кіўнуў галавою:

---

[1] *Зюзя — паганскі бог зімы, брат Перуна.*

— Так, ваўкі цяпер вельмі небяспечныя, у іх распачаўся гон. Яны не баяцца нападаць не толькі на людзей, але і на зуброў. У зуброў у пушчы ворагі, не лічачы чалавека, толькі мядзведзі і ваўкі. Асабліва ваўкі дужаюцца з зубрамі. Знішчыць усіх ваўкоў немагчыма. У іх свой падыход. Сустрэне зубра воўк, скача перад ім і нібыта хоча кінуцца на яго. Зразумела, увага зубра звернута на гэтага ваўка, а між тым, іншыя хапаюць яго за бакі. Так што аднаму зубру цяжкавата выстаяць супраць, скажам, трох ваўкоў, што ўжо казаць пра зграю. Зубрыцы хітрэйшыя, яны з маладымі заўсёды трымаюцца статка і пасуцца блізка ля ракі або возера. Пры небяспецы становяцца ў круг, цялят у сярэдзіну, вакол толькі рогі, так і ратуюцца. А старыя зубры бадзяюцца па два, па тры, а яшчэ часцей у адзіночку. У іх шмат дзівацтва, свайго роду фанабэрыі, пачуцця ўласнай годнасці і перавагі. Вось яны якраз і гінуць. З мядзведзем зубру прасцей.

У гэты час, калі мужчыны вялі гутарку на кухні, у суседнім пакоі пачаўся самы вялікі цуд прыроды — таемнасць нараджэння новага чалавека. — Малання пачала ціха енчыць.

Пачуўшы стогны, мужчыны адразу сцішэлі, і гутарка спынілася.

Старая дастала са свайго вузельчыка шырокі пояс, зроблены са скуры лобнай часткі галавы зубра[1].

Разгарнула пасак і беражна паклала на вялікі жывот парадзіхі. Запаліла свечку і ўручыла дачцэ Марыі. Тая прысела на краі ложка побач з Маланняй, трымаючы свечку перад яе тварам. Ганна ўстала каля ўзгалоўя, узяла рукі нявесткі і пачала прымаўляць:

— Тужся. Мацней тужся, дарагая. Яшчэ тужся, даражэнькая...

Старая распачала рытмічна стукаць венікам у столь, чытаючы пры гэтым аднастайна малітвы і замовы. Выглядала яна ў гэты момант нібы шаман.

Раптам стук спыніўся, і разам са стогнамі Маланні стаў чутны голас старой:

— Давай, выходзь, давай, ідзі да мяне, давай, маё золатка, ідзі. Добры мой. Мая залатая дзетачка, ідзі да мяне…

Пачуўся цяжкі ўздых, паляпванне рукі, і раптам прагучаў доўгачаканы ўсімі крык новanародженага. Слабенькі, але на ўсю хату, на ўвесь свет — крык.

Двое старэйшых мужчын з палёгкай уздыхнулі. Рыгор працягваў сядзець, здранцвеўшы, без руху.

Расчыніліся дзверы, і пачуўся голас мамы:

— Рыгорка, ідзі хутчэй сюды.

Ён падняўся, на аслабелых нагах увайшоў у пакой. Тое, што ўбачыў пры святле свечак, яшчэ больш збянтэжыла яго.

Малання ляжала на ложку. Бабуля трымала правай рукой чырвонае дзіця за ногі ўніз галавою.

Старая ледзь чутна сказала:

— Рыгорка, бяры нажніцы і перарэж вось тут пупавіну. Толькі асцярожна.

Як гэта зрабіў, памятаў слаба. Яшчэ трохі, і ён гатоў быў бухнуцца на падлогу.

---

[1] Лоб зубра выдае асаблівы пах, нешта падобнае на мускус, або змяшаны пах фіялкі. Гэты пах становіцца асабліва моцным у жніўні. Настолькі моцным, што яго нават чуваць за сто крокаў ад зубра. Гэты мускусны пах спарадзіў забабоннае меркаванне, што скура, здзёртая з галавы зубра, палягчае пакуты пры народзінах. Такія паясы-талісманы апраналі нават царскія жанчыны: расійскія імператрыцы, наша каралева Бона. Каштавалі яны вельмі дорага.

Пачуў голас старой:

— Малайчына, а цяпер ідзі, цалуй Маланню, дзякуй за сына.

Рыгор пацалаваў жонку, павярнуўся, ідучы навобмацак, накіраваўся да дзвярэй. Мама спыніла яго, забрала нажніцы. Пераступіў парог, зачыніў за сабой дзверы, абапёрся аб вушак і павольна пачаў з'язджаць на падлогу.

Дзве пары моцных рук падхапілі яго і пацягнулі да стала. Ён толькі пераcтаўляў ногі. Пасадзілі на лаву. Цесць хутка наліў поўны келіх гарэлкі і паднёс да рота Рыгора.

— На! Выпі хутчэй!

Рыгор выпіў без перадыху.

— У мяне сын! Ы-ы-ы...

Убачанае і перажытае перапоўнялі яго пачуццямі. Слёзы пырснулі з вачэй. Не стрымліваючы сябе, гучна заплакаў, як у дзяцінстве — наўзрыд.

Двое мужчын апусцілі галовы. Кожны з іх мусіць успомніў сябе пры нараджэнні першых дзяцей. Не, яны не сталі кпіць з яго плачу. На іх тварах блукала ўсмешка. Яны з разуменнем ставіліся да слёз. Гэта былі слёзы ў адно імгненне пасталелага мужчыны, слёзы сапраўднага вялікага чалавечага шчасця.

Яму зрабілася адразу ж лягчэй, ён супакоіўся і ўсміхнуўся. Зрабілася, нават трохі няёмка за свае слёзы перад блізкімі людзьмі.

Бацька супакоіў яго, а Мікалай падняўся з-за стала і, распрануты, накіраваўся на вуліцу. Вярнуўся праз хвіліну, несучы пад рукой плеценую з лазы дзіцячую калыску.

— Трымай, Рыгорка, ад мяне падарунак, у ёй калыхалі тваю жонку.

Рыгор прыняў гасцінец з падзякай і сказаў:

— У мяне да вас ёсць просьба.

— Дарагі зяцёк, у такую радасную хвіліну прасі што хочаш, — з гонарам адказаў Мікалай.

— Можна, каб бабуля Марфа пажыла ў нас? Дапамагла Маланні ў першы час па гаспадарцы і з дзіцём, ды і мне весялей будзе.

— Э-э, зяцёк, дарагое просіш, — заміргаў вачыма Мікалай. — А як жа я без старой буду? І дачку забраў, і цешчу, усё забраў, сіратой мяне пакінуў. Бачыце, якая ў мяне выдатная цешча, яна ўсім патрэбна.

І прадоўжыў:

— Толькі ў жыцці ёй не пашанцавала. Нядоўга яна пражыла з мужам, гадоў дзесяць. Загінуў ён, небарака, на пажары. Працаваў, як і мы, стражнікам ва ўрочышчы Пашукі.

— Мікалай, гэта на тым вялікім пажары ў 1811 годзе? — удакладніў Ян.

— Бадай так, у нешчаслівым 1811 годзе, — цяжка крэкнуў, нібы глынуўшы чарку, Мікалай. — Я хлапчуком быў, гадоў пятнаццаці, і добра ўсё памятаю. Тады, увесну, стаяла гарачае надвор'е, ні кроплі дажджу. Было шмат сухой леташняй травы. І вось дзесьці ў канцы траўня ў пушчы ўспыхнуў страшны пажар. З неймавернай сілай і шпаркасцю ахапіў лес на велічэзнай адлегласці. Для тушэння пажару сагналі тысячы людзей, залівалі агонь вадой, капалі равы — нічога не дапамагала. Агонь змяёй выгінаўся і абхопліваў велічэзныя павалы, проста на вачах спальваў векавыя дубы. Звяры, ратуючыся ад полымя, беглі, не ведаючы куды, але агонь быў хутчэйшы. Гэты страхотлівы пажар лютаваў чатыры месяцы. Потым, першага кастрычніка, нечакана ўвесь далягляд завалакла чорная хмара, і пайшоў такі дажджышча, якога ніхто не памятае. Дождж ліў, не пераставаў увесь дзень і на ўсёй прасторы, занятай агнём, пажар быў цалкам патушаны. Шкоды і страты, прычыненыя пажарам,

былі жахлівыя. Дагэтуль можна вызначыць межы таго страшнага пажару, — трохі памаўчаўшы, зноў зрушыў свой аповед Мікалай.

— Вось тады, у самым пачатку пажару, яе муж Глеб з двума іншымі стражнікамі, разам са статкам зуброў, апынуліся ў коле агню. Глеб сцяміў, як вывесці статак. Яны спрабавалі накіраваць яго да ракі, каб жывёлы выплылі па вадзе. Але зубры ад пажару звар'яцелі і кідаліся на людзей. Яны і ў паветра стралялі, і прыкладамі іх білі — цудам скіравалі. Статак выратаваўся, выплыў. А з трох стражнікаў толькі адзін уратаваўся. Дваццаць гадоў хлопцу было, таму, што застаўся ў жывых. Ён зусім сівы да людзей выйшаў, як гэты абрус, ледзь яго пазналі. Потым звар'яцеў. Людзей перастаў пазнаваць. Усё нейкія галасы чуў, зрабіўся нелюдзімым. Глеба і яшчэ аднаго стражніка знайшлі праз тыдзень, недалёка ад ракі. Па стрэльбах апазналі. Разам з самкай зубра і малым зубранём абгарэлыя ляжалі. Або звар'яцелы статак, калі нёсся да ракі, іх затаптаў, або задыхнуліся яны, ратуючы зубрыцу з цяляткам. А ўрэшце — хто ведае? Ніхто не бачыў, як гэта было. Марыйцы, маёй жонцы, тады дзевяць гадоў споўнілася, а яе брату — тры гады. Цешча іх сама выгадавала, другі раз замуж не пайшла, хоць і былі такія прапановы. Сваты пару разоў прыязджалі, а яна ні ў якую. Кахала яна Глеба, моцна кахала. Гэтулькі гадоў мінула, а яна ніяк не можа яго забыць. Сядзе ля акна і размаўляе з ім, нібы з жывым.

— Хе-хе! Так, сват, — гісторыя, — цяжка ўздыхнуў Ян. — Як успомніш, страшна становіцца. Я, дарагі сват, гэты пажар таксама добра памятаю. З бацькам і дзедам тушылі. Такога я больш ніколі не бачыў. Уявіць нават цяжка, што ім, небаракам, тама, сярод агню і звар'яцелага статка, прыйшлося перажыць. Глеб, царства яму нябеснае, сапраўдны быў мужчына.

Праз некатары час на кухню ўвайшлі жанчыны.

Бабуля паднесла палец да вуснаў, паказваючы, каб не шумелі. Яна падышла да Рыгора і працягнула нешта загорнутае ў палатно.

— Рыгорка, гэта пупавіна твайго сына. Пакладзі ў зацішнае месца, жадана на печы. Калі прыйдзе вясна і растане зямля, абавязкова закапай пад яблыняй. Трымай.

Стражнік прыняў скрутак і беражна паклаў на выступ печы.

Мікалай хацеў наліць старой віна, але яна накрыла келіх рукою.

— Прысядзь. Хачу, каб мне Рыгорка наліў.

Стражнік кінуўся наліваць віно бабулі, маме і цешчы. Цесцю нічога не заставалася, як наліць мужчынам гарэлку.

Старая падняла келіх.

— Давайце вып'ем за майго праўнука. Каб ён рос здаровым і прыносіў радасць усім нам. Каб не хіліў галаву перад цяжкасцямі і не задзіраў яе перад слабымі.

Яе шумна падтрымалі.

Затым старая расказала пра старадаўні звычай.

...Кажуць, калісці перад родамі муж доўга глядзеў жонцы ў вочы, а потым знікаў з хаты. Ішоў у пушчу і там крычаў і біўся аб дрэвы. І жонкі раджалі лягчэй. А мужчыны, кажуць, нават адчувалі боль, яны нібыта бралі частку пакут на сябе... Гэта звалася кувада...

Так яны і праседзелі ўсю ноч разам за сталом, гутарачы пра жыццё. Толькі часам старая выходзіла ў пакой да Маланні і да праўнука. У гэтую ноч Рыгор пачуў шмат цікавага з аповедаў блізкіх і родных яму людзей. Гэта быў адзін з тых шчаслівых момантаў, якія бываюць у кожнага чалавека. Момантаў, якія запамінаюцца на ўсё жыццё да глыбокай старасці, да смерці.

## 3. Ваўкі

Наступнага дня раніцай да вартоўні пад’ехалі сані. Мужчына гадоў трыццаці адчыніў вароты і ўехаў у двор.

Рыгор у гэты час быў у каморцы і разглядаў шкуркі куніц. Сабака знаходзіўся побач. Раптам ён насцярожыўся і ціха гыркнуў, усім сваім выглядам паказваючы, што нешта чуе.

Тым часам мужчына пастукаў у дзверы і азваўся.

— Рыгор, ты дзе?

— Гэй! Леанід Міхайлавіч, уваходзьце, уваходзьце, калі ласка.

— Выйдзі! А то пасля белага снегу я нічога не ўбачу, а трэба разгледзець добра.

Рыгор надзеў бравэрку, клікнуў сабаку, і разам выйшлі на двор.

— Аг-га! Бачу, нездарма прыехаў. Як твой бацька і казаў, прыгажун. Такога сабакі ў нас не сустракаў. Хтосьці ехаў гасцінцам і згубіў. Да нас на паляванне з такімі сабакамі не прыязджалі. — Лоўчы не зводзіў вачэй з сабакі.

— Леанід Міхайлавіч, хадзем хутчэй у хату, а то вы ў дарозе закалелі, — прапанаваў стражнік.

— Так, трэба ў цеплыню. Але ж і мароз! Я толькі сена каню кіну, — заспяшаўся Леанід Міхайлавіч.

Рыгор дапамог лоўчаму зняць кажух і запрасіў да стала. Дзверы з пакоя Маланні адчыніліся, бабуля, прывітаўшыся з лоўчым, прайшла да пліты. Паставіла патэльню на агонь і распачала пячы яечню.

— Леанід Міхайлавіч, я два дні таму рабіў абход на сваім участку і не знайшоў слядоў зуброў. Можа, вы ведаеце, дзе яны?

— Ведаю, — кіўнуў галавою лоўчы. — Статак з твайго абходу перабраўся на Ціханаў абход. Раздурылі мы іх. Хутка яны зусім самі адвучацца здабываць корм з-пад снегу. Як толькі выпаў снег, адразу перабраліся бліжэй да стагоў з сенам. Ціхан казаў, ужо два стажкі развалілі.

Старая моўчкі накрыла стол: паставіла гарачую патэльню з яечняй, вэнджанае мяса, хлеб.

— Рыгорка, ледзь не забыўся, у цябе ж сын! Прымі найлепшыя віншаванні, — спахапіўся старшы лоўчы. — Як там Малання?

— Дзякуй за віншаванні. Малання яшчэ слабая.

— Рыгор, калі ехаў да цябе, бачыў сляды ваўкоў.

— Дзе? У якім месцы? — стражнік насцярожыўся.

— З вярсту ад тваёй хаты. Зграя вялікая — штук сем налічыў. Прышлыя, мусіць. Ты ж вясною на сваім абходзе знішчыў кодлу ваўчанят, а яны зноў з’явіліся. Вось зараза! Спасу няма ад гэтага паскуддзя. І плацім добра за знішчэнне ваўкоў.

— Так, мне заплацілі за кодла добра, — махнуў рукою стражнік. — Гадавую зарплату асігнацыямі. Усе зацікаўленыя страляць ваўкоў, але вось хітрыя яны, шэльмы. Няпроста іх узяць. Тут трэба разам навваліцца…

— Рыгорка, аблаву ў пушчы рабіць цяжка, лес занадта густы, — лоўчы з сумненнем пахітаў галавою. — Ты як мяркуеш, справіцца гэты сабака з ваўком ці не?

— Аднаго ваўка адужае, а вось зграю — не. З дзесятак такіх сабак любую ваўчыную зграю возьмуць, — услых разважаў стражнік.

— Добрая думка, Рыгор, і над гэтым варта падумаць. Зробім так, — тарганууўся лоўчы. — Хай гэты сабака пакуль жыве ў цябе. Обер-фарстмайстар з’ехаў на святы ў Пецярбург. Вернецца праз месяц, тады я з ім і перамоўлюся.

А ты беражы сабаку, — старшы лоўчы падняўся з лаўкі. — Дзякуй за пачастунак.

Мужчыны выйшлі з-за стала і накіраваліся да выхаду. Сабака моўчкі ляжаў на сваім месцы, поглядам выпраўляючы людзей.

Калі Рыгор вярнуўся ў хату, спыніўся ля яго; той паслухмяна падняўся.

— Як цябе, сябрук, абазваць, якую мянушку даць? Пайду, параюся з Маланняй.

Жонка сядзела на ложку і карміла грудзьмі сына, а старая моўчкі сядзела каля акна. Рыгор прысеў побач.

— Як у нас справы?

— Вось, у нас падвячорак, набіраемся сіл, — твар Маланні расплыўся ва ўсмешцы. — Рыгорка, выцяплі нам з бабуляй лазню, можаш і ты памыцца, бо перад Калядамі не паспелі. Я ўжо сябе адчуваю лепш і магу хадзіць.

— Добра, — буркнуў стражнік і дадаў. — Я гэтым займуся. Сабака застанецца ў мяне, пакуль не вернецца обер-фарстмайстар з Пецярбурга. Трэба даць сабаку нейкую мянушку.

Вярнуўшыся на кухню, надзеў кароткую бравэрку і шапку.

— Ідзі, сабачка, гуляць, а я за гэты час прыгатую нашай маладой маме лазню.

Стражнік накідаў у топку лазні дроў і распаліў агонь. Сухія дровы весела патрэсквалі.

Сабака абабег двор і зазірнуў у лазню.

— Заходзь, сябрук, — Рыгор ветліва папляскаў рукой па калене.

Сабака асцярожна пераступіў парог, і, з цікаўнасцю гледзячы на агонь, спыніўся побач. Так і сядзелі яны разам, слухаючы, як гудзе полымя.

Нечакана сабака павярнуў галаву да дзвярнога праёму і злосна ашчэрыў зубы. На сабачым загрыўку стала дыбарам кароткая поўсць, а па целе прабягалі хвалі гневу. Праз вострыя белыя зубы прарывалася рыклівае клекатанне і хрып.

— Ты гэта чаго? — здзіўлена спытаў стражнік і падняўся з зэдліка.

Сабака шмыгануў каля ног гаспадара на вуліцу і пачаў гучна і злосна брахаць на лес.

Хто гэта можа быць? Тут ён успомніў гутарку са старшым лоўчым аб ваўчыных слядах. Мусіць, ваўкі?

Хутка пабег у хату, схапіў стрэльбу, кайстру з двума пістолямі і зарадамі. Кулём пераскочыў парог і імкліва пабег за лазню. Выскачыў з-за вугла і ў нерашучасці спыніўся.

На ўскрайку лесу паўколам стаялі шэсць шэрых драпежнікаў і ўважліва глядзелі на яго. Пад ашэсткам плота жвава вынырнуў сёмы воўк і рашуча накіраваўся да сабакі.

Стражнік ускінуў стрэльбу, але стрэліць яму перашкаджаў сабака, які знаходзіўся паміж ім і ваўком. Ён стаяў на месцы і злосліва, з хрыпатой, брахаў на ваўка.

Воўк, прыціскаючыся да зямлі, адважна бег лёгкім трушком. Не дабегшы крокаў пяць, спыніўся. Выцягнуўшы пысу, уцягваў ноздрамі пах сабакі. Агледзеўшыся, звер асцярожна зрабіў крок наперад. Сабака працягваў люта яхкаць. Нечакана адначасова воўк і сабака скокнулі адзін на аднаго. Сабака спрытна схапіў шэрага за горла. Завязалася бязлітасная валтузня з гучным гырканнем.

Ваўкі рашуча кінуліся на дапамогу сабрату.

Стражнік прысеў на калена і стрэліў. Ад яго стрэлу адзін з ваўкоў закруціўся на месцы; пачуўся гучны віск і гырканне раненага звера. Зграя адразу кінулася ўроссып.

Стражнік падбег да сабакі, які моцна трымаў ваўка за горла і прыглушана рычэў. Воўк амаль не супраціўляўся. З разарванай артэрыі звера, афарбоўваючы белы снег, у такт пульсу пырскаў пунсовы струменьчык крыві.

Неўзабаве воўк перастаў тузацца, і сабака адпусціў яго горла. Падняў галаву і паглядзеў у напрамку лесу. Заўважыўшы, другога ваўка, які з усіх сіл спрабаваў паўзці, кінуўся за ім. Падбег да плота і адным махам перамахнуў яго, вялікімі скачкамі дагнаў раненага звера.

Стражнік пабег следам.

Убачыўшы сабаку, звер падняўся і выскаліў пашчу. Сабака, з разбегу скокнуў і ўдарам шырокіх грудзей абваліў ваўка.

Калі стражнік падбег, сабака ўжо спрытна трымаў звера за горла. Зацятая барацьба працягвалася нядоўга, воўк перастаў тузацца. Сабака адпусціў горла шэрага.

Пастаяўшы трохі над целам скрываўленага ваўка, сабака адбег у бок. Морда яго была ў крыві, кароткая поўсць на карку ўздыблена. Ён цяжка дыхаў шырокімі грудзьмі і заваламі бакоў. Трохі пастаяўшы, пачаў качацца па снезе. Рэзка ўскочыў на лапы, задраў галаву ўверх і як воўк завыў: «У-у-у…»

Ад нечаканага выцця спіна стражніка пакрылася потам.

Сабака перастаў выць і перайшоў на адрывісты брэх, некалькі разоў узлавана, з храпам, гаўкнуў у напрамку зніклых ваўкоў.

Тут стражнік ачуўся і з захапленнем сказаў:

— Х-фу-у! Ну! Ты даеш! Так ты ж сапраўдны ваўкадаў! Каму сказаць — не паверацъ.

Ён хацеў падысці і пагладзіць сабаку, але, паглядзеўшы на яго грозны выгляд — не адважыўся.

У хаце расказаў перапалоханым жанчынам аб нападзе ваўкоў.

— Лазня хутка гатовая, можаце ісці мыцца, а я тым часам паздзіраю шкуры.

Раніцай стражнік узяў сваю кайстру, стрэльбу і паклікаў з сабой сабаку. Гэта быў першы сумесны выхад ў пушчу. Ішлі звыклымі для стражніка Белавежскай пушчы сцежкамі.

Была пагода; уначы прайшоў невялікі снег, з самай раніцы вецер аціх, і ярка свяціла сонца. Снег асляпляў вочы, пераліваўся, іскрыўся.

Ідучы, стражнік уважліва вывучаў сляды, часта даставаў з кайстры сшытак з алоўкам, нешта запісваў; па слядах на снезе праводзіў улік звяроў на сваім абходзе.

Калі нахіляўся, сабака тут жа падбягаў і нюхаў сляды, пры гэтым не паказваў асаблівай цікавасці да іх. Пасля чарговага абнюхвання слядоў стражнік гаварыў сабаку:

— Гэта сляды зайца. Але не магу зразумець, ты паляўнічы сабака ці не? Калі ты паляўнічы, то павінен адразу кінуцца па свежых слядах з брэхам, а ты спакойны. А вось гэта сляды куніцы, дзесьці на гэтай хвоі яна і павінна быць.

Яны разам падышлі да высокай хвоі, і ён уважліва паглядзеў уверх. Сабака таксама задраў галаву.

— А! Вось ты дзе, прыгажуня!

Стражнік дастаў пістоль з кайстры, прыцэліўся і стрэліў. Гучнае рэха разнеслася па лесе. Стражнік зірнуў на сабаку, а той на стрэл нават вокам не павёў. Куніца, чапляючыся за галлё, звалілася на снег, сабака падбег і абнюхаў яе. Рыгор нахіліўся, узяў куніцу, дастаў папружку і звыклым рухам прывязаў здабычу.

Яны працягвалі свой шлях, глядзелі сляды, часам спыняліся для запісу. Нечакана сабака затрымаўся, павярнуў галаву назад і ціха гыркнуў у напрамку, адкуль толькі што выйшлі. Стражнік таксама спыніўся, зняў стрэльбу і ўважліва агледзеўся.

Праз некаторы час прычуўся рып снегу пад нагамі. З-за дрэў з'явіўся чалавек і гучна крыкнуў:

— Гэй! Рыгорка, гэта ты?

— Цю-у! Ціхан, брат!

Рыгор павесіў стрэльбу на плячо і радасна накіраваўся насустрач. Браты моцна абняліся.

Ціхан паказаў рукой на сабаку.

— А гэта хто?

— Давай, брат, сядзем, гэта доўгая гісторыя. — Першая і самая галоўная навіна — у нас нарадзіўся сын.

Ціхан ускочыў.

— Віншую цябе, Рыгорка, — браты зноў абняліся. — Назваў сына як?

— Глебам.

— Прыгожае імя.

— У памяць аб дзядулі Маланні, які загінуў, ратуючы на пажары зуброў, — запярэдзіў яго пытанне Рыгор.

— Правільна, Рыгорка, ты зрабіў, я чуў пра яго.

Рыгор распачаў свой аповед ад рысі, закончыў учарашнім нападам ваўкоў.

Ціхан уважліва слухаў, з цікаўнасцю зіркаючы на белага ваўкадава.

— Так, брат, ваўкі абвыклі лавіць вясковых сабак. У іх такая тактыка. Адзін увязваецца ў бойку, а астатнія набягаюць і раздзіраюць сабаку на часткі. А тут у іх прамашка выйшла. Я вось на Каляды да цябе ў госці з жонкай збіраўся, але нечакана на мой абход зубры зайшлі. Прыйшлося ўсе святы іх ахоўваць. Стаяць каля стагоў з сенам, вярсты тры адгэтуль.

— Ціхан, я хацеў цябе прасіць — будзь хросным бацькам. — Рыгор глядзеў на брата.

— З вялікай радасцю! Дзякуй, брат, за давер, — радасна ўскочыў Ціхан.

Сабака сядзеў побач з людзьмі і слухаў гутарку, быццам разумеючы, пра што гавораць.

Браты развіталіся, кожны з іх пайшоў сваёй сцежкай. Хоць яна ў іх агульная. Займаюцца яны тым, чым займаліся іх бацькі, дзяды і прадзеды: ахоўваюць спакой зуброў і пушчы.

У суботу Рыгор, бацька, цесць і старшы лоўчы сядзелі за сталом у бацькавай хаце і чакалі вяртанне немаўляці з хроснымі з царквы. Гутарка сама сабой зайшла пра знойдзенага сабаку.

Рыгор распавёў аб нападзе ваўкоў.

Пачутае аб сутычцы сабакі з ваўкамі зрабіла вялікае ўражанне на слухачоў. Старшы лоўчы першым пачаў выказваць свае меркаванні.

— Трэба нейкім чынам развесці гэтую пароду сабак. Калі я ад цябе ехаў, усю дарогу аб гэтым разважаў.

Прысутныя гэтую прапанову падтрымалі.

Хата паступова напаўнялася гасцямі, яны падыходзілі да Рыгора і віншавалі. Неўзабаве з царквы вярнуліся хросныя з Глебам на руках. Урачыста перадалі сына маладой маме. Госці пачалі рассаджвацца за сталы. На вялікіх гарачых патэльнях унеслі яечню — галоўную страву на хрэсьбінах. Неўзабаве весела і дружна спявалі песні, танчылі пад гармонік і скрыпку.

Гулянне працягвалася і ў нядзелю. Пасля поўдня, забраўшы падарункі, маладыя бацькі пачалі збірацца да ад'езду.

— Бабуля, раскажыце пра свайго мужа, — папрасіў Рыгор у дарозе, — мы назвалі сына ў яго гонар, і нам хацелася б больш ведаць пра яго. Я толькі ведаю, як ён загінуў.

— Доўгая гісторыя, — журботна сказала старая. — Але спяшацца няма куды…

Старая крыху памаўчала і распачала свой аповед.

— Раней я была прыгоннай. Жылі мы бедна: дзве пары лапцей ды сёе-тое з адзежы. Няхай Бог крые ад такой нястачы. Нават хата, у якой жыла мая сям'я, належала памешчыку. Было гэта восенню, у 1800 годзе. Мне тады споўнілася семнаццаць год. Спраўлялі свята дажынак. Гэта ці не адзіны дзень, калі прыгонным хоць неяк спагадалі. Існуе такі звычай, на дажынкі выбіраюць самую прыгожую дзяўчыну, і той восенню абралі мяне. Мы з песнямі адправіліся ў панскую сялібу. Дарогаю я і спаткала Глеба. Ён сядзеў конна і глядзеў на людзей. Убачыўшы такога статнага малайца ў форме, я пакланілася яму. Ён у адказ мне ўсміхнуўся.

Я ўручыла пану вянок з жыта, якое апошнім было зжата. Ён мне зрабіў падарунак і запрасіў весяліцца. Пасля пачастунку іграла музыка, запалілі вогнішчы. Спявалі і танцавалі да глыбокай ночы. Затым мяне завялі ў пакой, дзе чакаў пан. Ён пачаў да мяне заляцацца. Я стала супрацівіцца. Мяне лупцавалі розгамі датуль, пакуль я знепрытомнела. Тады і зганьбілі, — саромячыся таго, пра што гаварыла, старая апусціла вочы. — Што я магла зрабіць?

Бабуля памаўчала, ужо больш лагодным голасам працягвала:

— Праз некалькі дзён каля маёй хаты з'явіўся стражнік Глеб. Пакланіўся і запытаў мяне, ці жадаю стаць яго жонкай. Я моўчкі кіўнула. Ён сеў на каня і накіраваўся да памешчыцкай сядзібы. Але наш уладар не даў згоды на маё замужжа, тады Глеб прапанаваў яму выкупіць мяне. Колькі ён заплаціў, не ведаю, але вечарам прывёз паперу і сказаў, што я вольная.

Ні запоінаў, ні вяселля, ні каравая ў нас не было.

Жылі мы з Глебам добра і нажылі дваіх дзяцей. Ён мяне ніколі не папракнуў, што беспасажніца, або грэшная. Я ўсё сваё жыццё буду за яго і свае грахі маліцца.

Старая перахрысцілася і замоўкла. Вочы яе зрабіліся маркотнымі. Да хаты засталося недалёка — даехалі моўчкі.

Перад тым, як зайсці ў хату, паводле мясцовага звычаю, стражнік паклаў хрышчонага Глеба на парог.

## *4. Візіт да обер-фарстмайстра*

Незаўважна мінуў месяц. Стражнік разам са знойдзеным сябрам кожны дзёнь неслі сваю службу. Аднойчы за вярсты дзве ад хаты Рыгор заўважыў свежыя сляды зуброў. Яго сэрца радасна загрукала, ён гучна загаварыў:

— Нарэшце, вярнуліся! Рык, ідзі сюды, — так стражнік стаў называць сабаку.

Той паслухмяна падбег.

— Глядзі, гэта сляды зуброў. Яны досвіткам вярнуліся на наш абход. Вось, братка ты мой, праца ў нас толькі распачынаецца. Слухай: зубры не ваўкі, іх нельга трывожыць.

Рык не разумеў, што здарылася. Усё як заўсёды: хадзілі спакойна, а тут чамусьці такое хваляванне. І пах ад слядоў моцны і незнаёмы. Раптам гэтак патыхнула з ветрам, Рык незадаволена гыркнуў. Рыгор спыніўся, пагладзіў сабаку, з кайстры дастаў скураную папружку і прывязаў канец да колца. Раней ніколі гаспадар так не рабіў.

— Ціха, Рык! Ціха, яны зусім блізка…

Рыгор паглядзеў на верхавіны дрэў.

— Нам трэба зайсці з іншага боку, проці ветру.

Неўзабаве яны выйшлі да паляны, на якой стаялі стагі за невялікай загараддзю. Гэтая загарадзь была перашкодай для ласёў, аленяў, казуль, але не для зуброў.

Зубры не прымусілі сябе доўга чакаць. З яловага гушчару спачатку з'явіўся велізарны самец. У яго быў выпуклы лоб, на галаве і шыі — грыва. Галаву ўпрыгожвалі круглыя дужыя рогі, канцы якіх закругляліся ўгары. Барада пад шыяй, капыты і кончык хваста былі чорныя.

Зрабіўшы па паляне некалькі крокаў, ён спыніўся; спакойна і велічна паварочваў галаву, азіраўся. Пастаяўшы трохі, нібы рохкнуў і павольна, ківаючыся, накіраваўся да загарадзі. З ельніка, таксама не спяшаючыся, з годнасцю, пачалі выходзіць астатнія зубры. Барадаты бык падышоў да загарадзі і з дзіўнай лёгкасцю, толькі рухам галавы, раскідаў жэрдкі. У зроблены праход прайшоў да сена. Падышоў да стога, засунуў галаву з рагамі глыбей у яго сярэдзіну. Потым адным махам, хуткім рухам падкінуў сена з такой сілай, што частка стога перакулілася. Тады падышлі астатнія зубры; спыніўшыся, пачалі марудліва жаваць.

Стражнік гладзіў сабаку, з хваляванне назіраў за статкам.

— Вось, Рык, гэта і ёсць мая праца. Я ахоўваю гэтых прыгожых волатаў. Ну, дзякуй богу, вярнуліся. Пайшлі, Рык, не будзем іх трывожыць.

Бляклае неба навісла над лесам. Сонца ўжо хілілася да захаду. Прытомлены сабака бег паперадзе, і калі азіраўся, вочы яго свяціліся чырванаватым бляскам. На навакольных дрэвах белымі шатамі ляжаў снег. Аглядаючы снежную прыгажосць велічных дрэў, Рыгор міжвольна прыцішыў крокі. І ў гэтым непарушным, адвечным спакоі чулася толькі мяккае рыпенне снегу.

Калі гаспадар набліжаўся да хаты, убачыў перад варотамі сані. Конь быў знаёмы. Ён паспешна зайшоў у хату. З-за стала насустрач яму падняўся старшы лоўчы Леанід Міхайлавіч Кусаў.

— Рыгор, я цябе паўдня ўжо чакаю. З Пецярбурга вярнуўся обер-фарстмайстар. Іх высокаблагароддзе вельмі зацікавіўся сабакам і распарадзіўся неадкладна даставіць знайду ў Белавеж. Так што заўтра збірай манаткі і…

— Не магу, — сумна сказаў стражнік. — Якраз сёння на мой абход вярнуліся зубры. Увесь статак у цэласці і стаіць на выпалянцы каля стагоў. А ваўкі не сышлі, бачыў іх сляды.

— Рыгор, загад ёсць загад, — пераканаўча сказаў лоўчы.

— Так, я ўсё разумею, трэба ехаць, — цяжка ўздыхнуў стражнік. — Можа, давайце разам з'ездзім. Не ўмею я размаўляць з начальнікам, — умольна папрасіў стражнік.

— Рыгор, што лішні раз мазоліць вочы обер-фарстмайстру?! — сказаў старшы лоўчы. — Загад быў табе!

Засмучаны стражнік моўчкі сядзеў за сталом і пазіраў на Рыка. У хаце то стаяла цішыня, то часам плакаў Глеб, а старая спявала над калыскай з праўнукам адвечную калыханку:

Люлі, люлі, люлі
Пойдзем да бабулі,
Дасць бабуля млечка
І ў руку яечка.
А як будзе мала,
Дасць кусочак сала.

— Хе-хе, — цяжка прастагнаў Рыгор і сумна зірнуў на сабаку.

Яго настрой быў зразумелы. Рашэнне обер-фарстмайстра вядома загадзя — ён забярэ Рыка. Рыгор паспеў прывязацца да сабакі, але нічога зрабіць не мог. Трэба падпарадкавацца.

Пачухаўшы патыліцу, стражнік злосна пляснуў рукамі па каленях і ўстаў з-за стала. Не дакрануўшыся да ежы, распрануўся, лёг спаць. Доўга не мог заснуць — усялякія думкі лезлі ў галаву.

Назаўтра Рыгор пад’ехаў да галоўнай сядзібы распарадчыка пушчы, калі ўжо амаль развіднела. З паласатай будкі выскачыў малады хлопец у форме стралка і падышоў бліжэй.

— Па якой справе, як дакласці?

— Перадай старшаму каравульнаму, што стражнік Селіван Рыгор прывёз сабаку.

Рыгору ўспомнілася, як два гады таму нёс службу такім жа стралком. Часта даводзілася несці варту ў гэтай жа будачцы. Службу стралка-вартаўніка абавязкова праходзілі ўсе стражнікі, падлоўчыя, ляснічыя…

Гэта былі добрыя юнацкія гады. Тут вучылі грамаце, вучылі страляць, проста муштравалі. Самае галоўнае, давалі юнакам магчымасць спазнаць, што такое сяброўства, узаемадапамога, адказнасць. Адбор быў строгі, асабліва гэта тычылася здароўя. Тут ён упершыню спаткаў лекара. Гэта былі яго лепшыя гады. Успомніў, як у першыя дні ён нудзіўся па родных, хацеў нават збегчы.

— Вітаю цябе, Рыгорка, колькі гадоў мы не бачыліся? — да яго набліжаўся старшы каравульны.

— Ды гады два…

Яны моцна абняліся і па-хрысціянску пацалаваліся.

— Ведаў, што ты павінен прыбыць, чакаў цябе. Учора прыязджаў у Белавеж старшы лоўчы Леанід Міхайлавіч. Пасля сустрэчы з обер-фарстмайстрам ён мне і сказаў, што ты павінен сёння прыехаць. Пайдзем да нас у вартавую, гарбатай цябе пачастую. І звера з сабою вазьмі, толькі на шворцы бяры, а то, крый божа, яшчэ з панскімі счэпіцца. Гляджу, і праўду ваўкадаў. Праўду ваўка бярэ, або брэшуць? — старшы вартавы з цікаўнасцю разглядаў сабаку.

— Сам бачыў, — адказаў стражнік.

— Добры сабачка. Гаспадзін обер-фарстмайстар яшчэ адпачывае, давядзецца пачакаць.

Каравульны стралок адчыніў вароты, і ён разам з Рыкам накіраваўся ў вартоўню. Пераступіўшы парог, зайшоў, як да сябе ў хату. Усё было знаёма да кожнай драбніцы, нават кожны сучок на сценах і століі. Тут ён адпачываў між вартай, таксама, як гэтыя маладыя хлапчукі, якія з цікаўнасцю глядзелі на яго.

Праз некаторы час Рыгора выклікалі. Стражнік адвязаў Рыка і накіраваўся да ганка вялікай хаты. Перад ганкам спыніўся, паправіў рэмень, шапку, рукой паказаў Рыку сядзець. Пачаліся хвіліны чакання.

Расчыніліся дзверы, на парозе з’явіўся галоўны распарадчык пушчы Фёдар Канстанцінавіч Таран. Обер-фарстмайстар быў апрануты ў мундзір, на галаве надзета зімовая фуражка з вялікім двухгаловым арлом. Эпалеты срэбным бляскам зіхацелі ў праменнях ранішняга сонца. Левая рука ў лайкавай пальчатцы ляжала на дзяржальні шаблі.

Рыгор падцягнуўся, стаў па стойцы смірна, стукнуў абцасамі чобатаў, прыклаў правую руку да галаўнога ўбору.

— Ваша высокаблагароддзе гаспадзін обер-фарстмайстар, па-вашым распараджэнні прыбыў.

У адказ обер-фарстмайстар прыклаў правую руку да фуражкі:

— Малайчына.

Спусціўся з ганка, падышоў да стражніка.

— Вольна. Бачу, не забыўся муштру. Пахвальна! Паказвай сваю знаходку.

Обер-фарстмайстар уважліва разглядаў сабаку.

Рыгор тузануў шворкай, Рык устаў. Обер-фарстмайстар аглядам сабакі застаўся задаволены, з усмешкай на твары падкруціў вусы.

— Так, прыгажун. Мне аб знаходцы даклалі. Ну, давай, братка, раскажы ўсё падрабязней. Ідзі за мной.

Стражніку нічога не заставалася, як пакорліва ісці следам. У хаце обер-фарстмайстар зрабіў распараджэнне прыслузе і прапанаваў Рыгору прайсці ў кабінет.

Рыгор зачаравана агледзеўся: у хаце галоўнага распарадчыка пушчы быў упершыню, тым болей у вялікім службовым кабінеце.

На сцяне віселі паляўнічыя трафеі: галовы аленя, лася, дзіка. На падлозе ляжала шкура мядзведзя. Над уваходнымі дзвярамі ўзвышалася галава зубра. Паміж паляўнічымі трафеямі віселі карціны са сцэнамі палявання. Каля сцяны стаяў вялікі пісьмовы стол з дуба, з высокай прыгожай спінкай выраблянае крэсла. За крэслам на сцяне вісеў вялікі партрэт найсвятлейшай асобы ў мундзіры. Побач стаяла этажэрка з кнігамі ў тоўстых скураных пераплётах з пазалочанымі надпісамі.

Дзверы ў кабінет адчыніліся, служка з незвычайна вялікімі бакенбардамі стаяў на парозе з падносам у руках. Обер-фарстмайстар рукой паказаў на столік ля акна. Той падышоў да століка і паставіў паднос. Пакланіўшыся, пакінуў кабінет.

Галоўны распарадчык прапанаваў прайсці да століка. Рыгор па запрашэнні прысеў на крэсла і паказаў сабаку, каб лёг побач. Іх высокаблагароддзе наліў у чаркі каньяк. Узяў чарку, смакуючы, выпіў. Стражнік таксама выпіў — каньяк яму спадабаўся. Обер-фарстмайстар прапанаваў частавацца, паказаў рукой на жоўтыя лустачкі на талерцы. Рыгор асцярожна ўзяў адну і паклаў у рот. Ледзь стрымліваючыся, каб не крывіцца, пачаў жаваць. Фрукт аказаўся жудасна кіслым і нясмачным.

Обер-фарстмайстар усміхнуўся.

— Гэты фрукт завецца цытрына, расце ў цёплых краінах за морам. Ну, вось тут спакойна і пагаворым. Пачні з самага пачатку.

Стражнік падрабязна даклаў аб усім, што датычыла сабакі. Обер-фарстмайстар уважліва слухаў, часта зіркаючы на Рыка.

— Лічу, мы можам яго пакінуць сабе і паспрабаваць палепшыць пароду нашых сабак. Я ўжо распарадзіўся пашукаць сучак.

Ён узяў званочак і зазваніў. Дзверы расчыніліся, у кабінет увайшоў служка, несучы на падносе прыгожы срэбны гарлач і два маленькія кубкі на сподках. Паставіўшы паднос на стол, наліў у маленькія кубачкі чорны напой.

Галоўны распарадчык узяў кубачак і адсёрбнуў. Стражнік, імкнучыся не ўпусціць маленькую пасудзіну, адсёрбнуў таксама. Чорны як смоль напой быў горкі, але ён працягваў піць маленькімі глыткамі. Обер-фарстмайстар з усмешкай назіраў, пакуль стражнік не дайшоў да густой чорнай калатушы. Гідка, падумаў Рыгор, і паставіў кубачак на стол.

Іх высокаблагароддзе ўсміхаўся.

— Як табе кофій?

Рыгор ускочыў і адрапартаваў:

— Не магу ведаць, ваша высокаблагароддзе, не зразумеў!

— Ды сядзі ты спакойна! — обер-фарстмайстар весела засмяяўся, узяў званочак і зноў зазваніў.

У дзвярах з'явіўся служка.

— Галубчык, прынясі тое, што рыхтавалі, — павярнуўся да Рыгора. — Чуў, што ў цябе нарадзіўся сын, прымі мае найлепшыя віншаванні. Назваў як?

— Глебам, ваша высокаблагароддзе.

— Дзіўнае імя! Дазволь пацікавіцца, у чый гонар?

— У гонар жончынага дзядулі, загінуў на пажары, ратуючы зуброў, — адказаў стражнік.

— Пахвальна, вельмі пахвальна.

Бразнулі дзверы, на парозе стаяў служка і трымаў папяровы скрутак.

— Гэта перадай жонцы, — хітнуў галавою Фёдар Канстанцінавіч, паказваючы на скрутак.

— Дзякую, ваша высокаблагароддзе.

На вуліцы іх чакаў сабакар. Прывітаўшыся, ён адразу пачаў пільна глядзець на сабаку.

Іх высокаблагароддзе загадаў:

— Яўстафій! Прымай новага пастаяльца, пакуль у каранцінную.

Сабакар падышоў да Рыгора і хацеў узяць папружку. Рык гыркнуў, Яўстафій спыніўся.

Обер-фарстмайстар усміхнуўся.

— Нешта ты яму не спадабаўся? Рыгор, завядзі сабаку сам.

Стражнік паслухмяна павёў сабаку. Запусціў яго ў сабакарню, адвязаў папружку і вярнуўся да хаты кіраўніка. Той стаяў і даваў распараджэнні старшаму каравульнаму.

— Вяртайся дадому, дзякую за службу.

— Слухаюся, ваша высокаблагароддзе, — казырнуў Рыгор.

Стражнік выйшаў за вароты, сеў у сані. Калі выехаў за межы селішча, пачуў выццё Рыка. Спыніўшы жарабца, прыслухаўся. Яму стала вельмі журботна, але ён тузануў лейцы, і Каштан паслухмяна пацягнуў сані.

Дома разгарнулі панскі падарунак. Тут была і прыгожая бутэлька, і розныя цукеркі ў каляровых абгортках, і нейкі дзіўны жоўты фрукт.

— Ой, а гэта што такое? Першы раз такі цуд бачу, — усклікнула Маланне.

— Гэта цытрына, фрукт такі, расце ў цёплых краінах за морам. Яго паны рэжуць лустачкамі. Ім закусваюць, калі п'юць, — сказаў стражнік.

— Рыгорка, а давай зараз яго і паспрабуем з гэтай бутэлькай. Бабуля, хадзіце сюды!

Рыгор наліў у тры келіхі. Узяў цытрыну і парэзаў на лусткі. Праўда, атрымалася не так тонка, як у обер-фарстмайстара. Маланне дастала зярняткі з цытрыны і загарнула ў паперу. Напой усім спадабаўся, а вось цытрына была вельмі кіслай. Старая сказала, што памрэ ад такой кіслі, калі ёй яшчэ не нальюць. За сталом раптам стала весела. Рыгор пачаў, перадражніваючы сябе, паказваць, як ён піў кофій з малюсенькага кубачка. Усе весела рагаталі, і настрой у стражніка прыкметна палепшыўся. Але, калі ён лёг спаць, усё думаў, як там Рык?

## *5. Зубры і ваўкі*

Раніцай, як заўсёды, стражнік скіраваў да зуброў. Надвор’е сапсавалася, пачалася моцная завея. Нават у густым лесе, па верхавінах дрэў, адчуваўся моцны подзьмух ветру. Да месца, дзе стаялі зубры, было вярсты дзве. Па ледзь прыкметных сцежках ён прабіраўся праз гушчар наўпрост. Выслізгваў з-пад галля, а за ім на галаву, на плечы з шоргатам асыпаўся іскрысты снежны пыл. На паляне адчуў моцны вецер, снег залепліваў вочы. Агледзеўшы ўважліва стагі з сенам, убачыў сваіх гадаванцаў.

У шчыльнай кучы, падставіўшы бакі ветру, тыя панура стаялі, толькі зрэдку трэслі галовамі. З-за таго, што снег наліп на іх поўсць, выглядалі яны, як снежныя гурбы. Можна было нават падумаць, што зубры спяць.

Стражнік асцярожна накіраваўся ў іх напрамку.

Ад статка павольна аддзяліўся зубр і пайшоў насустрач. Крокаў за сто ён спыніўся. Рыгор добра ведаў звычкі магутных волатаў, стаў асцярожна абыходзіць барадатага быка, увесь час аддаляючыся. Велізарны самец стаяў нерухома, як камлыга. Калі б ён пайшоў насустрач яму, або зрабіў рэзкі рух, зубр імгненна, апусціўшы галаву, кінуўся б у атаку.

Паказаўшы сваю перавагу, барадаты бык пастаяў, павярнуўся і пайшоў да статка. Стражнік наблізіўся да стагоў — двух бракавала. Па прыкідах, сена яшчэ павінна хапіць на месяц. Таму яшчэ месяц кожны дзень ён павінен сюды прыходзіць.

Рыгор вярнуўся да лесу, знайшоў камлюкаватую хвою і залез на жэрдкі, прымацаваныя да тоўстага галля. Адгэтуль статак зуброў быў як на далоні. Можна спакойна назіраць. Ён дастаў перакус: мяса з хлебам.

Мінуў некаторы час, зубры спакойна стаялі, схаваўшыся ад ветру. Рыгор пачаў нават драмаць. Раптам пасярод статка адбылося хваляванне; лясныя волаты ўзрушана заварушыліся і скіравалі галовы ў адным напрамку. Ад статка аддзяліўся самец і пабег да стагоў.

Стражнік уважліва паглядзеў направа.

З другога краю лесу насустрач зубру, не спяшаючыся, трусіў воўк. Паабапал стаялі яшчэ чатыры шэрыя драпежнікі. Рыгор прыкінуў адлегласць: далёка, стрэл мог толькі напалохаць. Але воўк, які бег насустрач зубру, быў бліжэй.

Ён ускінуў стрэльбу і старанна прыцэліўся.

Барадаты бык спыніўся і нахіліў нізка да зямлі галаву з вострымі рагамі.

Не дабегшы да зубра крокаў дзесяць, воўк таксама спыніўся.

Стражнік націснуў цынгель. Скрозь дым ад стрэлу бачыў, як воўк тузануўся і закруціўся на месцы. Адначасова са стрэлам бык нахіліў галаву і, задраўшы хвост, цяжкімі скокамі рынуўся на ворага. Той спрабаваў крутнуцца ўбок, але лясны волат на хаду падчапіў яго рогам і падкінуў уверх. Воўк высока ўзляцеў і зваліўся проста на рогі. Зубр матлянуў галавою, воўк яшчэ раз узляцеў, але ўпаў ужо ўбок. Велізарны бык у два скачкі апынуўся побач і стаў пароць рагамі шэрага драпежніка.

Ад краю лесу на дапамогу сабрату спяшаліся чатыры іншыя ваўкі. Стражнік скочыў з галіны хвоі на зямлю і пабег наперарэз шэрым, перазараджаючы стрэльбу. Ваўкі, заўважыўшы чалавека, у нерашучасці спыніліся. Стражнік таксама спыніўся, апусціўся каленам на снег, прыцэліўся і стрэліў у самага бліжняга ваўка. Драпежнікі кінуліся ў розныя бакі. Рыгор ізноў пачаў хутка перазараджаць стрэльбу, ваўкі ў гэты час зніклі ў хваёвым лесе.

Рыгор зірнуў у бок зубра. Той стаяў і матляў галавою, на правым розе боўтаўся воўк. Нахіліў магутную шыю да зямлі і, адыходзячы назад, важак скі-

нуў з рагоў мёртвае цела. Затым чмыхнуў, цяжка захроп. Глухі рык, падобны падземнаму гулу, вырваўся з грудзей гаспадара пушчы, пар валіў з ноздраў. Пярэднім капытом ён рыў зямлю і заграбаў пад сябе. Снег, змешаны з зямлёй, абсыпаў бок волата. У гэты момант ён меў надзвычай люты выгляд. Стражнік назіраў моўчкі. Барадаты бык, пастаяўшы трохі, павярнуўся і павольна, калыхаючыся з боку на бок, з важным выглядам накіраваўся да статка. Устрывожаныя зубры стаялі паўколам, выставіўшы вострыя рогі.

Калі зубр адышоў на бяспечную адлегласць, Рыгор наблізіўся да разадранага на снезе ваўка: ад мацёрага засталася крывавая калатуша. Прайшоўся далей і ўбачыў на снезе плямы крыві. Значыць, і другога ваўка ўчапіў. Гэта добра, яны сюды не хутка сунуцца.

Вярнуўся, узяў ваўка за заднія лапы і пацягнуў да хвоі. Прывязаў лапы да галіны, галавою ўніз, і пачаў здзіраць шкуру. Воўк быў яшчэ цёплым, шкура, пашматаная ў некалькіх месцах, знялася лёгка. Стражнік расклаў яе, выцер снегам кроў, скруціў, перавязаў папружкай і павесіў ззаду на пояс. Скрываўленае тулава кінуў у кусты.

— Бярыце, жарыце свайго брата, ненаедныя стварэнні, — гучна вылаяўся.

Закінуўшы на плячо стрэльбу, папраставаў дамоў.

За вячэрай Рыгор абвясціў:

— Заўтра еду да обер-фарстмайстра, трэба адвезці шкуры ваўкоў і шкуркі куніц.

— Рабі, як лічыш, — адказала Маланння, ведаючы жаданне мужа — з’ездзіць да Рыка.

Раніцай накіраваўся ў напрамку галоўнай сядзібы. Ехаў не спяшаючыся, усю дарогу думаў пра Рыка. З вярсту да сядзібы нечакана сустрэў коннага Яўстафія.

Убачыўшы Рыгора, той рэзка асадзіў жарабца.

— Во-ой! Рыгор! Дзякуй Богу, што цябе сустрэў!

— А што здарылася? — стражнік здрыгануўся.

— Дзве ночы твой сабака вые ваўком, — цяжка дыхаючы, тлумачыў Яўстафій. — Мала таго, іншыя сабакі яму дапамагаюць. Такое злагоддзе, што хай Бог крые. Ад выцця сабак у жонкі іх высокаблагароддзя распачалася мігрэнь. Обер-фарстмайстар злы як чорт. Загадана тэрмінова даставіць цябе. Цьфу!

Рыгор ляпнуў лейцамі жарабца і панёсся ў галоўную сядзібу. У двары сядзібы каравульны адчыніў вароты. Разам з Яўстафіем падышлі да ганка.

Старэйшы каравульны пабег з дакладам у хату, праз хвіліну вярнуўся.

— Загадана чакаць, іх высокаблагароддзе зараз выйдзе.

Праз некаторы час дзверы хаты адчыніліся. Па прыступках ганка хутка спускаўся обер-фарстмайстар.

Рыгор стукнуў абцасамі і пачаў дакладваць:

— Ваша высокаблагароддзе, гаспадзін обер-фарстмайстар, па вашым распараджэнні прыбыў.

У адказ іх высокаблагароддзе толькі махнуў рукою.

— Вольна. Хутка ты, аднак, з’явіўся.

— Я, ваша высокаблагароддзе, якраз вёз шкуры здаваць…

— Добра, вельмі добра, а дзе шкуры?

Накіраваліся да варот. Рыгор паказаў прывезеныя шкуркі куніц, затым на снезе раскачаў ваўчыныя.

Обер-фарстмайстар усё ўважліва агледзеў.

— Малайчына! Бачу, нездарма казённы хлеб ясі. Не тое, што гэтыя дармаеды, — і пагрозліва паглядзеў на галоўнага каравульнага і сабакара.

— Чаму адна шкура ваўка так моцна падраная? — галоўны распарадчык паказаў рукою на воўчую «апратку».

— Гэта, ваша высокаблагароддзе, зубр так зрабіў.

— Зразумела, — хітнуў галавою і паглядзеў на каравульнага. — Каравульны, перадай маё распараджэнне скарбніку. Няхай усё пryме па вопісу і адразу выплаціць гатоўку. І не забудзься нагадаць аб прэміяльных за ваўкоў — хай не скупіцца. А мы на сабакарню, там нас чакаюць справы.

Каля сабакарні пачуўся гучны брэх Рыка. Яўстафій пабег наперад адчыняць дзверы. Рыгор падышоў да вальера і адкрыў брамку. Рык лёг і падпоўз да яго, стаў лізаць Рыгору руку і радасна віляць хвастом. Рыгор узяў міску з ежай і працягнуў сабаку. Той з прагнасцю накінуўся на ежу.

Усе трое моўчкі глядзелі на сабаку.

Першым загаварыў обер-фарстмайстар:

— Вучыся, Яўстафій… Так, тут я бачу два выхады. Ты, Рыгор, пераязджаеш з сям'ёй сюды і прымаеш справы ў Яўстафія, або табе, Яўстафій, прыйдзецца вазіць сук да Рыгора. Дарэчы, галубок, ты ўчора казаў, што адна сука загуляла, давай яе сюды.

Сабакар пабег у суседнюю адрыну, вярнуўся, трымаючы на ланцужку гончую. Ростам яна была значна меншай за Рыка.

— Аддай ланцужок Рыгору, — закамандаваў Фёдар Канстанцінавіч.

Калі ўсё скончылася, Яўстафій падхапіў ланцужок і бегам павёў суку ў вальер.

Обер-фарстмайстар наўздагон крыкнуў:

— Глядзі ў мяне, каб іншыя сабакі не дабраліся. Сапсуюць пароду — адкажаш асабіста! — грозна памахаў кулаком услед.

Рыгор дастаў з кішэні скураную папружку і прывязаў Рыку да нашыйніка.

— Ваша высокаблагароддзе, жонка перадае паклон і дзякуе за пачастунак.

Обер-фарстмайстар кіўнуў галавой і сказаў:

— Ты, Рыгор, забіраеш сабаку, Яўстафій будзе прывозіць сяброўак да Рыка. Беражы яго. Дасць Бог, што-небудзь у нас і атрымаецца.

Тут падбег старшы вартавы.

— Ваша высокаблагароддзе, скарбнік прасіў зайсці стражніка атрымаць грошы.

— А што, ён сам не мог прынесці? — сказаў праз зубы галоўны распарадчык. — Зусім абленаваліся на казённых харчах. Ну, я ім пакажу службу! Ужо паскачуць яны ў мяне, лымары![1] — зрабіўшы грозны выгляд, злосна патрос кулаком.

Жыццё ўвайшло ў звычайную каляіну. Калі толькі надвор'е дазваляла, стражнік разам са сваім неразлучным сябрам неслі службу.

Ходзячы па лесе, стражнік адстрэльваў, як бачыў, куніц. У той час футра куніц каштавала дорага, і нарыхтоўка шкурак уваходзіла ў яго абавязкі.

Ён прыстасаваўся страляць іх з пістоля. Гэта была незвычайная зброя. Перайшла яна Рыгору ад бацькі; пістоль вісеў у хаце на сцяне як упрыгажэнне. Калі Рыгор стаў стражнікам, ён апрабаваў яго. Да трыццаці крокаў шрот ляцеў кучна. Гэтага было цалкам дастаткова для стральбы па куніцах. Плюс эканомія зарадаў пораху — порах у той час быў дарагі.

Шкуркі куніц ішлі ў царскую казну. Стражнікам плацілі, але значна танней.

[1] Лымары — лайдакі (дыял.).

Рык налаўчыўся адшукваць сляды куніцы, учуйваў яе на дрэве, задзіраў галаву ўверх і нягучна скавытаў.

Кожны раз гэта весяліла Рыгора. Ён падыходзіў, гладзіў Рыка, глядзеў уважліва ўверх, даставаў свой пістоль і страляў. Пасля стрэлу куніца звычайна падала на зямлю. Рык заўсёды падбягаў і абнюхваў яе. Але часам пасля стрэлу парахавы дым рассейваўся, а нічога не падала, бо забіты звярок завісаў на густых галінах. Тады Рыгору даводзілася скідаць вопратку і, крэкчучы, лезці на дрэва. Пры гэтым ён заўсёды гаварыў:

— Эх, Рык, калі б ты яшчэ і па дрэвах мог лазіць, быў бы залатым памагатым.

Штодзённа яны выходзілі на паляну, дзе лясныя волаты перачэквалі зімовую сцюжу. Спачатку зубры насцярожана касіліся, але пастунова прызвычаіліся і перасталі зважаць на сабаку.

З кожным днём нарыхтаванага сена менела і менела. Гэта трывожыла Рыгора, хоць да канца зімы было не так далёка. Аднойчы, абыходзячы свой участак, ён павярнуў і зайшоў на суседні абход да брата.

Пакуль не было зуброў, там завезлі сена і адрамантавалі паламаную зубрамі загарадзь.

Рыгор з братам абмяняліся навінамі. Чутка пра сабаку разнеслася па ўсёй пушчы і абрасла неpraўдападобнымі гісторыямі. Як толькі Рыка не звалі. Некаторыя казалі, што ён напалову воўк, іншыя, што пярэварацень і ўначы ператвараецца ў ваўка. Але ніхто не сумняваўся, што Рык можа задушыць ваўка.

Цяпер кожны стражнік і падлоўчы захацелі мець падобнага сабаку. З'явілася надзея знішчыць пушчанскіх ваўкоў. Але ці можна гэта зрабіць?

Рыгор часта думаў аб гэтым. Развагі яго былі простыя — калі знішчыць усіх ваўкоў, то хто будзе падбіраць падліну.

Ваўкі мярцвячыну чуюць на адлегласці некалькіх вёрст. У гэтым Рыгор неаднойчы пераконваўся. Сустракаў часам загінулую жывёліну, а праз дзень або два труп знікаў. Вакол былі бачныя толькі сляды ваўкоў. Такая ачыстка хіба не карысна для лесу, для іншых звяроў? Але вось бяда. Ваўкі нападалі на цельных зубрыц або на іх цялят, а гэтага дапускаць ніяк нельга. Бо самка зубра целіцца толькі раз у тры гады, і згуба самкі або зубраняці — гэта заўважная страта. Як зрабіць так, каб ваўкі не чапалі зуброў — вось задача!

Аднойчы на паляне Рыгор не ўбачыў зуброў, стагі з сенам таксама зніклі. Ён абышоў паляну, разам з Рыкам адправіўся па слядах. Мінулі вярсты тры, выйшлі на мяжу свайго абходу.

— Ну ўсё, Рык, цяпер можна трохі адпачыць. Сышлі нашы гадаванцы да брата, там у яго сена многа, да вясны дацягнуць.

## *6. Зубраня*

Час ішоў на вясну, дні рабіліся даўжэйшымі. Цяпер стражнік пакідаў Рыка дома. Бо днём снег паволі раставаў, а ўначы падмярзаў, ператвараўся ў вострыя лёд і раніў лапы. Калі сабака бег, на снезе заставаліся кропелькі крыві.

Абыходзячы свой участак адзін, стражнік заўсёды нудзіўся і спяшаўся дадому, а Рык таксама ў хаце нудзіўся па сваім гаспадары.

Вось і сёння раніцай, як заўсёды, выйшаў на вуліцу агледзецца. Уначы быў невялічкі мароз. Снег ляжаў толькі пад дрэвамі, а паўсюль чарнела зямля.

Рык некалькі дзён сядзеў у хаце, і яму хацелася ісці разам з гаспадаром. Стражнік паклікаў сабаку і праверыў яму лапы. Раны на падушках лап зажылі, крыві не было відаць.

— Добра, пойдзеш са мной, — разумеючы жаданне сабакі, весела сказаў стражнік.

Рыгор узяў стрэльбу, кайстру з пістолямі і выйшаў на вуліцу. Сабака радасна скакаў вакол.

— Што, здоўжыўся час у хаце?

Сёння ён рашыў прайсці мяжою свайго абхода. Падумалася, што можа сустрэць брата і даведацца, як там гадаванцы.

Паглыбіўшыся ў лес, стражнік спыніўся. Яму здалося, што ён чуў недзе стрэл. Прыслухаўся. Пастаяўшы трохі, рушылі далей.

Праз вярсты дзве Рык злосліва загыркаў. Стражнік падышоў бліжэй. На снезе былі выразна бачныя свежыя сляды ваўкоў і след зубра. Па памеры капыта гэта быў малады зубр або самка. У стражніка загрукала сэрца. Ён ведаў звычкі зуброў. Яны ў густым лесе не адбіваюцца, а ўцякаюць на адкрытае месца. Там лацвей уцякаць. Рыгор успомніў, што наперадзе ёсць невялікая паляна.

— Рык, наперад!

Прадзірацца скрозь лясны гушчар да паляны было нялёгка, даводзілася часта нагінацца. Рыка не было відаць, пэўна, пайшоў следам ваўкоў. Вось ужо і прасветліна. Рыгор спыніўся, угледзеўся на паляну. У яго на вачах чатыры ці пяць ваўкоў атакавалі самку зубра. Адзін з шэрых круціўся на месцы, відаць, пакалечаны. Самка, цяжка матляючы галавою, з апошніх сіл адбівалася. Ад яе валіў пар, яе раздзьмутыя бакі хадзілі ходырам. Нібы сп’янелая ад знямогі, яна, здавалася, вось-вось зваліцца. Прадчуваючы хуткую перамогу, ваўкі кружылі вакол, то падскоквалі, то адскоквалі.

Яна ж цельная, пранеслася ў галаве. Стражнік імкліва ўскінуў стрэльбу і стрэліў. Адзін з драпежнікаў завішчаў і перакуліўся, астатнія ваўкі на імгненне замерлі. Не, яны зусім не збіраліся так проста аддаць сваю здабычу чалавеку.

Нібы па камандзе, усёй зграяй, кінуліся на яго. Адлегласць паміж трыма мацёрымі ваўкамі і чалавекам хутка скарачалася.

Рыгор правай рукой дастаў пістоль з кайстры, левай, выставіў рулю стрэльбы наперад.

— Рык, на дапамогу! — раўнуў на ўсю моц сваіх лёгкіх.

Стражнік стрэліў у найбліжэйшага ваўка, адкінуўшы пістоль, аберуч схапіў рулю стрэльбы і прыгатаваўся да нападу. З разгону воўк скокнуў на стражніка. Перад сабой ён бачыў злослівы ашчэр ваўчынай пашчы. У гэты момант убачыў цень Рыка. Воўк разам з сабакам пакаціліся па зямлі.

Другога ваўка Рыгор стукнуў прыкладам, той таксама кулём адляцеў убок. Трэці спыніўся перад ім, мабыць, ацэньваючы сітуацыю. Рыгор выхапіў з кайстры пістоль і ва ўпор стрэліў прама ў пашчу. Воўк закруціўся на месцы і, выючы ад болю, адскочыў назад. Стражнік адкінуў пістоль і выхапіў нож. У гэты момант на яго скокнуў воўк ззаду. Падаючы, Рыгор паспеў павярнуцца і ўсадзіць нож па дзяржальна ў драпежніка. Кроў пырснула проста ў твар. Воўк адразу абвяў. Рыгор ускочыў на ногі. Рык працягваў валтузіцца з ваўком у трох кроках ад яго. Стражнік, не вагаючыся, падбег і ўсадзіў нож у шэры бок. Падняўся і ўбачыў таго ваўка, якога пакалечыла зубрыца.

— Не ўцячэш, гад!

З нажом у руцэ пабег за ваўком.

Калі да яго заставалася крокаў дзесяць, прагучаў стрэл. Шэры драпежнік замарудзіў бег і тыцнуўся мордай у снег.

Рыгор, не звяртаючы ўвагі на гэта, наваліўся на ваўка зверху і ўсадзіў між лапаткамі нож. Аж хруснула! Стражнік выцягнуў нож і зноў увагнаў яго па

дзяржальна. Воўк даўно не рухаўся, але стражнік працягваў усаджваць нож у цела шэрага драпежніка.

— Рыгорка, годзе, ён ужо мёртвы, — пачуўся выразны голас брата Ціхана.

— Ціхан, а як ты тут апынуўся? — здзіўлена спытаў Рыгор.

— Сёння раніцай прыйшоў да зуброў, гляджу, а гэтыя… турацо статак. Адбілі ад статка самку і пагналі яе ў лес. Я паспеў толькі раз стрэліць, потым пабег следам. Меркаваў, можа самка спыніцца, пачне кружыць, адбівацца, і я паспею. А яна паперлася на твой абход. Так я тут і апынуўся. Колькі ты іх палажыў?

— Мо трох, мо чатырох…

— А дзе ж чацвёрты? — уторпіўся здіўлена Ціхан.

— Там ляжыць, — Рыгор паказаў у напрамку зубрыцы.

Яны падышлі бліжэй. Самка зубра цяжка дыхала, павярнуўшы галаву на людзей. У некалькіх кроках ад яе ляжаў мёртвы воўк. Ціхан узяў ваўка за лапы і пацягнуў да краю лесу. Перацягалі ўсіх, паклаўшы радочкам.

— Эх! Быў бы я мастаком, пасадзіў бы цябе і Рыка побач, і такі выдатны малюнак зрабіў бы для гісторыі, — уздыхнуў Ціхан.

Рык абнюхваў ваўкоў і, зласліва пагыркваючы, бегаў вакол.

— Ціхан, паглядзі. Цяліцца нашай падапечнай заманулася ці што? — Рыгор уважліва глядзеў на зубрыцу.

Цяжка дыхаючы, самка зубра калыхалася з боку ў бок. У яе пачало з’яўляцца мокрае цяля. З апошніх сіл зубрыца імкнулася тужыцца, а якраз гэтых сіл у яе і не было.

Ціхан з Рыгорам, укленчыўшы, пачалі цягнуць зубраня як цяля ў звычайнай каровы.

Неўзабаве маленькі руды цялюк ляжаў побач з самкай. Браты былі ў захапленні; яны сябе адчувалі ў гэты момант самымі шчаслівымі людзьмі на зямлі. Яны ўвачавідкі бачылі таемства прыходу на свет зубраняці. Мала таго. Яны не толькі бачылі, яны выратавалі гэты маленькі руды цуд.

Мокрым снегам выцерлі рукі ад крыві.

Ціхан усміхнуўся і сказаў:

— Ну, што, брат! Цяпер у нас есць хрэснік. Рыгорка, а што мы будзем далей рабіць? Яна ачухаецца не хутка. Ваўкі яе змучылі да знямогі. Баюся, каб не здохла. Што тады будзем рабіць?

— Давядзецца мне тут заначаваць, — журботна адказаў Рыгор.

— Разам пачакаем! Рыгорка, паглядзі на дзіва дзіўнае!

Рык вылізваў зубраня. Вылізваў так дбайна, як сучка свайго шчанюка. Самка зубра з асцярогай касіла вокам, але падняцца і адагнаць сабаку яна не магла.

Браты Селіваны, затаіўшы дыханне, глядзелі, што будзе далей.

Зубраня паспрабавала ўстаць. Спачатку паднялося на заднія ногі, затым на пярэднія. Атрымалася гэта ў яго не адразу. Нарэшце яно ўстала. Пастаяла трохі і, хістаючыся, паспрабавала ісці. Спачатку няўпэўнена, але з кожным крокам усё лепш і лепш. Ішло яно да Рыка. Той пачаў адыходзіць да знямелых ад здзіўлення людзей. Зубраня працягвала адважна, злёгку хістаючыся, ісці да Рыка. Браты не варушыліся, глядзелі, што будзе далей. Зубраня падышло і торкнула мыскай сабаку.

Рыгор і Ціхан зарагаталі.

— Ціхан, глядзі, Рык у яго за хроснага бацьку.

— Ды ён усё пераблытаў, лічыць, што Рык і ёсць яго мама, — смеючыся, сказаў Ціхан.

Браты падвялі цялюка да сапраўднай мамы.

Зубраня пачало яе абнюхваць. Матуля з глыбокім стогнам чмыхнула. Браты адышлі, каб не трывожыць самку. Цялюк хутка знайшоў, адкуль зыходзіць пах малака, і пачаў патрабавальна тыцкаць туды мыскай.

Самка спрабавала падняцца, але не змагла. Потым яна павярнулася на правы бок. Зубраня, прыпаўшы на коленцы, пачало смактаць малако. Маленькі бычок рабіў гэта ўвішна, час ад часу торгаючы рудай галавою. Калі ўдосталь насыціўся, адступіў. Самка заняла ранейшае становішча. Цяля падышло да яе пысы, некалькі разоў лізнула маму. Зубраня пастаяла хістаючыся, і легла каля цёплага матчынага боку.

Браты заняліся справай. Ціхан падвешваў на тоўстую галіну хвоі ваўкоў і здымаў шкуры. Рыгор нанасіў дроў, затым насёк нажом яловых лапак. Калі скончылі працу, распалілі вогнішча і селі побач.

Дзень згасаў. На небакраі, у тым месцы, дзе зайшло сонца, неба яшчэ ірдзела, але пушча паволі апускалася ў сон.

Гледзячы на агонь, браты гутарылі. Адрэзалі сала, надзелі на шомпалы і смажылі. Сала затрашчала і капала ў агонь вогненнымі кропелькамі.

Павячэраўшы, браты разлягліся нагамі да агню. Іх шчокі ад жару трохі паружавелі, скуру сцягвала ад гарачыні. Водсветы рабілі іх твары меднымі. Падобна добрым лясным духам, не стуліўшы вока, усю ноч браты дзяжурылі каля зуброў.

Раннім досвіткам зубраня ізноў пачало кружыць вакол сваёй мамы і прасіць малака. Самка з цяжкасцю паднялася і пакарміла стоячы. Браты ўзрадавана глядзелі на кармленне малечы.

— Рыгорка, зубрыха не карова, і ёй вяроўку на рогі не накінеш. Як мы яе адвядзём на мой абход? Што рабіць?

— Не ведаю, — пацісгнуў плячамі Рыгор.

Браты стаялі, услых разважаючы, што рабіць далей.

Папіўшы ўдосталь малака, зубраня жвава скакала вакол сваёй мамы. Зубрыха стаяла на месцы і глядзела на людзей. Зубраня нечакана пайшло да людзей, і яна таксама паволі рушыла следам.

Становішча рабілася небяспечным. Зубрыха магла ў любы момант рынуцца на іх. Рыгор і Ціхан, схапіўшы свае стрэльбы, кайстры і шкуры ваўкоў, пачалі адыходзіць у лес. Рык падаўся следам за гаспадаром.

Ціхан сказаў:

— Рыгорка, давай рухацца ў напрамку статка. Можа, яна так і пайдзе за намі.

Браты накіраваліся да абходу Ціхана. Зубрыха спакойна ішла следам, зубраня бегла побач. Так яны і ішлі. Ціхан, Рыгор і Рык, а на адлегласці крокаў сорак — пяцьдзесят — зубры. Браты абыходзілі ветраломы і занадта густы лес. На сваім абходзе Рыгор выбіраў шлях, а Ціхан паказваў, куды ісці на сваім участку.

Вось ужо наперадзе і паляна, дзе стаялі стагі з сенам. Галоўнае цяпер, каб статак зуброў быў на месцы. Калі выйшлі з лесу на паляну — з палёгкай уздыхнулі; зубры спакойна жавалі сена. Стражнікі адышлі ўбок, вызваляючы дарогу зубрыцы. Яна, з зубранём, выйшла на паляну і спынілася, павярнуўшы галаву да людзей. Некаторы час так і стаялі. Зубраня падбрыкнула і пабегла да Рыка. Яны сустрэліся, выцягнуўшы галовы, — абнюхаліся.

Статак зуброў перастаў жаваць, скіраваўшы барадатыя галовы на нечаканых гасцей. Вялікі бык хутка пайшоў у іх напрамку.

— Рык, да мяне, — ціха вымавіў Рыгор.

У гэты момант Рык лізнуў мыску зубраняці. Самка незадаволена чмыхнула. Зубраня паслухмяна вярнулася да мамы, а Рык да людзей.

— Рыгорка, трэба ўцякаць.

Глыбока ў лесе, ужо далёка ад зуброў, Рыгор сказаў:

— Ціхан, у мяне да цябе ёсць просьба. Нікому не кажы, што здарылася з намі. Абяцай мне.

— Чаму гэта? — здзівіўся Ціхан.

— Разумееш, брат. Людзі, пачуўшы гэтую гісторыю, ад сябе яшчэ нешта дададуць, і атрымаецца такая лухта…

Ціхан хітра ўсміхнуўся:

— Ты, Рыгорка, не хочаш быць знакамітым? Не цяпер, але праз шмат гадоў дзецям і ўнукам абавязкова распавяду. І прыдумляць не буду. Толькі ты мне аддай шкуру ваўчыцы. Каб некалі мне паверылі…

## *7. Таксацыя пушчы*

Прыйшла доўгачаканая, самая цудоўная пара года — вясна.

На палянках дзе-нідзе прабівалася зялёная трава. Пахла хвояй. У лесе стукалі дзятлы, а высока ў небе крычалі дзікія гусі, якія ляцелі з поўдня.

Цяпер зубры ў пошуках свежай зеляніны блукалі па ўсім лесе. Асаблівым ласункам для іх былі лісце і парасткі асіны. Зубр падыходзіў да асіны і, упёршыся магутным ілбом, нахіляў яе, часам ламаў. Некалькі зуброў станавілася вакол і з задавальненнем абрывалі маладыя галінкі. З кожным днём лісця і пашы станавілася ўсё больш і больш. Статак пераходзіў з аднаго месца на іншае. Вартаваць іх сэнсу не было, зубры разбрыдаліся па вялікай тэрыторыі.

Старыя самцы-адзіночкі залазілі ў самую нетру, знаходзілі там вільготныя месцы і з задавальненнем адпачывалі.

Такія качавілы любяць статкі дзікоў. Але, убачыўшы рагатага волата, яны заўсёды саступалі яму месца. Вельмі часта для старых зуброў гэтае месца станавілася апошнім прытулкам.

Потым парэшткі прыцягвалі ваўкоў, мядзведзяў, лісаў, не грэбавалі падлай і дзікі. Адрываючы ад тулава вялікія кавалкі, развалаквалі іх у розныя бакі ў надзеі спакойна наесціся. Паміж жывёламі адбываліся сутычкі і бойкі. Моцныя адбіралі спажыву ў слабых. Праз некаторы час ад зубра заставаліся толькі хрыбетнік і чэрап з рагамі.

Аднойчы стражнік разам са сваім сябрам абыходзіў сваю тэрыторыю і наткнуўся на зуброў. Яны стаялі ў рэдкалессі. Рыгор вырашыў паназіраць за зубрамі. Яго ўвагу прыцягнуў маленькі лабасты цялюк, які круціўся каля маці. Рыгор усміхнуўся, мусіць — хрэснік.

Рык асцярожна пачаў набліжацца да зубраняці. Крыху падрослы маленькі цуд убачыў Рыка і адважна накіраваўся да яго. Наблізіўшыся да Рыка, зубраня спынілася. Выцягнула цікаўную мыску да сабакі, пачало яго абнюхваць. Рык спакойна сеў. Зубрыха, не перастаючы жаваць, назірала за сваім гадаванцам і сабакам.

Стражніка гэта здзівіла. Бо самкі зубра з дзецьмі заўсёды паводзяць сябе вельмі агрэсіўна да чужынцаў, а тут поўная абыякавасць. Хутчэй за ўсё яна запомніла пах, разважаў Рыгор. Бо ад яе малога ў першы дзень пахла Рыкам. Ён тады аблізаў зубраня і цяпер, пачуўшы знаёмы пах, яна засталася спакойнай. Сам Рыгор не асмельваўся падысці бліжэй.

Праз некаторы час зубрыха накіравалася да сабакі. Рык не стаў выпрабоўваць лёс. Ён адышоў да Рыгора, і яны пайшлі прэч. Зубрыха спынілася і глядзела ім у след, побач з ёй скакала рудая малеча.

З добрым настроем стражнік вярнуўся з Рыкам дадому. Там іх чакаў сабакар обер-фарстмайстра Яўстафій. Ён прывёз аж некалькі гончых. Але ўжо рабілася цёмна. Рыгор зачыніў сабак у лазні.

— Яўстафій, хадзем у хату. Павячэраем, пасядзім, пагамонім.

Падчас вячэры сабакар расказаў, што пасля ад'езду Рыгора з Рыкам обер-фарстмайстар дні два хадзіў раздражнёным, даваў усім разгон, потым супакоіўся. У іх высокаблагароддзя жонка запешчаная і вельмі капрызная дама. А сваркі там здараюцца часта, нават чуваць на вуліцы.

Яшчэ обер-фарстмайстар чакае з Пецярбурга важных гасцей. Праз два тыдні з Імператарскага рускага геаграфічнага таварыства павінны прыехаць нейкія навукоўцы. У гэтым годзе ў пушчы будзе зроблена таксацыя — Белавежскую пушчу падзеляць на кварталы.

Раніцай Рыгорка асядлаў Каштана і паскакаў у селішча да бацькі. Якраз бацька з маці былі ў хаце.

— Праз два тыдні, пасля Вялікадня, збіраюцца зрабіць таксацыю пушчы, — паведаміў Рыгор бацьку.

— А гэта што яшчэ за таксацыя? — здзівіўся бацька.

— Будуць усю пушчу разбіваць прамымі лініямі на квадраты. Мы будзем дапамагаць рабіць шырокія прасекі, валіць лес. На скрыжаваннях квадратаў усталююць паласатыя слупы з нумарамі кварталаў. А павалены лес будзе забіраць Сімунд, — тлумачыў Рыгор.

— Вось гад, гэты Сімунд. Чую, гэта яго ідэя, я табе праўду кажу. Мяркую, гэта ён такую прапанову ўвёў у вушы обер-фарстмайстру, а той з'ездзіў на Каляды ў Пецярбург і там выдаў за сваю. Якой халеры гэтаму Сімунду яшче не хапае. І так, глядзі, які раскошны палац збудаваў, прадаючы нашы дубы і карабельныя хвоі. Калі ўжо ён задушыцца сваім багаццем? Сякуць лясы, здзіраюць скуру з зямлі. Эх, людзі, людзі… — гаварыў як стагнаў адстаўны стражнік. — Ох, і хітры ж гэты Сімунд. Вось глядзі, Рыгорка. Як толькі ў пушчы з'явіцца хтосьці чужы, абавязкова напаскудзіць. Я яшчэ старога Сімунда не любіў, а яго сына і пагатоў! Вочкі хітрыя, прагныя, так і бегаюць. Негацыянт: добрую справу для вас зраблю, вартавыя і паляўнічыя хаты збудую. Ахоўвайце, беражыце пушчу, а сам яе ціш-кам-нішкам рабуе. Наш обер-фарстмайстар таксама жук яшчэ той. Ад спадніцы сваёй жонкі ні на крок не адыходзіць, ды з Сімундам каньякі п'е. Ён што, сляпы, зусім не бачыць, што той яго дурыць? — аж кіпеў стары.

— А можа, Сімунд з ім дзеліцца прыбыткам? — перабіў бацьку стражнік.

— Хе-хе! Вось тут, сыне, ты маеш рацыю. Праз пяць гадоў ён сыдзе ў адстаўку, напакаваўшы торбу грошай, і выедзе са сваёй сварлівай жонкай у Пецярбург. Што яму гэтая пушча? Надзене свой мундзір і важна як цецярук па таку ходзіць. Царава вока! Царава вока! Зладзюга ён — а не распарадчык. Каб свой! Тады б парадак быў. Свой так красці не будзе.

Рыгор сядзеў моўчкі, нізка нахіліўшы галаву.

Пасля доўгага маўчання стары раптам ажывіўся:

— Можа, нашага галоўнага распарадчыка правучыць, як цыганы свайго караля?

— Як гэта, правучыць? — здзіўлена падняў галаву Рыгор.

— Проста выхвастаць — пугай адсцябаць, — таргануўся бацька.

— Напрамілы бог, тата, ты што вярзеш? Як гэта выхвастаць? — Рыгор збянтэжана лыпаў вачыма.

— Цю-у! А ты што, не чуў гэтую гісторыю пра цыганоў? Ну, дык слухай, — бацька хітравата бліснуў вачыма і пачаў распавядаць.

— Гэта было ой як даўно. Неяк у аднаго лідскага шляхціца цыганы выкралі коней. Якаў Знамяроўскі з двума сваімі знаёмымі цыганамі напаў на табар

і адлупцаваў усіх былых у ім цыганоў і вярнуў коней. Цыганы былі настолькі здзіўленыя адвагай і мужнасцю гэтага шляхціца, што абралі яго сваім каралём. Польскі кароль Станіслаў-Аўгуст адпаведным рэскрыптам зацвердзіў гэта. Сталіцаю цыганоў стала мястэчка Эйшышкі ў Лідскім павеце, дзе знаходзіўся родавы маёнтак Знамяроўскага. Праз дзевяць гадоў Знамяроўскага абвінавацілі ў розных злоўжываннях, несправядлівых прысудах і залішніх паборах. Знамяроўскага арыштавалі і аддалі суду цыганскіх старшынаў.

— Ты паглядзі! — здзіўлена прамовіў Рыгор.

— Тыя параіліся і прынялі рашэнне — трэба адлупцаваць. Але старшыны падбалі, каб ад гэтага пакарання годнасць іх уладара не пацярпела. Звязанага па руках і нагах і распранутага Знамяроўскага паклалі ў доўгі мяшок. Мяшок зверху завязалі і прымацавалі да столі, падставіўшы пад ногі зэдаль. Двое выканаўцаў прысуду са сваімі чупнамі (пугамі) сталі ззаду па баках. Трэці выканаўца медным тазам прыкрыў ногі, з засцярогі, каб удар быў зроблены ў вызначанае месца.

— Ну і ну! — усміхнуўся Рыгор. — Шляхцюка адперылі!

— Адлупцавалі, — даказваў бацька, — надавалі падарункаў і праводзілі да месца жыхарства.

— І што, памагло? Знамяроўскі цалкам выправіўся і выдатна кіраваў цыганамі да самай смерці. Вось бы так, па-цыганску, і нашага обер-фарстмайстра правучыць, — рашуча пляснуў рукамі па каленях стары Ян і дапытліва паглядзеў на сына.

— Тата, дзе ты гэтую гісторыю чуў? — усміхнуўся Рыгор.

— Гэтую гісторыю мне расказаў адзін памешчык з Гародні. Ён неяк начаваў у мяне, калі прыязджаў сюды на паляванне. Ты тады яшчэ маленькі быў. Калі памятаеш, я цябе ў дзяцінстве таксама лупцаваў. Ты гадзюку па двары за хвост цягаў. Узгадваеш?

— Так, памятаю, доўга я не мог сесці на лаву. Але, тата, ты параўнаў обер-фарстмайстра з цыганскім каралём. Тут можна і ў Сібір загрымець... — здзіўлены ходам ягонай думкі, сын махнуў рукою і насцярожана глядзеў на бацьку.

— Можна, але нешта рабіць трэба, — стары развёў рукі.

— Нешта ты, тата, зусім расхрабрыўся. Я хвалююся за наш дуб і святы камень, — у сынавых вачах бацька бачыў трывогу.

— Ну, такой вялікай пілы ў іх не знойдзецца. А калі паспрабуюць, то я вазьму стрэльбу і застрэлю гэтую набрыдзь, Сімунда. Думаю, усе нашы мяне падтрымаюць, — упэўненым голасам прамовіў Ян.

Рыгор развітаўся з бацькамі і паскакаў у карчму да Гарфінкеля.

Арон, убачыўшы Рыгора, выбег на вуліцу.

— Заходзь, дарагі, заходзь, лепшы тавар пакажу, — карчмар падбег і дапамог стражніку злезці з каня.

У гэты момант міма карчмы каціла брычка. У ёй сядзелі двое маладых мужчын з дзвюма бедна апранутымі дзяўчатамі. Дзяўчаты сарамліва апусцілі вочы, а адзін з мужчын з пагардай паглядзеў на людзей каля карчмы. Брычка пакаціла далей, а Арон працягваў біць паклоны наўздагон.

— Дзядзька Арон, не зламайце спіну, тыдзень балець будзе пасля такой колькасці паклонаў. Вы лепш скажыце, хто гэта праехаў? — спытаў стражнік.

— Паважаны Рыгор, гэта ўнук нашага памешчыка Шаурава, — яўрэй выпрастаўся і павярнуўся да стражніка. — Прыехаў з Пецярбурга і другі тыдзень адпачывае. Другога я не ведаю. Ой, бяда прыгонным дзеўкам! — яўрэй скрушана круціў галавою.

— А што, на яго ўправы няма? — спытаў Рыгор.

— Літасцівы Божа! Якая ўправа? Дзеўкі прыгонныя, што яны могуць зрабіць? — Арон бездапаможна развёў рукамі.

— Яны даўно тут жывуць? — зноў спытаў стражнік.

— Нябожчык бацька гаварыў, што Шаураў пераехаў сюды, калі я нарадзіўся. Значыць, трыццаць шэсць гадоў таму.

— А які ён чалавек, гэты памешчык Шаураў?

— Рыгор, чаму мы тут на вуліцы стаім, давай зойдзем у хату, там, можа, я і скажу табе, — хітравата бліснуў вачыма яўрэй.

Рыгор з Аронам зайшлі ў карчму.

У адной палавіне прасторнай хаты размяшчалася карчма, у другой была лаўка. Пахла лёкам і мануфактурай.

— Цябе ведаю, твайго бацьку, Яна Селівана, добра ведаю. Ніколі ад яго дрэннага слова не чуў. Кожны крыўдзіць беднага яўрэя, а твайго бацьку яўрэі таксама паважаюць. А гэты памешчык Шаураў дрэнны чалавек. Цяпер ён стары стаў, а раней, калі яшчэ быў жывы мой бацька Іудэль, ён здзекаваўся — браў тавары і грошай не плаціў... І ўнук яго пайшоў у дзеда. Заязджаў учора, абзываў жыдам пархатым, а я вольны яўрэй. Нам цяпер палёгку зрабілі. Цяпер яўрэю можна нават ганаровым грамадзянінам стаць. У Вільні адкрылі равінскую вучэльню, можна і медыцынскую адукацыю атрымаць. Я вось свайго старэйшага сына Мошку хачу накіраваць у навуку…

— Тады чаму вы, дзядзька Арон, паклоны білі шляхцюкам наўздагон? — з усмешкай на твары спытаў Рыгор.

— Звычка, страх… Можа, мае дзеці перастануць баяцца… Мы, яўрэі, адвеку баімся… Мы таксама любім месца, дзе нарадзіліся, дзе жылі і памерлі мае бацькі, — яно зрабілася мне дарагім. Я ведаю ого-го! — яўрэй смела глядзеў на стражніка, і ў гэтым позірку была прага да жыцця.

— Дзядзька Арон, а чаму людзі кажуць, што яўрэі грошы любяць? — усміхнуўшыся ў густаватыя вусы, спытаў стражнік.

— Рыгорка, адкрыю табе маленькую таямніцу, — яўрэй нахіліўся праз стол да вуха стражніка і ціха сказаў, хоць нікога староннягa побач не было. — Грошы любяць усе. Чаго тут здзіўляцца, што мы любім грошы? Грошы — адзіная магчымасць, каб адкупіцца… Уся наша сіла і ўменне ў гандлі. Мы трымаемся сваіх кагалаў, таму дагэтуль і выжылі. Ой, Рыгорка, я табе вельмі шмат сказаў. Давай лепш купі што…

Рыгор купіў дзве квяцістыя хусткі — жонцы і старой. Не таргуючыся, заплаціў.

Схаваўшы грошы, Гарфінкель заўважыў:

— Ты гэта, Рыгор, навошта мяне скрыўдзіў?

— Як гэта, скрыўдзіў? — здзіўлена падняў бровы стражнік.

— Ты чаму са мной не таргаваўся? Ты мог бы купіць за палову кошту! А цяпер буду ноччу не спаць і разважаць. Ай-яй-яй! Які жа ты дурань, Арон. Ай-яй-яй! Чаму не назваў большую цану — яшчэ б больш зарабіў.

Стражнік гучна зарагатаў.

— Я усё зразумеў. Дзякуй, дзядзька Арон, за навуку, — і пакланіўся Гарфінкелю.

## *8. Браканьеры*

Праз некалькі дзён Арон пераняў Рыгора каля карчмы.

— Што здарылася? — спытаў насцярожаны стражнік.

У яўрэя ўскінуліся бровы, ён зіркнуў па баках.

— Значыць так. Учора вечарам тут гулялі. Аднаго я ведаю, гэта новы аканом памешчыка Шаурава. Другога бачу ўпершыню. Дык вось, яны моцна выпілі і шапталіся. Але я… словам, я падслухаў гутарку. Я адразу ўцяміў, пра што ідзе гаворка — пра паляванне на зубра. Казалі, што ўсе будуць святкаваць трэці дзень Вялікадня, і нікога ў лесе не будзе. Нібы абяцаў Станіслаў вялікае задавальненне. Станіслаў, гэта ўнук Шаурава… Табе, Рыгорка, рашаць, што рабіць, але пра мяне нікому ні слова, — яўрэй насцярожана глядзеў на стражніка.

Стражнік адшпіліў ад паса скураны кашалёк, пакорпаўся, працягнуў паперку яўрэю.

— Дзякуй, дзядзька Арон, за дапамогу.

— Рыгор, ты зноў мяне крыўдзіш. Я не буду браць грошы. Не будзе зуброў, не будзе аховы. Не будзе аховы, не будзе пушчы. Людзі сыдуць, Арон будзе бедным, — круціў галавою Гарфінкель.

Рыгор накіраваўся да выхаду, Арон торгнуў за рукаў стражніка.

— І яшчэ. Перад смерцю бацька гаварыў, што ў 1811 годзе пушчу падпаліў стары памешчык Шаураў. Ён хацеў купіць зямлю пасля пажару, але пажар атрымаўся занадта вялікі, і ён спалохаўся. Праз год напісаў такое прашэнне, але яму адмовілі ў куплі зямлі.

Рыгор яшчэ раз падзякаваў Арону і, падганяючы каня, хутка паехаў да брата.

Калі зайшоў у хату, Ціхан з сям'ёй сядзелі за святочным сталом. Браты абняліся. Рыгор запрасіў гаспадара выйсці на вуліцу.

— Ціхан, дзе цяпер статак? — цяжка дыхаючы ад верхавой язды, спытаў Рыгор.

— Учора я іх бачыў у маладым лесе на пажарышчы, — здзіўлены пытаннем адказаў Ціхан.

— Гэта побач з маёнткам Шаурава? — удакладніў Рыгор.

— Так. Дзесьці вярсты дзве будзе ад іх маёнтка. А што зрабілася?

Рыгор расказаў тое, што пачуў ад Арона.

— Эге! Аказваецца, вось у чым справа! — насцярожыўся Ціхан. — Я так разважаю, каб ніхто не ведаў, паляваць будуць адныя, без загоншчыкаў. Трэба зрабіць засаду.

— Таксама так мяркую. Але вось бяда, як даказаць, што яны палявалі на зуброў? Добра, каб з намі былі стралкі і жандары, тады не адкупяцца, — разважаў Рыгор.

— Падобна, гэта ў іх не першае паляванне, — скрушна хістаў галавою Ціхан. — Памятаеш, тады прападалі зубры…

— Трэба обер-фарстмайстру казаць, няхай ён прымае рашэнне. Давай, Ціхан, разам і з'ездзім, — гарачыўся Рыгор.

— Э, не! Рыгорка, у галоўную сядзібу едзь сам, а я паеду да зуброў. Давай дамовімся так: заўтра апоўдні сустрэнемся там, дзе растуць тры дубы, якія ацалелі пасля пажару, ведаеш? — Рыгор кіўнуў. — А стралкі з жандарамі павінны добра схавацца і чакаць нашага сігналу, — тлумачыў Ціхан.

Рыгор ускочыў на жарабца і паскакаў у Белавеж. Пад'ехаў да варот сядзібы, калі ўжо зусім прыцямнела.

З'явіўся старшы каравульны. Рыгор папрасіў яго дакласці галоўнаму распарадчыку, каб прыняў па неадкладнай справе.

У кабінеце галоўны распарадчык паказаў на крэсла.

— Ну, слухаю! — галоўны распарадчык Белавежскай пушчы дапытліва глядзеў на падначаленага.

Стражнік расказаў усё, толькі не назваў імя Арона.

Обер-фарстмайстар падняўся і нервова захадзіў па пакоі. Пасля нядоўгага маўчання спытаў:

— А адкуль табе гэта вядома?

— Не магу сказаць, ваша высокаблагароддзе, слова даў. Той чалавек прыстойны і надзейны…

— Т-так! Якія будуць твае прапановы? — вочы Фёдара Канстанцінавіча глядзелі на яго пільна.

— Ціхан каля зуброў, заўтра ён чакае мяне.

І Рыгор распавёў усё, пра што дамаўляўся з братам.

— Гэта пахвальна, што нават уначы, у першы дзень Вялікадня, вы з братам знаходзіцеся на службе, — прабасіў обер-фарстмайстар. — Добра, я выклічу жандараў.

Ён узяў званочак і зазваніў. Дзверы адчыніліся, увайшоў знаёмы камердынер.

— Галубчык, прынясі чалавеку закусіць з дарогі.

Досвіткам Рыгор знайшоў тры старыя дубы, там жа ўбачыў прывязанага каня Ціхана. Неўзабаве з’явіўся і брат.

— Толькі што конна пад’язджалі два чалавекі. Адзін з іх новы аканом памешчыка Шаурава, другога я бачу ўпершыню. Паглядзелі, дзе пасуцца зубры. Я нават сёе-тое падслухаў. Яны заўтра досвіткам будуць тут, — спяшаўся падзяліцца навінамі Ціхан.

— Гэх-х. Значыць, сапраўды намерваюцца паляваць на зуброў, — кіўнуўшы галавой, сумна сказаў Рыгор.

— Я прыдумаў, як зрабіць засаду, — перабіў яго Ціхан. — У нашым статку ёсць два старыя зубры. Адзін з іх моцна кульгае. Ходзяць яны ўслед за статкам. Хутчэй за ўсё сёлета іх з’ядуць ваўкі, або самі спруцянеюць. Заўтра на досвітку гэтых зуброў трэба як мага бліжэй падагнаць да дарогі. Галоўнае, каб обер-фарстмайстар з жандарамі не спазніліся.

— Я ўчора ўсё абгаварыў, — сказаў Рыгор. — Дамовіліся, што досвіткам яны будуць чакаць нашага сігналу. Схаваюцца тут, на выпалянцы каля трох дубоў. — Брат, яшчэ адно. Ты, чуў аб пажары ў 1811 годзе?

— А то не...

— Дык вось, ёсць сведчанні, што гэта справа рук старога Шаурава...

— Трыццаць пяць гадоў мінула... Давесці гэта будзе вельмі цяжка. Адкуль гэты чалавек ведае, хто падпаліў пушчу? — наморшчыў лоб Ціхан.

— Гаварыў, што бацька перад смерцю сказаў яму пра гэта. А чалавек перад тварам смерці вымудроўваць не будзе...

— Так, Рыгорка, навіну ты распавёў, далей няма куды. Гары яно гарам, чорт з ёй, з працай, трэба неяк правучыць паганцаў. Гэта адзіны шанец пaквітацца за згубу людзей і зуброў, — Ціхан крэкнуў і рашуча махнуў рукою. — Нам, Рыгорка, прыйдзецца начаваць у лесе. Я тут з сабой узяў харчоў.

Ціхан падышоў да дуба і з дупла дастаў скураную кайстру. У ёй былі фарбаваныя яйкі, цёрты хрэн, каўбаса, запечанае мяса, вэнджанае сала, ласіны язык, салёныя грузды.

— Давай, брат, перакусім, усё-ткі сёння вялікае свята... Людзі сядзяць у хатах з сям’ёй, а мы з табой як валацужнікі якія...

Браты зручна селі пад старымі дубамі. Вакол буяла зялёнымі фарбамі вясна. Між аблокаў звінелі песні жаўрукоў. Коні з задавальненнем скублі маладую сакавітую траву. Рык сядзеў побач.

Атрасаючы з ежы мурашак, не спяшаючыся, абедалі. Час ад часу сёе-тое перападала і Рыку. На свежым паветры ціха цякла гамана.

— Ціхан, глядзі, а лес расце. Відаць, зямля тут урадлівая. Гэта ж якім чалавекам трэба быць, каб падпаліць такое хараство.

— Цю-у! — махнуў рукою Ціхан. — Стары Шаураў, пэўна, спаў, як сумленне раздавалі, — глухім голасам сказаў Ціхан, пры гэтым яго шчокі злосна дрыжалі.

За гутаркай не заўважылі, як звечарэла.

На досвітку браты абняліся і разышліся.

Ад зямлі курыла пара, на шэрым фоне вымалёўваліся блізкія маладыя хвоі. У іх нерухомасці, сярод гэтай глыбокай цішыні, сярод гэтай халоднай смугі, адчувалася нешта суровае. Прадчуванне трывогі агарнула Рыгора. Яго твар быў напружаны, толькі хадзіў пад скурай адамаў яблык. Па ўсім целе пачала біць дробная дрыготка; дрыжалі ногі, і ў грудзях моцна грукала сэрца. У галаве ліхаманкава мільгала адна і тая ж думка. А раптам размысляцца і не паедуць на паляванне? А я дарма патурбаваў гэтулькі людзей. Сціскаючы цёплы ад рук прыклад дубальтоўкі, Рыгор пакусваў губы. Спачатку верхнюю — ніжнімі зубамі, потым ніжнюю — верхнімі.

Ціхан жа сышоў з дарогі і ў цемры адшукаў старых зуброў. З гучным сапеннем два лясныя волаты ціхамірна адпачывалі на лясным падсціле. Ціхан асцярожна абышоў і пачаў іх турыць. Незадаволена рохкаючы, яны цяжка падняліся са сваіх зручных лежняў. Лазінай накіраваў іх да дарогі. Зубры пакорліва папляліся.

Ціхану стала журботна, бо яшчэ тры-пяць гадоў таму гэтыя лясныя волаты маглі каго заўгодна падняць на рогі, а зараз безуважна цягнуліся, як якія старыя валы.

Крокаў дзесяць ад лясной дарогі Ціхан спыніўся, сталі і зубры. Яны пачалі аб'ядаць маладое лісце асіны. Разумеючы, што ён турыць старых волатаў на згубу, зняў шапку. Яго апанавала роспач, і ён пачаў ціха размаўляць з зубрамі.

— Родныя вы мае, напрамілы бог прабачце мяне. Саслужыце апошнюю службу. Я вас асцерагаў як мог. Дажылі вы да глыбокай старасці, сваёй жа смерцю ўратуеце дзесяткі сабе падобных...

Гэта быў першы ў яго жыцці выпадак, калі ён станавіўся памагатым у забойстве тых, каго абавязаны быў ахоўваць.

Зубры, нічога не падазраючы, працягвалі абгрызаць маладую асіну. У гэтую вясновую пару яны мелі непрывабную знешнасць. Якраз пасля зімы была лінька, і на іх баках звісала скалмачаная поўсць.

Рыгор адчуў, як Рык схамянуўся, натапырыў вушы і выцягнуў шыю. Падаўся наперад усім тулавам і так замёр у напружанай паставе.

Здалёк прычуўся тупат конскіх капытоў. Мімаволі здрыгануўшыся ад нечаканасці і хвалявання, Рыгор пачаў гладзіць рукою Рыка. Скрозь хмызняк было відаць чатыры вершнікі, нават даносілася іх ціхая гутарка.

— Хутка ўжо... Учора мы тут, недалёка, бачылі гэтых пушчанскіх кароў...

Вершнікі няспешна праехалі міма кустоў'я.

Стражнік склаў рукі поруч рота і, пераймаючы крык лясной птушкі, падаў сігнал брату.

Ціхан пачуў знаёмы сігнал, перахрысціўся і сцебануў аднаго зубра лазінай. Той неахвотна паплёўся на дарогу. Следам за ім чыкільгаў другі зубр.

Вершнікі ўбачылі зуброў і рэзка асадзілі коней.

— Глядзі, вось тое, што трэба! — шалёныя вочы аднаго з паляўнічых глядзелі на зубра. — Ну, права першага стрэлу належыць госцю. Давай, пакажы, на што ты здольны.

— Там толькі адзін зубр, Станіслаў, а ты абяцаў цэлы статак, — пачулася ў адказ.

— Знойдзем і цэлы статак, страляй у гэтага! — нецярпліва адгукнуўся той, каго назвалі Станіславам.

Ціхану на вочы набеглі слёзы. Ён нагнуўся, падняў ламачыну і кінуў яе ў кульгавага зубра з шэптам:

— Літасцівы Божа, прабач мяне, калі зможаш.

Зубр незадаволена крануўся з месца і стаў праломвацца скрозь гушчар на дарогу.

— Страляй! Там іх некалькі штук. Ты што, аслеп, бачыш, другі ідзе! — ужо нястрымана хрыпеў Станіслаў.

Досвіткавую цішыню лесу раскалоў стрэл. Гучнае рэха пракацілася верхавінамі пушчанскіх дрэў. За ім другі стрэл звонка разрэзаў халоднае паветра. Гучнае рэха зноў пабегла па лесе.

Скрозь слёзы на вачах Ціхан глядзеў, як лясны волат тузануўся, падаўся наперад, рыкнуў і паваліўся долу.

Ад гуку стрэлаў другі зубр шугануўся і, накульгваючы, пабег па лясной дарозе. Прагучалі яшчэ два стрэлы. Стары барадаты бык спыніўся, ногі ягоныя задрыжэлі. Ён гучна захроп і гэхнуўся набок, задзіраючы капыты.

Захопленыя паляўнічым шалам вершнікі гучна перагаворваліся:

— Станіслаў, ты бачыў, як ён ламануўся пасля майго стрэлу? Так, ты праўду гаварыў, паляванне на зубра ўражвае. Твой зубр, глядзі, яшчэ тузаецца, а мой, мусіць, гатоў, я яго адразу абклаў.

Ціхан сціснуў зубы, перахрысціўся, зняў з пляча стрэльбу і рашуча выйшаў на дарогу, на якой зубры ў курчах боўталі капытамі ў паветры.

З'яўленне з лесу, з ранішняй смугі, стражніка выклікала ў вершнікаў здранцвенне. Ад нечаканасці падалося, што гэта не чалавек, а здань. Потым, спахапіўшыся, пачалі разварочваць коней.

Але на дарозе, шырока расставіўшы ногі, стаяў другі стражнік. У адной руцэ трымаў скіраваную на іх стрэльбу, у другой была незвычайна доўгая пістоль. Побач з ім вышчарыў зубы вялікі белы сабака.

— Ч-чорт! — прахрыпеў Станіслаў. — Стражнікі!

Коні круціліся на месцы, дарога з двух бакоў была закрыта.

Як гром сярод яснага неба прагучаў голас Ціхана.

— Ну што, шаноўныя спадары, ваша паляванне скончылася? Злазьце з коней!

— Сыдзі з дарогі, хамуйла! — крыкнуў Станіслаў.

— Пане Станіслаў, не дуркуй, ты ж добра ведаеш, страляем мы трапна. Кідайце стрэльбы, злазьце з коней. Больш паўтараць не буду, пачнём страляць.

Вершнікі з белымі, як адмытае палатно, тварамі кінулі стрэльбы.

Першым адумаўся Станіслаў.

— Гаспадзін стражнік, мы гэта, мы незнарок.

Ад хвалявання ў яго заплятаўся язык. Фанабэрыстасць знікла, вочы палахліва бегалі, як у загнанага звера.

Ціхан цвёрдым голасам працягваў:

— Пане Станіслаў, падыдзіце сюды і пакажыце ваш дазвол на адстрэл зуброў. Вы парадак ведаеце…

— Гаспадзін стражнік, няма ў нас дозволу... Мы думалі... гэта ласі. Цёмна было, пераблыталі... Мы добра заплацім. Я толькі з'езджу ў маёнтак… Дам па сто рублёў кожнаму!

Трохі асмялеўшы, накіраваўся да Ціхана. Калі між імі заставалася некалькі крокаў, Ціхан падняў рулю стрэльбы.

— Стой і не рухайся!

— А ты, — паказаў стрэльбай на другога, — звяжы бізуном свайму гаспадару рукі...

Аканом нерашуча мяў бізун.

Пачуўшы гэтыя словы, малады Шаураў пабарвавеў, вочы імгненна наліліся крывёю. Яго ноздры трапяталі, а вочы кідалі бліскавіцы. З ім ніхто яшчэ так не размаўляў.

— Ну! — пагрозліва гукнуў Ціхан.

Малады паніч не вытрываў…

— Як ты смееш, халоп, так са мной гаварыць?!

Рэзкім рухам выхапіў бізун і размашыста сцебануў стражніка па твары.

Ціхан левай рукой перахапіў і вырваў бізун з рукі Шаурава, але самым канцом усё-такі атрымаў хвосткі ўдар па шчацэ.

— Э-э! Значыць т-так? Бачу, з вамі, гаспадзін Шаураў, па добраму ніяк нельга…

Адкінуўшы бізун, рэзкім рухам стукнуў прыкладам пану па сківіцы. Было чуваць, як гучна ляснулі зубы і, задраўшы галаву, малады пан заваліўся на спіну. Ускочыўшы на ногі і пачаў выціраць рукой твар. З куткоў рота цякла кроў. Нахіліўшы галаву ўніз, ён сплюнуў — разам з крывёй вылецела некалькі зубоў.

— Ты гэта што? Ты мне зубы выбіў?! — часта залыпаў вачыма паніч.

— Вядома, не ўставіў! — нахабна адказаў Ціхан. — Чуў, вы вельмі вялікі аматар выбіваць зубы сваім прыгонным. Цяпер будзеце добра ведаць, што гэта.

— Ды я цябе ў Сібіры згнаю! У мяне такія сувязі! Табе так не сыдзе. Хам, быдла!

— Годзе, пане Станіслаў! Кінь свае замашкі, пара Богу маліцца, каб самому на катарзе не згніць, — іранічна ўсміхнуўся Ціхан.

Праз хвілін дзесяць каля злоўленых браканьераў з’явіліся галоўны распарадчык пушчы, жандары і цэлы тузін стралкоў.

Обер-фарстмайстар задраў падбароддзе і пачаў аддаваць гучныя распараджэнні:

— Два стралкі застаюцца каля зуброў, пакуль прыгонім вазы… Два стралкі адвязуць стражнікаў да коней. Сабраць стрэльбы як рэчавыя доказы, злавіць коней. Астатнія адправяцца ў маёнтак памешчыка Шаурава… Паглядзім, што там робіцца.

Рукой паклікаў старшага жандара і пачаў яму нешта тлумачыць, той толькі ківаў галавой, згаджаючыся.

Рыгор і Ціхан з’ездзілі па коней і накіраваліся ў маёнтак памешчыка. Калі пад’ехалі, обер-фарстмайстар разам са старшым жандарам накіраваліся ў дом.

Рыпнулі дзверы, дварэцкі з паклонам спытаў:

— Як дакласці?

— Абыдземся без дакладу, — галоўны распарадчык грубавата яго адпіхнуў і, прапусціўшы наперад жандара, рашуча накіраваўся ў дом.

Стары памешчык сядзеў за сталом і снедаў. Убачыўшы обер-фарстмайстра разам з жандарам, зрабіў выгляд, што вельмі здзівіўся.

— Панове, чым абавязаны гэткаму ранняму візіту?

— Ваш унук без дазволу паляваў на зуброў, мы яго затрымалі. У наш абавязак уваходзіць агледзець маёнтак. Ёсць падазрэнне, што гэта не першы выпадак, — сказаў галоўны распарадчык і звярнуўся да жандара. — Вазьміце трох стралкоў — і да справы. А я пакуль пагутару са спадаром Шауравым, — не запытаўшы дазволу, обер-фарстмайстар сеў насупраць старога пана.

Жандар кінуўся выконваць распараджэнні. Клікнуўшы яшчэ аднаго жандара, некалькіх стралкоў, вярнуўся ў хату і пачаў старанна аглядаць пакоі.

Стары пан сядзеў моўчкі, апусціўшы галаву. Яго твар збялеў, а рукі ляжалі на стале і дрыжалі.

Обер-фарстмайстар глядзеў на яго дапытліва і, зрабіўшы невялікую паўзу, першым распачаў гутарку.

— Ну-с, шаноўны пане, распавядайце. Як выхавалі ўнука? Вы што, яму не растлумачылі, што паляваць на зуброў можна толькі з найвысокай ласкі найсвятлейшай асобы васпана імператара? Або, мажліва, вы самі яго прызвычаілі да палявання без дазволу? У такім разе давядзецца прыцягнуць да адказнасці вас. Дазволю сабе заўважыць, я вымушаны ўведаміць аб гэтым дзікім выпадку самога яго імператарскую вялікасць, — для ўзмацнення эфекту падняў уверх правую руку з выцягнутым указальным пальцам.

У гэты час, пакуль обер-фарстмайстар вёў гутарку, а жандары рабілі ператрус, убаку ад астатніх браты Селіваны раіліся, што ім рабіць.

— Ну, Ціхан, спрытна ты збіў пыху панічу. Хай цяпер ведае, як гэта балюча… Але паны ёсць паны…

— Шкадую, што давялося рукі пэцкаць аб такое дзярмо, — скрывіўшы твар, Ціхан плюнуў пад ногі. — Думаю, Рыгорка, усё будзе добра… Наш галоўны распарадчык як ваўкадаў учапіўся ў ахвяру. Іх высокаблагароддзе дакладзе наверх свайму начальству, што гэта ўсё ён сам арганізаваў. Пакажа, што нездарма яго трымаюць на пасадзе. Таму, Рыгорка, не хвалюйся…

У хаце працягваўся ператрус. Неўзабаве рыпнулі дзверы і, валочачы дзве шкуры зуброў, увайшоў старшы жандар.

Обер-фарстмайстар адразу падняўся і падышоў да жандара. Пераканаўшыся, што шкуры зуброў, з грозным выглядам звярнуўся да памешчыка.

— Галубчык! Як гэта растлумачыць?

Памешчык з пазелянелым тварам у адказ толькі махнуў рукою.

Галоўны распарадчык задаволена звярнуўся да жандара:

— Усю наяўную ў хаце агнястрэльную і халодную зброю скласці ў маю брычку. Распарадзіцеся, каб запрэглі панскую брычку. Няхай на ёй спадар Шаўраў разам са мной апошні раз пракаціцца да астрога. Бачу, нам ёсць яшчэ пра што з ім гутарыць дарогаю. Так, і яшчэ, няхай падрыхтуюць чатыры фурманкі і з маім стралком едуць і раскрыжуюць тушы застрэленых зуброў, а да мяне ўсю прыслугу па адным на допыт. Будзем складаць пратакол.

Ён выйшаў на ганак. Узмахнуў рукой, каб Ціхан і Рыгор падышлі да яго.

Обер-фарстмайстар усім сваім выглядам проста свіціўся. Задаволеная ўсмешка не сыходзіла з яго твару, хоць ён і спрабаваў яе схаваць у пышныя вусы.

— Значыць так. Вы сваю справу зрабілі, цяпер едзьце дадому. Трэція суткі на нагах. Дзякую за службу.

Пацiснуў кожнаму руку, пасля гэтага прыклаў руку да брыля.

— Гонар маю!

Браты дружна адсалютавалі.

Іх высокаблагароддзе накіраваўся ў хату, затрымаўшыся на парозе, сказаў:

— І яшчэ. Цябе, Ціхан, чакаю пазаўтра з рапартам аб нападзе.

— Слухаюся, ваша высокаблагароддзе, — стукнуў абцасамі Ціхан.

Браты селі на коней, развіталіся з усімі, у тым ліку і з арыштаванымі, і накіраваліся дамоў. Ад'ехаўшы з паўвярсты, яны спыніліся і гучна рагаталі да слёз, даючы волю пачуццям.

На сялібе Шаурава працягваўсяператрус. Знайшлі яшчэ адну шкуру зубра. Выявілі мноства паляўнічых стрэльбаў, шаблі, паляўнічыя нажы з хораша ўпрыгожанымі дзяржальнамі з рагоў зубра. У паляўнічай зале старога пана знайшлі калекцыю паляўнічых трафеяў: дзве зубрыныя галавы, шкуры рысі, куніцы. Усё гэта перанеслі і склалі ў брычку.

Обер-фарстмайстар разам з жандарам пісалі пратакол допыту прыслугі старога пана. Перад допытам абвясцілі, што за ўкрывальніцтва і ўтойванне фактаў кожнага могуць прыцягнуць да адказнасці.

Напалоханая прыслуга адказвала на пытанні жандара без ваганняў. Стары кухар расказаў, колькі разоў ён гатаваў стравы з мяса зуброў.

Дапытаныя ставілі подпісы, а хто быў непісьменны — крыжыкі.

Пасляператрусу і допыту ўсіх склікалі ў адно памяшканне.

Обер-фарстмайстар абвясціў, што ў хаце да адпаведнага распараджэння застануцца два стралкі і адзін жандар. Неабходна захоўваць спакой. Аб іх наступным лёсе ён будзе дбаць асабіста. Неабходна працягваць жыць па-старому, выконваць свае абавязкі. І крый божа дапусціць якое-небудзь парушэнне або крадзеж.

Старога пана пад рукі ўсадзілі ў яго ж брычку. Побач селі галоўны распарадчык і старшы жандар. Працэсія кранулася ў шлях да галоўнай сядзібы.

Обер-фарстмайстар адчуваў сябе на сёмым небе — такую важную справу раскруціў. Хмылячыся, абдумваў, як ён дакладзе наверх. Магчыма, і самога цара патурбуюць, тады ўжо сапраўды ўзнагародзяць. Можа нават стацца, выклічуць для ўзнагароджання ў Пецярбург. Яму мроілася, як усе будуць зайздросціць яго поспеху. А ён у парадным мундзіры з узнагародай на шыі будзе размаўляць з самім манархам. Усе будуць ім кланяцца, пытаць адзін у аднаго: а з кім гэта іх імператарская вялікасць так доўга размаўляе? Хто гэта такі важны побач з ім стаіць?

А потым па выпадку яго ўзнагароджання будзе баль. Шляхетныя дамы Пецярбурга пажадаюць танчыць мазурку толькі з ім. А як гэта будзе бачыць яго жонцы? Пасля гэтага яна перастане яго папракаць, што ён яе маладосць загубіў у глушэчы. Дома настане поўны парадак і спыняцца гэтыя істэрыкі і скандалы.

## *9. Суд*

Неўпрыкметку мінуў месяц і надышло сапраўднае лета. Векавы лес поўніўся птушыным спевам. Усе дрэвы сталі ярка-зялёнымі.

Статак разбрыўся па лесе. Свежага корму хапала паўсюль. Разам трымаліся толькі самкі з зубранятамі.

Рыгор са сваім сябрам Рыкам працягвалі несці службу па ахове лесу і зуброў. Штодня паціху абыходзілі ўчастак.

Аднойчы, вярнуўшыся пасля службы дадому, дачакаліся весткі. Малання паведаміла, што прыязджалі два стралкі з галоўнай сядзібы. Прасілі перадаць, што пазаўтра адбудзецца суд па справе аб забойстве зуброў.

На другі ж дзень Рыгор быў у Ціхана. Брат таксама рыхтаваўся да суда і прыезду Рыгора вельмі ўзрадаваўся.

— Малайчына, Рыгорка, што прыехаў. Хадзем у хату.

Ціханава жонка сабрала на стол.

Ціхан пачаў гутарку першым.

— Ты, Рыгор, уважліва слухай, што я буду казаць. Нельга гаварыць, што мы сядзелі ў засадзе. Ты мяне зразумеў?

— Брат, не хвалюйся, усё будзе ў парадку, — усміхаючыся, сказаў Рыгор.

Несумненна, суд, які меў адбыцца, быў вельмі важнай падзеяй для людзей, што самотна жывуць у лесе. Пасля абеду Ціхан выцяпліў лазню, яны памыліся і прывялі сябе ў парадак. Раніцай, перахрысціўшыся, браты крануліся ў дарогу.

Пад'ехалі да галоўнай сядзібы, дзе іх сустрэў новы старшы каравульны. Ад яго яны даведаліся, што былы старшы каравульны сышоў у адстаўку і часова жыве з сям'ёй на сядзібе Шаурава. Забяспечвае парадак па захаванні маёнтка. Бо там адразу ж пасля арышту старога памешчыка адбыўся невялікі бунт. Прыгонныя хацелі падпаліць абшарніцкую сядзібу. Давялося нават страляць. Дзякуй богу, абышлося без ахвяр.

— Жыве наш старшы каравульны, як пан, — з зайздрасцю адзначыў новы начальнік варты.

Неўзабаве на прыступках ганка з'явіўся галоўны распарадчык. Выглядаў ён проста бліскуча. Летні парадны мундзір з аксельбантамі зіхацеў, а яго твар свіціўся. Браты падбеглі да яго і гучна адрапартавалі:

— Ваша высокаблагароддзе гаспадзін обер-фарстмайстар, па вашым распараджэнні прыбылі.

Той, выслухаўшы іх, прыклаў правую руку да брыля, аддаючы чэсць.

— Бачу, малайцы! — і жэстам запрасіў у дом.

Адразу ж накіраваліся ў службовы кабінет. Там на століку стаяла бутэлька каньяку. Обер-фарстмайстар наліў у тры чарачкі. Падняўшы ўверх руку, гучна сказаў:

— Вып'ем за поспех! — адным махам, крэкнуўшы перакуліў чарку ў рот.

Запрошаныя на суд высаджваліся з брычак і разам з галоўным распарадчыкам накіроўваліся ў будынак, дзе навучаліся службе стралкі. Старшы каравульны мітусіўся, на хаду аддаваў распараджэнні стралкам. Да варот пад'язджалі ўсё новыя людзі, іх сустракалі і напраўлялі куды трэба.

Неўзабаве з'явілася карэта з кратамі на вокнах. Коньмі кіраваў жандар. Ззаду, на падножках, трымаючыся рукамі за ручкі, стаялі двое жандараў з шаблямі. За арыштанцкай фурманкай конна пад'ехалі яшчэ чатыры жандары.

Вось жандары адчынілі дзверцы і пачалі выводзіць зняволеных. Першым выйшаў стары пан Шаураў, следам за ім яго ўнук, далей іхні госць і двое іхніх служкаў, усяго пяць чалавек са звязанымі рукамі.

Суд праходзіў у вялікай зале. У яе канцы за сталом сядзелі тры чалавекі ў мантыях. Побач з вялікім сталом быў маленькі, за якім сядзелі два чалавекі з пышнымі бакенбардамі. Перад імі ляжалі лісты паперы, стаялі чарніліцы і ляжалі гусіныя пёры. Перад сталом справа была невялічкая трыбуна, побач з ёй знаходзілася шырокая лава, на якой сядзелі затрыманыя асобы. Па баках стаялі два жандары.

Зала паступова напаўнялася. Наперадзе важна сядзеў обер-фарстмайстар, побач з ім яго жонка і лесапрамысловец Сімунд.

Браты Селіваны нерашуча спыніліся, не ведаючы, дзе ім сесці. Тут да іх падышоў старшы каравульны і правёў да галоўнага распарадчыка.

У трох кроках ад іх знаходзіліся арыштаваныя. Браты з цікаўнасцю іх разглядалі. На тварах падсудных не было і следу былой фанабэрыстасці. Выглядалі яны як пабітыя сабакі. Рыгору стала нават шкада паноў, але ўбачыўшы, як спадылба бліснулі ў яго бок вочы Станіслава, падумаў іншае — заслужылі.

Зала гудзела як пчаліны рой. Неўзабаве адзін з трох суддзяў падняўся, патрос званочкам, дачакаўся, пакуль зала ўціхамірыцца і гучна сказаў:

— Усім устаць, пачынаецца суд! Прашу садзіцца! Першым мае слова галоўны распарадчык пушчы спадар Таран Фёдар Канстанцінавіч.

Обер-фарстмайстар падняўся, паправіў мундзір, рашуча накіраваўся да трыбуны. Дастаў складзены аркуш паперы. Абвёўшы вачыма залу, з важным выглядам распачаў сваю прамову.

Спачатку гаварыў аб Расійскай імперыі і імператары, затым аб важнасці сваёй працы, паступова перайшоў да сутнасці:

— І вось месяц таму ў нас адбыўся дзікі выпадак. Без найвысокага на тое дазволу асобамі, якія сядзяць перад вамі, было арганізавана паляванне на зуброў. Гэтымі асобамі былі застрэлены два зубры. Дзякуючы добра пастаўленай працы па ахове гэтых рэдкіх жывёл чатыры чалавекі былі затрыманы на месцы злачынства. Пад маім кіраўніцтвам было прынята рашэнне аб аглядзе жандарамі маёнтка памешчыка Шаурава. Аказалася, выпадкі палявання на зуброў былі неаднаразовымі. Апытаныя сведкі пацвердзілі гэта. Спадар Шаураў Ян Давыдавіч сем разоў арганізоўваў такія паляванні без найвысокага на тое дазволу. Акрамя таго, мною асабіста, дарэчы, з вялікай цяжкасцю, было ўстаноўлена, што ў 1811 годзе вышэйназванай асобай з мэтай завалодання зямлёй быў арганізаваны падпал пушчы. У выніку пажару пушчы была нанесена непапраўная шкода. Хачу звярнуць вашу ўвагу, што на пажары загінулі падданыя Расійскай імперыі, таксама загінула мноства зуброў і іншых рэдкіх звяроў. Спадзяюся на наш справядлівы суд, асобы, датычныя да злачынства, павінны быць пакараныя. У мяне ўсё.

Два пісарчукі старанна запісвалі.

У зале стаяла цішыня. Обер-фарстмайстар сеў на сваё месца. Раптам хтосьці пачаў пляскаць у ладкі, і ўся зала загучала апладысментамі.

Фёдар Канстанцінавіч падняўся і зрабіў невялічкі паклон.

Зноў зазвінеў званочак і пачуўся гучны голас.

— Папрашу цішыні, суд працягваецца. Наступным выклікаецца стражнік Селіван Ціхан Іванавіч.

Ціхан падняўся і падышоў да трыбуны.

Адзін з трох судзяў пачаў задаваць пытанні:

— Скажыце, калі ласка. Як атрымалася падлавіць парушальнікаў на месцы злачынства?

— Мы з братам неслі службу каля зуброў, а тут побач пачуліся стрэлы, ну мы і пабеглі на гук. Убачылі двух застрэленых зуброў і чатырох чалавек са стрэльбамі. Мы з братам іх і затрымалі.

— Вы можаце нам паказаць гэтых людзей? — спытаў памагаты суддзі, які сядзеў з правага боку.

Ціхан паказаў на чатырох чалавек на лаўцы.

— Скажыце, а як гэта вы ўдвух затрымалі чатырох узброеных людзей.

— Ну, пан суддзя, мы бегаем хутка, а яны не ўмеюць перазарадзіць стрэльбы… — адказаў Ціхан.

— І што, яны не аказалі ніякага супраціву? — запытаў галоўны суддзя.

— Аказалі, вось гэты Шаураў Станіслаў свіснуў мяне па твару бізуном. Мне давялося абараняцца. Вось яшчэ шнар, пане суддзя. А тут акурат іх высокаблагароддзе, обер-фарстмайстар з жандарамі падаспелі.

— Нейк дзіўна атрымліваецца. І вы на месцы, і обер-фарстмайстар з жандарамі побач. Вы што, ведалі аб паляванні загадзя? — нахіліў галаву ўбок галоўны суддзя.

— Так, меркавалі, пане суддзя.

— Адкуль вам стала гэта вядома? Хто вас папярэдзіў?

— Не магу сказаць. Гэты чалавек не жадае, каб аб ім ведалі. Ён таемна дапамагае нам ахоўваць пушчу і зуброў.

— У вас ёсць такія людзі, прозвішча якіх нават суд не можа ведаць? — здзіўлена падняў бровы галоўны суддзя.

— Так, ёсць, але гэта дзяржаўная таямніца. Прозвішчаў гэтых людзей мы назваць не можам. Гэта ўсё дзякуючы обер-фарстмайстру. Фёдар Канстанцінавіч арганізаваў ахову пушчы так, што мы можам затрымаць любога нягодніка на месцы злачынства, — упэўненым голасам сказаў Ціхан.

Пры гэтых словах у обер-фарстмайстра ад здзіўлення падняліся бровы, потым ён зрабіў выгляд, што так і ёсць на самай справе. Калі галоўны суддзя пасля такога адказу Ціхана з запытаннем паглядзеў у яго бок, іх высокаблагароддзе паважна кіўнуў галавою.

У зале адразу зрабілася шумна ад перашэптвання. Рыгор таксама здзіўленна ўтаропіўся на брата.

Суддзя ізноў патрос званочкам. Калі зала аціхла, ён сказаў:

— Тады ўсё зразумела. У суда да вас няма больш пытанняў. Прашу заняць сваё месца.

Суддзя нахіліўся і нешта перамовіўся з памагатымі. Тыя яму сцвярджальнаківалі галавамі. Галоўны суддзя падняўся і абвясціў:

— Суд выходзіць дзеля прыняцця рашэння, перапынак адна гадзіна.

Усе пачалі выходзіць на свежае паветра. Браты таксама выйшлі на вуліцу, аддаліліся ад астатніх.

— Ціхан, ты што там за трыбунай намалоў? Аб якіх таемных людзях ты казаў? Што, Арон наш таемны чалавек? — узрушана шаптаў Рыгор.

Ціхан усміхнуўся.

— Рыгорка, як мне было растлумачыць, што мы так хутка апынуліся на месцы злачынства?

Размаўляючы, браты ўбачылі, што да іх накіроўваецца галоўны распарадчык з жонкай.

Обер-фарстмайстар з задаволенай усмешкай на твары сказаў:

— Ціхан, ты малайчына! Талкова адказваў на пытанні суддзяў. Ім што? Ім толькі дай заблытаць нашага брата. Спрытна ты ім адказваў, няхай ведаюць, што і мы не лыкам шытыя.

У гэты час да іх падбег старшы вартавы і спыніўся поруч.

— Галубчык, ты прасачы, каб у спадароў суддзяў усяго хапала: і закусіць, і выпіць.

— Слухаюся, ваша высокаблагароддзе, — старшы вартавы пабег назад у памяшканне.

Обер-фарстмайстар звярнуўся да жонкі з паклонам:

— Выбачай, дарагая, у нас служба. Схадзі, пагутары з гасцямі, а мы зоймемся важнымі дзяржаўнымі справамі.

Жонка іх высокаблагароддзя з незадаволеным выглядам накіравалася да мясцовай шляхты.

Обер-фарстмайстар пацёр рукі:

— Ну-с, маладыя людзі, пакуль перапынак, пойдзем да мяне ў кабінет.

У кабінеце галоўны распарадчык напоўніў тры чаркі.

— Спрытна ты прыдумаў. Таемна, значыць інкогніта! Яны лічаць, што мы тут сякерай голімся, — усміхаючыся, задаволена разважаў галоўны распарадчык. — Мяркую, цяпер, пасля гэтых слоў надоўга адаб’ём жаданне страляць зуброў. Ціхан, ты колькі гадоў працуеш стражнікам?

— Ваша высокаблагароддзе, два гады стралком і сем гадоў стражнікам.

— Праз месяц старшы стражнік сыходзіць у адстаўку, так што за гэты месяц ты павінен прыняць у яго справы. Мне патрэбны энергічныя людзі, а то гэтыя разгультаіліся. Гарэлку навучыліся піць. Лымары[1], адным словам.

[1] Лымар — лайдак, нягоднік (дыялекты).

Паселішся з сям'ёй, а я на цябе падрыхтую неабходныя паперы, — сказаў обер-фарстмайстар і звярнуўся да Рыгора. — Ты, Рыгор, пакуль свой абход пакінь, паступіш у распараджэнне адмыслоўцаў з Пецярбурга. Яны ўжо прыступілі да працы, і ты прасочыш, каб не зрабілі вялікай шкоды лесу. Я адзін не магу за ўсім усачыць.

Напрыканцы суда адзін з трох суддзяў зачытаў прынятае рашэнне.

— Падсудныя, вы прызнаяце сябе вінаватымі ў пералічаных злачынствах? — спытаў галоўны суддзя.

Злачынцы ўслых прызналі сваю віну.

— На падставе судовага кодэкса Расійскай імперыі, дбайным правядзенні следства і ўсебаковага вывучэння справы, суд пастанаўляе прызнаць усіх вінаватымі і прызначыць пакаранне.

Далей пералічвалася, якое пакаранне панясе кожны. З прамовы суддзі вынікала, што ў сувязі з тым, што абодва прыганятыя былі людзьмі прымусовымі і самі не стралялі, а толькі аказвалі садзейнічанне злачынству, ім прызначалася толькі выплата штрафу пяцьсот рублёў кожнаму. Госцю маладога паніча за забойства зубра прызначылі штраф у памеры дзве тысячы рублёў. Пасля выплаты гэтых трох належала вызваліць з-пад варты.

Шаураў Станіслаў за арганізацыю палявання, учыненне смерці зубру, аказанне супраціву пры затрыманні прысуджаўся да выплаты штрафу ў памеры дзвюх тысяч рублёў і да пяці гадоў катаргі.

Стары памешчык Шаураў Ян Давыдавіч за неаднаразовае паляванне на зуброў і арганізацыю падпальвання пушчы, што стала прычынай смерці людзей і рэдкіх звяроў, пазбаўляўся дваранскага саслоўя і прысуджаўся да пажыццёвай катаргі.

Маёнтак памешчыка Шаурава з зямлёй і шасцюстамі душ прыгонных адыходзіў у казну Расійскай імперыі. Часова, да распараджэння, маёнтак будзе знаходзіцца пад юрысдыкцыяй адміністрацыі пушчы.

Галоўнаму распарадчыку пушчы Тарану Фёдару Канстанцінавічу, стражніку Селівану Ціхану, стражніку Селівану Рыгору, а таксама неўстаноўленай асобе, якая аказала садзейнічанне ў затрыманні злачынцаў, належала выплаціць узнагароду з казначэйства ў памеры дзвесце рублёў кожнаму.

Пасля вынясення прысуду пакараным на вачах у залы жандары надзелі на ногі і рукі жалезныя кайданы. У гэты момант на падсудных было страшна глядзець. Жандары вывелі асуджаных з залы ў арыштанцкую карэту. Суд закончыўся.

Обер-фарстмайстар правёў суддзяў да брычкі, якая адразу ж пакаціла ў Гародню. Іх высокаблагароддзе развітаўся з запрошанай на суд тутэйшай шляхтай. Яны рассаджваліся па брычках і адпраўляліся ў розныя бакі.

Ціхан і Рыгор стаялі наводдаль і абмяркоўвалі рашэнне суда. Іх гутарку перапыніў обер-фарстмайстар. Ён запрасіў зайсці да скарбніка і атрымаць належныя ўзнагароды. Але як аддаць грошы «неўстаноўленай» асобе? Галоўны распарадчык рашуча напісаў у ведамасці сваё прозвішча і распісаўся, а грошы працягнуў Рыгору.

— Лічу, ты ведаеш, каму належаць гэтыя грошы... Ад мяне асабіста перадай падзяку...

— Не турбуйцеся, ваша высокаблагароддзе, перадам усё да капейкі, — сказаў Рыгор.

— А цяпер пойдзем на сабакарню, — загадкава ўсміхнуўся галоўны распарадчык.

Насустрач ім выйшаў Яўстафій. У вялікім лазовым кошыку вынес белых з шэрымі плямкамі семярых шчанюкоў.

Іх высокаблагароддзе з усмешкай прапанаваў:

— Ёсць такі звычай. Уладальніку сабакі належыць адзін шчанюк на выбар.

Рыгор нахіліўся і без вагання дастаў з кошыка ўпадабанага шчанюка, асцярожна засунуў за пазуху. Там адразу ж стала мокра, але Рыгор не падаў выгляду.

Іх высокаблагароддзе нахіліўся, узяў яшчэ аднаго шчанюка і працягнуў Ціхану. Ціхан з захапленнем у вачах прыняў падарунак.

— Усё, цяпер вяртайцеся дадому, але на днях вас чакаю ў сябе.

Браты, прыклаўшы да фуражак рукі, адрапартавалі.

Дадому вярталіся ў прыўзнятым настроі. Рыгор распавёў Ціхану, як загінуў на пажары муж бабулі Марфы — Глеб.

— Ну вось, мы з табой, Рыгорка, і адпомсцілі за Глеба і іншых стражнікаў. Што ты думаеш з нагоды прапановы галоўнага рапарадчыка?

— Не ведаю. Мне не хацелася б пакідаць свой абход. Хтосьці чужы знойдзе і дуб, і святы камень, — з непакоем у вачах сказаў Рыгор.

— Тваім абходам займуся я. За гэта ты не хвалюйся. Сімунду не патрапіць ніводнага лішняга дрэва. Ледзь што, адразу паведамляй мне, а я знайду спосаб процістаяць лесазаводчыку, — усміхнуўся Ціхан і працягваў далей. — Галоўнаму спадабалася ідэя з таемнымі ахоўнікамі пушчы. Нябось, цяпер сядзіць і штабнуе ў Пецярбург пасланне — выкладае сваю новую думку. Больш нічога яму ўводзіць у вушы не трэба — досыць з яго. Трэба толькі прасачыць, каб ён не абабраў пушчу перад канцом сваёй службы. Хутка прыйдзе новы обер-фарстмайстар. Неабходна падрыхтавацца да яго прыходу, усюды паставіць сваіх надзейных людзей. Трэба параіцца з бацькам, ён падкажа, як зрабіць лепш для пушчы, — сур'ёзным голасам разважаў Ціхан.

— Разумны ты ў мяне брат, толькі не заганарыся на новай пасадзе. А то яшчэ перастанеш вітацца, і жонка твая каб не задрала нос, — адначасова здзекліва і жартаўліва сказаў Рыгор.

Браты зарагаталі, абняліся, і кожны накіраваўся ў свой бок.

Раніцай наступнага дня Рыгор прачнуўся крыху раней, паведаміў жонцы, што яму тэрмінова трэба ехаць да бацькі ў селішча. Малання прыгатавала сняданак, і ён разам з Рыкам адправіўся ў дарогу.

Спачатку пад'ехаў да карчмы Арона. Арон узрадавана выскачыў насустрач.

— Заходзь, Рыгорка, даўно цябе не было. Давай, садзіся, распавядзі якія навіны?

Стражнік папрасіў зачыніць дзверы. Арон зачыніў дзверы і прысеў насупраць стражніка. Той моўчкі дастаў з-за пазухі грошы. Пералічыўшы, паклаў на стол перад яўрэем.

Арон, не зводзячы з грошай вачэй, сказаў:

— Не крыўдзі мяне. Я табе ўжо казаў, грошай не вазьму.

— Дзядзька Арон, а гэта не мае грошы, а вашы. Іх вам перадало казначэйства…

Рыгор падрабязна распавёў карчмару пра суд. Арон жвава ўскочыў, падбег да сцяны і, хістаючыся, пачаў нешта манатонна гаварыць на незразумелай мове. Працягвалася гэта некалькі хвілін. Потым вярнуўся да стала, узяў грошы і схаваў іх за пазуху. Падбег да стражніка, схапіў яго рукі і пачаў іх цалаваць.

Рыгору стала няёмка, ён выхапіў рукі і абняў яўрэя, той ціха заплакаў.

— Супакойцеся, дзядзька Арон.

— Гэта нічога, гэта слёзы шчасця. Гэтых грошай хопіць, каб даць адукацыю Мошцы, — задумаўшыся, пачаў калыхаць галавой з боку ў бок.

— Трэба яшчэ адведаць бацьку, паеду да яго. Дзякуй за пачастунак, — Рыгор пачаў уставаць з-за стала.

Яўрэй замітусіўся.

— Дзякуй табе. Ты мяне выратаваў. Хадзем, пазнаёмлю цябе з Мошкай.

— Іншым разам, дзядзька Арон...

— Так, я разумею, я ўсё разумею. Заходзь да мяне як мага часцей, нават сярод ночы заходзь, добры чалавек, слухай Рыгор, а я пазнаў ваш сакрэт!

— Які сакрэт? — спалохана спытаў стражнік.

— Сакрэт вашай цудоўнай гарэлкі, — сказаў яўрэй

— Ну, і што гэта за сакрэт? — з палёгкай усміхнуўся стражнік.

— Мясцовыя ўмельцы гарэлку настойваюць на зуброўцы, — таямніча, з захапленнем гаварыў Арон. — Дык вось, калі правільна падабраць градус і правільна настаяць, то і адна чарачка развязвае язык падарожнаму люду любога саслоўя.

— Дзядзька Арон, мы даўно гэтыя напоі падсоўваем заезджым на паляванні. Гэта сапраўды языкі развязваюцца адразу ж, — пацвердзіў здагадку яўрэя Рыгор.

Праз некаторы час стражнік пад'ехаў да бацькавай хаты. Убачыў прывязанага каня Ціхана, зайшоў у хату. За сталом сядзелі бацька і Ціхан. На бацькавых губах блукала ўсмешка.

— Рыгор, я ўжо ўсё ведаю. Вы з Ціханам малайцы. Нават не магу паверыць, што так добра ў вас атрымалася.

Было выразна бачна, што Ян ганарыцца сынамі. А яшчэ больш за ўсё яго радавала, што яны ездзяць да яго раіцца. Добра, што яны хвалююцца за справу так, як калісьці ён. Бацькавы вочы свіціліся ад радасці. У сваіх сынах ён бачыў сябе маладога. Справа пушчы і зуброў у надзейных руках. Значыць, здолеў пасеяць у іх душах разумнае, выканаў галоўны бацькоўскі абавязак, выгадаваў сапраўдных мужчын.

## *10. Сварка*

Праз тыдзень да Рыгора прыехаў брат. Мундзір старшага стражніка зіхацеў срэбнымі гузікамі.

Браты зайшлі ў хату. Ціхан распавёў, як пасяліўся ў хаце, дзе раней пражываў начальнік варты, як цэлы тыдзень аб'язджаў пушчу. На таксацыі пушчы задзейнічаныя сотні людзей. Як і меркаваў бацька, у гэтай справе замешаны лесапрамысловец Сімунд. Яго людзі ўжо вывозілі шмат драўніны на тартак.

— Так што, Рыгор, заўтра правяраем прасекі. Выязджаем на тыдзень, заадно і праверым обер-фарстмайстра. Справа вось у чым. Прасекі павінны быць пэўнай шырыні. Атрымліваецца, Сімунду трэба толькі вывозіць гатовую драўніну. Але гэтага яму мала. Як толькі ён бачыць добрае дрэва побач з прасекай, яго людзі тут жа спілоўваюць яго. Мы і падлічым, колькі лесу ён вывез незаконна. Складзем паперу і падамо галоўнаму распарадчыку, — дзелавіта тлумачыў Ціхан. — Што ён скажа?!

Раніцай браты накіраваліся да месца высечкі. Ехалі праз усю пушчу. Дабраліся толькі адвячоркам.

Пракладка прасек ішла поўным ходам. Насустрач, адзін за адным цягнуліся вазы лесу. Было заўважна, што Сімунд набраў процьму людзей з фурманкамі.

Браты начавалі разам з рабочымі і навукоўцамі з Пецярбурга. Апошнія былі здзіўленыя прыгажосцю лесу. Яны бывалі ў розных месцах на прасторах Расійскай імперыі, але такога векавога і дрымучага лесу не сустракалі нават у Сібіры.

— Рука не паднімаецца валіць трохсот-, двухсотгадовых прыгажуноў, — выказаўся адзін з іх. — Трэба захаваць пушчу для нашчадкаў…

Прыезджыя паскардзіліся, што не чакалі такой шчыльнасці векавых дрэў і турбаваліся за тэрміны выканання загаду міністра дзяржаўнай маёмасці, бо на ўсю таксацыю пушчы быў адведзены толькі адзін год.

Раніцай браты сталі лічыць уздоўж прасек пянькі. Ціхан усё запісваў.

Калі вярталіся на абед, пачулі шум і гам. На дарозе назбіралася вялікая колькасць пустых фурманак. Коні храплі, станавіліся на дыбкі, кідаліся ўбакі. Вазніцы лаяліся, не ведаючы, што рабіць.

Браты пад’ехалі бліжэй. Аказалася, што на прасеку выйшаў статак зуброў. Лесарубы пакідалі сякеры, разбегліся ў розныя бакі. Кожны з іх гатоў быў залезці ад страху на дрэва.

Браты спешыліся.

— Хто з вас старэйшы, падыдзіце да мяне? — гучна, каб чулі, сказаў Ціхан.

Да яго падышлі некалькі чалавек.

— Слухайце мяне ўважліва. Разварочвайце фурманкі і едзьце дадому. Прыедзеце сюды праз тры, чатыры дні. Бо цяпер сячэм прасеку праз лісцвяны лес, дзе шмат асін, і зубры адсюль не сыдуць. Калі мінуем гэты ўчастак, вы спакойна забярэце дзелавую драўніну. Цяпер зубры могуць раззлавацца і пачаць вас і коней атакаваць. Усім ясна?

— Ясна, — бліснуў вачыма адзін з прысутных. — Толькі як на гэта паглядзіць пан Сімунд. Вернемся парожнімі — будзе нас моцна лаяць.

— Скажыце, што гэта распараджэнне старшага стражніка, — патлумачыў Ціхан.

— Можа, стрэліць у паветра і яны сыдуць? — з асцярогай у голасе сказаў адзін з вазніц.

— На, стрэльні, паглядзім, што ад цябе застанецца, — здзekліва прапанаваў Ціхан, здымаючы з пляча стрэльбу.

— Не, лепш я паеду на печы з бабай паляжу, — усміхнуўся вазніца.

Рабочыя ж, з асцярогай пазіраючы ў бок зуброў, распачалі працу.

Зубры ніколькі гэтым не трывожыліся, стаялі і здалёк глядзелі, як секліся дрэвы. Толькі паварочвалі галовы, калі чарговае дрэва з трэскам і грукатам падала на зямлю. Браты нацягалі ім асінавых галінак і верхавін. Зубры з задавальненнем елі нарыхтаваны корм, толькі часам патрэсвалі галовамі, адмахваючыся ад назойлівых камароў і гізоў.

Калі ноччу ўсе леглі спаць, стражнікі неслі варту. Статак зуброў таксама размясціўся на начлег каля кучы нарыхтаванага галля. За ноч зубры аб’елі лісце і зніклі ў лесе таксама нечакана, як і з’явіліся.

Увечары каля кастра Ціхан і Рыгор разгаварыліся з адмыслоўцамі з Пецярбурга. Ціхан высветліў колькі вёрст ужо зроблена. Усё дбайна запісаў. Старшы адмысловец збіраўся раніцай ехаць з дакладам да обер-фарстмайстра. Браты таксама вырашылі з’ездзіць у цэнтральную сядзібу.

Разам пад’ехалі да хаты галоўнага распарадчыка пушчы. Обер-фарстмайстар запрасіў іх у свой працоўны кабінет. Першым дакладваў аб праведзенай працы галоўны адмысловец з Пецярбурга. Распавёў пры гэтым аб нечаканай перашкодзе — з’яўленні статка зуброў. Не забыўся падзякаваць Ціхану і Рыгору за дапамогу. У канцы ён сказаў, што адстаюць ад графіка.

Галоўны распарадчык спытаў:

— Што трэба зрабіць, каб паскорыць працу?

— Неабходна дадаткова наняць людзей, — рашуча сказаў адмысловец.

— А дзе іх узяць? — цяжка ўздыхнуў Фёдар Канстанцінавіч.

Пасля гутаркі з галоўным адмыслоўцам ён звярнуўся да братоў:

— А ў вас да мяне якія пытанні?

Ціхан падаў складзены ліст паперы.

— Няхай лесапрамысловец Сімунд частку сваіх людзей паставіць на высечку прасек. А то ён спілоўвае дрэвы побач з прасекамі. Акрамя таго, ён забірае толькі дзелавую драўніну, а танкамер і верхавіны пакідае. Можна запрасіць прыгонных. Няхай гэты танкамер бясплатна забіраюць сабе і свайму памешчыку на дровы. За гэта адпрацуюць некалькі дзён. Менш будзе крадзяжу. Які сэнс красці і рызыкаваць, калі можна проста так прыехаць і нагрузіць гатовых дроў.

З прапановамі Ціхана было цяжка не пагадзіцца. Зрабіўшы невялікую паўзу для абдумвання, Фёдар Канстанцінавіч устрывожана заявіў:

— Так-так, ты маеш рацыю. Трэба прымаць меры. Гэты Сімунд можа стварыць нам праблему. Дзякую за пільнасць, вельмі табе ўдзячны. Я асабіста з ім перамоўлюся. Лічу, такое з яго боку больш не паўторыцца. Яшчэ раз дзякую за службу, — і працягнуў Ціхану руку для поціску.

Ціхан выйшаў з хаты обер-фарстмайстра з усмешкай на твары.

— Хадзем, Рыгор, абедаць, заадно і агледзіш маё новае жыллё.

Пасля сыходу Ціхана обер-фарстмайстар панёсся на брычцы да пільні лесапрамыслоўца Сімунда. Заспеў яго на падворку ля здвоеных адмысловых фурманак, нагружаных доўгімі стваламі карабельных хвой. Побач з ім знаходзіліся пакупнікі — немцы.

Галоўны распарадчык прывітаўся і сказаў:

— Спадар Сімунд, вы мне патрэбныя для гутаркі.

Той, нешта сказаў купцам па-нямецку, яны заківалі галовамі.

— Прашу вас у кантору, у мяне таксама да вас ёсць пытанні, – сказаў замежны лесапрамысловец.

— Не! Гутарка будзе доўгай. Мы павінны яе весці толькі там, дзе нас не змогуць пачуць. Лепш дома, — адказаў галоўны распарадчык.

— Зразумела! Пачакайце хвіліначку. Я аддам некаторыя распараджэнні. Мы пад’едзем да мяне, заадно разам і перакусім, – прапанаваў Сімунд.

Праз некаторы час дзве брычкі падкацілі да ганка сядзібы Сімунда.

Прайшлі ў вялікую сталовую. Апранутая ў прыгожыя ліўрэі прыслуга накрывала стол да абеду. Посуд быў з чыстага срэбра. Бляск і раскоша так і рэзалі вочы обер-фарстмайстра.

Калі стол накрылі, застаўся толькі адзін чалавек з прыслугі.

Галоўны распарадчык кіўнуў у бок ганарлівага служкі.

— Папрасі і яго пакінуць нас.

— Няма такой патрэбы. Пры ім можна вольна гаварыць, ён італьянец і ні чорта не разумее. Толькі тыдзень назад як прыбыў з Італіі.

Распарадчык дастаў складзены ліст паперы і моўчкі паклаў перад Сімундам.

— Што гэта? — спытаў лесапрамысловец.

— У гэтай паперчыне пералічаныя ствалы, якія зрэзалі твае людзі побач з прасекай, — гледзячы проста ў вочы сказаў галоўны распарадчык.

— Падумаеш, зрэзалі пару дрэў збоку, — з’едліва ўсміхнуўся лесапрамысловец.

— Прачытай, колькі там напісана. Вельмі многа, – настойваў обер-фарстмайстар.

— Хто гэтую паперу склаў? – ужо без усмешкі спытаў Сімунд.

— Якая розніца, хто склаў? – сказаў, як адрэзаў, галоўны распарадчык.

— У мяне таксама ёсць прэтэнзія да цябе, — нахмурыў бровы лесапрамысловец. — Твой новы старшы стражнік не дазволіў маім людзям вывозіць лес з-за зуброў. Што, іх нельга было прагнаць? Я нясу страты, для мяне кожны дзень дарагі. Неадкладна прыбяры яго з гэтай пасады. Хай не блытаецца ў нас пад нагамі.

— Не, я прыбіраць яго не буду, ён ужо некалькі разоў мяне выручаў, — адказаў Фёдар Канстанцінавіч.

— Падазраю, што гэтая папера — яго рук справа, — яхідна прыжмурыў вочы лесапрамысловец.

— Спадар Сімунд, твае людзі сёння могуць ехаць і забіраць драўніну з прасекі. Зубры сышлі. Я толькі прашу, каб больш яны не кралі драўніну, а забіралі толькі з прасек. Ты разумееш, што мы можам пагарэць абодва? — раззлавана басіў галоўны распарадчык.

— Але ў мяне шмат заказаў на карабельную хвою. Ты ж сам бачыў поруч тартака. Прыехалі немцы з Гамбурга. Гэта ж грошы, вялікія грошы! І калі мае людзі спілуюць пару прыгожых хвой побач з прасекай, няўжо нешта здарыцца? Я табе добра плачу, больш, чым плаціць табе твой любімы цар. І будзь добры, дапамагай мне, — адкінуўся на спінку мяккага крэсла лесапрамысловец.

Ад гэтых слоў у галоўнага распарадчыка знік апетыт. Ён адклаў двузубы відэлец.

Сімунд, не звяртаючы ўвагі, нахіліўся і з задавальненнем аплятаў сакавітае мяса, запіваючы чырвоным італьянскім віном, быццам нічога не здарылася.

Обер-фарстмайстар з жахам зразумеў, у якім становішчы апынуўся. З аднаго боку гонар, кар'ера, узнагароды, поспех, аб якім ён толькі што, да прыходу сюды, марыў, з іншага — ганебнае выгнанне са службы. Нават з такой пасады, якую ён дагэтуль займаў. Са здранцвення яго вывелі словы Сімунда.

— Можа, твайму новаму старшаму стражніку грошай даць? —ускінуў галаву Сімунд.

— Ён іх не возьме, — скрывіўся галоўны распарадчык.

— А калі многа даць? — працягваў настойваць Сімунд.

— Ён і многа не возьме, — махнуў рукою галоўны распарадчык. — Нават не думай і не спрабуй прапаноўваць, гэтым толькі пагоршым наша становішча. Няўжо ты не разумееш, што слых аб тваім крадзяжы можа дайсці да Пецярбурга? І тады я з ганьбай вылечу, а ты пазбавішся канцэсіі, — пагрозліва нахіліўся над сталом обер-фарстмайстар.

— Галубчык, не я краду, а мы крадзём разам! — яхідна ўсміхаючыся, заўважыў Сімунд. З-пад ягоных бялявых броваў насцярожана зыркалі шэрыя вочы.

Ад гэтых слоў у обер-фарстмайстра на лбе выступіў халодны пот, дыханне зрабілася сіпатым.

— Я спраўна плачу падатак у вашу казну, — працягваў Сімунд. — У мяне кантракты і тэрміны, а твае людзі — гэта твой галаўны боль. Калі жадаеш атрымліваць грошы, дзейнічай. Заткні раты ўсім, нават сваім адмыслоўцам з Пецярбурга. Мяне не цікавіць, як ты гэта зробіш. Ха-ха, пазбавяць канцэсіі, напалохаў мяне. Пазбавяць, ну і што? Я і так збіраюся з'ехаць. Гэта майму

бацьку падабалася тут сядзець у глухмені і захапляцца цнатлівай прыродай. Я не збіраюся тут карміць камароў да смерці як бацька.

Пабарвавеўшы ад злосці, обер-фарстмайстар адкінуў сурвэтку і ўскочыў на ногі:

— А ў Сібір! На катаргу! Не жадаеце, спадар Сімунд? — нечакана загарлапаніў ён на ўсю хату так, што ў служкі ад спалоху з рук выпаў паднос і загрымеў на мазаічнай падлозе.

Адкінуўшы нагой крэсла, галоўны распарадчык хутка накіраваўся да дзвярэй. Не чакаючы, калі яму расчыняць іх, ён шыбануў плячом. Тыя з грукатам адчынілася, дзвярная клямка, гучна бомкаючы, паляцела на падлогу.

— У Сібір! На катаргу! Згнаю! — неслася ў вестыбюлі.

— Мядзведзь! — услед гукнуў Сімунд, пераходзячы на італьянскую мову. — Дурны рускі мядзведзь!

Хуткім крокам обер-фарстмайстар перасёк двор і ўскочыў у брычку.

— Дадому, хутка!

Дрымотны кучар хацеў жарнуць каня, але не разлічыў, і пуга заматалася за аглоблю. Бачачы, што обер-фарстмайстар моцна ўзлаваны, кулём саскочыў з козлаў, разматаў пугу, і брычка панеслася.

У двары Ціхан выпраўляў Рыгора. Вуліцай, міма іх, ляцела брычка. Конь нёсся наўскач; у брычцы з перакошаным ад злосці тварам сядзеў галоўны распарадчык пушчы.

— Нешта здарылася? — здзіўлена спытаў Ціхана Рыгор.

— Палаяўся, мусіць, з Сімундам, або не падзялілі грошы. Не звяртай увагі, едзь дадому, — устрывожана адказаў Ціхан.

Пад’ехаўшы да дома, галоўны распарадчык узляцеў на ганак. Адкрыў дзверы і спаткаў жонку.

Тая пачала, як заўсёды, незадаволена бурчэць:

— Ты дзе ездзіш? Колькі можна чакаць? Абед ужо астыў, будзеш есці халодны.

— Пайшла прэч! Дурніца! — груба адпіхнуўшы жонку, накіраваўся ў кабінет, за сабой гучна ляснуў дзвярыма.

Жонка ад такіх паводзін мужа проста аслупянела. Гэта было першы раз за ўсе гады сумеснага жыцця. Гэта яна кожны дзень магла закатваць істэрыкі мужу. Такім яна яго яшчэ не бачыла. Пастаяўшы хвіліну ў разгубленасці, ціха пайшла да сабе, асцярожна, каб не ляснуць, прычыніла дзверы.

Крыўда перапаўняла яе сэрца. Яна прысвяціла сваё жыццё гэтаму нахабніку. Яна, якая сваёй стройнай постаццю і загадкавай усмешкай турбавала сэрцы знакамітых франтаў Пецярбурга. Яе нястрымная фантазія малявала карціны помсты мужу.

І навошта я толькі выйшла замуж за гэтага нячулага чалавека? Як толькі ён перад шлюбам паведаміў аб новым прызначэнні ў Белавежскую пушчу, трэба было збегчы з царквы. Выходзячы замуж, спадзявалася застацца жыць у Пецярбургу. Зусім не збіралася жыць сярод пнёў. Спыняла толькі адсутнасць сродкаў. Грошай, якія прыносіў бацька са службы, катастрафічна бракавала — усё ішло на ўборы. Яна хацела наведваць тэатры, балі, а даводзіцца нявылазна сядзець у гэтых карчах. Не, так не пойдзе, далей сядзець тут пад замком немагчыма. Хуткім часам з’еду ў сталіцу, знайду багатага прыхільніка і акунуся з галавой у сапраўднае жыццё. А гэты нахабнік яшчэ на каленях прыпаўзе і будзе маліць вярнуцца.

У парыве гневу яна страціла дзве самыя лепшыя якасці жанчыны: сарамлівасць і пачуццё ўласнай годнасці. Розумавыя довады знішчаліся

палётам фантазій і стварэннем ілюзій. Да самай раніцы яна малявала карціны помсты мужу, шчыра абураючыся і захлёбваючыся ад крыўды.

Галоўны распарадчык адкаркаваў бутэльку каньяку. Проста з яе пачаў піць. Моцны напой абпальваў глотку. Мозг ліхаманкава працаваў. Што рабіць?.. Што рабіць?.. Толькі заўчора адправіў фельд'егерам справаздачу ў Пецярбург. Падрабязную справаздача аб бліскуча праведзенай, як яму здавалася, працы, а тут усё бурыцца. Гэты спрытняк Сімунд са сваёй прагнасцю можа зблытаць яго планы. А яшчэ ўчора здаваўся лепшым сябрам. Якія ж бываюць людзі!..

А гэтыя з Пецярбурга таксама могуць быць дасланыя прасачыць за парадкам. Данясуць, абавязкова данясуць! Малайчына Ціхан, своечасова падказаў. Трэба брацца за працу, трэба наводзіць належны парадак. Вакол адны злодзеі і даносчыкі.

Гэх. І навошта паслухаўся гэтага прайдзісвета Сімунда. Вось балван, толькі пяць гадоў засталося, і сышоў бы ціха ў адстаўку. Дык не ж, ляснуў з вялікага розуму ў Пецярбургу, што нядрэнна было б правесці таксацыю пушчы, а тыя і пагадзіліся. Даслалі людзей з Пецярбурга. Дзеля чаго я паслухаўся гэтага замежніка?

Няма чаго Бога гнявіць, грошай трохі назапасіў. Калі не мантачыць, хапіла б на астатнія гады, яшчэ б і дзецям засталося. А не — мала. Вось нячысцік паблытаў. А зараз, калі данясуць, можна і на катаргу загрымець.

Обер-фарстмайстар яшчэ адсярбнуў з бутэлькі.

Нуда і страх не праходзілі, а яшчэ толькі больш узмацніліся.

Абхапіўшы аберуч галаву, галоўны распарадчык сядзеў за сталом.

Як выйсці з гэтага становішча? Выказаць усё на паперы і адправіць у Пецярбург? Могуць сказаць, чаму не прымаў ніякіх мер? Забараніць Сімунду вывозіць драўніну, — таксама дрэнна, можа не аддаць грошы. Навошта я, дурань, частку грошай пакінуў у яго на захоўванне. Думаў, што ён прыстойны чалавек. Цяпер яны сапраўды беззваротна знікнуць.

Цяпер робіцца ясна, для чаго яму патрэбныя прасекі. Яму прасекі патрэбныя, каб дабрацца да ўсёй пушчы. Увесь лес бясплатна аддай, гатовыя бярвёны, — усё роўна будзе мала. Вось шэльма, а не чалавек.

Фёдар Канстанцінавіч збянтэжана шныраў вачыма ў цемры.

Стары Сімунд сабе такога не дазваляў, хоць трохі сумленне меў. А яго сын, гэты малады нахабнік, і на грош яго не мае. Цяпер хоць і позна, але ўсё з ім высветлілася.

Трохі супакоіўшыся, галоўны распарадчык стаў думаць пра людзей з Пецярбурга. Данясуць, ці не данясуць на яго свайму вышэйстаячаму начальству. Аб мясцовых, сваіх падпарадкаваных ён і думкі такой не дапускаў. Ад свайго папярэдніка чуў — гэтыя беларусы сваіх не прадаюць і не выдаюць.

Чамусьці ўзгадаўся выпадак з канакрадам. Сяляне злавілі яго і павесілі.

Пачалося следства. Пад дрэвам, па слядах, відаць, што вешалі канакрада натоўпам. Другі год шукаюць жандары, хто гэта зрабіў. Усё насельніцтва выклікалася на допыт — дарэмна. Усе адказваюць аднолькава. Павешанага канакрада бачыў, як вешалі — бачыў, а хто павесіў.

Жывуць гэтыя беларусы, як каралі. Нават дзвярных замкоў няма. Сыходзяць з хаты, звычайны вярбовы дубчык засунуць за клямку дзвярэй — і ўсё, увесь замок. Ніхто чужы ў хату ніколі не зойдзе. Цудоўныя, прыстойныя людзі, праблем з імі ніякіх. Толькі дровы нарыхтоўваюць без запытання, але бяруць высмаглыя, паваленыя ветрам дрэвы. Гэта ў іх не лічыцца крадзя-

жом. Нават лаяцца язык не паварочваецца. Шкоды лесу ад узятага старога, засохлага дрэва няма. А калі трэба спілаваць добры лес на будову жылля, то заўсёды прыходзяць і пытаюць дазволу. Пакажыце, якія дрэвы можна спілаваць? Не тое, што гэты прайдзісвет Сімунд.

Змрочныя, маркотныя думкі апаноўвалі яго.

Жонка яму, вядома, трапілася ого-го! Калі сватаўся да яе, ягнём прыкінулася — такая ласкавая, далікатная. А як ажаніўся — усё ёй не так, усё дрэнна. Раней хоць іншых саромелася, а цяпер… Цэлымі днямі нічога не робіць, толькі чытае французскія раманы. Уявіла сябе чорт ведае кім.

Яе бацька простым, дробным службоўцам у судзе быў. Пасаг за дачкой даў які? Смешна сказаць, капейкі. Толькі і ўмеў з важным выглядам сказаць: — «Устаць! Суд ідзе!»

Обер-фарстмайстар праседзеў у цемры ўсю ноч. На многае яму адкрыліся вочы, і цяпер на ўсё глядзеў інакш. Выхаду са становішча, якое стварылася, ён не бачыў, але ўсвядоміў, што трэба шмат у сваім жыцці змяніць, так працягвацца не можа.

Толькі пад раніцу яго змарыў сон; заснуў седзячы за сталом.

Пасля сыходу обер-фарстмайстара Сімунд быў таксама моцна раз'юшаны.

Што за дзікія людзі, гэтыя славяне? Як яго бацька гэтулькі гадоў мог пражыць сярод іх? І завошта ён іх любіў? Усё казаў мне ў дзяцінстве: глядзі сын, такога лесу і такіх дзіўных людзей ты ў нас не сустрэнеш.

Што добрага ён знайшоў у гэтым дрымучым лесе? Высекчы яго цалкам трэба, хоць нейкая карысць будзе. У Еўропе можна ўзяць за дубы і карабельныя хвоі вялікія грошы.

А гэты нахабнік нічога не робіць, а грошы атрымліваць хоча. Яму што, лесу шкада, гэта ж не яго ўласны, а казённы.

Рускія ходзяць па золаце, а лянуюцца нагнуцца і падабраць. Берагуць нічыйны лес, як свой. Зуброў, бачыш, ім трэба захаваць. Каму патрэбныя гэтыя бескарысныя жывёлы?

Ён, гэты надзьмуты фазан обер-фарстмайстар, няўжо не разумее, што яго грошы ў мяне, вось за іх я і магу наняць дадаткова людзей. Больш ён у мяне меднай манеты не атрымае. Дзікун! Нагрубіяніў, дзверы ў сталовай зламаў. Усё гэта трэба ўлічыць і адлічыць з яго сумы. Добра, што гэтыя дзікуны не ведаюць сапраўдны кошт, за які іх лес прадаю. Да пятага калена дзецям і ўнукам хопіць сродкаў жыць у раскошы.

***Працяг будзе.***



**Соф'я ШАХ**

# СЭНС

*Вянок санетаў*

## 1

Вось досвітак святлее і мацнее, —
усё смялей на ўсходзе небасхіл
як бы разгортваецца, ружавее
скрозь рабацінкі-хмарынкі-штрыхі.

Бы дзесьці там нябачныя мяхі
прыйшлі ў таемны рух а ці ўзрушэнне
і разадзьмулі праблiскі смугі,
а ўслед за гэтым і само праменне.

І неяк раптам у адно імгненне
успыхнулі ўсе верхавіны дрэў,
як быццам іх спасцігла азарэнне,
што ранак з ночы выбрацца сумеў.

Вось шырыцца ва ўласнай віднаце,
вось дзень за ім суладна ўжо ідзе.

---

**Шах Соф'я Мікалаеўна** *нарадзілася 29 лістапада 1947 года ў вёсцы Лясец Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Дзіцячыя і школьныя гады прайшлі ў г. п. Азарычы таго ж раёна. Скончыла факультэт пачатковых класаў Мазырскага педагагічнага інстытута імя Н. К. Крупскай (1969), дэфекталагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (1980). Працавала настаўніцай пачатковай школы ў вёсцы Гажын Нараўлянскага раёна, у вёсцы Цідаў, у пасёлку Азарычы Калінкавіцкага раёна, лагапедам у школе-інтэрнаце ў Светлагорску.*

*Аўтар паэтычных кніг «І не пакіне спадзяванне» (1989), «Пад высокай лагодай нябёс» (1995), кніг вянкоў вянкоў санетаў «Адухаўленне» (2000), «Прысвячэнне» (2001), «Прызначэнне» (2002), «Увасабленне» (2003), «Спасіжэнне» (2004), «Азарычы» (2007), зборнікаў вянкоў санетаў «На ўсё дабро ў адказ» (2003), «Кругаспеў» (2006) і інш.*

**2**

Вось дзень за ім суладна ўжо ідзе —
высокі, стройны, мерна паслядоўны,
ён да апоўдня самага расце
па хвілях, па секундах па няўлоўных.

У колерах, у фарбах красамоўных
шчыруе, раскашуе, зіхаціць —
блакітны, жоўты, бэзавы, зялёны, —
разлівы-пералівы не ўсачыць.

І не маўчыць, а зладжана гучыць —
бадзёры, свежы, водарны, ахвотны
і спеў птушыны ўзнесці, узмацніць,
і далучыць працоўны гул клапотны.

І розум цяміць зноў за дзеяй дзею,
і чуйная душа зноў разумее.

**3**

І чуйная душа зноў разумее
ўсе колеры нябеснай вышыні,
усё, што прамянее, палымнее
увогуле у гэтым новым дні.

Усё, што выспявае ў глыбіні,
усё, што на паверхні праступае, —
усё свае тут мае карані,
сваё значэнне спадчыннае мае.

З’явіўшыся, бы штосьці абяцае,
на штосьці ўжо надзею падае,
і ўжо давер таемны выклікае,
і сілу, і акрыленасць яе.

Бы да высновы ўжо сам дзень вядзе:
як хораша і ў буднай яснаце!

**4**

Як хораша і ў буднай яснаце!
У самай-самай што ні ёсць будзённай,
калі ці снег мяце, ці дол цвіце,
ці ўвысь глядзяцца лужыны ўлюбёна.

Устала сонца — і пайшло сінхронна
гудзенне, шапаценне і віццё

асвойваць, запаўняць зямное лона
на ўдасканаленне, на развіццё,

на адкрыццё сябе, на адбіццё,
на параўнанне і адлюстраванне
праз неспакойлівасць, праз пачуццё
то завядання, то ўслед акрыяння.

І чуеш, бачыш — як, чаму, што, дзе, —
хоць клопаты ва ўсёй іх паўнаце.

**5**

Хоць клопаты ва ўсёй іх паўнаце, —
вялікія яны а ці малыя,
хоць зараз — так! — ужо ніяк, нідзе
і не схаваешся ад іх стыхіі,

ад іх падчас такой перыпетыі,
што апасля бярэ ўжо нават здзіў:
і як гэта ўсе выхадкі крутыя
уласны дух змякчыў і пакарыў?

Ды чым далей — тым іх вастрэй уплыў,
але ж на вастрыню ён не зважае,—
здзяйсняе за парывам зноў парыў
між немарачы, скрухі і адчаю.

І сам сябе ратуе, несумненна,
хоць высілкі — нязменна і празмерна.

**6**

Хоць высілкі — нязменна і празмерна,
хоць намаганні — зноў-такі іспыт,
а ўся наносная сыходзіць пена
і норавам прасцее нават быт.

Зноў бачны ўвесь блакіт і ўвесь зеніт
у яве разлагоджанай, раскрытай,
і далеч кліча праявіць зноў спрыт
і наталіцца колераў палітрай.

І зноў адтуль з такім імпэтам-дыхтам
раскоша вышняя ў душу зірне —
і штосьці шчэ спазнаецца нібыта
ў дасюль мо неспазнанай навізне.

І вера тут як тут: хай лёс гняце,
а Сёння след пакіне-пакладзе.

**7**

А Сёння след пакіне-пакладзе, —
хай непрыкметны, хай як бы сакрэтны,
народжаны няхай і ў гаркаце,
і ў сціснутым адчаі ў беспрасветным,

і ў смутку невылечна-пракаветным,
што ўчэпіста жыве, хоць хваткай стань
і з высяў урачыста-запаветных
яму ты зорку ясную дастань.

Чарговы дзень жыцця — такая грань,
што ў мітусні, бывае, і не ўсочыш,
хаця й паднімешся ў глухую рань
і ляжаш, як звычайна, апаўночы.

Ды вера адгукнецца й тут нядрэмна —
і Заўтра ўсё ж наступіць недарэмна.

**8**

І Заўтра ўсё ж наступіць недарэмна
як вынік, як заведамы працяг
той справы непазбежнай ды сумленнай,
што набыла ўжо ўсё-такі размах

і ў Паслязаўтра значыць-ладзіць шлях,
а там далей, далей — за далягляды, —
туды, дзе, можа, нават слова «прах»
над словам «прага» ўжо не мае ўлады.

Туды — да вышняй, да Гасподняй праўды,
дзе дух і рух дабраславёна ўдвух
ужо, бадай, без асаблівай страты
ўключаюцца і ў часавы ланцуг.

Так будзе, хоць у яве, мсцівай тленам, —
то ветрана, то душна, то завейна.

**9**

То ветрана, то душна, то завейна.
Завейна, душна, ветрана ізноў.
Ізноў, ізноў заведзеная змена
адна і тая ж мернасці вякоў.

Жыццё ідзе, спяшае між вятроў
халодных, цёплых, рэзкіх і ласкавых,—

ад ураганаў і да скразнячкоў,
да непрыкметных, ды, аднак, праявых.

Ад спёкаў, ад расплывістых і млявых,
да ўз'юшаных мяцеліц-завірух —
адзін і той жа зладжана-яскравы,
яскрава ўпэўнены спрадвечны круг.

У ім — хоць ты бурчы, а хоць маўчы —
то шэрані-туманы, то дажджы.

**10**

То шэрані-туманы, то дажджы, —
дажджы-дажджочкі, часта зацяжныя,
не томяцца радзімы дол таўчы,
таптаць абсягі любасна-зямныя.

А кропель гукі-стукі — шапаткія,
апанаваныя наперабой
давесці ўражанні і патайныя,
што назапасіў хмарны неспакой,

што ў глыбіні там шэра-кучавой,
у зыбістых клубах туманавіру
і нараджаецца мо той настрой,
што прагне пэўнага арыенціру —

душы, якая зразумее верна:
то задуменна, то праменна-спеўна.

**11**

То задуменна, то праменна-спеўна
услухаецца — вымавіць сябе
то заклапочана, то летуценна,
то ў захапленні нейкім, то ў мальбе,

то ў той немудрагелістай журбе,
што ўжо згубіла нават і вытокі,
а ўсё не ціхне, ўсё шкрабе, шкрабе
і голас падае́ салодка-горкі.

І не шукаеш прывіднай палёгкі,—
журбота дык журбота — хай і так,
абы спявалася аж пад аблокі,
а то — дык і пад самы Задыяк...

Такія вось памкнёнасці ў душы
скрозь гулкія ільды і капяжы.

## 12

Скрозь гулкія ільды і капяжы,
скрозь вольныя сумёты і адлігі
спяшаюць дні да нейкае мяжы,
да нейкае мяжы мільгаюць мігі.

То шумны спех, то невыразна-ціхі
ад восені чаканай да вясны,
паміж парадку і неразбярыхі,
між праваты трывалай і віны,

між апантанай праўды і маны,
між знітаваных святасці і грэху,
між боляў спадчынных і нажыўных,
між светлых слёз і роспачнага смеху.

То блытаюся, то лячу зусім,
але даступны сэнс жыцця ва ўсім.

## 13

Але даступны сэнс жыцця ва ўсім,
пакуль я з Вамі, покуль Вы са мною,
пакуль між летаў нашых і між зім
мы лучаныя доляю адною.

Я не стамлюся йсці і пехатою,
я не змаруся і ляцець, імчаць,
пакуль усёй істотаю сваёю,
што побач Вы, скрозь буду адчуваць.

Няцяжка дух уразлівы ўзбуджаць
і лёт распачынаць мо нескладана,
пакуль магу, пакуль магу трымаць,
туліць я рукі Вашыя аддана.

Уздым, уздым ва ўсім — і скрозь уздым,
пакуль нам свеціць сонейка дваім.

## 14

Пакуль нам свеціць сонейка дваім, —
клапоты — згоды, слоты — не бядоты,
і час прыкметна асаблівы ў тым,
што сам і ёсць апірышча свабоды.

А лёс — улонне Боскае выгоды,
пакуль дваім шанцуе на святло,
а перашкоды — не ступені шкоды,
калі ўжо на дваіх нам і цяпло.

А нейчае кіпенне-зло — нам тло,
а нейчае прызнанне — спадзяванне,
што нас не возьме хваткае сіло
расчаравання, замяшання, вяння.

А доказ просты: ноч вось нікне-млее,
вось досвітак святлее і мацнее...

**15**

Вось досвітак святлее і мацнее,
вось дзень за ім суладна ўжо ідзе,
і чуйная душа зноў разумее,
як хараша і ў буднай яснаце.

Хоць клопаты ва ўсёй іх паўнаце,
хоць высілкі — нязменна і празмерна,
а Сёння след пакіне-пакладзе
і Заўтра ўсё ж наступіць недарэмна.

То ветрана, то душна, то завейна,
то шэрані-туманы, то дажджы,
то задуменна, то праменна-спеўна
скрозь гулкія ільды і капяжы.

Але даступны сэнс жыцця ва ўсім,
пакуль нам свеціць сонейка дваім.



**Таццяна ГАРЭЛІКАВА**

# АПАВЯДАННІ

## *Журліва глядзелі вокны*

**Званок** быў ранні, яны яшчэ з Пецем ляжалі ў пасцелі. Яна з соннымі вачыма пайшла хуценька ў вітальню, уключыла навобмацак святло, падняла трубку і, нічога не паспеўшы падумаць, алёкнула.

— Добрай раніцы. Гэта Раман, — гучны адрывісты голас — голас чалавека, які даўно не спіць.

«Раман?» — здзівілася яна, але раздумваць не было як, і роўна сказала:

— Добрай раніцы.

— Там яшчэ бацькава хата стаіць? Ты яшчэ не прадала яе?

— Не, не прадала... Стаіць.

— Давай туды як-небудзь з'ездзім.

— Чаго ты надумаўся?

— Проста так.

— Ну... Давай з'ездзім, — сказала, не надта згаджаючыся сама з сабой. Па-першае, яны з Пецем два тыдні таму былі там, а па-другое... Ехаць з Раманам? Чаго раптам?

— Я б і ў суботу гэту паехаў. Як ты — зможаш?

Субота будзе паслязаўтра. У яе, прадаўшчыцы, якраз выхадны.

— Давай у суботу, — сказала, ні пра што не паспеўшы добра падумаць. Мільганула толькі, што, калі яны ўдваіх з Пецем паедуць, то Надзька, дачка, адна застанецца, цяжарная, на дзевятым. Калі яе Віталік, ветрагон той, вернецца? Пайшоў упрочкі. Маладыя, а ніяк не зладзяць сабе гняздо. Не, хай Пеця, айчым Надзькін, дома будзе.

— Дамовіліся, — пачула ў адказ і паклала трубку.

Ёй зрабілася непрыемна неяк на сэрцы. Неспакойна. Раман на пахаванне маці не прыехаў, а потым і бацьку, калі той памёр праз два гады, не правёў у

---

**Гарэлікава Таццяна Іванаўна** *нарадзілася 28 лістапада 1947 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Закончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1970) і Мінскую Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПБ (1985). Працавала на Міншчыне бібліятэкарам, арганізатарам пазакласнай і пазашкольнай работы, дырэктарам сярэдняй школы, у райана, намеснікам загадчыка аддзела, сакратаром Мінскага райкама КПБ, у рэдакцыі часопіса «Полымя».*

*Выдала кнігі прозы «Дзе лес шуміць» (1978), «Пры святле расстанняў» (1985).*

апошні шлях, — чаго цяпер туды едзе? Пайшла на кухню, уключыла святло, пастаяла, выключыла святло, і ў вітальні таксама, пайшла зноў лягла пад бок да мужа...

— Хто гэта? — мармытнуў той.

— Аа... Брат, Раман.

— Гэта той?.. — ён не дагаварыў, але яна зразумела, што муж падумаў. — Чаго ён?

Яна сказала.

І абое сціхлі. Пеця зноў засоп, заснуў, а яна заснуць ужо не магла. Паднялася, пайшла на кухню, паставіла чайнік.

Гэта ж яна не бачыла роднага брата ажно... дванаццаць гадоў... І жыве ж недалёка — якіх сто кіламетраў... Тады, помніцца, быў красавік... Ужо дванаццаць гадоў мінула...

Яны тады з Іванам, першым мужам, купілі сабе легкавіка — радасці было!.. Ён як жывую істоту яго пагладжваў... Толькі не наездзіліся на той машыне — загінуў Іван. Ехаў адзін, быў галалёд. Як перажыла тое — адзін Бог знае... І якою зрабілася пасля пахавання — страшна ўспомніць... Захварэла. Вельмі захварэла.

Яна была тады якраз у водпуску. Была б на працы, стаяла б за прылаўкам, — была б сярод людзей, яно б не так перажывалася тое гора. Але засталася адна, з малой дачкой, і яе скруціла. Апанавалі і страх, і жах, і паніка, і нейкае неўразуменне, і боль, і адчай, і так яны ў ёй спляліся, усе гэтыя перажыванні, што не належала самой сабе. Нейкім краем свядомасці разумела — трэба ў бальніцу. Але куды дзець Надзьку? Дзіця... Можна было б паехаць да бацькоў. Але бацькі ўжо нямоглыя, у іх сваіх болек пад завязку, маці ўжо і не ходзіць.

Яна патэлефанавала Рому:

— Прыедзь. Мне так кепска... Я не сплю. Прыедзь на машыне. Забяры мяне. Кепска мне дужа...

Брат нешта мармытнуў у трубку, быў нейкі незадаволены, але яна зноў папрасіла:

— Братка, знемагаю... Прыедзь, забяры. Можа, я ў вас акрыяю..

— Добра, прыеду, заўтра раніцай, — коратка ўздыхнуўшы, сказаў ён сцята і незадаволена.

Праўда, назаўтра раніцай і прыехаў.

— Што? — у парозе спытаўся. — Ты ж знаеш, як мая жонка гасцей любіць...

— Братка, родны, ратуй! — расплакалася яна. — Гіну...

Ён цяжка, не гледзячы на яе, уздыхнуў.

— Што ж, — сказаў глуха. — Паехалі.

Яны селі ўтраіх — і Надзька ж — у машыну. Паехалі. І дзіва — у машыне ёй быццам паспакайнела. Быццам апрытомнела. І бліснула ў душы надзея: а можа, і выкараскаюся з усяго гэтага... Івана ўжо не паднімеш, а мне трэба жыць, гадаваць дзіця…

Брат сядзеў за рулём моўчкі, глядзеў наперад, на дарогу, але быў нейкі стрымана размашысты. Раптам спыніў машыну на ўзбочыне. Пасядзеў моўчкі за рулём і спытаўся, але не гледзячы на яе:

— А ты добра падумала? Ты ж знаеш маю жонку...

Як яна ведае яго жонку? Бачыліся колькі разоў... Ну, нелюдзімая яна нейкая... Насуперак усяму папрасіла:

— Мне перабыць дзень-два ў цяпле, у цішыні, сярод сваіх, каб з Надзькай хто пабыў... Я, мне здаецца, акрыяю...

Ён засоп носам.

— Добра, — сказаў, і машына зноў кранулася з месца.

Далей ехалі моўчкі, і Надзька, малая, падшылася пад бок і маўчала, быццам і яна, дзіця горкае, нешта разумела...

Прыехалі ў райцэнтр — тут жыў брат, — здалося, хутка. Пакуль ехалі, Ліда не пазірала ў акно, не глядзела па баках, на дарогу, — была толькі сама з сабой, жахаючыся, як нетрывала ёй... Нейкі туман у вачах. Разбэрсана ўсё, не засяродзіцца.

Машына спынілася каля нейкай будыніны, заціх матор. Раман заварушыўся, выйшаў з машыны, пайшоў, ні слова не сказаўшы, да той вялікай аднапавярховай будыніны, а яны, маўклівыя, засталіся сядзець у машыне. І не зразумець, ці доўга сядзелі, але вось Надзька зірнула на маці, жаласна прамовіла, быццам нешта пытаючыся, на нешта спадзеючыся, адно слова:

— Маамаа?!

— Сядзі, дачушка, — сказала Ліда.

Не ўгледзела, як з'явіўся брат. Ён быў не адзін, з ім была ягоная жонка, — у шэрым халаце, з непакрытай галавой. «Гэта яна тут, у гэтым будынку, працуе, — зразумела Ліда. — Кладаўшчыца ці што…»

А братава тут жа расчыніла дзверцы ў машыне, нахілілася, рашуча сказала:

— Вылазьце!

Ліда паслухмяна вылезла з дачкою з машыны.

Стаялі каля машыны ўсе ўчатырох. Братава жонка з рукамі ў кішэнях халата, выцягнуты, як радавы перад камандзірам, брат, і Ліда, аціхлая, з дзіцем.

— Едзьце назад! Нам няма як браць вас да сябе. Мы на рабоце, — цвёрда сказала братава жонка.

Ліда паглядзела, напятая, на Рамана. Той стаяў моўчкі, з апушчанымі рукамі. Не глядзеў на Ліду.

— Тады падвязі нас хоць да чыгуначнай станцыі. Мы сядзем на поезд, — звярнулася да брата.

— Няма нам як, — тут жа сказала яго жонка. — І гэта не наша машына. Тут які кіламетр. Дойдзеце. Вунь дарога... У людзей, калі што, папытаецеся...

А брат маўчаў, ні слова не сказаў.

Ну, што тут не зразумела?

Ліда ўзяла за руку дачку, і яны абедзве пайшлі па красавіцкай з калюжынамі вуліцы. Пайшлі.

Ішлі. Доўга ішлі. Не помніла, як ішлі. Усё па нейкай адной дарозе. І быў халодны вецер. Але прыйшлі на станцыю. Купіла білет, селі ў цягнік. І даехалі неяк з малой Надзькай да Мінска. Дабраліся да свайго дома. Выйшлі з ліфта — і не зайшлі нават у сваю кватэру, пазваніла яна да суседзяў. Ёй тут жа адчынілі.

— Данілаўна... — прашаптала, ужо зусім быццам не памятаючы сябе. — Данілаўна, я зайду, кепска мне...

— Заходзь, заходзь, Ліда! Зайдзі, калі ласка. Ідзі сядзь... — павяла яе суседка ў пакой, пасадзіла на канапу. Ліда прылегла. Білася ў нейкіх дрыжыках...

— Можа, табе лякарства якое даць? — устрывожылася Данілаўна. Мітнулася на кухню, вярнулася назад з бутэлечкай і лыжкай.

— На вось табе валяр'янкі... Гэта ты наперажывалася так... Не перажывай, дарагая, яго ўжо не паднімеш...

Пачала хныкаць Надзька. Данілаўна дала ёй жменю цукерак.

Лідзе было кепска. Яна чула і не чула, што казала Данілаўна. Білася ў нервовых дрыжыках...

Потым зайшлі ў кватэру людзі ў белых халатах, павялі з сабою. Яна толькі пачула Данілаўну:

— Дачка ў нас пабудзе, не хвалюйся...

І яна два тыдні праляжала ў неўралогіі...

Гэта было дванаццаць гадоў таму. З таго часу яны з Раманам і не бачыліся. Ён і не пазваніў нават ніколі... І сама яна... Як яму было званіць — што казаць?..

Цяпер у яе не было ніякіх пачуццяў да брата. Проста ўсё выветрылася — і ўсё. Яна ні добра, ні кепска пра яго не думала — проста ніяк не думала. Быццам яго і на свеце не было. А ён во — аб'явіўся...

У суботу прыехаў роўна ў дзевяць. Як і абяцаў. Яна адчыніла дзверы — стаяў у лёгкай карычневай куртцы наросхрыст, у белай кепцы... Пастарэў...

— Заходзь, Раман…

Ён быў насцярожаны. Нейкі быццам вінаваты. Пераступіў парог, падышоў да яго Пеця, парукаліся, назваліся, і Пеця запрасіў:

— Праходзьце ў пакой.

— Не, не, не! — катэгарычна ўзмахнуў рукою брат, і Ліда заўважыла, што ён нейкі дужа неспакойны.

— Прайдзі, Раман, я хуценька збяруся. Можа, кавы…

— Не, не! — зноў узмахнуў той рукою. — Я пачакаю.

І застаўся стаяць у дзвярах. Пеця, нейкі разгублены, рушыў на кухню. Надзька не выйшла са свайго пакоя.

Ліда хуценька апранулася, узяла сумачку, кінула туды кашалёк з грашыма — і вось яны ўжо абое выйшлі з кватэры. У ліфце напружана маўчалі, але потым Раман сказаў:

— Замуж выйшла?

— Пяць гадоў ужо…

Белая машына стаяла каля пад'езда. Ліда памкнулася сесці на задняе сядзенне, але Раман сказаў, каб села наперад.

Ехалі моўчкі, але бачыла яна, што бязрадасны Раман. Быццам і трымае сябе ў руках, але ці ж схавае боль у душы?

Дарога была амаль пустая, ніякай напругі за рулём, і дзякуй Богу хоць за гэта.

Ехаць было кіламетраў восемдзесят. На аўтобусе даўжэй, канечне, з аб'ездамі ды прыпынкамі гадзіны амаль тры яны звычайна калыхаюцца, але тут і за гадзіну, магчыма, управяцца...

— Як твая дачка? — парушыў маўчанне Рома.

— А што дачка?.. Выскачыла замуж, у семнаццаць гадкоў, і яму семнаццаць толькі, дзеці яшчэ, і жывуць, як дзеці, — то сварацца, то міряцца...

— А я... Так сабе жыву... Упінаўся, упінаўся — ды й прыстаў... Каму ўсё гэта? Дачушкі мае... Усё стараўся, каб ім ды ім. А яны абедзве выйшлі замуж і абедзве развяліся. Вось так... — і твар у яго выцягнуўся.

— Унукі ёсць? — асцярожна папытала Ліда. Тут яшчэ бойся папытацца — не дагодзіш, калі ён такі.

— Адна падкінула, з намі жыве, а ў большай — нікога... — сказаў, і ніжняя губа варухнулася ад крыўды. — З'ездзіла за мужам на Кубу, ды во вярнулася адтуль. Адна... А я гадаваў іх, стараўся, у адных штанах жыццё прахадзіў… Яшчэ й, спадзяваўся, лепш, чым у некаторых, — універсітэты ж паканчалі...

Ён быў такі несуцешны, што ёй захацелася пагладзіць яго па галаве.

Раман гаварыў нешта яшчэ пра жонку, і ўсё кепскае, кепскае...

— Я ж і не п’ю, і не палю, і не цягаюся абы-дзе... Грошы ўсе да капейкі — ёй... А яна ўсё круціць носам, папракае... Якіх-небудзь Хіміных курэй успамінае...

Ліда слухала яго, напятая. Не, яна нічога не будзе гаварыць яму пра яго жонку — ён з ёю жыццё пражыў, хай разбіраецца. Ёй наогул нічога не хацелася гаварыць пра яе — ёсць яна і няма яе...

Але было шкада Рому — брата. Як жанчына, яна разумела, што яму цяпер трэба гаварыць толькі добрае, недзе ён, відаць, моцна абшахнуўся, тут не толькі разведзеныя дочкі, тут нешта большае, калі такі змэнчаны... Аж перапоўнены нечым нядобрым. Нешта дужа ў жыцці, відаць, не ўдалося...

— Каб ты знала, з якім я боем сёння з дому вырваўся... Але рашыў: паеду — і ўсё тут. Не паглядзеў ні на што... Яна там ажно поўзала... — гэта, а пра каго ж яшчэ, пра жонку.

Ліда ўздыхнула. І хацелася нешта сказаць яму — але што ты тут скажаш?

Але ён ужо маўчаў — толькі пільна-пільна глядзеў на дарогу.

Думала, пазірала ў бакавое акенца і яна, і тут жа адзначыла, што канчаецца лета. Быў жнівень. Ужо й жоўты ліст убачыш, і палеткі вунь ужо не зелянеюць... Лета як і не было. За працай у вялікім універсаме свету белага не бачыш. Яшчэ і ў водпуску сёлета не была. У верасні пойдзе. Яно й там клопатаў будзе — Надзька ж (дай Бог, каб усё добра было!) народзіць...

— Давай мы, Рома, дзе спынімся ды булачку якую купім. Трэба ж там есці нешта, — сказала яна.

— А я ўзяў з сабою... Усяго ўзяў... — абазваўся Рома.

Даехалі моўчкі. Райцэнтр. На ўскрайку бацькава хата... Рома збавіў хуткасць, ехалі па вуліцы, ціхай і бязлюднай, міма налепленых адна каля адной хат, міма катэджаў таксама, набудавалі іх тут, новых. Даехалі да скрыжавання, яшчэ якія дзве хвіліны — і яны каля свае хаты, але Рома раптам крутнуў руль налева. Сказаў:

— На могілкі спярша. Да бацькоў.

Ну, хай так. Паімчалі на другі канец райцэнтра.

Яна павяла яго да родных магіл. Дзве магілы, маці і бацькі, былі побач, адна агароджа. «Трэба неяк падфарбаваць, можа, каб да Радуніцы», — але не сказала нічога.

Рома зняў кепку з галавы і выцер ёю твар, скамечыў у руцэ.

— Ну што... — абазваўся праз нейкі час. — Праведалі. Буду знаць, дзе іхнія магілы. Цяпер буду знаць. Пойдзем.

Але не крануўся з месца.

— Пойдзем, — ціха сказала і яна, адкінуўшы рукой валасы з ілба. Але таксама стаяла нерухома.

Потым пайшлі.

Каля бацькавай хаты Рома стаяў, як утрапёны. Як хлапчук стаяў. Ведама ж, так даўно не быў тут. Аж і Ліда неяк па-новаму на ўсё зірнула. Журлівымі здаліся вокны ў хаце...

Суседка сядзіць на лавачцы, старэнькая баба Ядвіся, ёй ужо даўно, мусіць, за восемдзесят, пазірае на іх, і Ліда гучна, каб яна пачула, павіталася. Сказаў «Добры дзень» і Раман. Толькі ці пазнала яна Рамана? Надта ж узіралася...

Ліда адамкнула брамку, паволі зайшлі ў ціхі двор.

У хаце было ціха-ціха, нават муха якая на шыбіне не звінела. Няўжо ж, чалавечага духу няма тут... Колькі ўжо гадоў, як памёр бацька, — тры? Яна бывае тут з Пецем наездам... Усё як стаяла, так і стаіць, дзе ляжала, там і ляжыць...

Яна схамянулася.

— Вады з калонкі прынясі…

Пайшоў і праз хвіліну вярнуўся з пакетам:

— На, я тут усяго ўзяў...

Калі селі за стол, ён адкаркаваў крамную пляшку гарэлкі. Яна таксама ўзяла кілішак.

— Не перажывай так, Рома. І дочкі твае яшчэ замуж выйдуць. Маладыя, адукаваныя...

— А-а... — сказаў ён, і ў яго балюча бліснулі вочы. Ліда аж пашкадавала, што так неабачліва зачапіла яго.

Елі моўчкі. Неяк похапкам перакусіў Рома — і падняўся, пайшоў з-за стала.

Яна прыбрала посуд. Выйшла таксама з хаты. Рома быў у гародчыку. Колькі там таго гародчыка — як павярнуцца... Адны дрэвы стаяць, цень ад іх, і нічога на зямлі між дрэў не пасаджана. Рома хадзіў ад яблыні да яблыні... А яблык сёлета — голле да зямлі гнецца. Асабліва дзве вунь... І слівак сёлета будзе, зялёныя яшчэ, але шмат іх... Рома пайшоў у двор, прынёс адтуль нейкія палкі — пачаў падпіраць голле з яблыкамі. Быў нейкі вельмі старанны, увішны.

Потым, бачыла яна, узяў у паветцы з падстрэшша касу, пайшоў у гародчык. Яна пастаяла, паглядзела на Рамана, як ён старанна, аж неяк заюшана шахаў касою. Потым пайшла, запаліла ў калідорчыку газавую пліту, паставіла каструлю. Хай суп які зварыцца к вечару, — пачала парадчыць у хаце.

Калі выйшла з хаты, Рома стаяў ужо сярод двара, пазіраў на ліпу, старое дрэва, што расло каля штакетніку.

— Я садзіў! — сказаў, усміхаючыся. — Шчэ школьнікам...

Ён пачаў ужо ўсміхацца, гэта добра, падумала Ліда.

Потым Рома сядзеў на лаўцы пад акном. І яна да яго села.

— Што ты будзеш з хатай рабіць? Яна ж моцная яшчэ — можна добра прадаць. Гэта райцэнтр — тут каштуе!.. Я сам жыву ў райцэнтры — знаю... Калі будзеш прадаваць — я ад свае долі адказваюся, я тут семнаццаць гадоў не быў…

— Не знаю, Рома, што з хатай рабіць. Можа, мы яшчэ з Пецем жыць тут будзем. Маладым кватэру пакінем, а самі сюды...

— А-а, во як вы...

— Не знаю, як жыццё павернецца.

Ён пачаў гаварыць пра дзяцінства, юнацтва тут, у гэтай хаце, успамінаць розныя выпадкі, маці, бацьку ўспамінаць, яна слухала і таксама гаварыла, было што згадаць, і абое яны ўсміхаліся...

Ужо браўся прыцемак. Пашарэла на дварэ. Яны пайшлі ў хату, запалілі святло. Селі за стол. Павячэралі. Рома быў нейкі ўзрушаны. Не мог схаваць узрушанасць. Яна пасцяліла яму на ложку за грубкай, клапатліва, як маці, накрыла яго лёгкай коўдраю. І ён тут жа, як дзіця, прыціх, ды, мусіць, хутка і заснуў.

Назаўтра яны пачалі паціху збірацца ехаць назад, у Мінск. Рома быццам пасля доўгага, вельмі доўгага бяссоння добра выспаўся і выглядаў спакойным і нейкім надзіва лагодным. Быццам і не было таго ўчарашняга балеснага, прыгнечанага, змэнчанага Ромы. Так бывае іншы раз з надвор’ем: увесь дзень бушуе і лье, неба з зямлёю змяшалася — а назаўтра з рання такое чыстае неба, такая цішыня і так сонечна, прасторна... Быццам і буры той учора не было...

Рома завіхаўся каля машыны. Потым, спаважны, стаяў сярод двара. Павёў галавой, агледзеў, быццам па-новаму неяк бачыў, падворак, хлеўчык, зайшоў

туды, пастаяў, выйшаў, на сухія дровы паглядзеў, што кастром ляжалі каля паветкі, — быццам убіраючы ў сябе ўсё наваколле.

Нешта рабілася ў яго душы.

## *Было сумна-сумна*

**Яна** зараз прыедзе дадому і ляжа, канечне, спаць. Гэтая доўгая паездка аж вантробы, здаецца, выцягнула. Паўдня амаль, з самага ранняга рання на цягніках... перасадка за перасадкаю... Але на душы было спакойна. Валерыку, пяцігадоваму сынку, добра ў дзеда з бабуляй. Ён і здаровенькі, і ўсмешлівы. Лапатунчык. І ад гэтага так радасна на душы. Спакойна, надзейна.

Яна выйшла з цягніка, і плынь пасажыраў панесла яе па доўгіх тунелях — але вось, нарэшце, і метро. Паехала. Потым былі два прыпынкі на аўтобусе і — дома яна. Зайшла ў сваю ціхую кватэру. Новую кватэру — яшчэ пахі ад розных фарбаў не выветрыліся. Якое шчасце! Яе з мужам пабудавалі за вялікія грошы, так доўга тыя грошы збіраліся, і банкаўскі крэдыт яшчэ ўзялі — і вось ёсць яна, кватэра! Свая! Свет зіхацеў ад шчасця... Хай сабе цяпер пустыя кішэні, вольны вецер гуляе, за душой ні долара, але гэта часова. Сцёпа, муж, каторы ўжо раз паехаў гастарбайтарам пад Маскву. Будаўнік, ён прывязе адтуль грошай — і будзе ўсё ў кватэры, як у казцы! Вось так!

А Валерык, сынок, хай лета пагуляе ў дзеда з бабуляй, у вёсцы — яму гэта будзе толькі на карысць. І басанож пабегае, і свету навакольнаму надзівіцца, і сырадой той яму на здароўечка пойдзе...

Так што спакойна і надзейна на душы. Вось толькі трохі стамілася...

Прыняла з дарогі душ — ах, як прыемна! — і пайшла лягла ў пакоі на ложак. І амаль ужо заснула...

Ой, што гэта? Нібыта нехта яшчэ ёсць у кватэры?.. Хто тут?

Моцна забілася сэрца, яна падхапілася з ложка, без халата, у начной кашульцы, зазірнула ў другі пакой… Там гаспадарыў суседскі сын — варочаў бялізну ў шафе...

— Ваня? Чаго ты тут?

Ваню таму гадоў дваццаць, ён вялікі, як мядзведзь, і вось уздрыгнуў, выскаліўся — і з ім зрабілася страшна... А раптам ударыць? Ці яшчэ што?..

Не, ён не ўдарыў. Моўчкі адскочыў ад шафы, выбег у вітальню, адчыніў дзверы — і няма яго...

А раптам вернецца зараз? Зрабілася страшна, і яна хуценька пайшла да тэлефона, набрала міліцыю...

Яны і прыехалі неўзабаве, два міліцыянеры. Коратка пераказала ім усё, яны хуценька пайшлі, а яна агледзела пакой — што ж ён, той Ваня, украў?

Не было відэакамеры, новага мабільніка, шкурак нутрыі, што на футра сабе купіла... Заручальныя пярсцёнкі зніклі...

Цяпер ён выскачыў з пустымі рукамі — значыць, зайшоў у кватэру другі раз... Як ён сюды трапіў?

Зірнула на балкон — і ўсё зразумела: шкла ў балконных дзвярах не было... Выняў шкло... Значыць, праз балкон...

У дзверы пазванілі — яна адчыніла. Зайшлі два міліцыянеры. Сказалі, што злодзея затрымалі. Стаялі каля балкона, размаўлялі па рацыі, усё аглядвалі ды ўсё нешта гаварылі...

— А бацькі ў яго хто? — папыталі ў Вікі.

— Я добра і не ведаю. Будаўнікі, відаць. Тут, у гэтым доме ў асноўным будаўнікі жывуць...

— Яны цяпер дома?

— Не знаю.

Адзін міліцыянер пайшоў на выхад, за дзверы. А Віка ўспомніла... Калі яны засяліліся ў кватэру — суседзі ў сваёй ужо жылі. Яны, суседзі, былі вясёлыя, каля свае кватэры, адмыкаючы дзверы, здаецца, ніколі не былі маўклівыя — усё гаварылі і гаварылі, і голасна, і радасна... Аж яна, Віка, помніцца, нават сказала Сцёпу:

— Якія ў нас харошыя будуць суседзі!

— А ты іх ведаеш? — хмыкнуў Сцёпа.

— Яно ж відаць... Усмешлівыя...

— Ну і што, калі ўсміхаюцца... Пажывём — пабачым...

Яна на гэта нічога мужу не сказала, але суседзі ёй падабаліся. Мала што кажа Сцёпа...

У гэты час у кватэру зайшлі яшчэ два мужчыны ў цывільным, але Віка зразумела: таксама з міліцыі...

Яны пайшлі да балкона, пачалі там сваю справу рабіць — адбіткі пальцаў здымалі, ці што? Віка адступілася, каб не перашкаджаць.

Дзверы ў кватэру былі расчынены, вось зайшоў міліцыянер, але ўжо не адзін — з суседкай, Ваневай маці... Гадоў за сорак жанчына, з прыгожымі светлымі валасамі.

— Што ён тут нарабіў? — былі першыя словы суседкі. Твар сцяты і напалоханы.

Віка расказала ўсё. Суседка слухала, думала нешта сваё, нешта сваё яе непакоіла, вельмі непакоіла, яна ўжо вось аж злосная, і раптам сказала:

— І нашто было званіць у міліцыю? Пазванілі б нам у дзверы — і мы б самі, без міліцыі, разабраліся...

Можа, было б і так?.. Але ж яна, Віка, моцна тады напалохалася: перад ёю, безабароннай, мужчына, зламыснік — а раптам у ім успыхне звер?

Суседка моўчкі завярнулася і пайшла ад Вікі ў расчыненыя дзверы.

Каля ліфта, калі Віка выносіла смецце, стаяла суседка з мужчынам у цывільным. Яны пра штосьці горача гаварылі, Віка толькі пачула:

— ...але ж я не адзін — вы ж разумееце...

Убачыўшы яе, Віку, мужчына сціх, а суседка правяла яе вачыма да смеццеправода.

Віку непакоіла цяпер не міліцыя, якая гаспадарыла ў кватэры (міліцыя сваю справу зробіць) — а суседка. Чаму яна такая незычлівая? Хто вінаваты, што ў яе такі сын?

Праз некалькі дзён яна патэлефанавала ў ЖЭС — каб уставілі на балконе шкло. Прыйшоў чалавек, уставіў. Разлічылася.

— Мог бы гэта зрабіць і сусед ваш, бацька злодзея... — уздыхнуўшы, сказаў жэсавец.

Праз дзень Віку выклікалі ў міліцыю. Сказала на працы, што да чаго, паехала туды. Знайшла вуліцу, двухпавярховы шэры будынак. Зайшла, спакойная і дзелавая, у сёмы кабінет. У пакоі каля сцен стаяла некалькі сталоў, і за кожным сядзеў чалавек. «Гэта ўсё следчыя», — падумала яна і сказала:

— Я да Савенкі.

— Я слухаю, — абазваўся чалавек з-за крайняга стала злева. Яна назвалася і ўважліва паглядзела на яго. Гэта быў высокі малады сімпатычны мужчына.

Ён з нечаканым халадком у голасе, неяк няўважліва, нават быццам непаважліва запрасіў яе сесці каля стала. «Чаму ён такі незычлівы? Нейкі вельмі незычлівы...» І яна, адчуваючы ў сабе нейкую незразумелую напятасць, села.

— Ну, расказвайце, — бясстрасны голас. — Я слухаю.

Яна ўсё і расказала — што выдумляць ці прыгадваць. Следчы, не перапыняючы, слухаў і нешта хуценька занатоўваў на паперы. Потым моўчкі дапісаўшы апошнюю фразу, сказаў:

— Тут усё з вашых слоў выкладзена. Распісвайцеся, — падсунуў ёй паперыну. — Вось тут, — паказаў пальцам. Яна, нейкая ужо нават нервозная — чаго ён такі з ёю? Быццам гэта яна ўкрала... — напісала, што ўсё запісана з яе слоў правільна, і, паставіўшы дату, распісалася. Не прачытаўшы напісанае. Яна нават зазлавала ўжо: «Быццам гэта я злодзей...» Суха развіталася ды пайшла.

Праз дзень ёй з міліцыі патэлефанавалі, мужчынскі голас папрасіў, каб прыйшла забрала свае рэчы — тыя, што ў яе ўкралі.

Адчуваючы, як гэта ёй непрыемна ўсё, паехала. Зайшла ў той жа самы кабінет, што і пазаўчора, — там зноў было некалькі, як яна зразумела, следчых, былі і наведвальнікі, і яе следчы таксама за сталом сядзеў. На стале каля яго ляжалі знаёмыя ёй рэчы: відэакамера, мабільнік, шкуркі нутрыі і два пярсцёнкі...

— Вось, забірайце, — не гледзячы на яе, паказаў рукою следчы. — Усе вашы?

— Мае, — сказала яна адно слова.

— Так што ўсё добра закончылася. Якія праблемы? — ён ужо нават усміхнуўся ёй, гэты следчы. Дзяжурная, канечне, усмешка, але ўсміхнуўся.

Яна моўчкі пачала складваць рэчы ў вялікі поліэтыленавы пакет і, запіхваючы іх, падумала: «Я ж іх сюды не прыносіла — чаму я павінна іх адсюль сама несці? Хай бы гэта зрабіў сусед Коля, бацька злодзея...» Але так яна толькі падумала, бо гаварыць гэтае не было каму — следчы ўтаропіўся ў свае паперы — яе ўжо побач з ім быццам і не было. Потым падсунуў ёй паперыну:

— Распішыцеся, што рэчы забралі.

Моўчкі распісалася.

Прывезла рэчы дадому. Распранулася. Уздыхнула. Было непрыемна на душы. Яна зрабіла сабе каву, бутэрброд. Трохі супакоілася. І потым зноў апранулася — трэба ж ехаць на працу, яшчэ рабочы дзень не скончыўся, толькі за поўдзень...

Выйшла са свае кватэры — стаяў у калідорчыку, адмыкаў свае дзверы Коля.

— Добры дзень, — сказала.

Коля неяк падцяўся ўвесь, аж быццам закалаціла яго.

— Мы ўсе грошы аддалі, у даўгі ўлезлі, каб толькі не пасадзілі сына! — сказаў раптам з нейкай непрымірымай злосцю. Яна адчула, што ён гатовы быў, каб толькі зачэпка якая, каб толькі яна яму не тое, што трэба, сказала,— гатовы быў нават ударыць яе...

І мільганула ў галаве: «Яшчэ й суда не было, а ён ужо ўсё знае...»

У ёй і цяпер не было ніякай помслівасці да суседзяў, ці да іхняга сына. І злосці ніякай...

Зайшла ў ліфт. Было толькі сумна-сумна. І неяк вельмі адзінока. Яшчэ тыдзень будзе на заробках Сцёпа. Здаецца, і грошы тыя не так ужо трэба — хутчэй бы ён прыехаў дадому.



## Анатоль ЗЭКАЎ

### ЖЫЦЦЁ

Як застаюся я сам-насам,
раптоўна з далечы тае
жыццё, праверанае часам,
увачавідкі паўстае.

І да драбніцы самай бачу,
нібыта лоўж разварушыў,
што мог пражыць яго іначай,
аднак пражыў так, як пражыў,

і дакараць сябе не трэба
за ўсё, што мог, а не зрабіў.
Я ўсё-ткі жыў пад гэтым небам
і час дарма не пратрубіў.

А што не так было ці будзе,
суддзя таму, напэўна, Бог.
Ён сам даруе хай і судзіць.

Я жыў.
І ўсё рабіў, як мог.

---

**Зэкаў Анатоль Мікалаевіч** *нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага універсітэта (1977) працаваў карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк», у камсамольскіх арганізацыях, рэдакцыях газет «Чырвоная змена» і «Книга и мы». Рэдагаваў газету «Добры вечар», штотыднёвік «Сталіца» і «Беларускую лясную газету», быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», рэдактарам аддзела прозы часопіса «Полымя».*

*Выдаў кнігі паэзіі «Боль сумлення» (1989), «Аварыя сумлення» (1996), «Лісты да цябе» (2005), «Чарнобыльскі вецер» (2006), «Промнік позірку твайго» (2008), сатыры і гумару «Дуэль» (1994), «Дуэль-2» (1995), «Кругі ў галаве» (2007), прозы «Вясельнае падарожжа ў Стамбул» (2000), для дзяцей «Чатыры зярняткі» (2000), «На арэхавым кані» (2003), «Мянтуз сярод мядуз» (2007).*

## СУМНЫ РОЗДУМ НА ЮБІЛЕЙ

Паўвека і пяць год яшчэ —
якраз і ёсць вось тая дата,
што болем сэрца апячэ:
пара і мне падлічваць страты.

Сяброў не дажыло так шмат
да дзвюх пяцёрак яркіх гэтых!
І хіба мне да пышных свят
і дат, якіх, на жаль, не ведаць

ні Сысу ўжо, ні Стрыжаку,
ні Рубіну, ні Пісьмянкову.
Іх даты там, на тым баку,
дзе назаўжды змаўкае слова —

хіба што ў вершах застаецца,
якія іх пераражылі.

Я не святкую, ды здаецца,
што да мяне сябры прыйшлі.

Наліты чаркі да краёў.
Стаяць сябры. Жывыя.
Кожны
са мною чокнуцца гатоў.
Ды чокнуцца, на жаль, не можам.

## МАТЧЫНА МОВА

Мяне хрысціла мова матчына,
калі я ў шлях няблізкі выпраўляўся,
і як жыццё б ні перайначвала,
не здрадзіў ёй,
не адцураўся...

* * *

Як птушка ў шыбу — дзюбай ці крылом —
пагрукае,
у час такі
падумай пра далёкі родны дом,
дзе ў клопатах сваіх бацькі,
адправіўшы дзяцей у гарады,
век дажываюць у журбе
і ўкрадкай пазіраюць на клады,
дзе месца выбралі сабе.

А што, як стук птушыны — гэта знак
бяды,
які ляціць ад іх?
Мо гэта са шпакоўні роднай шпак
цябе гукае ў гэты міг?

Мо ластаўка, што ў бацькавым хляве
звіла пад вільчыкам гняздо,
цябе з мальбою праз акно заве
ляцець за ёй у родны дом?

А можа быць, падстрэшны верабей,
што прыляцеў сюды здалёк,
адчайна так трывогу б’е,
бы клічам матчыным:
                    — Сынок!

Ці шпак,
        ці ластаўка,
                    ці верабей —
цяпер аб тым не думай ты,
хутчэй зрывайся і ляці хутчэй
на знак птушыны,
                    знак бяды.

Чым грукнулі:
            ці дзюбай, ці крылом —
гадаць не варта ў час такі.
Ляці,
    ляці хутчэй у родны дом,
пакуль чакаюць там бацькі.

## ДАРОГА

...І абрынецца лес на дарогу,
і дарога пацягнецца ў лес,
каб акрэсліць абрысамі строга
свой дарожна-лясны інтарэс.
Будзе бегчы імкліва наперад —
а калі й азірнецца мо дзе,
дык упэўніцца ў тым і паверыць,
што па ёй яшчэ нехта ідзе.

## КУПАЛЬСКІЯ АГНІ

Гараць Купальскія агні
і зырка асвятляюць далеч,
і ноч глядзіць у тыя дні,
якія ўзнікнуць за Купаллем.
Што наварожыць ім яна,
якую напрарочыць долю,
пакуль не бачыцца і ў снах,
ну, а наяве — дык тым болей.
А ўжо вось-вось — і тыя дні,
і першы з іх — за гэтай ночкай...

Гараць Купальскія агні —
і па рацэ плывуць вяночкі.

## ПАТАПАЎСКІЯ ВУЛІЦЫ

### 1. КРЫВІЧЫ

Я вінаваты перад ёй,
хоць і не ведаю, у чым.
Вярніце вуліцы маёй
назоў адвечны — Крывічы.

Які тут пралетарый жыў,
што Пралетарскай наракл?
І з іменем,
зусім чужым,
яна чужая на зямлі.

Ёй тое скінуць бы імя
і шыльду даўнюю прыбіць,
ды толькі вуліца сама
таго не здольная зрабіць.

Таму з віною перад ёй
душа штодня крычма крычыць:
«Вярніце вуліцы маёй
назоў адвечны — Крывічы!»

### 2. ГАВЕЛЬСКІ ШЛЯХ

Шлях свой выводжу на Гавельскі Шлях —
шлях і шчымлівы да болю, і любы.
Некалі тут цётка Прося жыла
і невядомы тады яшчэ Дзюба.

Ды, як гарэзіў сярод хлапчукоў,
пэўна, у час той усё-ткі Валодзя
мроіў у пошуку першых радкоў,
і, мабыць, тут жа ён іх і знаходзіў.

Шлях, дзе і шчасця хапала й тугі,
зведаны дружба, спагада і звягі…
Гэта пасля разышліся шляхі,
што пачыналіся з роднага Шляху.

...Час праляцеў — і ўжо бачна здаля,
што маладых стала меней у вёсцы,
як і на вуліцы Гавельскі Шлях,
хоць і завецца яна Камсамольскай.

* * *

Згадваючы даўнія часы,
у шарэнгах, нібы на парадах,
на палі вяртаюцца лясы,
на адваяванае ў іх ляда.

Як на іх спрадвеку чалавек
наступаў штодня праз горы, рэкі,

так яны цяпер з-за гор і рэк
наступ свой вядуць на чалавека.

Хіба продкі думалі калі,
што надыдзе гэткі час прагрэсу —
і травой зарослыя палі
іх нашчадкі зноўку вернуць лесу?

Ну а продкі — хіба для красы
гнулі спіны, карчавалі ляда?

Смокчуць пот іх на палях лясы,
аднаўляюць свой лясны парадак.

## ВЯЗ

Пярун не раз
цаляў у вяз,
ды шанцавала вязу.
То ж не прыспеў,
мажліва, час
зваліць той вяз
да часу.

Вяз не круціўся, як уюн,
а звеку ў навальніцу
стаяў і зіркаў,
як Пярун
на небе мітусіцца.

Ды збан усё-ткі да пары
ваду, як кажуць, носіць.
Аднойчы ляснула ўгары —
і вяз зваліла вобзем.

Ён чаплянуўся за платы,
як за жыццё,
ды позна...

З бярозак падалі лісты.
Як плакалі бярозы!

## ВОЗЕРА БАЛДУК

Не пейзажыст я, не аматар
квяцістых розных апісанняў.
А тут расчуліўся занадта,
што не магу заснуць да рання.
І я выслізгваю з палаткі,
каб павітаць Балдук уночы
і разгадаць усе загадкі,
якія мне задаць ён хоча.
Уніз спускаюся з пагорка
і бачу, як на даляглядзе,
нырнуўшы з небнай высі, зоркі
купаюцца ў азёрнай гладзі...

* * *

Я, уцёкшы бліжай да прыроды,
прывыкаю жыць у цішыні.
Не раўнуй мяне да адзіноты,
што і ночы я адзін, і дні.

На душы так лёгка і суцішна,
як, бадай, даўно ўжо не было,
ды і сам я стаў, здаецца, іншы,
быццам з цемры выйшаў на святло.

То ж куды падзелася маркота,
і нішто не тлуміць галаву.
Не раўнуй мяне да адзіноты.
Я цяпер хіба што і жыву.

* * *

Мне сняцца ненапісаныя вершы,
я нават іх у сне чытаю.
Ды вось бяда: штораз, калі прачнешся,
імгненна і яны знікаюць.

Ні памяццю, ні вокам не ўчапіцца
хоць у адзін які б радочак.
Здаецца, толькі што былі як быццам,
а ўжо зляцелі ў цемру ночы.

Над аркушам схілюся — і злавацца
тым часам пачынаю болей,
што вершы ненапісаныя сняцца,
а тыя, што пішу, — ніколі.

## РАЗВІТАЛЬНЫ ТРЫЯЛЕТ

З табой нас разлучыла восень,
як жаўталіст з галінкай роднай.
І стала на душы самотна.
З табой нас разлучыла восень.

Мяне жыццё па свеце носіць,
ды згадваю адно заўсёды:
з табой нас разлучыла восень,
як жаўталіст з галінкай роднай.

* * *

Ад мамы, ад яе парога,
ім абазначанае рыскі,
вядзе жыццёвая дарога
у свет і блізкі, і няблізкі.

Перад ад’ездам азірнуся,
каб хату родную пабачыць,
і веру, што яшчэ вярнуся
на той парог.
А як інакш?



## Дар'я ДАРОШКА

* * *

Бяда прыйшла знянацку, нечакана.
Яна ішла стагоддзі праз снягі,
Балоты, не цуралася падману,
Каб скасаваць расплату за грахі.
Часінаю спагаднае жалобы
Прыходзіць, як вядома, не адна:
У спадарожніках — заўжды хваробы;
Яе надзея — здрада і мана,
Яе стварэнні — голад і вайна.

* * *

Не буду аб каханні гаварыць,
Бо ты даўно аддаўся захапленню
Той зоркай зла, халоднай зоркай-ценем,
Што без цяпла і радасці мігціць.

Сваё імкнешся сэрца ашукаць,
Але ў зімовым ясна-золкім свеце
Растануць цені, і ў наступным леце,
Як зорку, будзеш ты мяне шукаць.

* * *

Ізноў памылілася… Я меркавала:
Каханню твайму і ста зім будзе мала,

---

**Дар'я Дарошка (Дарошка Таццяна Леанідаўна)** *нарадзілася 23 лютага 1977 года ў Гомелі. Скончыла гомельскае медвучылішча (1996), філалагічны факультэт ГДУ імя Ф. Скарыны (2004). Працавала медсястрой у дзіцячай бальніцы, актрысай у Гомельскім дзяржаўным тэатры лялек, бібліятэкарам у гарадской бібліятэчнай сістэме.*

*Друкавалася ў часопісе «Маладосць», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у газеце «Гомельская праўда».*

Каб згасла яно. Ды што адбылося? —
Памерла каханне ў першую ж восень.

* * *

Надта маркотна і вельмі ўжо цесна —
Просіцца свет мой на волю, у песню.
Хочацца свету спазнаць краявіды,
Толькі навокал калючыя дзіды
Вечна трапляюцца неспадзявана.
Свет мой навобмацак сунецца ў ранак.
Як прыгаломшаны, сонца цікуе…
Болей ніколі не буду ўбаку я
Ад першаіснага неўтаймавання
Сонечных промняў і шчасця кахання!

* * *

Зноў па лёсе нашага кахання
Плача несуцешна птушка каня,
Ды напіцца век яна не можа,
Бо лятае вельмі асцярожна,
Бо лятае вельмі ўжо нясмела
Ўсё жыццё яна па свеце белым.
І каханне напаткала скруха.
Нават, калі ўзімку завіруха, —
Не заўважыць: холадна не будзе.
Нават завіруха не астудзіць
Гэты сорам, гэты жаль і роспач.
І не піць каханню зоры-росы
І ваду з аблокаў на світанні
У далонях сонечнага рання.
Сіл няма ахвяраваць спакоем.
Быццам жа і робіць сёе-тое,
Ды дарэмна ўсё, калі баіцца
У нябёсы паляцець сініца.

* * *

У лістападным карагодзе
Мінулых дзён
Ты ўсё шукаў і не знаходзіў
Мой даўні сон.

Было там добра, вельмі цёпла
Табе і мне —
У гэтым дзіўным і прыгожым
Адзіным сне.

**Генрык СЯНКЕВІЧ**

# ДАЗОРЦА МАЯКА

*Апавяданне «Дазорца маяка» польскага пісьменніка XIX стагоддзя Генрыка Сянкевіча, аўтара такіх вядомых твораў, як раманы «Крыжакі», «Патоп», «Агнём і мячом», тэмай і прататыпам персанажа звязана з Беларуссю. Сянкевіч дадаў да твора такое тлумачэнне: «Гэтае апавяданне грунтуецца на сапраўдным здарэнні...» Праваобразам героя быў Мечыслаў Сялява, які паходзіў з Віцебскай губерні. Паколькі ён лічыў сябе палякам, а хутчэй за ўсё быў проста каталіком, то верагодна, што нарадзіўся ён у заходняй частцы Віцебскай губерні, магчыма, на Пастаўшчыне або Глыбоччыне.*

## I

**Здарылася**, што прапаў дазорца маяка ў паселішчы Аспінваль непадалёк ад Панамы. Гэта сталася ў час шторму, таму палічылі, што няшчаснага змыла хваляй. Не знайшлі і ягонай лодкі, якая звычайна стаяла ў затоцы сярод скал. На месца дазорцы маяка трэба было хутчэй знайсці новага, бо маяк меў вялікае значэнне для караблёў, што плылі з Нью-Йорка ў Панаму. У заліве Маскітаў мноства меляў і рыфаў, ісці сярод якіх цяжка нават удзень, а ўночы, асабліва калі над морам, нагрэтым паўднёвым сонцам, навісае густы туман, пракласці шлях і зусім немагчыма. І тады адзіным арыенцірам для шматлікіх суднаў застаецца святло маяка. Паклапаціцца пра тое, каб знайсці новага дазорцу маяка, належала консулу Злучаных Штатаў Амерыкі, акрэдытаванага ў Панаме, і клопат гэты быў не просты. Па-першае, чалавека трэба было знайсці за дванаццаць гадзін, па-другое, наступнік мусіў быць надзвычай сумленным чалавекам, абы-каго не прымеш; а да таго ж і кандыдатаў на гэтую пасаду не было. Жыць на маяку не так проста, асабліва леным і валацужным жыхарам поўдня. Той, хто жыве на маяку — усяго вязень. Ён можа пакінуць сваю скалістую выспу хіба толькі ў нядзелю. Штодня прыплывае човен з Аспінваля, прывозіць правіянт і свежую ваду, а потым на выспе, што складае не болей чым морг, не застаецца нікога, апрача дазорцы. Ён павінен жыць на маяку, падтрымліваць яго ў належным стане: удзень развешваць рознакаляровыя сцяжкі, якія паведамляюць маракам паказанні барометра, а ўвечары запальваць ліхтар. Не такая вялікая праца, здавалася б, аднак, для таго, каб запаліць агонь на вяршыні вежы, трэба падняцца наверх па крутой лесвіцы, у якой больш за чатыры сотні ступенек, а дазорцу часам бывае патрэбна прарабіць гэты шлях некалькі разоў на дні. Словам, гэта жыццё мніха-пустэльніка. Не дзіўна, што містэру Ісаку Фальканбрыджу было не так і проста знайсці таго, хто мог бы надоўга заступіць на месца нябожчыка, і можна было зразумець ягоную радасць, калі нечакана такі прэтэндэнт з'явіўся. Гэта быў стары чалавек гадоў пад семдзесят, а можа, і болей, але рухавы, з паставай вайскоўца. У яго былі зусім белыя валасы, твар смуглы, як у крэолаў, але сінія вочы яскрава сведчылі, што ён не жыхар поўдня. Ягоны твар выглядаў невясёлым і засмучаным, але пачцівым. Ён адразу спадабаўся Фальканбрыджу. Але яго трэба было яшчэ праэкзаменаваць, і паміж імі завязалася размова.

— З якіх вы мясцін родам?

— Я паляк.

— Што рабілі дагэтуль?

— Бадзяўся па свеце.

— Дазорца маяка павінен любіць сядзець на адным месцы.

— Я хачу адпачыць.

— Вы служылі дзе-небудзь? Можа, у вас ёсць якія-небудзь дакументы з мінулых месц працы ці службы?

Стары выцягнуў з-за пазухі скрутак палінялага шоўку, які нагадваў кавалак старога сцяга. Разгарнуў яго і прамовіў:

— Вось мае дакументы. Гэты крыж я атрымаў у трыццатым годзе. А вось другі, іспанскі, з часоў вайны карлістаў; трэці — французскі, Ганаровага легіёна; чацвёрты мне далі венгры. Потым я ваяваў у Злучаных Штатах супраць паўднёвых, там крыжоў не давалі, але вось пасведчанне.

Фальканбрыдж узяў паперу і пачаў чытаць.

— Скавінскі? Гэта пра вас тут пішуць? Ого! Два сцягі, уласнаручна захопленыя ў часе штыкавой атакі!.. Вы былі добрым салдатам!

— Пастараюся быць і добрым дазорцам.

— Вам спатрэбіцца штодня па некалькі разоў залазіць на вежу. Ці здаровыя ў вас ногі?

— Я пехатой прайшоў амерыканскую пустыню.

— *All right!* А з марской справай вы знаёмы?

— Я тры гады праслужыў на кітабойным судне.

— Відаць, вы паблукалі па свеце.

— Толькі спакою не зведаў.

— Чаму?

— Такі ўжо лёс...

— Мне здаецца, што для дазорцы маяка вы стараватыя.

— *Sir!* — раптам усхвалявана перапыніў прэтэндэнт. — Я вельмі стаміўся і спакутаваўся. Самі бачыце, колькі мне давялося ўсяго перажыць. Гэтае месца якраз адно з такіх, якое мне вельмі хацелася б заняць. Я стары, мне хочацца спакою! Мне пара ўжо сказаць сабе: тут тваё месца, тут твой порт. Ах, *Sir!* гэта залежыць толькі ад вас! Другі раз падобнай аказіі можа не надарыцца. Якое шчасце, што я аказаўся ў Панаме... Прашу вас... У імя ўсяго святога... Я нібыта карабель, які патоне, калі не дасягне прыстані... Калі вы хочаце ашчасліваць старога... Клянуся, што буду старацца, але... мне абрыдла бадзяцца па свеце...

Ясна-блакітныя вочы старога выказвалі такую палкую просьбу, што Фальканбрыдж, у якога была добрая простая душа, расчуліўся.

— *Well!* — сказаў ён. Я бяру вас на работу. Вы будзеце дазорцам маяка.

Твар старога заззяў невыказнай радасцю.

— Дзякую.

— Вы можаце ўжо сёння паехаць на маяк?

— Магу.

— Тады — *good bye!..* І яшчэ адно: за любое парушэнне на службе вы будзеце звольнены.

— *All right!*

У той самы вечар, калі сонца схілілася да гарызонту і пасля яснага дня наступіла ціхая ноч, новы дазорца сапраўды быў ужо на месцы, бо, як звычайна, маяк кідаў на хвалі снапы зыркага святла. Ноч стаяла надзіва спакойная, ціхая, сапраўдная паўднёвая ноч, прасякнутая шызай туманнай імглой, праз якую свяціў месяц, вакол якога туман утварыў тонкі круг з мяккімі неакрэсленымі беражкамі. Толькі мора было неспакойнае, бо пачынаўся прыліў. Скавінскі

стаяў на верхняй пляцоўцы маяка, якраз каля вялікага агню, знізу ён выглядаў маленькай чорнай кропкай. Ён збіраўся з думкамі, спрабуючы ўсвядоміць сябе ў сваім новым становішчы. Але яго нібы нешта гняло, і думкі снавалі бязладна. Ён адчуваў сябе загнаным зверам, якому ўдалося ў рэшце рэшт схавацца ад пагоні. Наступіў усё ж і для яго час роздыху. Адчуванне поўнай бяспекі напаўняла ягоную душу глыбокай асалодай. Нарэшце ён можа на гэтай выспе на час забыцца пра доўгія гады бадзяння, мноства няшчасцяў і няўдач.

Ён і сапраўды нагадваў карабель, пашкоджаны бурай, яна паламала яму мачты, парвала снасці, ветразі, кідала яго ад паднябесся на самае дно мора, біла хвалямі, пырскала пенай, а ён усё ж ацалеў і дабраўся да берага. Відарысы той буры імкліва праплывалі ў ягонай памяці, і тым болей спакойнай уяўлялася яму будучыня, якая наступіць цяпер. Пра некаторыя са сваіх дзівосных прыгод стары расказаў Фальканбрыджу, але ён не ўспомніў пра тысячы іншых. Яму не шанцавала ў жыцці. Варта было яму разбіць дзе-небудзь свой намёт і раскласці цяпельца, збіраючыся асталявацца надоўга, як нібыта нейкая злая віхура вырывала калкі намёту, гасіла агонь, а яго самога несла некуды, нібы на пагібель. Пазіраючы з пляцоўкі маяка на асветленыя ліхтаром хвалі, ён успамінаў аб тым, што яму выпала перажыць.

Ён паспеў паваяваць аж у чатырох частках свету, бадзяўся па розных краінах, паспеў навучыцца многім справам. Як чалавек працавіты і сумленны ён неаднойчы назапашваў грошай, ды нечакана яны знікалі, як ён ні ашчаджаў іх. Даводзілася яму капаць золата ў Аўстраліі, шукаць дыяменты ў Афрыцы, служыць у войску ва ўсходняй Індыі. Калі ён неяк заснаваў ферму ў Каліфорніі — увесь ураджай загубіла сухмень. Калі паспрабаваў гандляваць з дзікімі плямёнамі, што жывуць сярод бразільскіх джунгляў, то ягоны плыт разбіўся на Амазонцы, а ён сам, безабаронны, амаль голы блукаў некалькі тыдняў па джунглях, спажываючы толькі сырыя плады, баючыся драпежных звяроў. Заняўся кавальскай справай у Гелене, што ў Арканзасе, але кузня згарэла ў час пажару, які ахапіў увесь горад. А потым ён трапіў да індзейцаў у Скалістых гарах, цудам застаўся жывы, — яго выратавалі канадскія стралкі. Давялося яму плаваць матросам на караблі, які рабіў рэйсы паміж Багіяй і Бардо, а потым гарпуншчыкам на кітабойным судне: абодва разбіліся. Трымаў фабрыку сігар у Гаване, злёг з цяжкай хваробай, а яго ў гэты час абрабаваў кампаньён. І вось ён аказаўся ў Аспінвалі, здавалася — тут ягоныя пакуты нарэшце скончацца. Ну што ўрэшце яшчэ магло здарыцца з ім на гэтым скалістым востраве? Няма пагрозы ні ад вады, ні ад агню, ні ад людзей. Якраз ад людзей ён зазнаў найменей злога. Яму часцей трапляліся добрыя людзі, чым паганыя. Затое ўсе чатыры стыхіі не адставалі ад яго. Людзі казалі, што яму проста не шанцавала, так яны тлумачылі ўсё, што з ім здаралася. Ён і сам урэшце стаў крыху прымхлівым. Верыў, што нейкая магутная помслівая прыхамаць знаходзіць яго, дзе б ён ні быў, на сушы ці на вадзе. Але расказваць пра свае прымхі ён не любіў, толькі часам, калі яго дужа ўжо дапытвалі, чыя ж рука шкодзіць яму, таямніча паказваў на Палярную зорку і тлумачыў, што зло ідзе адтуль... Сапраўды, адно няшчасце ішло за другім, яны маглі каго хочаш збіць з толку, асабліва таго, хто іх шмат зведаў. Ды ўсё ж ён быў цярплівы, як індзеец, валодаў вялікай спакойнай сілай супраціву, якая ўласціва толькі чыстым душам. Некалі ў Венгрыі ён атрымаў пятнаццаць штыкавых ран толькі таму, што не хацеў здавацца. Вось гэтак жа нязломна трымаўся Скавінскі і ў нягодах лёсу. Як працавітая мурашка, лез на гару. Сто разоў яго скідвалі з гары, а ён караскаўся на яе ў сто першы раз. Ён увогуле быў дзіваком. Стары ваяка, прайшоў праз жудасныя вогненныя віхуры, загартаваўся ў нягодах, зазнаў столькі бедаў, а душой — чыстае дзіця. Калі на Кубе людзей касіла эпідэмія, ён раздаў

хворым увесь свой немалы запас хініну, не пакінуўшы сабе ані грама. Яшчэ і тое дзівіла ў ім, што пасля столькіх нястач ён быў упэўнены, што настануць яшчэ для яго і добрыя часы. Кожную зіму ён ажыўляўся і спадзяваўся на нейкія перамены ў лёсе. З нецярплівасцю чакаў іх, жыў надзеяй усё лета...

Але адна зіма змяняла другую, а Скавінскі дачакаўся толькі таго, што пасівеў, пастарэў, стаў не такі жвавы, як раней. Ягоная цярплівасць цяпер нагадвала ўжо хутчэй пакорлівасць лёсу. На месца колішняга спакою заступіла празмерная чуллівасць, загартаваны салдат стаў больш нагадваць плаксівае дзіцянё, гатовае ліць слёзы з любой нагоды. Да таго яго даймала туга па радзіме, яна раз-пораз ахоплівала яго з самай рознай нагоды: то ластавак убачыць або яшчэ якіх птушачак, падобных на вераб'ёў, то снег на гарах, то пачуе якуюсьці мелодыю, што нагадае яму песню, чутую раней... І ўрэшце ён стаў апантаны толькі адной думкай — думкай пра адпачынак. Яна цалкам авалодала душой старога і прыглушыла ў ім усе астатнія жаданні і надзеі. Вечны бадзяга, ён ужо не мог прыдумаць для сябе нешта больш жаданае, чым знайсці які-небудзь спакойны куток, у якім змог бы адпачыць і ціха чакаць скону. Можа, якраз таму, што ўвесь час нейкія выхілкі лёсу насілі яго па розных марах і краінах, не даючы роздыху, яму пачало здавацца, што самае лепшае шчасце для чалавека — не бадзяцца. І вось жа не прайшло і дванаццаці гадзін, як атрымаў пасаду, якая падыходзіць яму як нельга лепей.

Здавалася, нібы ён упершыню бачыць мора: ужо на вежы ў Аспінвалі прабіла дванаццаць, а ён усё сядзеў на балконе, і не мог налюбавацца. Унізе, пад ягонымі нагамі плёскала хвалямі мора. Пражэктар кідаў у цемру вялізны прамень святла, за межамі яго позірк старога губляўся ў абсалютна чорнай, таямнічай і страшнай далечы. Але гэтая далеч нібыта гарнулася да святла. Доўгія, на паўвярсты, хвалі траплялі ў паласу святла, з шумам падступалі да самай мяжы астраўка, іх грабяні ігралі ружовымі водбліскамі ў промні пражэктара. Набліжаўся прыліў, заліваючы пясчаную водмель. Таямнічая гаворка акіяна далятала з цемры ўсё гучней і чутней, часам здавалася, што недзе блізка страляюць гарматы, шумяць дрэвы магутных пушчаў, то нібы недзе далёка гучаць людскія галасы. Потым акіян заціхаў на некалькі хвілін. Да вушэй старога даляталі ў гэты час толькі цяжкія ўздыхі, потым нібыта нечы плач, і зноў грымелі грозныя гарматныя раскаты. Неўзабаве наляцеў вецер, насоўваўся шторм. Сярод цёмных марскіх хваль заблішчалі зялёныя ліхтарыкі, якія запаліліся на мачтах караблёў. Гэтыя зялёныя агеньчыкі то высока ўзляталі, то ападалі. Скавінскі спусціўся ўніз, зайшоў у свой пакой. Шторм ужо завыў на поўны голас. Там, знадворку, людзі на караблях змагаліся з ноччу, з цемрай, з хвалямі; а ў пакоі было ціха і спакойна.

## II

Паплылі адна за адной гадзіны, дні і тыдні. Маракі кажуць, што калі мора разбушуецца, то нехта нібы кліча іх у начной цемрадзі. Калі бясконцасць мора здольна так клікаць, то, магчыма, у старасці людзей можа клікаць і іншая бясконцасць, яшчэ больш цёмная і таямнічая, а яны, спакутаваныя за сваё жыццё, ахвотна прыслухоўваюцца да тых галасоў. Але каб слухаць іх, патрэбна цішыня. Да таго ж старасць любіць заставацца сам-насам, нібы ў прадчуванні труны. Маяк якраз і быў для Скавінскага амаль што трунoй. Няма нічога больш аднастайнага, чым жыццё на маяку. Маладыя звычайна хутка кідаюць гэтую службу. Ці не таму часцей дазорцамі маякоў бываюць людзі паважнага веку, панурыя, здумёныя. Калі ж часам хто з іх на нейкі час сыдзе са службы і апынецца сярод

людзей, то ходзіць між іх нібыта яшчэ не ачомаўшыся пасля глыбокага сну. На маяку адзін дзень робіцца падобным на другі, як падобныя адна на адну пацеркі ў ружанцы; толькі часам, калі мяняецца надвор'е, бывае хоць нешта адметнае. Скавінскі між тым адчуваў сябе такім шчаслівым, якім яшчэ ніколі ў жыцці не быў. Уставаў на досвітку, снедаў, прачышчаў шкло ліхтара, а потым гадзінамі сядзеў, углядаючыся ў марскую далеч, і ягоныя вочы ўсё ніяк не маглі наталіцца вобразамі, якія ўсплывалі перад імі. Часта на бязмежнай блакітнай прасторы можна было бачыць сваткі распушчаных ветразей, якія свяціліся ў промнях сонца так ярка, што трэба было прымружваць вочы ад іх зыркага бляску; часам караблі плылі, карыстаючыся спадарожным ветрам, які называецца пасат, выцягнуўшыся доўгім ланцужком, адзін за адным, нібы чайкі або альбатросы. Чырвоныя бакены, якія абазначалі бяспечны шлях, калыхаліся на хвалях лёгкімі, плаўнымі рухамі. У поўдзень кожны раз сярод парусоў неўпрыкмет узнікаў густы дым. Гэта параход з Нью-Йорка вёз падарожнікаў і тавары ў Аспінваль, за ім цягнуўся доўгі пеністы след. А з другога боку перад Скавінскім адкрываўся як на далоні і сам Аспінваль з яго ажыўленым портам. Там віднеўся лес мачтаў, стаяла мноства караблёў; воддаль бялеліся белыя хаціны і вежы горада. Старога агортвала нейкае салодкае здранцвенне. Ён адчуваў душой, што гэта і ёсць той спачын, якога яму хацелася. Скавінскі цешыўся сваім шчасцем, але чалавек хутка асвойваецца з лепшым лёсам, і ў яго паступова ўмацоўвалася вера і ўпэўненасць, што раз ужо людзі будуюць прытулкі для інвалідаў, чаму Бог урэшце не мог паклапаціцца пра аднаго са сваіх інвалідаў? Час ішоў і пераконваў яго ў гэтым. Стары прывык да вежы, да ліхтара, да скалаў, да берагавога пяску і да самоты. Ён пазнаёміўся і з чайкамі, якія жылі ў расселінах скалаў, а вечарамі бавілі час на даху маяка. Стары прызвычаіўся прыносіць ім рэшткі ежы, і так прыручыў іх, што неўзабаве птушкі зляталіся і каля яго бушавала сапраўдная бура белых крылляў, а ён хадзіў сярод чаек нібы пастух сярод авечак. У час адліву спускаўся ўніз, ішоў на пясчаную водмель, збіраў там смачных смаўжоў і прыгожыя жамчужныя ракавіны, якія мора пакідала на пяску. А ўночы, пры святле месяца і маяка, лавіў рыбу, якой было многа ў заліве паміж скалаў. Урэшце ён палюбіў свой бязлесны востраў, скупая расліннасць якога па-свойму нават адцяняла далягляды.

Маяк ахоўваў яго ад усіх бедаў. Стары пакідаў яго толькі нядзельнымі ранкамі. Апранаў цёмна-сіні мундзір дазорцы з сярэбранымі гузікамі, надзяваў усе свае ўзнагароды, і тады, выходзячы з касцёла, ён горда ўзнімаў сваю сівую галаву, калі чуў, як мексіканцы гаварылі: «У нас дужа добры дазорца маяка: не ерэтык, хоць і амерыкос». Пасля імшы стары вяртаўся на востраў, вяртаўся шчаслівы, бо ўсё яшчэ не верыў у тое, што з ім сталася. У нядзелю ён яшчэ чытаў іспанскую газету, купленую ў горадзе, або нью-йоркскі «Геральд», пазычаны ў Фалканбрыджа, і прагна шукаў там весткі з Еўропы. Беднае старэчае сэрца! На гэтым маяку, у другой палове зямнога шара яно ўсё яшчэ білася для роднага краю... Іншы раз, калі карабель прывозіў яму штодзённы запас ежы і вады, ён спускаўся ўніз і заводзіў размовы з партовым стражнікам Джонсам. А потым ён стаў увачавідкі апускацца. Перастаў бываць у горадзе, чытаць газеты, спрачацца аб палітыцы з Джонсам. Мінаў тыдзень за тыднем, а яго ніхто не бачыў, ён таксама. Адзіным сведчаннем таго, што стары жывы, была забраная з берага правізія і святло маяка, якое загаралася штовечар з той дакладнасцю, з якой у тых мясцінах сонца ўстае з вады раніцой. Відаць, старому ўвогуле збрыдзеў увесь свет. І нават не настальгія была таму прычынай, і яна ўжо цяпер змянілася пакорай лёсу. Увесь свет старога цяпер пачынаўся і канчаўся на ягоным астраўку. Ён прывык да думкі, што пакіне маяк толькі тады, калі памрэ, і проста забыўся на тое, што нешта яшчэ

існуе ў свеце. Да таго ж ён стаў містыкам. Яго ласкавыя блакітныя вочы сталі вачыма дзіцяці, нечым заклапочаныя, утаропленыя ў далеч. У сваёй адзіноце, без якога-небудзь акружэння, хоць бы самага простага, стары пачаў губляць сэнс сваёй існасці, перастаў адчуваць сябе асобай, і чым далей, тым болей зліваючыся з тым, што было вакол яго. Ён ужо ні аб чым не думаў, толькі бессэнсоўна адчуваў, што і неба, і вада, і скалы, і залаты бляск пяску, і напятыя ветразі, і чайкі, і прылівы з адлівамі, усё гэта зліваецца ў адну таямнічую душу. Так гэта яму выдавала, і ён сам акунаўся ў гэтую таямніцу, і адчуваў гэтую душу, якая жыве і існуе на свеце. Паглыбіўся, закалыхаў сябе, забыўся пра ўсё, і ў гэтым абмежаванні асабістага, уласнага быцця, у гэтым існаванні-сне ён знайшоў свой спакой, такі вялікі, нават як бы падобны да смерці.

## III

Але неўзабаве прыйшло абуджэнне.

Аднаго дня, калі карабель прывёз ваду і правіянт, Скавінскі спусціўся гадзінай пазней уніз і ўбачыў, што яму прывезлі нейкі пакунак. На ім былі маркі Злучаных Штатаў і адрас: “Skawiński Esq.” (пану Скавінскаму), напісаны на тоўстай парусіне. Зацікавіўшыся, Скавінскі надарваў палатно і ўбачыў кніжкі. Узяў у рукі адну з іх, зірнуў на вокладку і тут жа паклаў — ягоныя рукі раптоўна задрыжалі. Ён зноў угледзеўся ў вокладку, нібы не верачы вачам, яму здавалася, што ён спіць: кніжка была на польскай мове. Што гэта магло значыць? Хто мог даслаць яму кніжкі? У першую хвіліну ён і не ўспомніў нават, што яшчэ ў самым пачатку працы на маяку вычытаў у «Геральдзе» пра заснаванне польскага таварыства ў Нью-Йорку і тады ж паслаў на яго адрас палову свайго штомесячнага акладу, які ён ні на што не меў патрэбы траціць. Аказваецца, таварыства ў знак падзякі прыслала кніжкі. Так што з’яўленне іх тут было зусім натуральным, але стары спачатку ніяк не мог даўмецца, адкуль яны ўзяліся. Польская кніжка ў Аспінвалі, у яго на маяку, у гэтым самазабыцці, была для яго нечым надзвычайным, нібы подых даўнейшых часоў, нават як цуд. Яму нават падалося, бы тым маракам у начной цемры, што нехта нібы паклікаў яго, назваў па імю знаёмым, толькі забытым голасам. Некалькі хвілін ён пасядзеў з заплюшчанымі вачыма і нават быў упэўнены, што вось расплюшчыць вочы і сон скончыцца. Але не! Раскрытая пасылка ўсё гэтак жа ляжала, асветленая промнямі сонца, а на ёй кніжка. Калі стары зноў працягнуў да яе руку, то пачуў у цішыні, як б’ецца ягонае сэрца. Глянуў: гэта былі вершы. На вокладцы вялікімі літарамі выдрукавана назва: «Пан Тадэвуш», ніжэй імя аўтара — Адам Міцкевіч. Гэтае прозвішча было добра знаёма Скавінскаму; ён ведаў, што належыць яно вялікаму паэту, нават і творы ягоныя ўжо чытаў раней, калі быў у Парыжы ў трыццатых гадах. Потым, калі ваяваў у Іспаніі і Алжыры, не раз чуў ад ад суайчыннікаў пра вялікую славу вешчуна, але тады часцей браў у рукі стрэльбу, чым кніжку. У тысяча восемсот сорак дзевятым годзе ён выехаў у Амерыку і ў сваім поўным прыгод жыцці рэдка сустракаў землякоў, а кніг на польскай мове ўвогуле не бачыў.

З вялікай нецярплівасцю і хваляваннем перагарнуў вокладку. Яму адразу здалося, што на ягонай самотнай скале пачынаецца нешта святочнае. Наступіла хвіліна вялікага спакою і цішыні. Гадзіннік на вежы ў Аспінвалі прабіў пяць гадзін. На ясным небе не было ніводнай хмурынкі, толькі некалькі чаек плавалі ў блакіце. Акіян злёгку гайдаўся. Прыбярэжныя хвалі ціха шапталі, ласкава кранаючыся пясчанага берага. Удалечыні весела бялелі дамы Аспін-

валя, зелянелі пышныя пальмы. Сапраўды, у прыродзе было нешта ўрачыстае, спакойнае і велічнае. І ў гэтай цішыні пачуўся дрыготкі голас старога, ён чытаў услых, каб лепей зразумець:

Нібы здароўе ты, мая айчына.[1]
Яно, пакуль ліхой бяды не чыніць,
Не цэніцца. Цяпер красу тваю жывую
З тугой згадаў я, бо якраз яе малюю...

У Скавінскага адняло мову. Літары заскакалі перад вачыма; у грудзях нешта абарвалася і, нібы хваля, пачало ўзнімацца ўсё вышэй і вышэй, сціскаючы горла, не даючы вымавіць хоць слова... Прайшла хвіліна, ён авалодаў сабой і стаў чытаць далей:

Святая Дзева! Ты і ў Чанстахова,
І ў Вострай Браме ззяеш! Пад тваёй аховай
І наваградскі замак з яго верным людам!
Ты мне здароўе некалі вярнула цудам
(Калі ад заплаканай маці пад Тваю апеку
Аддадзены, зноўку расплюшчыў павекі).
І сёння я пешшу магу да твайго парога
Ісці, каб за лёс свой падзякаваць Богу,
Так, ты нас цудам вяртаеш на ўлонне айчыны...

Сэрца перапоўнілася хваляваннем, не было сіл цярпець. Стары ўскрыкнуў, як ад болю, і ўпаў на зямлю, яго белыя валасы асыпаў марскі пясок. Ужо сорак гадоў мінула, як ён не бачыў радзімы, і толькі Бог ведае, чаму не чуў роднай мовы, а тут мова сама прыйшла да яго, пераплыла акіян і знайшла гаротніка: на другім баку зямнога шара, такая дарагая, такая любімая, такая прыгожая! Ён плакаў, але не ад болю, а толькі ад нечакана абуджанай вялікай любові, перад якой усё іншае — нішто... Ягоныя слёзы былі нібы прабачэннем перад гэтай любоўю, акая аказалася так далёка, што ён паспеў састарэць, зжыцца з адзінокай скалой, настолькі стаў абыякавым, нават і туга пачала забывацца. А цяпер ён «цудам вярнуўся», і гэта цвяліла сэрца. Адна хвіліна змяняла другую, а ён усё ляжаў. Чайкі праляцелі над маяком, крычалі, нібы непакоячыся пра свайго старога сябра. Якраз настаў час, калі ён іх карміў, таму некаторыя з іх зляцелі з вежы маяка ўніз. Потым іх зляцелася да яго яшчэ болей, некаторыя пачалі злёгку дзяўбці яго, махаць крыламі над ягонай галавой. Шум крылаў абудзіў яго. Наплакаўшыся, ён стаў выглядаць спакойным і засяроджаным, у вачах ззяла натхненне. Ён легкадумна аддаў птушкам, якія кружлялі над ім, усю сваю вячэру і зноў узяў у рукі кніжку. Сонца ўжо не стаяла над садамі і над трапічнымі лясамі Панамы, пераваліла перашыек, апускалася ў другі акіян, ён яшчэ ззяў пад яго промнямі, у паветры панавала ціша. Ён чытаў далей:

І зноў цяпер ляціць душа мая смутная,
Туды, дзе луг зялёны, дзе ўзгорак з гаем...

Раптам змрок асланіў літары на белай паперы, змрок кароткі, як імгненне. Стары прыхіліўся да выступу скалы і заплюшчыў вочы. І адразу ж тая, што «ў Чанстахова, і ў Вострай Браме ззяе», ўзяла ягоную душу і перанесла ў той край, «да тых палёў прыгожых, з жытам серабрыстым». На небе яшчэ

[1] Пераклад М. Кенькі.

палалі доўгія чырвоныя і залатыя палосы, а ён у іх святле пераносіўся ў родны край. У вушах зашумелі сасновыя лясы, забруіліся родныя рэкі. І ўбачылася яму ўсё, што было. У яго ўсё пыталася: «Памятаеш?» О, ён памятае! І нават бачыць: шырокія палі, межы, лугі, лясы і вёскі. Ужо ноч. Такой парой маяк разганяў святлом марскі морак — але цяпер стары быў у роднай вёсцы. Ён схіліў галаву на грудзі і сніў. Вобразы з мінулага праносіліся перад яго вачыма імгненна і крыху бязладна. Ён не ўбачыў роднай хаты, бо яе сцёрла з твару зямлі вайна, не ўбачыў ні бацькі, ні маці, бо яны памерлі, калі ён быў зусім маленькі, ды ўсё роўна вёска выглядае так, нібы ён толькі ўчора развітаўся з ёй: шэраг хатак з агеньчыкамі ў вокнах, грэбля, млын, два ставы, адзін і побач другі, і ў іх цэлую ноч грымяць хоры жаб. Аднойчы ён быў з войскам на начлезе ў сваёй вёсцы ў час вайны, ён адразу ўваскрасіў у памяці шэраг мрояў. Вось ён зноў улан, стаіць на варце: зводдаль, нібы вачыма, ззяе вокнамі карчма і спявае, і шуміць сярод начы, чутны тупат, голас скрыпак і басэтлі, крыкі: «У-га! У-га!» Гэта танцуюць уланы, высякаючы іскры падкоўкамі ботаў, а яму на кані так адзінока і смутна! Гадзіны цягнуцца так марудна, нарэшце святло згасае, і вось усюды, як кінуць вокам, імгла, густая імгла, відаць, туман узнімаецца з лугоў і ахоплівае ўвесь свет блакітнай смугой. Ён вельмі нагадвае акіян. Але не, гэта лугі, вось-вось у цемры можа азвацца дзяркач і закрычаць бугаі ў чароце. Ноч спакойная і халодная, сапраўдная мясцовая ноч! Воддаль сасновы лес шуміць нават без ветру... нібы марская хваля. Нарэшце світанак выбеліў усход: вось ужо і пеўні спяваюць на плоце. Адзін аднаму яны падаюць галасы ад хаты да хаты; а вось ужо буслы клякочуць з вышыні. Улану так лёгка, бадзёра пачуваецца. Напярэдадні пагаворвалі, што чакаецца бітва. Эх, ён пойдзе і на бітву, як пойдуць іншыя, пад воклічы і шолах сцягоў. Маладая кроў грае ва ўсю, яе не студзіць нават халодны начны вецер. І вось світае, нарэшце світае! Ноч пабялела: выступаюць са змроку лясы, кустоўе, шэрагі хатак, млын, таполі. Скрыпіць студня, нібы бляшаны сцяжок на вежы маяка. Якая ж яна цудоўная, родная зямля ў ружовым перадсвітальным бляску! О родная, адзіная зямля!

Але што гэта? Пільны вартавы чуе, што нехта набліжаецца да яго. Напэўна, то ідзе змена.

Раптам над галавой Скавінскага пачуўся нечы голас:

— Гэй, старэнькі! Уставайце! Што гэта з вамі?

Скавінскі расплюшчыў вочы і са здзіўленнем глянуў на чалавека, які стаяў перад ім. Рэшткі сну яшчэ раіліся ў ягонай галаве, блыталіся з рэчаіснасцю. Нарэшце ягоныя мроі развеяліся і зніклі. Перад ім стаяў Джонс, партовы стражнік.

— Вы што, захварэлі? — спытаў ён.

— Не.

— Вы не запалілі святло. Вас звальняюць са службы. Карабель з Сан-Джэрома сеў на мель, на шчасце, ніхто не патануў, іначай вы пайшлі б пад суд. Сядайце ў лодку, пра ўсё астатняе вам скажуць у консульстве.

Стары паблядней: ён сапраўды гэтай ноччу не запаліў святло на маяку.

Праз некалькі дзён Скавінскага бачылі на палубе парахода, які плыў з Аспінваля ў Нью-Йорк. Няшчасны пазбавіўся сваёй пасады. Перад ім адкрываліся новыя шляхі бадзяння; сарваны ліст зноў падхапіў вецер, каб кідаць яго па сушы і па моры, удосталь паздзекавацца з яго. Не дзіва, што стары моцна асунуўся і згорбіўся, толькі вочы блішчэлі. У новае жыццё ён нёс схаваную на грудзях кніжку, якую час ад часу мацаў рукой, нібы баючыся, што і яна знікне...

***Пераклад з польскай***
***Міхася Кенькі.***

**Карэл ЧАПЭК**

# ПАЭТ

**Гэта** было звычайнае крымінальнае здарэнне: а чацвёртай гадзіне раніцы аўтамабіль, які на вялікай хуткасці імчаў па Жытняй вуліцы, збіў п'яную старую і знік. Маладому паліцэйскаму Мэйзліку даручылі высветліць, што гэта быў за аўтамабіль. Малады служка закона аднёсся да справы з усёй сур'ёзнасцю.

— Ну, — звярнуўся Мэйзлік да паліцэйскаго нумар 144, — значыць, вы ўбачылі на адлегласці трыста крокаў аўтамабіль, які ехаў вельмі хутка, а на зямлі — нерухомага чалавека. Вашы дзеянні?

— Я тут жа падбег да збітай, — адрапартаваў паліцэйскі, — каб аказаць ёй першую дапамогу.

— Першым чынам трэба было паглядзець услед машыне, — прамармытаў Мэйзлік, — а потым ужо клапаціцца пра тую жанчыну. — Але так магло быць, — дадаў ён, пачухаўшы алоўкам патыліцу. — На вашым месцы і я зрабіў бы тое самае. Ну, зразумела, нумара машыны вы не заўважылі. А што ўвогуле вы пра яе скажаце?

— Я так думаю, — прамовіў паліцэйскі, вагаючыся, — гэты аўтамабіль быў нейкі цёмны. Можа быць, чорны, а можа, і чырвоны. Цяжка было разгледзець: ён узняў столькі пылу!

— Божа літасцівы! — са скрухай прамовіў Мэйзлік. — Як жа нам цяпер вызначыць, што гэта была за машына? Па-вашаму, я павінен бегаць па горадзе і пытацца ў кожнага шафёра: «Скажыце, калі ласка, ці не вы пераехалі старую бабулю?» Што нам, даражэнькі, рабіць далей?

Паліцэйскі пацісную плячыма.

— Можа быць, выслухаць сведку? Загадайце паклікаць яго, ён чакае ў прыёмнай.

— Ну што ж, давайце яго сюды, — сказаў засмучаны Мэйзлік, марна стараючыся вычытаць хоць што-небудзь у кароткім пратаколе здарэння, які ляжаў перад ім.

— Ваша прозвішча, месца жыхарства? — завучана спытаў ён, не гледзячы на сведку.

— Кралік Ян, студэнт механічнага факультэта, — упэўненым тонам адказаў сведка.

— Дык значыць вы, пане, былі на месцы здарэння і бачылі, як сёння раніцой а чацвёртай гадзіне невядомы аўтамабіль збіў Бажэну Махачкаву?

— Так, і я хачу сказаць, што вінаваты шафёр. Уявіце сабе, пан камісар, на вуліцы нікога не было. Калі б шафёр прытармазіў перад скрыжаваннем…

— Вы былі блізка ад таго месца? — перапыніў яго Мэйзлік.

— У дзесяці кроках. Я праводзіў свайго сябра з піў… з кавярні, і як толькі мы павярнулі на вуліцу Жытнюю…

— Што яшчэ за сябра? — зноў перапыніў сведку Мэйзлік. — У мяне пра яго нічога не напісана.

— Яраслаў Нерад, паэт, — прамовіў сведка з адценнем ганарыстасці. — Але ён вам нічога не раскажа.

— А чаму не? — ажывіўся Мэйзлік, спрабуючы ўхапіцца за апошнюю саломінку.

— Таму што ён… як і ўсе паэты, ён вельмі чуллівы. Калі ўсё гэта здарылася, ён расплакаўся, як дзіця, і пабег дадому. А я памятаю толькі тое, як мы ішлі па вуліцы Жытняй і ззаду на яе наляцела нейкая легкавушка…

— Нумар вы не запомнілі?

— Прабачце, не. Ды я і не паспеў бы. Я толькі падумаў: «Хто гэта так шалёна носіцца па горадзе?» і сам сабе сказаў…

— А што гэта была за машына?

—Чатырохтактны рухавік унутранага згарання, — аўтарытэтна засведчыў студэнт. — А ў марках аўтамабіляў я не разбіраюся.

— А які быў яго колер? Адкрыты ці закрыты кузаў? Хто ў ім сядзеў?

— Не ведаю, — збянтэжана адказаў сведка. — Мне здаецца, ён быў чорны, але я ў гэтым не ўпэўнены, бо якраз тады, як гэта здарылася, я павярнуўся да Нерада і сказаў: «Падумай, якія нягоднікі — пераехалі чалавека і не спыніліся».

— Ну што ж, гэта зусім правільная думка і нармальная эмацыянальная рэакцыя, — у задуменні прамовіў занепакоены Мэйзлік. — Але для мяне больш важна ведаць нумар і колер машыны. Калі б вы іх запомнілі, было б больш толку. Вы сабе не ўяўляеце, пане, да чаго людзі развучыліся запамінаць. Так, ваша праўда, вінаваты шафёр, вы зусім слушна сцвярджаеце, што ёсць яшчэ на свеце нягоднікі, а вось нумар — не запомнілі… Разважаць можа кожны, а глядзець на падзеі так, каб ад гэтага была карысць — зусім іншая справа. Дзякуй вам, пане Кралік, у мяне больш няма пытанняў да вас.

Гадзінай пазней паліцэйскі нумар 141 пазваніў каля дзвярэй паэта Яраслава Нерада. Спадар паэт быў дома, але спаў. Разбуджаны званком, ён заспанымі вачыма зірнуў праз адчыненыя дзверы на паліцэйскага, пакутліва ўспамінаючы, ці не натварыў ён учора нечага лішняга.

Паліцэйскаму з цяжкасцю ўдалося растлумачыць паэту, навошта яго выклікаюць у паліцыю.

— А што, мне абавязкова ісці туды? — з недаверам спытаў ён. — Наўрад ці я нешта ўспомню. Учора ўначы я быў крыху…

…пад газам — спачувальна дапоўніў паліцэйскі. — Шаноўны, я добра ведаю вас, паэтаў. Апранайцеся, пане, я пачакаю.

Ідучы па вуліцах, паэт і паліцэйскі размаўлялі пра начныя забягайлаўкі, пра жыццё ўвогуле, пра таямнічыя знакі на небе, а таксама і пра многія іншыя цікавыя рэчы, толькі палітыку ніводзін з іх не чапаў. У такіх прыемных размовах яны неўпрыкмет дайшлі да паліцэйскага ўчастка.

— Вы пан Яраслаў Нерад, паэт? — спытаў Мэйзлік. — Мы выклікалі вас як сведку. Ці бачылі вы, як невядомы аўтамабіль пераехаў Бажэну Махачкаву?

— Так, — пацвердіў паэт і ўздыхнуў.

— А ці не маглі б вы сказаць мне, якая гэта была машына? Адкрытая, закрытая, якога колеру, хто ў ёй сядзеў, а можа, і нумар запомнілі?

Паэт хвіліну-другую засяроджана ўспамінаў, а потым сказаў: «Не ведаю. На ўсё гэта я неяк не звярнуў увагі».

— Дык, можа, прыгадаеце хоць якую-небудзь дэталь, дробязь? — настойліва дапытваўся Мэйзлік.

— На жаль, не магу! — са шчырым спачуваннем адказаў паэт. —Паверце, я ўвогуле не надаю ўвагі падрабязнасцям.

— Ну хоць што-небудзь жа вы бачылі? — з іроніяй у голасе спытаў Мэйзлік.

— Ды так, нічога асаблівага, толькі агульнае ўражанне, — неяк няпэўна адказаў паэт. — Памятаю гэтую апусцелую вуліцу… бязлюдную… такую доўгую… світанне… І жанчына ляжыць на зямлі… — Тут паэт усхапіўся з месца: — Чакайце! Я ж пра гэта верш напісаў! Потым, калі прыйшоў дамоў.

Ён пачаў выграбаць з кішэняў розную дробязь, канверты, пакамечаныя паперкі.

— Не, не тое, і гэта не тое, і гэта… А, вось ён, той верш! — усклікнуў Нерад і пачаў засяроджана ўзірацца ў радкі, накрэмзаныя на нейкім канверце.

— Пакажыце мне, — з нецярплівасцю папрасіў Мэйзлік.

— Ды тут нічога асаблівага, — аднекваўся паэт. — Але калі хочаце, я вам пачытаю.

І ён, узвёўшы вочы ўгору, пачаў чытаць:

Шмат цьмяных гмахаў шэрагам стаяць.
На мандаліне золак грае.
Дзяўчына, годзе чырванець.
Аўто ў 120 конскіх сіл імчыцца на край свету,
А можа, у далёкі Сінгапур?
Спыніце, спыніце шпаркую машыну!
Каханне наша пакрывае пыл…
Цудоўная кветка жорстка паламана…
Лебедзя шыя, пругкія грудзі, палачкі з бубнам,
Вы — бяды знакі.

— Вось, гэта ўсё, што тады напісалася, — прамовіў паэт.

— Скажыце, калі ласка, — папрасіў Мэйзлік, — што ўсё гэта значыць? Пра што тут гаворыцца?

— Як пра што? Гэта ж пра той выпадак з машынай, — здзіўлена вымавіў паэт. — Хіба гэтага нельга зразумець?

— Бадай што не, — крытычна заўважыў Мэйзлік. — З усяго гэтага я ніяк не магу з пэўнасцю вызначыць, што «пятнаццатага дня чэрвеня месяца ў чатыры гадзіны раніцы на вуліцы Жытняй аўтамабіль нумар такі і такі збіў п’яную жабрачку шасцідзесяцігадовую Бажэну Махачкаву. Цяжка параненая ахвяра была адвезена ў гарадскую бальніцу, знаходзіцца ў небяспечным стане». Нічога з гэтых звестак у вашых вершах, пан паэт, не паведамляецца. Хіба не так?

— Вы згадваеце грубую рэальнасць, пане, — прамовіў паэт, пачэсваючы нос, — а верш — гэта рэальнасць тонкая, унутраная. Зразумейце — сутнасць паэзіі складаюць вольныя падсвядомыя вобразы, якія рэальнасць спарадзіла ў свядомасці творцы. Іх называюць зрокавымі і слыхавымі асацыяцыямі. Яны разлічаны на ўспрыняцце чытача. Чытач павінен ужыцца ў іх, тады ён усё зразумее, — павучальным тонам тлумачыў Нерад.

— Ніколі б не здагадаўся, — задумаўся Мэйзлік. — Што ж, дайце мне гэты ваш опус. Дзякуй. Паспрабуем разабрацца, што тут да чаго.

Ну, ну… «Шмат цьмяных гмахаў шэрагам стаяць»… Чаму «шэрагам»? Растлумачце, калі ласка.

— Дык гэта ж пра вуліцу Жытнюю, — цярпліва патлумачыў паэт. — Дамы там, як салдаты ў шарэнзе, разумееце?

— А чаму гэта не можа быць Нацыянальным праспектам? — скептычна пацікавіўся Мэйзлік.

— А таму, што ён не такі прамы, — упэўнена адказаў Нерад.

— Пойдзем далей. «На мандаліне золак грае». Хай сабе. «Дзяўчына, годзе чырванець». Адкуль, выбачайце, узялася дзяўчына?

— Зара, — лаканічна паясніў паэт.

— Так, так, выбачайце. «Аўто ў 120 конскіх сіл імчыцца на канец свету». Гэта што?

— Так я ўспрыняў той аўтамабіль, — зазначыў Нерад.

— А 120 конскіх сіл? Можа, гэта быў гоначны аўтамабіль?

— Не ведаю. Проста, ён дужа хутка імчаўся. Нібыта спяшаўся на край свету.

— Ну, так. Няйначай, у Сінгапур. Сапраўды, дзеля ўсяго святога, чаму менавіта ў Сінгапур?

Паэт паціснуў плячыма.

— Не ведаю. Можа, таму, што гэта «краіна малайцаў».

— Аўтамабіль і малайцы. Якая тут сувязь? Што вы на гэта скажаце?

Паэт крыху сумеўся.

— Няйначай, тая машына была карычневая, — вымавіў ён у задуменні. — А чаму б і не? Штосьці карычневае там сапраўды было. Іначай адкуль бы ўзяўся той Сінгапур?

— Ведаеце, іншыя сведкі далі паказанні, што машына была чырвоная, сіняя або чорная. Які колер прапануеце выбраць вы?

— Выбірайце карычневы, — параіў паэт. — Ён больш вабіць вока.

— «Каханне наша пакрывае пыл», — чытаў далей Мэйзлік. — «Зламаная кветка» — гэта ў вас тая п'яная жабрачка?

— Не мог жа я ў вершы напісаць, што гэта была п'яная жабрачка. — раздражнёна прамовіў паэт. — Для мяне гэта была проста жанчына, разумееце?

— Так, так! А далей, што гэта ў вас? «Лебедзя шыя, пругкія грудзі, палачкі з бубнам». Вольныя асацыяцыі, няйначай?

— Пакажыце, пакажыце, — паэт нахіліўся над лістком паперы. «Лебедзя шыя, пругкія грудзі, палачкі з бубнам»… Што б гэта магло значыць?

— Вось і я ў вас аб тым жа пытаюся, — ядавіта зазначыў Мэйзлік.

— Чакайце, чакайце, — разважаў паэт, — нешта ж павінна было нагадаць мне гэтыя вобразы. Паслухайце, а лічба 2 хіба не нагадвае вам шыю лебедзя? Вось, зірніце.

Нерад напісаў на лістку лічбу 2.

— Ну, ну! — ажывіўся Мэйзлік, — А што тады значаць гэтыя «пругкія грудзі»?

— Відаць, гэта лічба 3, два пукатыя паўкружжы, ці ж не так? — выказаў здагадку паэт.

— Там ёсць яшчэ «палачкі з бубнам»! — у хваляванні ўсклікнуў паліцэйскі.

— Палачкі з бубнам»… — паэт на хвіліну задумаўся. — «Палачкі з бубнам»… А ці не пяцёрка гэта? Гляньце! — Ён напісаў лічбу 5. — Вось! Паўкружжа нагадвае бубен, а над ім — палачкі.

— Пачакайце! — усклікнуў Мэйзлік і вывеў на лістку лічбу 235. — Па вашаму выходзіць, што нумар машыны быў 235?

— Не памятаю я ніякага нумара, — з упэўненасцю запярэчыў Яраслаў Нерад. — Але ж нешта такое там мусіла быць, бо адкуль іначай узяліся б тыя вобразы? — спытаў ён сам сябе, зноў схіляючыся над лістком. — Па-мойму, гэты радок самы ўдалы ў вершы.

* * *

Праз два дні Мэйзлік наведаў паэта, на гэты раз Нерад не спаў, з ім была нейкая дзяўчына, і ён марна шукаў яшчэ адно крэсла, каб паліцэйскаму было дзе прысесці.

— Ды я не надоўга, — сказаў паліцэйскі. — Зазірнуў на хвіліну, каб паведаміць, што ў таго аўтамабіля сапраўды быў нумар 235.

— Пра што вы? Які аўтамабіль? — здзівіўся паэт.

— Лебедзя шыя, пругкія грудзі, палачкі з бубнам, — выпаліў адным духам Мэйзлік. — І з Сінгапурам усё правільна.

— А, вы пра той выпадак! — успомніў паэт. — Ну як, пераканаліся, што значыць для паэта ўнутраная рэальнасць? Хочаце, я вам зараз пачытаю пару сваіх новых вершаў? Цяпер то ўжо вы зможаце іх зразумець.

— Прабачце, але лепей іншым разам, — паспешліва адказаў паліцэйскі чыноўнік. — Тады, як у мяне надарыцца падобны выпадак.

***Пераклад з чэшскай Міхася Кенькі.***

**Наталля ЗАЯЦ**

# ЯМУ АДГУКАЕЦЦА СЛОВА

**Васіль** Зуёнак вядомы шырокай чытацкай аўдыторыі найперш як лірычны паэт і аўтар буйных ліра-эпічных твораў. Аднак тым, хто сочыць за літаратурна-мастацкай перыёдыкай, добра знаёма яшчэ адна іпастась таленту пісьменніка: на працягу апошняга дзесяцігоддзя ён актыўна асвойвае празаічныя жанры і стварае ўласна-аўтарскія (элегіі ў прозе, эцюды). У доўгачаканай кнізе В. Зуёнка «Паміж небам і зямлёй» прадстаўлены ўзоры яго немалога празаічнага набытку. Першыя два раздзелы «Гукаючы слова» і «Матылёк» змяшчаюць літаратурна-лінгвістычныя эсэ і эцюды, трэці — «На хвалях лясной дарогі» — у асноўным складаецца з эцюдаў. Завяршае зборнік грунтоўны, аб'ёмны твор — нататкі пра падарожжа ў ЗША «Дзесяць дзён другога адкрыцця», датаваныя 1988 годам.

Усе творы адлюстроўваюць уласцівы пісьменніку спосаб мастацкага мыслення, якое можна акрэсліць як лірыка-філасофскае, эсэістычнае. Тэксты кнігі маюць асноўныя прыкметы эсэ: для іх характэрны падкрэслены суб'ектывізм у думках і ацэнках, многія з іх невялікія па аб'ёме (гэта датычыць у першую чаргу эцюдаў), вольная кампазіцыя, устаноўка на размоўную інтанацыю, іх мова вобразная і афарыстычная. У беларускай літаратуры эсэ выступае ў самых розных жанравых мадыфікацыях: так, у творчасці З. Бядулі гэта абразкі, Я. Брыля і Ф. Янкоўскага — лірычныя мініяцюры, у А. Разанава — філасафемы, у Л. Галубовіча — зацемкі, у Ю. Станкевіча — мікрапроза. Васіль Зуёнак для сваіх твораў, акрамя традыцыйнага тэрміна «эсэ», выкарыстоўвае паняцце «эцюд». Аднак пры ўсёй адметнасці і «пазажанравасці» мініяцюры розных пісьменнікаў аб'ядноўвае адно: сэнсава-кампазіцыйнае ядро твораў — заўсёды асоба мастака.

Жанравая дыферэнцыяцыя твораў кнігі «Паміж небам і зямлёй» не строгая і ў пэўным сэнсе ўмоўная (па вялікім рахунку, усе яны — эсэістыка), тым не менш яна ёсць. Як уяўляецца, дэфініцыя «эцюд» прымяняльная найперш да твораў «на вольную тэму», тэкстам літаратурна-крытычнага характару часцей адпавядае вызначэнне «эсэ», што падкрэслівае і сам аўтар у некаторых падзагалоўках («Паэзіі птушка чароўная: эсэ-трыпціх з эпіграфам «Бушуйнае», «Вельмі ўсё проста — як прошча…: эсэ прачытання кнігі»).

У эцюдах В. Зуёнак выказвае свае адносіны да пэўных праблем рэчаіснасці. Прычым кола з'яў сацыяльнага і літаратурнага жыцця, закранутых пісьменнікам у мініяцюрах, вельмі шырокае. Творы вызначаюцца праблемна-тэматычнай і жанравай разнастайнасцю: сярод іх пейзажныя замалёўкі («На хвалях лясной дарогі...», «Ляцела зярнятка...»), лірыка-філасофскія мініяцюры («На чоўне месяца...», «Далёка — блізка...»), этымолага-лінгвістычныя нататкі («Цівалі», «Прывезенае і згубленае»), развагі над творамі, ці нават асобнымі словамі з твораў, пісьменнікаў-класікаў і сучаснікаў.

Часта эцюд «вырастае» з аднаго слова, згаданага, прачытанага або нават прыснёнага, з выпадковай фразы, як, напрыклад, мініяцюра «Ёсць разуменне...»: *«Зноў — як і ўчора і заўтра будзе, — «мая электрычка», «мая штодзённая»…*

*І ў ёй — зноў — звычайная мітусня, «перахопы»… А сёння яшчэ і перадвыходная «звалка»...*

*Успыхнула спрэчка з-за месца. Нейкі малады хлыст не ўступаў месца бабцы. Яе дзед «зганяў» бэйбуса, а той апраўдваўся: «Я с работы!..»*

*Самы моцны аргумент «зганяльшчыкаў» (а зганялі ўсе суседнеўладкаваныя і неўладкаваныя) прагучаў з вуснаў аднае цёткі: «Беларус бы так не паступіў...»*

*«Работяга» беларусам быць усё ж не наважыўся. Бог з ім...*

*Але бачыць Бог: жыве самаўсведамленне (так цётка сцвердзіла) сапраўднага беларуса! Ёсць разуменне сваёй адметнасці, беларускасці: «Беларус бы так не паступіў...»* [1, с. 217].

Узноўлены ў творы будзённы момант жыцця нясе ў сабе прыкметы часу. Прыватная сітуацыя, «эскіз», накід рэчаіснасці набывае глыбокі філасофскі сэнс, факусуе няпростыя пытанні беларускага грамадскага быцця: адносіны да людзей старэйшага пакалення, так званы білінгвізм у нашай дзяржаве, нацыянальная непраяўленасць і інш.

Спалучэнне штодзённага і вечнага, побытавага і ўзвышанага — адметнасць мініяцюры як жанру — прысутнічае ў многіх эцюдах В. Зуёнка. Няпэўныя ўражанні атрымліваюць сэнсавую акрэсленасць і глыбіню. Так, пачутыя пісьменнікам «словы» сустрэчнага хлапчука «А-ва-ва!..» нарадзілі развагі, напоўненыя высокім сэнсам: *««А-ва-ва!..» — іду, ступаю па зямлі.*

*«А-ва-ва!..» — гляджу ў неба, дзе лёгкай хмаркай віражуюць ластаўкі: збіраюцца ў вырай.*

*«А-ва-ва!..» — нічога пра гэта не знае малы, не здагадваецца, што наступае восень... Ды і што яму да восені, калі ў яго наперадзе столькі вёсен і летаў. Ён проста радуецца — і ідзе»* [1, с. 71].

Разам з тым мініяцюры В. Зуёнка не прэтэндуюць на вычарпальнасць і паўнату, «ісціну ў апошняй інстанцыі», на што, здараецца, грашаць некаторыя пісьменнікі. Палемічнасць (а яна заўсёды ёсць у эцюдах на сацыяльныя тэмы) ніколі не выпукляецца, творы нагадваюць асабістыя занатоўкі, запісы «для сябе».

Эсэ і эцюды В. Зуёнка будуюцца пераважна па прынцыпе асацыятыўнасці, што абумоўлівае іх лірычную кампазіцыю. Назвай аднаго з твораў — «Асацыяцыі» — пісьменнік свядома арыентуе чытача на своеасаблівасць тэксту — змест яго ўяўляе сабой складаны асацыятыўны ланцужок. На такой аснове ўзнік і эцюд з метафарычнай назвай «Поўнагалоссе» (у ідэйна-тэматычных адносінах ён выразна пераклікаецца з вершам В. Зуёнка «Адвучылі беларусаў гаварыць па-беларуску...», дзе думка пра сучасны стан роднай мовы раскрываецца ў сканцэнтраваным выглядзе — мова лірыкі патрабуе лаканізму). «Вольны» жанр празаічнага эцюда дае пісьменніку магчымасць паразважаць, падумаць, супаставіць жыццёвыя з'явы. В. Зуёнак падводзіць да галоўнай тэмы здалёк, узгадвае, як больш за трыццаць год яму даводзілася хадзіць паблізу дзіцячага летніка, дзе на шыльдзе «*насуперак зацверджаным нормам арфаграфіі»* было замацавана беларускае поўнагалоссе: *«Дзіцячы аздараўленчы цэнтар Мінскага аддзялення чыгункі»* [1, с. 69]. Аднак неўзабаве шыльду змяніла іншая, напісаная па-руску, — знікла слова «цэнтар», што так усцешвала аўтара. Расповед пра канкрэтны, прыватны выпадак ператвараецца ў роздум над праблемай агульнанацыянальнай: *«Засаромілася «беларуская чыгунка» свайго слова?.. Як бывае з тымі, для каго родная мова з'яўляецца моваю звычайных — будзённых і штодзённых — зносін: апынуўшыся ў больш-менш людным асяроддзі (у транспарце, у краме...) раптам пачынаюць яны, калі іх двое, ужо не размаўляць, а ледзь не перашэптвацца між сабою, прыглушваюць, прыніжаюць голас, як баючыся роднага слова, прыглушваючы і прыніжаючы тым самым сваю беларускасць, сваю нацыянальную годнасць...»* [1, с. 69—70].

Многія лірычныя творы В. Зуёнка пабудаваны ў форме запытанняў. Дыялагічнасць, прамая звернутасць да рэцыпіента-чытача — характэрная адзнака стылю пісьменніка, творцы экстравертнага тыпу. Гэтая рыса паэзіі В. Зуёнка ёсць і адной з жанравых прыкмет эсэістыкі і выяўляецца ў многіх творах, у тым ліку

ў эцюдзе «Поўнагалоссе». Пісьменнік шукае адказ на няпростае пытанне: калі беларус на поўны голас загаворыць на сваёй мове (*«Калі наступіць яно, беларускае поўнагалоссе?..»*).

Лірычны грунт «малой» прозы В. Зуёнка вельмі трывалы. Калі, напрыклад, мініяцюры А. Разанава носяць пераважна філасофскі характар, то В. Зуёнак у эсэістыцы ідзе шляхам Я. Брыля, прызнанага майстра менавіта лірычнай мініяцюры. Брылёўская школа адчувальная ў многіх Зуёнкавых творах. Эцюды пісьменніка, як і творы яго старэйшага калегі, — гэта «сонечныя промні», што надаюць звычайным рэчам і з’явам нечаканае асвятленне. У адной з мініяцюр Я. Брыль, магчыма, безадносна да якога-небудзь творцы запісаў: «Гэта ўсё-такі надзейнае, гэта застаецца, — словы, абзацы, старонкі, добра зробленыя, умацаваныя разумным сэрцам, якое іх само перажыло, адчула. Каб адчувалі, перажывалі і іншыя» [2, с. 144]. Яго слова знайшло эмацыйны водгук у сэрцы В. Зуёнка: народжаныя брылёўскай творчасцю перажыванні выліліся ў надзвычай паэтычны і арыгінальны эцюд «Сонца з-за ліпы». На гэтую мініяцюру варта звярнуць асаблівую ўвагу з прычыны яе адметнай структуры і родавай сутнасці: яна складаецца з трох розных у жанравых адносінах частак, дзве з якіх празаічныя («Добра працуецца» і «Няцяжка здагадацца...»), трэцяя — вершаваная. Першая — некалькі кароткіх сказаў — уяўляе згадку пра сустрэчу з Я. Брылём: выкарыстоўваецца форма прамога выяўлення аўтарскіх эмоцый, дзённікавая структура. Пачуццё пісьменніка з яшчэ большай непасрэднасцю раскрываецца ў другой частцы, чаму спрыяе форма сяброўскага ліста. В. Зуёнак звяртаецца да «бацькі жанру» лірычнай мініяцюры, хоча падзяліцца радасцю ад судакранання з томам яго твораў: *«І светла было на душы, і радасна...*

*Такое было чытанне...*

*А том быў — першы, з пяці братоў — гэтакіх жа асмужана-загарэлых, пазямному дужых і па-нябеснаму ўзнёслых...*

*А Вам, Іван Антонавіч, чаму пра гэта ўсё кажу, — няцяжка здагадацца...»* [1, с. 90].

Як відаць, побач з установкай на гутарковасць, размоўнасць, частка «Няцяжка здагадацца...» надзвычай мастацкая, паэтычная дзякуючы метафарычнасці мовы, выразнаму рытмічнаму малюнку. Эсэістыка прадугледжвае «новае, суб’ектыўна афарбаванае слова» [3, стб. 1247], і слова В. Зуёнка пра творчасць Я. Брыля менавіта такое.

Апошняя частка эцюда — лірычны верш «Снежная імпрэсія», у які ўводзіцца цытата з Я. Брыля: *««На цэлым свеце — белы снег, / На ўсіх палях і дахах...» / Ступіць — і то, здаецца, грэх: / Бялынь — як фуга Баха... / <...> Снягоў неразгаданы лёс / На сэрца так нахлыне, / Што плакаць хочацца — да слёз — / Прад гэтаю бялынню... / І Янка Брыль: не ў вершы збег — / Ляціць над прозай птахам: / «На цэлым свеце — белы снег, / На ўсіх палях і дахах...»«* [1, с. 90—91]. Твор напісаны на такім мастацкім узроўні, што дазваляе разглядаць яго як выдатны ўзор сучаснай беларускай эсэістыкі ў яе класічнай, лірычнай плыні.

Дарэчы, гэта не адзіны трыпціх у кнізе: эцюд «Якія бываюць сны» і эсэ «Паэзіі птушка чароўная» таксама маюць складаную структуру. У першым з названых твораў аб’яднаны занатоўкі-ўспаміны «літаратурна-лінгвістычных» сноў пісьменніка, роздумы над этымалогіяй улоўленых у іншым прасторава-часавым вымярэнні слоў і фраз. Эсэ ж уяўляе сабой *«тры ракурсы, тры кропкі, з якіх скіроўваецца позірк на паэзію Рыгора Барадуліна: спачатку агляд панарамны, адчуванне палёту — вышыні і прасторы; потым — адна кніга: як узор, як прыклад, — крыло ў палёце <...>; нарэшце — дзве страфы, дзве пярынкі з крыла — як хараша, як здарава палюбавацца імі!..»* [1, с. 109—110]. Адпаведныя і назвы частак эсэ: «Палёт…», «Крыло…», «Дзве страфы, дзве пярынкі…» — лірычныя, узнёслыя, напісаныя не столькі Зуёнкам-паэзіязнаўцам, колькі Зуёнкам-паэтам.

Дыптых «Гукаючы слова», яшчэ адзін складаны па структуры твор, даў назву цэламу раздзелу. Першае эсэ «Генетычная памяць вобраза» скіроўвае ў бок лінгвістычны, а дакладней, этымалагічны: аўтар шукае *«генетычную аснову вобраза, закладзеную ў першаслове»*. В. Зуёнак спрабуе ўзнавіць працу «першапаэта», які надаў вобразам-рэчам музычна-гукавую абалонку, з відавочнай асалодай прыслухоўваецца да «размоў» звычайных слоў: *««жыта, пшаніца, ячмень, авёс… — боб (!)» — ці не праўда: як на фоне гэтага «гукавога шэдэўра» (на пачатку звонкага, з падскокам, а ў канцы прыглушанага падзеннем: «боп») праступае, праяўляецца шапаткая «мова» жыта, пшаніцы, ячменю (з учэпістым, як вус ягоны, «ч»), аўса (з сонечнай спеласцю яго мяцёлак)…»* [1, с. 7]. Калі ў першай частцы твора аўтар выступае дапытлівым этымолагам, то ў другой («Рыфма, гучная сяброўка…») выяўляе сябе абазнаным тэарэтыкам літаратуры. Па нашым перакананні, з гэтым эсэ будзе вельмі карысна азнаёміцца кожнаму, хто цікавіцца пытаннямі вершазнаўства: навукоўцу, выкладчыку, студэнту-філолагу. Тэарэтычныя звесткі ў інтэрпрэтацыі В. Зуёнка надзвычай чытабельныя, захапляюць грунтоўнасцю разваг, свежасцю назіранняў (хаця, здавалася б, што новага можна сказаць пра рыфму?), адначасовай навуковасцю і прастатой, папулярнасцю выкладу. Уражвае, кажучы стандартызаванай мовай, багацце ілюстрацыйнага матэрыялу — узорных прыкладаў на самыя розныя віды рыфмовак (аўтар дэманструе сваю фенаменальную начытанасць, глыбокае веданне лірычнага мастацтва).

У іншых эсэ В. Зуёнак паўстае ўдумлівым крытыкам і літаратуразнаўцам: тэксты ўтрымліваюць каштоўныя ўспаміны пра сустрэчы з пісьменнікамі і іх мастацкім набыткам. В. Зуёнак разважае над творамі Я. Купалы, Я. Коласа, М. Лупсякова, Я. Брыля, П. Панчанкі, Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна, Я. Сіпакова, Р. Тармолы, Ю. Свіркі, У. Някляева, В. Шніпа, А. Пісьмянкова, а таксама А. Фета, А. Чэхава, Г. Ахматавай, А. Блока і інш., пранікае ў таямніцы іх творчай лабараторыі, спрачаецца з некаторымі момантамі. У шэрагу эсэ В. Зуёнак закранае праблемы мастацкага перакладу, расказвае пра тых, хто і як яго ажыццяўляе («Музычнае «І»», «Камп'ютэр з душой васілька», «Асацыяцыі»).

Даследуючы праблемы сучаснай беларускай крытыкі, В. Каваленка ў якасці аднаго з яе жанраў разглядаў і эсэ — «вольны эмацыянальны водгук на твор, перададзены тонкімі літаратурнымі сродкамі», дзе характарыстыка мастацкага тэксту «вядзецца часцей за ўсё не ў прамым апісанні, а праз новае вобразнае ўтварэнне, якое ўзнікла як рэха першага» [4, с. 30, 31]. Праз роздум над творамі іншых, праз іх ацэнку В. Зуёнак апасродкавана выяўляе ўласнае разуменне мастацтва — узнікае «новае вобразнае ўтварэнне». Як правіла, змест літаратурна-крытычных эсэ складаюць развагі В. Зуёнка над набыткам толькі тых аўтараў, мастацка-эстэтычная пазіцыя якіх адпавядае яго ўласным поглядам і адчуванням: *«Звычайна пішаш (ці прынамсі ўзнікае нейкі, ледзь не падсвядомы, сігнал сказаць) пра таго альбо пра тое, што зрабілася ўжо часцінкай тваёй душы»* [1, с. 145]. Крытэрыем адбору «матэрыялу» для твораў, такім чынам, становіцца духоўная блізкасць пісьменнікаў. Тым не менш назіранні Зуёнка-паэта і проста чытача над творчасцю класікаў і сучаснікаў не адцягненыя, не абстрактныя, яны спалучаюцца з прафесійным літаратуразнаўчым аналізам, як, да прыкладу, у эсэ пра паэзію П. Панчанкі: *«Верш «Край паэтаў», бадай, самы характэрны, хрэстаматыйна панчанкаўскі арганічным спалучэннем, узаемавысвечваннем агульнага праз канкрэтнае і канкрэтнага праз агульнае: лёс чалавека — у лёсе народа, лёс народа — у лёсе кожнага чалавека. <…> Такое ў вершы спалучэнне, скрыжаванне агульна-панарамнага з канкрэтна-дакументальным то геаграфічным, то персаніфікаваным падмацаваннем, пацверджаннем. Прыём быццам рэпарцёрскі. І, натуральна, смелы, нават рызыкоўны для ўжытку паэтычнага… Аднак жа — колькі б ні перачытваў — ёсць усхваляванасць, ёсць паэзія, яе дыханне»* [1, с. 83—84].

Эсэ В. Зуёнка адпавядаюць важнаму моманту, які спрыяе з’яўленню сапраўднай крытыкі: «Твор павінен стаць здабыткам душы крытыка. Але, каб такое здарылася, патрэбна ўнутранае судакрананне з высокамастацкімі творамі» [4, с. 109]. Безумоўна, Зуёнкавы эсэ не «чыстая» крытыка, як нельга лічыць такой, напрыклад, літаратурна-крытычныя творы А. Вярцінскага са зборніка «Высокае неба ідэала». Ды і артыкулы самога В. Зуёнка, сабраныя ў кнізе «Лінія высокага напружання» (1983), таксама напісаны «на стыку» навукі і мастацтва, прычым апошні пачатак у іх дамінуе, хаця і не захіляе глыбокага навуковага доследу. Нават падзагаловак кнігі — «Літаратурна-крытычныя нататкі, постаці, роздум» — указвае на эсэістычны характар твораў, свядома абраную аўтарам адвольную форму. Ярка ілюструюць паэтычны стыль зборніка радкі з артыкула, які яго адкрыў і даў назву: *«Ёсць у разведчыкаў зямных нетраў не зусім звычайнае для будзённасці паняцце — вертыкальныя гарызонты. Недзе там, у глыбінях, тояцца скарбы. І каб дабрацца да іх, трэба адолець не адзін такі гарызонт. <...> Ці не так бывае і ў паэзіі?»* [5, с. 3]. В. Зуёнак «тонкімі літаратурнымі сродкамі» імкнецца перадаць сваё разуменне глыбіняў слоўнага мастацтва.

Паэтыка лірызму, уласцівая артыкулам «Лініі высокага напружання», захавалася і ў творах кнігі «Паміж небам і зямлёй»: мастацкі, «нябесны» погляд у іх спалучаецца з навуковым, «зямным». Як падкрэслівалася ўжо, нярэдка «сюжэт» твораў завязваецца на асацыяцыях, вобразных паралелях. Падобным чынам будуецца вельмі лірычнае эсэ «Маснічка ў свет сунічны...», прысвечанае А. Якаўлевай, *«паэтычныя мроі»* якой *«шчасліва супалі з паэтычнай аўрай роднай вёскі: Ігрушка...»* [1, с. 201]. Лірычны талент паэтэсы В. Зуёнак суадносіць з мілагучным найменнем яе вёскі: *«Прамовіш адно толькі назву — і ўжо ва ўяўленні адразу ўзнікаюць белыя сады ў вясновай квецені. І дзесьці на ўскрайку поля, на мяжы, — летуценная, задумная, светлай аблачынкай — ігруша...»* [1, с. 201].

Заўважаецца стылістычная роднасць літаратурна-лінгвістычных твораў В. Зуёнка з эсэістыкай М. Стральцова: абодва аўтары выступаюць у першую чаргу як мастакі, творцы, паэты, а толькі потым — як літаратуразнаўцы і крытыкі. Думаецца, менавіта таму М. Стральцоў, як ніхто іншы, змог зразумець «загадку Багдановіча», а В. Зуёнак — адчуць незаўважныя, на першы погляд, але такія істотныя нюансы ў вершах А. Блока («Чаканне — і нечаканасць...», «Маска»), убачыць *«падвойную перспектыву радка»* ў творах В. Шніпа («Згубіцца, каб застацца…»), пачуць музыку гілевічаўскіх строф («Вы шуміце, бярозы…»).

Змешчаныя ў кнізе літаратурна-лінгвістычныя эсэ і эцюды В. Зуёнка самі ўспрымаюцца як Паэзія, выяўляюць шырокі кругагляд і багаты жыццёвы вопыт пісьменніка, сведчаць пра глыбіню яго думкі і літаратурную дасведчанасць, раскрываюць перажыванні мастакоўскай душы.

Асобна варта сказаць пра падарожныя нататкі «Дзесяць дзён другога адкрыцця», прывезеныя з другой паездкі ў ЗША (першая была ў 1985 годзе, калі пісьменнік прымаў удзел у працы 40-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН).

У стылёвых і тэматычных адносінах твор вельмі неаднастайны, разнародны. У «літаратурнай» частцы — палеміка з тэндэнцыйнай і павярхоўнай крытыкай як адказ на вызначэнне «правільнасці / няправільнасці» верша «Ніхто не пачуў…» і твораў цыкла «Пад ценем каменнага лесу: лісткі з амерыканскага блакнота». У «летапіснай» і «экскурсійнай» — апісанне побыту трох сем’яў, дзе даводзілася гасцяваць вандроўніку, нават са зваротамі ў іх гісторыю; В. Зуёнак праводзіць чытача па вуліцах, музеях, самых розных установах… Шмат увагі надае пісьменнік аповеду пра амерыканскі лад жыцця і амерыканскі характар — у часы СССР, хай ужо і ў перыяд гарбачоўскай перабудовы, гэта было суцэльнай загадкай, — робіць аналогіі, супастаўляе. У публіцыстычна-дакументальных фрагментах — інфармацыя палітычнага і эканамічнага зместу: аўтар разважае пра даўнюю канфрантацыю дзвюх звышдзяржаў, сацыяльна-эканамічны ўклад заакіянскага жыцця і інш. Не абышоўся В. Зуёнак і без філалагічных вышукаў: на гэты раз яго

ўвагай завалодала галоўнае амерыканскае слова «бізнес». Натуральна, не магло ў нататках не аказацца лірычных момантаў (пісаў жа паэт), і ці не самы паэтычны з іх — купанне птушкі гагары, сімвала штата Мінесота…

Пры ўсёй стылявой шматфарбнасці твор успрымаецца вельмі цэласна, ад эклектычнасці яго пазбаўляе як моцна выяўлены асобасны, аўтарскі пачатак, так і лейтматыўная думка — пра самакаштоўнасць жыцця і неабходнасць міру для чалавека ўвогуле, не важна, у краіне з якім палітычным укладам ён жыве: *«Жыццё ўсюды і скрозь не запраграмавана — то светлае, то змрочнае, то радаснае, то самотнае, то імкліва-задзірыстае, то раўнадушна-гнятлівае. Жыццё ёсць жыццё...»* [1, с. 264].

Нягледзячы на тое, што пісьменнік глядзіць на Амерыку з савецкага мінулага, нататкі не маюць тэрміну даўнасці: як і ўсё, напісанае В. Зуёнкам, яны адпавядаюць высокаму эстэтычнаму ўзроўню, з'яўляюцца паўнавартасным прыкладам сучаснай нарысістыкі. Акрамя таго, гэта яшчэ і старонкі чалавечай і творчай біяграфіі нашага вядомага сучасніка, напісаныя ад першай асобы, эксклюзіўна, «без купюр».

…В. Зуёнак чуйны і ўважлівы мастак. На працягу ўжо больш як сарака гадоў літаратурнага шляху ён шукае, збірае, гукае словы. І словы адгукаюцца яму — з'яўляюцца выдатныя творы самых розных жанраў. Частка пісьменніцкага плёну — празаічная, — сабраная пад вокладкай яго новай кнігі «Паміж небам і зямлёй», чакае свайго чытача.

**Літаратура**

1. Зуёнак, В. В. Паміж небам і зямлёй: літаратурна-лінгвістычныя эсэ, эцюды, падарожныя нататкі /. — Мінск : Беларус. навука, 2009. — 266 с.

2. Брыль, Я. Праблёскі : мініяцюры / Мінск : Маст. літ., 1992. — 173 с.

3. Муравьев, В. С. Эссе / Литературная энциклопедия терминов и понятий ; под ред. А. Н. Николюкина. — М., 2003. — Стб. 1246—1247.

4. Каваленка, В. А. Праблемы сучаснай беларускай крытыкі / Мінск: Навука і тэхніка, 1977. — 192 с.

5. Зуёнак, В. Лінія высокага напружання : літ.-крытыч. нататкі, постаці, роздум / Мінск : Маст. літ., 1983. — 183 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 22 верасня 2009 г.

Наталля Заяц
«Яму адгукаецца слова»

**Рэзюме**

Даецца агульны агляд кнігі В. Зуёнка «Паміж небам і зямлёй», праводзіцца крытычны аналіз асобных твораў: акрэсліваецца іх праблемна-тэматычная скіраванасць, вызначаецца ідэйны змест, разглядаюцца адметнасці стылю. Асаблівая ўвага надаецца жанравай спецыфіцы прадстаўленых у зборніку эсэ, эцюдаў і нататак, вылучаюцца асноўныя характарыстычныя рысы тэкстаў.

Zajats N.
«The word answers to him»
**Summary**

The general review of V. Zuyonak's book «Between Heaven and Earth» is siven in the article, critical analysis of some writing is carried out: its problem and topical orientation are outlined, the main ideas are detected, peculiarities of the style is considered. Special attention is paid to the genre specificity of essays, etudes and notes submitted in the collection, main characterization features of texts are separated.

Казімір КАМЕЙША

# ВЯРНУЦЦА Ў ПЛЁСЫ...

**У трох** маіх пушчанскіх школах, якія трэба было прайсці, каб атрымаць сярэднюю адукацыю, настаўнікі траляліся больш за ўсё строгія. Я кажу пра тую самую выхаваўчую строгасць, на якую ці варта крыўдзіцца, бо ўсё гэта дзеля нашай жа карысці, дый сам час пасляваенны, трывожлівы і неўладкаваны, відаць, вымагаў яе, чалавечай строгасці, нават суровасці. Таму і здзівіў мяне мой першы паэтычны настаўнік сваёй лагодай, прыязнасцю і зусім тактоўнай абыходлівасцю з намі, тады яшчэ зусім «зялёнымі». Гэта было для мяне так нечакана, дый чаму толькі для мяне? І для маіх сяброў-аднакурснікаў Рыгора Семашкевіча, Эдуарда Зубрыцкага, што сядзелі тады са мной у цеснаватым пакойчыку часопіса «Маладосць», таксама. Было гэта ў тым шараватым будынку насупраць пастамента з танкам, блізка ад «бібліятэкі-ленінкі» і нашага універсітэцкага філфака. Мы доўга не адважваліся пераступіць парог таго пакоя, хоць дзверы яго былі разнасцежаны. Тапталіся ды перашэптваліся, пакуль не выйшаў ён, высокі ды стройна-стрункі, з ужо добра прыкметным праблiскам сівізны на скронях і надта лагодным, даверлівым тварам. Такі твар мусіць быць толькі ў сапраўднага лірыка, падумаў я тады. І, відаць жа, не памыліўся.

Голас гучнаваты, з працяжным распевам слоў вывеў нас са стану зніякавеласці:

— То заходзьце, не саромейцеся. Бачу, што да мяне прыйшлі!..

Гэтак сустрэў нас ён, сам Мікола Аўрамчык, загадчык паэтычнага аддзела часопіса. Нясмела выцягвалі мы з кішэні папалам складзеныя старонкі вучнёўскіх сшыткаў, клалі яму на стол. Побач сядзелі яшчэ нейкія людзі, супрацоўнікі часопіса, але мы, апрача яго, больш нікога не заўважалі. А ён чытаў уважліва нашу пісаніну ды яшчэ паміж радкамі распытваў пра дом, пра бацькоў, пра вучобу.

Мы нешта скорагаворачна адказвалі, а самі ўсё чакалі «прысуду», ледзь не калоцячыся ад страху. На пахвалу ён быў скупаваты. Пэўна, і не заслугоўвалі мы той пахвалы. У лістках потым было шмат што падкрэслена, з'явіліся пытальнікі. І не адзін раз яшчэ пасля гэтага давялося заходзіць сюды з праўкамі, але вершы нашы нарэшце на старонках паважанага і аўтарытэтнага часопіса з'явіліся. Тут ужо можна было нават зазнацца, убачыўшы, як табе зайздросцяць аднакурснікі. Пазней паэтычны настаўнік, а можа, і начальнік (і так яго часам называлі), нават папярэджваў, што вершы ён прымае, а вось слова яго не апошняе, бо ёсць яшчэ Пімен. А гэта азначала, што ўсё канчаткова вырашае галоўны рэдактар часопіса Пімен Панчанка. Не памятаю аднак ніводнага выпадку, каб тое, што ўхваліў рэдактар аддзела, не прымаў галоўны. А гэта сведчыць пра многае.

Сённяшні паэтычны маладзён можа ашарашыць цябе і такім пытаннем:

— А што такога напісаў ты сам?!

Хіба асьмеліўся б хто так запытацца ў яго, чые вершы студэнты ведалі на памяць, захапляліся яго хрэстэматыйнай «Беларускай сасной»?

Няма, відаць, у нашай паэзіі твора, раўназначнага па сваёй эмацыянальнай сіле, напале пачуцця, шчымлівасці суперажывання, як «Беларуская сасна» М. Аўрамчыка. Прывяду толькі дзве страфы з яго, і іх будзе дастаткова, каб адчуць усю мастацкую глыбіню гэтага верша:

З кожнай штольні пахне
беларускай,
Баравой смалістаю сасной.
Пад зямлёй праход нязручны,
вузкі,
Выглядае просекай лясной.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ты з настойлівасцю вугаль
колеш,
Іскры сыплюцца з-пад малатка.
Родная сасна пад цяжкай
столлю
Не аддасць у крыўду земляка.

Перачытаўшы і гэты, і іншыя творы паэта, міжволі задумваешся, у чым жа сіла і прыцягальнасць паэзіі Міколы Аўрамчыка. Хіба мала пісалася ў нас пра тыя ж сосны, хіба мала было сярод усяго вядомага і твораў вобразна прыкметных, з самымі нечаканымі дэталямі, фарбамі? А тут нічога кідкага, нічога звыш яркага, а ўсё так балюча кранае цябе, быццам бы ты сам усё гэта перажыў. А відаць, таму, што ўсё яно моцным вузлом прывязана да жыцця, а яшчэ выпакутаванае ды трагічна завостранае. Вобраз сасны ў М. Аўрамчыка і адухоўлены, і ўзвышана-абагоўлены. Ён якраз падкрэслівае тое неад'емнае, роднае, што ратуе чалавека нават на чужыне.

Кніга аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў «Пяцьдзесят чатыры дарогі» выйдзе з друку ў 1963 годзе, калі мы будзем ужо трэццякурснікамі. Вось тады і даведаемся, якія нялёгкія выпрабаванні выпалі на маладосць нашага любімага паэта. Для нас, паэтычных птушанят, тады ўсе дарогі былі яшчэ наперадзе. А ягоныя, што звузлавала ў адзін тугі вузел сама памяць, змушалі больш пашанотна глядзець і на яго самога, і на яго паэзію.

...Дарогі паэта. Калі пачынаеш перачытваць паэзію Міколы Аўрамчыка, з'яўляюцца правамерна і гэтыя два словы. А дарог у яго хапала. І самыя нялёгкія прыпалі на маладосць, калі ён, «недавучаны студэнт» з батарэяй «кацюш» адмерваў цяжкія вогненныя кіламетры на Паўночна-Заходнім і Волхаўскім франтах. А да гэтага было светлае і бязвоблачнае даваеннае дзяцінства. Былі свае дзіцячыя забавы і захапленні. І нішто так не зачароўвала дзіцячае сэрца, як хараство роднай прыроды. Нават родная вёска мела паэтычную назву Плёсы. Дзіўна было потым пачуць ад таленавітага П. Панчанкі прызнанне, што пасля заканчэння педагагічных курсаў у Бабруйску ў 1934 годзе, калі яго накіравалі на працу ў родную вёску Міколы Аўрамчыка, ён неўзабаве адтуль «збег». Паэт перад паэтам апраўдваўся так: «Вёска была вялікая і прыгожая, але каля яе не было лесу, а я вырас у лесе і без яго было сумна». Панчанку накіруюць на працу ў іншую школу, а пачатковец плёсавец не праміне, каб не паслаць на ягоны суд свае вершы, бо малады настаўнік Панчанка ў той час ужо меў сваё літаратурнае імя.

Дзяцінства тым і цікавае, што яму трэба дасхочу наталіцца ўсім тым, чым зваблівае яго сама навакольная прырода: нахадзіцца, набегацца, нават пасвавольнічаць, пакуль спадарожнікамі тваімі не стануць самі кнігі. Малым заўсёды цяжка вырастаць са сваіх цацак, але ўсяму ў гэтым жыцці ёсць свой час. І добра, калі нам шанцуе на добрых настаўнікаў. М. Аўрамчыку пашанцавала. Выкладчыца беларускай літаратуры ў школе Алена Лаўрэнаўна Меляшкевіч па-сапраўднаму абудзіла ў душы вучня цікавасць да свайго прадмета. А тут і яшчэ адно шанцаванне: неяк у Бабруйску хлапчук трапіў на літаратурны вечар, дзе выступалі Якуб Колас і Платон Галавач. Да гэтага яго вершы змяшчаліся ў насценгазеце, потым пачалі друкавацца ў бабруйскім «Камунісце», а ў пачатку 1938 года з'явіліся і ў часопісе «Полымя рэвалюцыі».

У даваенным педінстытуце, куды малады паэт прыйшоў ужо маючы свае публікацыі, панавала сапраўды паэтычная атмасфера. Сярод тагачасных студэнтаў сёння ўсім вядомыя імёны: Іван Грамовіч, Рыгор Бярозкін, Мікола Лупсякоў, Анатоль Вялюгін, Уладзімір Рагуцкі. Аднакурснікамі паэта былі Аляксей Коршак, Алесь Астапенка, Мікола Сурначоў. Здаваць сесію наязджалі Пімен Панчанка, Рыгор Няхай, Алесь Бачыла. У інстытуце выходзіў свой часопіс «Наша творчасць».

У лёсе паэта часам вызначальнымі бываюць і нейкі выпадак, нагода ці сустрэча. Нешта падобнае атрымалася і ў яго. Тут хацелася б працытаваць самога паэта: «У пачатку красавіка 1939 года ў госці да студэнтаў прыйшлі Янка Купала, Якуб Колас, Міхась Лынькоў і Эдзі Агняцвет.

У прэзідыум вечара запрасілі і нас, літгурткоўцаў з педінстытута, КІЖа і медінстытута…

Покуль нехта з выкладчыкаў інстытута расказваў аб творчасці літгуртоўцаў, Якуб Колас праглядаў студэнцкі літаратурны часопіс. Заўважыўшы, што паэт прачытаў там мой верш «Адлёт жураўлёў» і паказаў яго Янку Купалу, я страшэнна расхваляваўся. А тут якраз аб'явілі, што чытаць свае вершы будуць пачынаючыя, і першаму слова далі мне.

Я канчаткова разгубіўся, нясмела выйшаў на трыбуну, па ўсіх кішэнях шукаў свае рукапісы і, як на злосць, не знаходзіў іх… У першых радах залы пачалі смяяцца. Нарэшце, я сумеўся і, хвалюючыся, прачытаў на памяць «Адлёт жураўлёў» і яшчэ нейкі верш. Воплескі студэнтаў крыху згладзілі непрыемнае ўражанне».

Верш, што спадабаўся песняру, на жаль, не вытрымаў выпрабаванне часам. «Не сумуйце па родных балотах», — прасіў аўтар жураўлёў і абяцаў, калі яны вернуцца, то на месцы былых балот абавязкова «трактары загрукочуць, камбайны». У сваім часе яно то гучала. Сёння якраз сумаваць даводзіцца аб іншым — аб тых жа балотах. Аднак «крылатая» тэма, дзякуючы Якубу Коласу, акрыліла маладога паэта. Потым так і казалі: «Народны паэт шчасліва ўручыў пачаткоўцу «жураўлінае пяро». Усё ў яго жыцці складвалася добра. Ён рыхтаваўся да апошняга экзамена за трэці курс. Але пачалася вайна. Далей вытрымкі з ягонай аўтабіяграфіі чытаюцца як радкі ваеннага рамана: «Уначы 26 чэрвеня з Міколам Сурначовым мы пакінулі ахоплены полымем Мінск, а назаўтра ў высокай збажыне ўзбоч Бабруйскай шашы хаваліся ад фашысцкіх сцярвятнікаў, якія бамбілі і расстрэльвалі з кулямётаў грамадзянскае насельніцтва. Тады Сурначоў і напісаў першапачатковы варыянт верша «У стоптаным жыце»…

Пасля працытаванага ў памяці маёй ўсплылі два ягоныя радкі:

Радасна, што ты чалавек,<br>Што жывеш ты пад родным<br>небам!

Былі б яны напісаны, скажам, маім аднагодкам, пэўна, прабег бы іх раўнадушна-абыякава, як звычнае з таго, што да стамлення даводзіцца чытаць штодзённа. Але за радкамі стаялі, і я гэта адчуваў, няпросты лёс чалавека, яго выпрабаванні, боль і нечыя раны. І задумаўся, у якім жа стане, пры якой незвычайнай узрушанасці гэта напісана. Я зразумеў чалавека, адчуў сілу яго жыццялюбства, веры і непахіснасці, паверыўшы адначасова ў праўдзівасць і сілу яго паэзіі. Вось ён распраміў свае плечы, агледзеўся навокал і з палёгкай уздыхнуў пры адчуванні таго, што ўсё страшнае ўжо незваротна скончылася і ніколі больш не паўторыцца. Як жа мне не парадавацца ягонай радасцю?!

Магчыма, там, у падзямеллі Рура, яму згадваўся той самы верш «Адлёт жураўлёў», магчыма, і сам пачуваўся самотным птахам, які задыхаецца без радзімы, без роднага неба. Самотны жураўліны рэквіем прагучыць потым у радках верша «Ключы жураўліныя»:

Толькі людзі — магутныя духам і сілай.<br>Нам ратунак паслалі браты і сябры…

Касякі грозных птахаў сярэбранакрылых
З буркаваннем трывожным плылі угары.

Мне здавалася: імі расколваюць хмары,
Забіраючы ў іх клін за клінам здаля,
І заранкі выкрэсваюць кожным ударам,
Ад якога ўздрыгвалі неба й зямля.

Вартавыя ад жаху зусім анямелі.
А вясна, жураўліныя ўзяўшы ключы,
Адамкнула нам дзверы на свет з падзямелля,
Абдала нас святлом пасля змрочнай начы.

Шчаслівымі жураўлінымі ключамі аднойчы адамкнулася зваротная дарога дамоў. Але і яна не была лёгкай. Чакаў яшчэ Данбас, які давялося аднаўляць, працуючы сталяром на ўскраіне Данецка. І толькі ў 1946 годзе ён вярнуўся ў Мінск і паступіў на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Перажытае вылілася адразу ў вершах «Глюкаўф», «Я знаю рай ваш залаты», «Сустрэча былых канагонаў», «Хлеб твой». Не памылюся, калі скажу, што яны належаць да лепшых здабыткаў айчыннай паэзіі.

Дарогі паэта… Пасляваеннае жыццё для Міколы Аўрамчыка надта шчодрылася на іх. Аб’ехаў, здаецца, усе рэспублікі былога Савецкага Саюза, пабываў у самых далёкіх кутках. Паэтычнае слова, прамоўленае яго вуснамі, гучала і ў Сібіры, і ў Запаляр’і, і ў Сярэдняй Азіі. Тут варта пагадзіцца з Піменам Панчанкам, які аднойчы зазначыў: «Вярнуўшыся з далёкіх дарог, паэт пільней углядаўся ў родныя твары землякоў, у жытнёвае поле, у сосны Беларусі. І пачыналіся блізкія дарогі ад Глуска да Краснага Берага, ад Радашковіч да Мсціслава альбо на Нёман, на Палессе».

На адлегласці роднае заўсёды робіцца найбліжэйшым. Аднойчы самі сабою напісаліся і прачулыя радкі пра родную Бабруйшчыну. Гэта своеасаблівая паэтычная візітоўка Міколы Якаўлевіча. І наколькі я ведаю, не бывае ніводнай сустрэчы, дзе б ні гучаў гэты верш. А чытальнік Мікола Аўрамчык адменны, ён умее кожнае слова агучыць своеасаблівай раскацістай, уласцівай толькі аднаму яму, інтанацыяй. Вось і зараз, здаецца, гучаць у маіх вушах яго знаёмыя радкі пра свой родны куток:

Мая Бабруйшчына зялёная,
Здаешся іншым ты малой
З тваёй Бярэзінай хваленаю
І з непрыметнаю Алой.

А мне заўсёды паўнаводнымі
Здаваліся іх берагі,
Былі твае мясціны роднымі,
Куток з маленства дарагі.

У гэтых радках заўсёды прысутнічаюць і родныя паэтавы Плёсы, дзе прапісана назаўсёды яго сэрца і паэзія таксама.

Мне шанцавала ў жыцці на добрае знаёмства, а потым і сяброўства з многімі нашымі слыннымі творцамі старэйшага пакалення. Дапамагала гэтаму праца на Беларускім радыё, куды пісьменнікі ішлі не толькі па запрашэнні, але і па даўняй добрай звычцы, якая з гадамі перарастала ў правіла: перш, чым аддаць творы ў друк, апрабуй іх на слых у радыёэфіры. Запіс на радыё заўсёды суправаджаўся шчырымі сяброўскімі гутаркамі, прыпамінамі, а завяршаўся часам і лёгкімі застоллямі. Усё гэта збліжала сэрцы.

Хачу яшчэ раз сцвердзіць, што Мікола Аўрамчык для мяне застаецца любімым паэтам з тых самых студэнцкіх гадоў. Нездарма і сваю дыпломную я калісьці пісаў менавіта па ягонай творчасці і меў за гэта вышэйшую адзнаку.

Па зусім выпадковай аналогіі і я, як калісьці мой старэйшы сябра, стаўся раптам «недавучаным студэнтам»: ва універсітэце ліквідавалі ваенную кафедру

і мяне, калі збіраўся здаваць экзамены за трэці курс, позвай паклікалі ў войска. Не паспеўшы як след прывыкнуць да Мінска, амаль на тры гады атабарыўся ў Маскве. Але сувязі мае з любімым часопісам не парываліся.

Красавіцкім днём 1965 года ў вайсковую часць, дзе я служыў, прынеслі пошту. Трэба ведаць, з якім хваляваннем распячатваў я бандэроль, у якой ляжаў чарговы нумар «Маладосці». Там была змешчана даволі аб'ёмная падборка маіх вершаў. Я і сёння ўдзячны паэту за тую радасць.

Калі мы пачалі сустракацца з Міколам Якаўлевічам часцей, я зусім нечакана адкрыў у ім надзвычай вясёлага расказчыка, гумарыста ды гаваруна, а яшчэ майстра сяброўскага розыгрышу. Шмат хто з нашых пісьменнікаў трапляўся на Аўрамчыкаў розыгрышны «кручок». Быў і я аднойчы ахвярай такога розыгрышу і шчыра ва ўсё паверыў. І перажыванняў потым мне хапіла не на адзін дзень. Вядома, калегі па працы пра ўсё гэта ведалі, і калі ўбачылі, што душэўныя мае пакуты зайшлі надта далёка, тут жа патэлефанавалі аўтару жарту і той з уласцівым яму досціпам вярнуў мяне ў нармальны стан.

І яшчэ адна выпадковая аналогія. Зусім не збіраючыся ў нечым паўтараць свайго настаўніка, праз нейкі час я сеў нечакана ў ягоныя «сані». Пазваніў мне ў «Вясёлку» галоўны рэдактар «Маладосці» Анатоль Грачанікаў і прапанаваў узначаліць аддзел паэзіі. Я, вядома ж, згадзіўся. Сядзеў, праўда, ужо за іншым сталом, у іншым будынку і пакоі. Прыносілі мне творы зусім іншыя хлопцы і дзяўчаты. І сустракаючы іх, я заўсёды памятаў урокі свайго старэйшага папярэдніка. Навука тая заключалася вось у чым: «Падтрымай чалавека напачатку, хай нават твор шмат у чым не дацягвае да ўзроўню. А там час пакажа, будзе з чалавека толк ці не». Прыкладна так гучала асноўнае правіла настаўніка. І яно амаль усюды апраўдвала сябе.

На яго 80-годдзе мы сабраліся ў вялікай зале Дома літаратара на творчую вечарыну з гэтай нагоды. Ён сам прыдумаў яе незвычайны сцэнар у форме своеасаблівай пераклічкі. Падобнага ўшанавання ніхто з нас не памятаў. Здаўна ўсё рухалася па традыцыйнай завядзёнцы: нехта чытае занудлівы даклад, потым ідуць віншаванні ўперамеж з кветкамі ці сувенірамі. А тут спачатку чытае свой верш, прысвечаны аднаму з нас ён, а потым у адказ адгукаемся сваімі радкамі мы. Яму гэта было зрабіць няцяжка: у яго шмат сяброў, старэйшых і маладзейшых, мелася і шмат паэтычных прысвячэнняў, як з аднаго, так і з другога боку. Мулкавата сядзелася ў крэсле і мне. І вось яго распеўны голас пачаў чытаць радкі пра мае Навікі. А потым чытаў і я сваё, дарагое мне ды, магчыма, балючае яму:

Кульгае месяц па-над соснамі,
Як ранены баец дамоў.
На ім яшчэ не сцёрта й сёння
Таго канцлагера кляймо.

Гэта напісалася даўно, калі толькі з'явіўся верш «Ключы жураўліныя». У маёй памяці і сёння працягваецца тая незвычайная вечарына, якая ператварылася ў своеасаблівую паэтычную паверку пакаленняў. Перапоўненая зала вельмі ўзнёсла рэагавала на ўсе выступленні, горача сустракала кожнае слова юбіляра. Не абышлося, праўда, і без адной непрыемнасці, што мела месца ў другой, ужо «неафіцыйнай» частцы вечарыны, дзе так недарэчна «выбрыкнуў» адзін з нашых маладзейшых. І гэта, на жаль, засталося ў памяці.

У 70—80-я гады мінулага стагоддзя, якое мне ўсё чамусьці цяжка называць мінулым, шмат спрэчак вялося на старонках нашага друку пра сучаснасць у літаратуры. Казалі і папракалі, што малавата ў нашых творах тае сучаснасці. А мне здаецца, было яе аж залішне. Праўда, у кожнага сваё разуменне сучаснасці. Многія яе проста блыталі з надзённасцю, а то і аднадзённасцю. Дужа паслухмяныя ды ўслужлівыя і пісалі вершы-аднадзёнкі «на злобу дня». Чаго-чаго, а «злобы» ў некаторых хапала. Ах, як дарэчы тады прагучалі радкі Міколы Аўрамчыка:

Што для мяне сучаснасць
значыць?
Усё,
што паўстае ўваччу,
Што давялося мне пабачыць,
Што перажыў і што адчуў.

«Перажытага і адчутага» ў паэта было дастаткова. Але сяму-таму варта было і патлумачыць, што пішучы пра мінулае, паэт заўсёды думае пра сучаснасць.

Мне здаецца, самай сучаснай атрымалася ў яго кніга «Сустрэча былых канагонаў» (1963). Вядомая цэлая перадгісторыя з'яўлення гэтага паэтычнага зборніка. У шасцідзесятыя гады таго стагоддзя пабегла па краіне слава пра беларускі шахцёрскі горад Салігорск. Не ўтрымаўся, каб не наведаць сваіх землякоў-калійшчыкаў і ён, шахцёр «паняволі», Мікола Аўрамчык. З незвычайным хваляваннем збіраўся ў дарогу. А што там пабачыў, як яго сустракалі салігорцы, чытачы даведаліся неўзабаве з вялікай вершаванай падборкі, што з'явілася ў майскім нумары часопіса «Полымя» за 1962 год.

Пра нейкую задуму цэласнай шахцёрскай кнігі, вядома ж, гаворкі не было. А падказаў яе даўні сябра паэта Анатоль Вялюгін. Тут зноў спашлёмся на прыпамін М. Аўрамчыка: «Аднойчы пры абмеркаванні выдавецкага плана на прэзідыуме Саюза пісьменнікаў ён (А. Вялюгін. — **К. К.**) падняўся і прапанаваў:

— Бачу тэматычна цэльную кнігу Міколы Аўрамчыка. У нас, у «Полымі» (А. Вялюгін працаваў тады загадчыкам аддзела паэзіі часопіса. — **К. К.**), друкуецца вялікая падборка яго вершаў пра Салігорск, калі дадаць да яе яго вершы пра Рур і пра Данбас, вось вам гатовая кніга.

Я пажартаваў тады, што ён майстра не толькі на падказку назваў, але нават і на складанне зборнікаў.

А калі прыйшоў дахаты, падумаў, што сапраўды можна выдаць такую кнігу. Нават і назву лёгка даць ёй паводле аднайменнага верша «Сустрэча былых канагонаў».

Праз год выдавецтва выпусціла гэты зборнік. А яшчэ праз год Савет Міністраў рэспублікі адзначыў яго Купалаўскай прэміяй, дарэчы, адначасова з паэмай «Вецер з Волгі» Анатоля Вялюгіна.

Пазней я неаднойчы жартаваў, што на самай справе яму належаць абедзве гэтыя прэміі, бо менавіта дзякуючы яго прапанове, з'явіўся зборнік вершаў, якога не было ў мяне ў задуме».

Кніга «Сустрэча былых канагонаў» і сёння здзіўляе мяне арыгінальнасцю кампазіцыйнай кампаноўкі. Гэта яскравы прыклад таго, калі пад адной вокладкай можна арганічна паяднаць і мінулае, і сучаснае.

Знайшлося ў біяграфіі Міколы Аўрамчыка месца і яшчэ адной дарозе. Працуючы ў «Маладосці», я прывык да яго тэлефанаванняў з далёкай Ялты, куды паэт ад'язджаў штогод і жыў там месяцамі безадлучна. На сонечным чарнаморскім беразе, дзе для беларуса заўсёды лунае дух вялікага Багдановіча, М. Аўрамчык не столькі адпачываў, колькі папраўляў здароўе. Далёкі палон, суровая праца ў падзямеллі напаміналі пра сябе і праз гады. Не, час не заўсёды гоіць ды лечыць старыя раны, часцей за ўсё ён развярэджвае іх ды больш абвастрае даўні боль. Голас яго ў трубцы гучаў заўсёды бадзёра, нават знаходзіліся хвіліны для нейкіх прыпамінаў ды роспытаў. А наязджаючы ў Мінск, не прамінаў, каб зазірнуць у «Маладосць», да якой ставіўся як да роднай. А нам, супрацоўнікам часопіса, усё карцела выманіць у паэта новыя вершы, якія, пэўна ж, ужо паабяцаў «Полымю».

Назаўсёды застануцца ў памяці нашы сумесныя гасцяванні ў незабыўнага Міколы Ермаловіча. Запрашэнне на іх заўсёды перадаваў нам Генрых Далідовіч, які сябраваў з Міколам Іванавічам. Галоўнымі ў тым вечаровым застоллі пры добрай, падкрэслена беларускай закусі, якую ўмеў прыгатаваць гаспадар, былі яны, два айчынныя «аксакалы». Абодва знаёмыя яшчэ з гадоў студэнцтва, бо

вучыліся разам у педінстытуце, абодва са слабым, амаль нулявым зрокам, яны заварожвалі нас сваім унутраным бачаннем усяго таго, і далёкага, і блізкага, што мела месца ў нашым жыцці. Тое, што часам дорыць пісьменніку нават вузкая, але цесная сваёй цеплынёй сябрына, бывае вартым многіх вялікіх кніг. За сталом творцы нібыта спавядаліся: ці то перад Богам, ці то перад Часам. Многія словы той споведзі жывуць і сёння ў маёй памяці.

Нейкім рэхам адгукнулася тады ў памяці і іншая споведзь паэта. Я маю на ўвазе таленавітую паэму Міколы Аўрамчыка «Волхаўская споведзь». Ужо сам пачатак гэтай усхваляванай ліра-эпічнай рэчы схіляе да роздуму над пражытым, патрабуе новага, яшчэ больш дэталёвага яго пераасэнсавання. Цяжкае вяртанне ў мінулае — гэта і згадка, і адначасова папярэджанне самому чалавеку на будучае:

На магілках Спаскай Палесці,
Перад воінам з граніту,
Ты
салдацкія аповесці
Перачытвала на плітах.

Бач,
як мы плацілі дарага
За жыццё Мяснога Бору,
Назва ўжо адна
каторага
За сябе
сама гаворыць.

Мясны Бор — гэта якраз тыя мясціны, дзе пры акружэнні ў 1942 годзе М. Аўрамчык трапіць у палон. Пра перажытае, пра сваіх сяброў па франтавых дарогах, на чые плечы ляглі неверагодна цяжкія выпрабаванні ўсхвалявана і дэталёва расказаў паэт і ў сваіх кнігах прозы «У падзямеллі» і «Палон». Мала чамусьці звяртала ўвагі на гэтыя значныя і праўдзівыя кнігі наша крытыка. Яны ўсё яшчэ патрабуюць свайго ўдумлівага прачытання. Але спачатку павінны быць перавыдадзены.

Мікола Аўрамчык сустракае сваё 90-годдзе з добрым творчым набыткам. Не буду пералічваць тут усе ягоныя кнігі. Іх трэба проста чытаць, каб глыбей зразумець усю вартасць створанага.

Сёння яшчэ больш ускладніўся зрок паэта. Пры не так і даўняй сустрэчы ўбачыў яго, сівавалосага, але па-ранейшаму стройнага, нязвыкла абцяжаранага выратоўчымі лінзамі. Аднак рука паэта засталася нястомнай. З-пад пяра яго з'яўляюцца новыя вершы, пераклады, успаміны пра сяброў-калег. Я з цікавасцю чытаў яго ўспаміны пра Анатоля Вялюгіна ў часопісе «Полымя» (№ 6, 2008). Паэта, якога добра ведаў, убачыў у іх нібы жывога.

У паважаным узросце Мікола Аўрамчык усё ж вярнуўся ў родныя Плёсы. Трэба разумець, як многа значыць для паэта такое вяртанне. Магчыма, яно раўназначна самой маладосці, куды заўсёды вяртае чалавека памяць.

Прыгадаўся даўні верш Аляксея Пысіна:

Я ў Плёсах быў. Там клуб двухпавярховы
На востраве зялёным, як маяк.
Сказалі мне, што водпуск свой чарговы
На мілі ў моры размяняў зямляк.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Дуб лугавы. Сланечнік з лісцем жорсткім.
І ластаўка з-пад матчынай страхі.
Ты парадніў іх з лямпачкай шахцёрскай,
Каб больш святла упала на шляхі.

Лепш не скажаш. Святло сваіх вачэй, святло душы адліў паэт у радкі, шчодра сыпнуў яго на шляхі-дарогі, па якіх прайшоў сам і па якіх ідуць і будуць ісці яго нашчадкі. Светлага шляху вам, дарагі Мікола Якаўлевіч, і ў вашым найшаноўным узросце!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ЗЯМНОЕ І ВЕЧНАЕ

**Хто** няблага знаёмы з гісторыяй, бадай, ведае, што ў 20—30-я гады мінулага стагоддзя ў Савецкім Саюзе любілі прысвойваць вуліцам імёны знакамітых людзей, а некаторыя партыйныя дзеячы нават мелі гонар «атрымаць» уласныя гарады. Перападала пры гэтым сяму-таму і з вядомых пісьменнікаў. Праўда, ніводзін з іх на горад пры жыцці «замахнуцца» не мог, а «ўласную» вуліцу — калі ласка. Зразумела, пры ўмове, што ён верна служыць партыі.

Тыя часы даўно мінулі і сёння імянныя вуліцы з'яўляюцца вельмі рэдка, і толькі пасля таго, як той, памяць аб кім вырашылі ўшанаваць такім чынам, пайшоў у вечнасць. Аднак нездарма кажуць: няма правіла без выключэння. Што гэта і сапраўды так, я лішні раз упэўніўся, калі ў самым канцы жніўня 1996 года завітаў на Ганцаўшчыну.

Нагода была такая, што адмаўляцца не хацелася. Землякі Віктара Гардзея вырашылі адзначыць ягоны паўвекавы юбілей. Праўда, нарадзіўся Віктар Канстанцінавіч 19 жніўня 1946 года, ды ў яго ў роднай вёсцы Малыя Круговічы разважылі інакш: калі святкаванне юбілею перанесці крыху пазней, то тым самым вучні, якія прыйдуць на ўрачыстасць, змогуць не толькі сустрэцца з выдатным пісьменнікам, але адначасова атрымаюць мажлівасць як бы папрысутнічаць на ўроку ведаў, уроку роднай літаратуры.

Так і сталася. На маляўнічую паляну завітала ці не ўся вёска. Былі, як кажуць, і старыя, і малыя. Ішлі як на сапраўднае свята. І не толькі на літаратурнае, а, як неўзабаве высветлілася, і на свята саміх Малых Круговічаў, прымеркаванае да паўвекавых народзінаў знакамітага земляка. Як і мае быць, гучалі вершы і песні, чуліся пажаданні юбіляру. Усё гэта не магло не радаваць. Аднак тым сонечным днём у Малых Круговічах адбылося і тое, чаго на сённяшні дзень болей нідзе на Беларусі не напаткаеш. Землякі Віктара Канстанцінавіча зрабілі яму прыемны сюрпрыз.

Яны загадзя пахадайнічалі перад мясцовымі ўладамі і Ганцавіцкі раённы выканаўчы камітэт пастанавіў: прысвоіць вуліцы ў Малых Круговічах, на якой прайшло маленства В. Гардзея, ягонае імя. Вуліца гэтая, дарэчы —немалая. Яна цягнецца прыкладна на кіламетр з гакам. На жаль, ад падворка, дзе гадаваўся В. Гардзей, застаўся толькі старэнькі сад, а яшчэ колькі магутных вязаў, якія ў свой час пасадзіў ягоны дзед. Ва ўнука ж, як вядома, свой сад — літаратурны, карані якога на зямлі маленства, на Палессі.

Згадваецца верш, што адкрывае ягоную кнігу паэзіі «Дзікая пчала» (1994):

На Палессі матчынае мовы
Ёсць яшчэ жывыя астравы,
Дзе гаркоту здыме пах мядовы
І суцешыць пошум баравы.

Канечне, найперш пра мову маці, бацькі піша паэт. Ды не толькі. Яшчэ і пра тую нерушавасць, якую сёння можна напаткаць хіба ў глыбінцы, далей ад тлуму гарадскога, бліжэй да прыроды, на самым улонні яе:

Зарыкае поплаў вечаровы,
І сціхае бор, пакуль жывы,
І, як птушкі, прылятаюць словы
На свае лясныя астравы.

Сярод гэтых «жывых астравоў» і прайшло маленства, а таксама юнацтва В. Гардзея. Скончыў Круговіцкую сярэднюю школу, нейкі год працаваў у калгасе, а пасля, таксама год, быў літаратурным супрацоўнікам ляхавіцкай раённай газеты «Будаўнік камунізму», а з 1966 года звязаў свой лёс з ганцавіцкай раённай газетай «Савецкае Палессе» — загадчык аддзела пісем, адказны сакратар, намеснік рэдактара. Прайшоў журналісцкую школу ў цудоўнага чалавека і журналіста Васіля Праскурава, каб у 1983 годзе перабрацца ў Мінск. Працаваў у рэдакцыях часопісаў «Беларусь», «Родная прырода», «Маладосць», «Вожык», а цяпер — у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Хораша раскрыўся ягоны талент у журналістыцы. Адбылося гэта не без уплыву В. Праскурава, які і сам часта выступаў у друку (і не толькі ў раённым, а і ў абласным, рэспубліканскім) з цікавымі нарысамі, праблемнымі артыкуламі. Шмат значыла і тая па-сапраўднаму творчая атмасфера, што панавала ў «Савецкім Палессі». Таксама дзякуючы Васілю Фёдаравічу, які заўсёды ўмеў і жадаў падтрымліваць маладыя таленты. Таму і сталася так, што ў рэдакцыі раённай газеты былі багатыя творчыя традыцыі, у тым ліку і літаратурныя. У ёй у свой час працавалі паэты Міхась Рудкоўскі, Іван Кірэйчык, друкавалі першыя творы Мікола Антаноўскі, Алесь Каско, Уладзімір Марук, Мікола Купрэеў...

Аднак сваё сапраўднае прызванне В. Гардзей знайшоў у літаратуры. Талент ягоны — шматгранны. І не толькі ў тым сэнсе, што яму ўласціва пачуццё тонкага гумару, досціпу, дый сатыры ён не цураецца, а таксама з поспехам піша для дзяцей, аб чым засведчылі яго зборнікі вершаў «Чырвоны грабеньчык» (1976), «На арэхавай палянцы» (1982), «Коцікі на вярбе» (1988), «Мой тата — трактарыст» (1989), «Зай, які лічыў варон» (1992), «Зайкава балалайка» (1998).

Вельмі важкія ягоныя набыткі ў галіне прозы (дарэчы, упершыню ў рэспубліканскім друку выступіў акурат з апавяданнем «Памылка», якое газета «Піянер Беларусі» апублікавала 1 лістапада 1963 года). У прозе В. Гардзея асабліва моцныя аўтабіяграфічныя моманты, а калі глядзець шырэй, дык нельга не вітаць нязменнае жаданне пісьменніка расказваць пра людзей, якія жывуць у родных яму мясцінах. Аб гэтым яскрава засведчыла яшчэ аповесць «Дом з блакітнымі аканіцамі», што дала назву першай кнізе прозы В. Гардзея (1984). Затым была кніга «Карані вечнага дрэва» (1988), цэнтральнае месца ў ёй заняла аповесць «Жыта ганьбу не заслоніць» з жыцця пасляваеннай заходнебеларускай вёскі. Гэтаксама прыхільна як чытачамі, так і крытыкай была сустрэта трылогія «Аселіца Чорнага мора» (2001) і раман «Бедна басота» (2003). За кнігу прозы «Уратуй ад нячыстага» (1992) яму ў 1993 годзе прысвоена Літаратурная прэмія імя Івана Мележа.

Пры гэтым увесь час Віктар Гардзей не развітваўся з паэзіяй. Важна тое, што падобныя «перабежкі» з жанру ў жанр нікольк не сказаліся на якасці напісанага. Як у звыклым ужо для яго жанры паэзіі, так і ў новым — прозы. Факт больш чым красамоўны: калі ў свой час машыністка ў рэдакцыі часопіса «Маладосць» перадрукоўвала аповесць «Дом з блакітнымі аканіцамі», твор гэты ёй настолькі спадабаўся, што яна адмовілася браць грошы за перадрукоўку. А што такое сапраўдная літаратура, яна добра ведала, бо, калі можна так сказаць, праз яе рукі праходзілі творы Васіля Быкава, Івана Шамякіна і іншых знакамітых пісьменнікаў.

Аповесць жа «Жыта ганьбу не заслоніць», так званая «бягучая крытыка», якая на той час не надта спяшалася з ацэнкамі (што ўжо на гэты конт казаць сёння), прыкмеціла адразу. Акадэмічна строгі і патрабавальны Павел Дзюбайла, згадваючы набыткі 1987 празаічнага года, так сказаў пра гэты твор: «Магчыма, аповесць выйшла трохі сентыментальнай, але яна добра перадае атмасферу

пасляваеннага часу, выяўляе здаровыя народныя асновы жыцця, высокія духоўныя маральныя пачаткі» («У пошуках героя», «Полымя», 1988, № 6). Станоўча ацаніў тое, што з'явілася з-пад пяра пісьменніка, і Генадзь Шупенька, якога ў паблажлівасці ў ацэнках таксама нельга было абвінаваціць: «Калі надарыцца нагода, паспрабую падзяліцца з чытачом радасцю чытання і гэтай аповесці («Крылаты конь» К. Каліны. — **А. М.**), і аповесці В. Гардзея «Жыта ганьбу не заслоніць» («Маладосць», 1987, № 7), прозу якога даўно магла б заўважыць наша не надта зацікаўленая той прастатою, за якой высокія праявы духу свайго народа, наша маладая крытыка. Не трэба баяцца такой сентыментальнасці, якая ёсць у такіх аповесцях. Куды больш выпадае нам быць сентыментальнымі, чым раўнадушна-мудрымі» («Шукаць і знаходзіць», тамсама).

Віктар Гардзей, расказваючы пра першыя пасляваенныя гады (якія цяжкія, галодныя яны былі, мы добра ведаем са шматлікіх мастацкіх твораў), не толькі паказвае ўвесь той боль, быццам скандэнсаваны ў лёсах жанчын, якія засталіся без мужоў, у іх дзецях — падранках вайны, у нямоглых мужчынах, якіх гэтая вайна «пашкадавала», а і выяўляе здольнасць «паэтызаваць працоўнае народнае жыццё» (П. Дзюбайла). Апошняе, бадай, цяжэй. Калі, зразумела, ісці не па шляху ідэалізацыі таго, што адбывалася (да чаго падобная ідэалізацыя можа прывесці, калі пісьменнік страчвае пачуццё меры, шмат гавораць бесканфліктныя творы канца саракавых — пачатку пяцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя, якія на ўсенароднай нішчымніцы давалі свае буйныя паразітычныя парасткі), а глыбока пранікаць у сутнасць з'яў і падзей, уважліва прыглядацца да самога чалавека.

Не збіраюся высвятляць, на якой хвалі (другой, трэцяй?) нашай прозы аб пасляваенных бядотах (такой цаной заплацілі за разгром фашызму!) і радасцях (нягледзячы ні на што выжылі, выстаялі, засталіся людзьмі!), узнікла гэтая аповесць, але з'яўленне яе ў творчасці В. Гардзея — заканамерна. Ужо ў аповесці «Дом з блакітнымі аканіцамі» ён звярнуўся да гэтага перыяду, што таксама стаў для народа выпрабавальным, бо выстаяць ва ўмовах пасляваеннага голаду было гэтаксама няпроста, як і ў час акупацыі.

У аповесці «Жыта ганьбу не заслоніць» удала паяднаны між сабой два пачаткі ў творчасці В. Гардзея — цвяроза-рэалістычны і паэтычна-ўзвышаны. З першым звязаны вобраз Сямёна Барабана. Далёка не ардынарны характар гэтага, па ўсім відаць, моцнага чалавека, але трываласць глебы, на якой стаіць Барабан, усё ж хісткая. Як ні імкнецца ён паказваць і даказваць, што таксама змагаўся з ворагам, супраць праўды-маткі не пойдзеш. Самы суровы маральны суддзя яму — Насця Санцэвіч. Пакуль што суддзя маральны, а далей хто яго ведае, як будзе, бо Насця ўсё больш пераконваецца, што ў смерці зацкаванага фашысцкай аўчаркай яе мужа Сямёна вінаваты Барабан. Гэта ён падказаў, што Сямён ноччу наведаўся ў родную хату: «Сямён павінен быў расстраляць Барабана, свайго суседа, павінен быў звесці са свету гэтага шкурніка, гэтага ашуканца і злыдня. Кару Барабан заслужыў справядлівую. Даўшы міну, яго паслалі ў Ганцавічы ўзарваць вадакачку, але палахлівец збаяўся смерці і не вярнуўся ў атрад. Насустрач марознай ночы, цераз халепу і завіруху Сямён ішоў у Загор'е, каб выканаць загад свайго камандзіра».

Твор напісаны ў рэчышчы маральных пошукаў прозы тагачасных саракагадовых, героі апавяданняў, аповесцей якіх вершаць суровы суд над мінулым, памятаючы, што злачынства, якім бы завуаляваным яно ні было, не падлягае з-за даўнасці забыццю. Сітуацыя з Барабанам у нечым блізкая, у прыватнасці, той, што пакладзена ў аснову аповесці Яўгена Лецкі «Па цаліку». Галоўны герой яе таксама мяркуе, што ў гады вайны іх сусед Яцына зрабіў злачынства. Праўда, у аповесці «Па цаліку» маральны суд Васіля Травеня — гэта суд пасляваеннага пакалення, да якога і належыць герой Я. Лецкі. У В. Гардзея ж галоўны «абвінаваўца» — Насця, яна сама перажыла ваеннае ліхалецце, на ўласнай скуры адчула, што такое фашызм.

Тым не менш ёсць падставы ставіць гэтыя творы поруч. Ёсць яшчэ на зямлі падобныя барабаны, яцыны! Ды паспрабуй, дакажы, што яны — злачынцы. Сведкаў гэтых злачынстваў, як правіла, няма. Сведкаў няма, але звярынае нутро не схаваеш. Той жа Барабан квапіцца на палянку мурожнай травы, нагледжанай Насцяй у лесе. Не ўтрымліваецца і жонка Барабана, каб у награбленых у гады вайны мужам строях паказацца на базары ў мястэчку. Адна жанчына пазнала сваю, «у чырвоныя кветкі, штапельную сукенку». І вось ужо Барабаніха ў сарочцы ўцякае праз жыта. Ды бачыць яе Насця, бачыць, бо жыта не засланіла чужой ганьбы.

Менавіта праз вобраз жыта знаходзіць у аповесці сваё развіццё і ўвасабленне другі пачатак у творчасці В. Гардзея — паэтычна-ўзвышаны. Жыта — і ўвасабленне неўміручасці, несупыннасці, бясконцасці жыцця, і пацвярджэнне таму, што жыццё гэтае, якое перамагло ўжо фашысцкую навалу, смерць — пераможа і нішчымніцу. З першых жа старонак твора быццам удыхаеш пах калосся, што наліваецца, убіраючы ў сябе сам водар зямлі, ды і прадчуванне змен, якія неўзабаве прыйдуць на палескую зямлю.

«Жыта красавала, і цёплы, лагодны ветрык абтрэсваў з малочных яшчэ каласкоў жоўты, ледзь прыкметны пылок. Свяціла пякучае, шчодрае сонца, над полем заліваўся сярэбраным званочкам жаўрук, а збажына святкавала дзень свайго цвіцення. Збажыне было цесна ў быльнікавых межах, і яна, мабыць, прадчувала, што восенню сюды прыйдзе пашарпаны, латаны-пералатаны эмтээсаўскі «націк» і разарэ, нашчэнт зруйнуе старыя межы».

Жыта вечнае, як і ўсё прыгожае, светлае, узвышанае, што заўсёды было, ёсць і будзе ў жыцці. Паэтызуючы народнае жыццё, В. Гардзей не хавае свайго захаплення народнымі традыцыямі і звычаямі, надзіва хораша расказваючы пра Купалле. Насця прытрымліваецца завядзёнкі, што ідзе яшчэ ад дзядоў, — «перад Купаллем закідваць на стрэхі кветку сону, каб, крый божа, які нячысцік не прыблытаўся да двара». Аўтар перадае вечнасць і адначасова таямнічасць, загадкавасць таго моманту, калі вось-вось пачнецца жніво. І радасць дажынак, калі чалавек можа парадавацца плёну рупнасці сваіх рук.

Немалаважна і тое, як В. Гардзей непаўторна «адухаўляе прыроду, якая жыве адзіным жыццём з добрымі людзьмі» (П. Дзюбайла). Тут пісьменнік ідзе ад фальклорных традыцый, узнаўляючы, узнімаючы такія пласты народнага побыту, што сведчаць у карысць спрадвечнага творчага пачатку ў працы нашых продкаў. Дарэчы, тая ж Насця Санцэвіч — само ўвасабленне трываласці маральных устояў народа, грамадства.

Ды была спакуса закруціць славуты любоўны трохкутнік. Дзіва што! Трыццаціпяцігадовая жанчына засталася адна, а тут яшчэ сяброўка паехала ў далёкі Беламорск да дачкі, папрасіўшы дапамагаць па гаспадарцы мужу. Тым больш, што Хвядос Макаед не супраць кінуць вока на адзінокую Насцю. Але пісьменнік «не патурае» чытачу, не ператварае твор у нешта «інтымна-займальнае». Праўда, гэта не значыць, што Насця Санцэвіч паўстае гэткім плакатна-лозунгавым увасабленнем самой дабрачыннасці. Проста яна — з людзей, якія не разменьваюцца ў пачуццях, і тым яшчэ больш духоўна прыгожая.

Пра кожнага са сваіх герояў В. Гардзей расказвае з той пяшчотай і замілаваннем, у якіх сапраўды ёсць нешта чулліва-пранізлівае. Ды — паўтару яшчэ раз услед за Г. Шупенькам — «не трэба нам баяцца такой сентыментальнасці». За ёй — не аўтарская «слязлівасць», не меладраматызм, а само жыццё, якое так доўга выпрабоўвала людзей.

Паэзіяй паўсядзённасці, якая, аднак, не супрацьстаіць суровай прозе жыцця, напоўнены і апавяданні з гэтай кнігі — «Кармакухня», «Наводшыбе», «Старыя жорны» і іншыя. Творы гэтыя ў пэўнай меры — і гэта не папрок аўтару — свайго роду «бывальшчыны». У героях іх Сямёну Гайцюкевічу, Алесю Жывуцкаму, Мікалаю Жыбуртовічу, Карпею, Алёне некаторыя землякі пісьменніка, відаць,

пазнаюць самі сябе. Невыпадкова ў большасці апавяданняў называецца вёска Малое Сяло, блізкая па сваёй назве родным В. Гардзею Малым Круговічам.

Але справа, канечне, не ў гэтай блізкасці да дакументальнай асновы. Прываблівае здольнасць аўтара маляваць — скажу, карыстаючыся тэатральнай тэрміналогіяй, — персанажаў характарных. Знешне непрыкметныя, часам нават нейкія дзіўнаватыя (той жа Славік Амельяновіч з апавядання «Славік на каламажцы», па сутнасці, родны брат так званых дзівакоў Васілія Шукшына, Андрэя Мрыя, Янкі Брыля, Аляксея Дударава), яны ўсё ж — асобы, яркія індывідуальнасці. Іншая справа, у якім напрамку гэтая індывідуальнасць развіваецца, як чалавек выкарыстоўвае свае здольнасці і да чаго ўсё гэта прыводзіць. Вонкавая бязвольнасць падобных людзей падманлівая. Прыйдзе час, і яны не толькі змогуць пастаяць за сябе, але і дакажуць, што не лыкам шытыя.

У аповесці ў меншай ступені, у апавяданнях — у значна большай В. Гардзей раскрываецца і як гумарыст, незласліва, але разам з тым тонка прыкмячаючы ў характарах асобных сваіх герояў тыя «іскрынкі-смяшынкі», якія і ім самім спакойна жыць перашкаджаюць ды і іншых прымушаюць глядзець на такіх людзей з пэўнай аглядкай. Вось, скажам, калгасны паплаўнічы Халецкі з апавядання «Сельскі карэспандэнт Саўка Халецкі». Ён «сельскім карэспандэнтам стаў пры дзіўных абставінах» і не па сваёй волі. Пажартаваў малалетні Пецька Дрозд, паслаўшы ў раённую газету допіс пад чужым прозвішчам. Спачатку Халецкі збіраўся хлопчыка паўшчуваць, але, заўважыўшы, з якой павагай, а то і са страхам — карэспандэнцыя была крытычная — ставяцца да яго аднавяскоўцы, пачаў бязлітасна «эксплуатаваць» Пецьку, прымушаючы пісаць усе новыя і новыя матэрыялы.

Гумар гумарам, але ў апавяданні закранаецца даволі сур’ёзная праблема. Часта бывае так, што чалавек, зусім і неблагі, займеўшы хоць маленькую ўладу над людзьмі, атрымлівае ад гэтага сапраўдную асалоду, хоча, каб так было заўсёды.

Без перабольшання з’явай у нашай літаратуры, у тым ліку літаратуры, адрасаванай сярэдняму і старэйшаму школьнаму ўзросту, стала трылогія «Аселіца ў басейне Чорнага мора», што складаецца з аповесцей «Ці то грэбля, ці то гаць», «Блаславёныя зёлкі» і «Дабравест ад Збавіцеля». Галоўным героем яе з’яўляецца абарыген палескіх ваколіц, як называе яго аўтар, хлапчук Васька Аліфер, якога ўсе ў яго роднай вёсцы Малое Сяло клічуць Вінаградавым. А далі падобную мянушку таму, што ўсім добра запомніўся адзін з мясцовых начальнікаў, чыё прозвішча ў сапраўднасці было Вінаградаў. Той Вінаградаў многім даўся ў знакі, калі любіў паказаць і даказаць, якая ён улада. А Васька?

Вінаградаў хоць і малалетак, але шмат у чым і з дарослымі можа паспрачацца: і ў кемлівасці, і ў дасціпнасці, і ў развагах, што робіць Ваську не па гадах сур’ёзным. А яшчэ ён любіць пажартаваць, калі ж трэба, дык і пакпіць, не зважаючы на тое, з кім уступае ў кантакт ці спрэчку. І самастойны, як ніхто з хлапчукоў у Малым Сяле ды і навакольных вёсках. Адным словам, блазан... Дарэчы, і сам пісьменнік не-не дый назаве так свайго Вінаградава, якога, як відаць з аповесцей, любіць і, расказваючы пра якога, вяртаецца ў гады свайго маленства.

У аповесцях аўтабіяграфічныя моманты відочныя. І не толькі ў абмалёўцы вобраза галоўнага персанажа, а і ў перадачы рэалій пасляваеннай вёскі, у паказе тых, хто жыў тады, працягваючы ў беднасці сваю нялёгкую сялянскую працу. І пра пэўную дакументальнасць, у рэшце рэшт, можна даведацца з уступу «Зямля, дзе баліць душа», і з эпілога, які мае назву, у многім блізкую да папярэдняй — «Зямля, дзе плача сэрца». Разам з тым у іх адчувальная і канкрэтызацыя зместу. Гэта пакутна, калі кволіцца душа, але больш нясцерпна ад болю сэрца. А сэрца баліць не з-за незваротнасці таго, што прайшло (у дадзеным выпадку гэта кожнаму зразумелы боль душы); яго боль — і ад усведамлення абыякавасці да зямлі, да памяці, якія спадарожнічаюць ужо не аднаму пакаленню. Не абмінулі яны і пакаленне таго ж Валькі Аліфера.

Таму і прыгадвае В. Гардзей пражытае і перажытае, каб даць на ўсё свой адказ. Таму і ўспамінае землякоў: «Яны, жыхары яшчэ мнагалюднай пасляваеннай вёскі, адзін за адным узнікаюць перад маімі вачыма: бабка Марка і дзед Сцяпан, ляснік Уладзя Падгайскі і брыгадзір Людвік, цясляр Гаўрыла Трафімчык і дасціпны жартаўнік Баразна, славуты пячнік Каца і не менш знакаміты дудар Мацвей». А згадваючы іх, спрабуе правесці своеасаблівую мяжу паміж тым, што было ў сапраўднасці, і тым, што народжана фантазіяй. Спрабуе і адчувае, што гэта не так — і атрымліваецца: «Я гляджу на іх з далячыняў часу, успамінаю іхнія аблічча, галасы, звычкі і не магу зразумець, хто з герояў твора на самай справе жыў калісьці ў Малым Сяле, а хто прыдуманы мною? Вядома, ёсць і такія персанажы, якія ў рэальным жыцці не мелі прататыпаў, дык няхай тыя людзі даруюць мне за свае зборныя вобразы і некаторую вольнасць у абыходжанні з іхнімі імёнамі і прозвішчамі».

Ёсць эпізод, які дае шмат для разумення той глыбіннай сутнасці, што закладзена аўтарам у трылогію. Гэта згадкі пра «замшэлы, аброслы сухім лішайнікам, напалову апушчаны ў зямлю» валун, які ляжаў «наводшыбе Малога Сяла, акурат паблізу сядзібы старога Мацвея, працавітага ратая і славутага вясковага дудара». Адметным быў камень: «На ім выразна бачыліся адбіткі слядоў — чалавека і розных жывёлін. Невялікае паглыбленне дакладна перадавала контуры жаночай ступні — прадаўгаватай, з высокім пад’ёмам, зусім побач прытуліўся маленькі дзіцячы слядок, такія ўлетку часта бачыш на пяску. Далей у кружок рассыпаліся адбіткі слядоў жывёлы: выцягнуты, нібы падкова, авал — каровін след, дзве ямчынкі — авечыя капыткі, а потым было і не вызначыць каму, якой істоце належыць дзіўная мазаіка выбітых у граніце слядоў».

Наконт паходжання загадкавага валуна бытавала ў Малым Сяле легенда: «Быццам бы даўным-даўно... жыў адзінокі пастух Андрэй — добры, чуллівы, але надта даверлівы, і ягонай душою падманам завалодаў нячысцік, зрабіўшы ўсё, каб ад беднага пастуха адступіўся анёл-ахоўнік. Аднойчы гарачым летам, пасля страшэннай навальніцы, у абед гаспадыні не дачакаліся з пашы сваіх кароў, прапаў і сам пастух, а калі Андрэя пачалі шукаць, то на поплаве, дзе пазней забудаваўся Мацвей-дудар, убачылі невядомы дасюль камень, а на ім — загадкавыя, таямнічыя сляды розных жывых істот. З таго часу валун пачалі называць па імені пастуха, які, пацяты маланкай, ператварыўся ў абломак шэрага граніту».

Вобраз Ваські Аліфера становіцца ў трылогіі (асабліва ў заключнай аповесці «Дабравест ад Збавіцеля») звяном, якое лучыць учарашняе з сённяшнім. І калі ёсць яшчэ нешта чыстае, святое на зямлі, дык, несумненна, цікаўны хлапчук. Канечне, Вінаградаў далёка не анёл, шмат у яго паводзінах «грэшнага», ды гэта толькі выдаткі ўзросту. А яшчэ таго, што змалку ён прадастаўлены самому сабе — застаўся без бацькоў, выхоўваецца ў дзядулі з бабуляй. Тыя, вядома, як могуць клапоцяцца пра ўнука, ды Васька да многага мусіць даходзіць сам.

У гэтай аповесці, як і ў папярэдніх (ды і ўвогуле ў творчасці В. Гардзея) шмат досціпу, таго ледзь прыкметнага гумару, што ў сваёй аснове народны, а значыць — «не прыдуманы», шчыры, натуральны. Вядома ж, гэта ідзе найперш ад таленту пісьменніка, а яшчэ ад яго аптымізму, здатнасці, нягледзячы ні на што, прыкмячаць у жыцці светлае, узнёслае. Душа Вінаградава — душа рамантыка. І невыпадкова Ваську мроіцца загадкавы карабель, які кожны раз узнікае, «быццам лятучы прывід». І ад частага з’яўлення яго ўзрушанасці не менее. Ды і як жа інакш, калі з гэтым «парусьнікам» герой пісьменніка вырываецца з шэрай і ў многім аднастайнай рэчаіснасці і можа «плысці» ў краіну сваёй мары...

Чытаць трылогію — асалода... Проза В. Гардзея не «выпакутаваная», як нярэдка надараецца ў пісьменнікаў, якія не пішуць творы, а быццам канструююць іх. Гэта тады, калі няма пра што сказаць, а сверб «тварыць» не дае спакою. У В. Гардзея ж радкі кладуцца на паперу лёгка, а таму і адпаведным чынам успрымаюцца. Мова сакавітая, вобразна насычаная, у чым адчуваецца і вопыт

паэта. Таму і проза яго — найперш проза паэта. Цікаўнасць да твораў не памяншаецца, хоць і няма ў трылогіі вострых, драматычных момантаў. Ды, калі крыху разважыць, яны і не патрэбныя. Сам вобраз галоўнага героя выйгрышны, і гэтага дастаткова.

Некалі Янка Сіпакоў дакладна сказаў: «Усе мы з хат...». Гэты выраз у аповесцях В. Гардзея набывае яшчэ адно як бы матэрыялізаванае ўвасабленне. Жыццё Малога Сяла ў пасляваенны час, жыццё гарэзлівага і дасціпнага «абарыгена Вінаградава» — гэта ж, несумненна, і жыццё самой Беларусі ў вельмі важны гістарычны прамежак. Тагачасныя падзеі можна асэнсоўваць па-рознаму, тут пісьменнікам шырокае поле дзейнасці. Нехта падступіцца да іх з задумай, вартай эпічнагага твора. В. Гардзей жа пайшоў іншым шляхам, а ў выніку атрымаўся «сказ пра Вінаградава».

Пасляваенная беларуская вёска ў цэнтры і іншага твора Віктара Гардзея — рамана «Бедна басота», напісанага ў рэчышчы традыцыйнай прозы, што так вабіла Івана Мележа і іншых пісьменнікаў, якія гэтак цудоўна паказвалі народны побыт, стваралі надзіва каларытныя народныя характары. Гэткія ж характары і ў рамане В. Гардзея. Псіхалагічна-выверанымі, яркімі, па-сапраўднаму індывідуальнымі атрымаліся такія персанажы, як Ванька Зайцаў, Аляксей Хамутовіч, Фядора Чыркун, яе дачка Ядзюня і іншыя. Паўстаюць воблікі зноў жа тых самых маласельцаў — вясёлых, дасціпных, але і ў меру сур’ёзных. Тым больш, што аўтар не абыходзіць сваёй увагай і вострых пытанняў, не хавае таго, што далёка не так усё было ідылічна ў тагачасным жыцці, як не адно дзесяцігоддзе паказвала гэта афіцыйная ідэалогія.

Тое самае тычыцца і аповесці «Уратуй ад нячыстага». Праўда, гэтым разам В. Гардзеем узяты іншы зрэз жыцця. Перад намі — жыццё невялікага палескага гарадка ўжо бліжэйшага да сённяшніх дзён часу. Зноў жа пісьменнік, хоць і з замілаваннем ставіцца да сваіх персанажаў, але і не праходзіць міма таго негатыўнага, сведкам чаго быў сам, калі жыў у Ганцавічах і працаваў у рэдакцыі раённай газеты. Ім нічога не прыдумана, хіба што шмат якія вобразы абагульненыя, у аснову пакладзены рысы некалькіх прататыпаў. Гэтая тая праўда жыцця, перадаць якую можа толькі пісьменнік вялікага таленту. Акурат такім пісьменнікам і з’яўляецца В. Гардзей-празаік.

Да ўсяго ён плённа працуе і ў галіне перакладу — як паэтычнага, так і празаічнага, аб чым, прынамсі, засведчыў том казак народаў Еўропы «Хрустальны калодзеж», які нядаўна перавыдадзены «Мастацкай літаратурай» у двух тамах.

Аднак не будзе перабольшаннем сказаць, што ўсё ж найбольш ярка талент В. Гардзея раскрыўся ў паэзіі. Адметныя задаткі яго праявіліся ўжо ў першай кнізе «Касавіца» (1975). Акурат з гэтага зборніка і пачалося стварэнне В. Гардзеем свайго паэтычнага свету, у якім заўсёды ёсць месца спаконвечным матывам дабра, справядлівасці, лучнасці з бацькоўскай зямлёй, любасці да блізкіх людзей.

Дый інакш і быць не можа, калі прытрымліваецца паэзіі традыцыйнай, а яна ж — ад самой зямлі ідзе. Яна ўбірае ў сябе жыватворныя вытокі крыніц і яна ж напаўняецца жыццядайнымі промнямі сонца. Цяжка ў такім разе часам сказаць нешта сваё, новае. Але ж на тое і талент, каб, прабіўшыся скрозь звыклае, раскрыцца нерушавасцю, непаўторнасцю. Пры гэтым спрацоўвае зусім не сама тэма, а тое, як пададзена і як раскрыта яна. Таму і тое, пра што гаварылася неаднойчы, пры тым іншымі аўтарамі, калі яно прапушчана праз светаўспрыманне па-сапраўднаму самабытнага мастака, пазбаўляецца другаснасці. На паверхню выходзіць толькі сваё — самабытнае, ад чаго хораша і светла становіцца на душы.

Прыклад таму — хоць бы верш — «Начное неба»:

Вылежвалася днём, няйначай,
Яно, нібы папар, і ўжо
Маладзічок у хмарках скача,
Як па няўдобіцы плужок.

Па ім прыціхлы вечар сее
Мільёны год мільёны зор.
Начное неба, — як засевак,
Дзе ні абмежкаў, ні разор.

Маладзічок лязо не сплюшчыць,
Арэ ўсё неба, як папар,
Затым яшчэ і поўня лушчыць
Пасля яго палянкі хмар.

Чым бліжэй судакранаўся з паэзіяй В. Гардзея (а ў 1983 годзе, калі паэт пачаў працаваць у рэдакцыі часопіса «Беларусь», што тады знаходзілася ў суседнім калідоры з «ЛіМам» адбылося і наша асабістае знаёмства), тым больш станавілася на душы не толькі радасна ад ягоных вершаў, але і неяк прыкра. Правільней, сорамна з-за сваіх калег-крытыкаў, якія, надта ж налаўчыўшыся складваць розныя «абоймы», чамусьці «забыліся» знайсці ў іх месца В. Гардзею. І зусім не таму, каб некага не прапусціць, кагосьці не пакрыўдзіць. Зусім не. Ён жа па праву заслугоўвае павышанай увагі да сябе. Хоць, калі разабрацца, і крытыкаў у нечым можна зразумець. Яны ж людзі жывыя і ў сваім часе кожны жыў, але лепей жылося, калі называліся тыя, каго, па неафіцыйнай завядзёнцы трэба было называць. Толькі, светлай яму памяці, Варлен Бечык у сваіх дзённікавых запісах тройчы згадваў яго, захапляючыся ягонай паэзіяй. На жаль, напісаць пра яе не паспеў, заўчасна пайшоў з жыцця.

Аднак факт застаецца фактам: у нас ёсць такі цудоўны паэт, імя якога Віктар Гардзей. І, апроч названых кніжак, варта згадаць іншыя, што таксама напісаны ім таленавіта, адметна — «Незабудкі азёр» (1985), «Узрушэнне» (1988), «Дзікая пчала» (1994)... Апошняя з іх цікавая тым, што ў яе ўвайшлі не толькі новыя на той час творы, а і ранейшыя, што па розных прычынах у папярэднія зборнікі не маглі патрапіць.

Самыя раннія датаваны 1961 годам, напісаны па сутнасці зусім яшчэ хлапчуком. Але ў іх не толькі шчырасць, што суседнічае з пэўнай наіўнасцю. У іх ёсць і іншае, больш важнае — тое, чаго не стае сённяшнім паэтам-дэбютантам — непасрэднасці, умення ўспрымаць рэчаіснасць вобразна, так, што і на адлегласці часу нельга не радавацца таленту іх аўтара, які пачаў раскрывацца так рана.

Узяць хоць бы верш «Баравікі». Радок лёгкі, так і хочацца сказаць — бязважкі, але гэтая лёгкасць падманлівая, бо відавочна такая вобразная насычанасць, якая па сіле далёка не кожнаму сталаму аўтару. Усё, як быццам, на адным дыханні, але як шмат сказана! Так і бачыш наяву, як «Парой маладзіковай // Аж пруць баравікі». Далей жа яшчэ большая насычанасць паэтычнага малюнка: «А месяц на ўзыходзе, // І вечары святлей. // Вунь выплыў — пaглядае // Бычок-маладзічок // І рожкамі бадае // Хмурынку пад бачок».

Шмат свежасці, светласці ў гэтых ранніх вершах В. Гардзея. Той свежасці і светласці, што цягам часу не губляецца, не растрачваецца, бо ўсё гэта не проста аднойчы прамоўленае, а выказанае тады, калі не ставала сіл, каб устрымацца і не пачаць давяраць свае думкі і пачуцці паперы. У рэшце рэшт, такая і ўся паэзія В. Гардзея. Ён не «вымучвае» свае вершы, калі абавязкова хочацца штосьці напісаць. Ён жыве імі. Яны па сутнасці плоць ад плоці яго самога — рамантыка і летуценніка, які і з гадамі не растрачвае гэтых якасцей. Хіба што ў нечым пачынае быць больш разважлівым, у чымсьці засяроджаным, а ў нечым сумным — такое жыццё і ад гэтага нікуды не дзенешся.

Праўдзіва сказаў пра В. Гардзея самабытны паэт і празаік, ягоны старэйшы сябра Мікола Купрэеў: «Знешне традыцыйныя, простыя па форме, вершы яго кранаюць сэрцы чытачоў глыбокім пачуццём, свежым радком, эмацыянальным паэтычным вобразам, які зелянее травой і лісцем, шуміць маем, сінее небам, грыміць добрым громам над роднай зямлёй. Добра, хораша жыць у паэтычным свеце Віктара Гардзея:

Вось і дождж, і гром з-за гаю —
Можна жыць на поўны ўздых.
Словы праўды я шукаю
На палетках яравых.

За жыццё, што не пражыта,
За цяпло, што дзень прынёс,
Будзе заўтрашняе жыта
Хваляваецца ўскрай нябёс».

Віктар Гардзей — з тых паэтаў, творчасць якіх ад кнігі да кнігі становіцца ўсё больш дасканалай. Зразумела, гэта не значыць, што ў чарговым зборніку ўсе вершы аднолькава высокай мастацкай якасці. Мастакоўскі працэс — з'ява такая, калі нешта ўдаецца лепш, нешта — горш. Але ў дачыненні да В. Гардзея правільным будзе сцвярджэнне, што кожны ягоны верш па сутнасці адкрыццё. Асабліва цяпер, калі аўтар набыў ужо высокае майстэрства, трымае планку мастацкасці на такой значнай вышыні, дасягнуць якой не можа шмат хто нават з прызнаных. Гэта засведчыў апошні па часе выдання арыгінальны паэтычны зборнік В. Гардзея «Межань», які так спадабаўся М. Купрэеву, з якога і ўзяты ім вышэй прыведзены ўрывак.

Кніга «Межань» — той выпадак, калі дастаткова аднаго верша, каб яна загучала, бо ён успрымаецца як свайго роду запеўка да іншых твораў, прадвызначае тэматычную скіраванасць усёй кнігі. Такі верш у гэтым зборніку — «Жніўныя зарніцы». У ім адразу кідаецца ў вочы эпічная напоўненасць радка. І гэта пры тым, што сам твор — лірычны:

Здаецца, хтось запалкамі зачыркаў,
І цемра ўжо трапеча ў абшары,
І жыта ў цішыні чароўнай зыбкай
Азорваюць зарніцы-хлебазары.

Роздум аўтара настолькі па-філасофску заглыблены, што на невялікай паэтычнай прасторы паэту ўдаецца выказаць вельмі шмат. Ад малюнка самой прыроды В. Гардзей пераходзіць да асэнсавання часу, а калі шырэй — да спасціжэння паняцця вечнасці ў паяднанасці ўчарашняга, сённяшняга і будучага. Лірычны герой, захоплены непаўторнасцю прыроды, адчуваючы сябе часцінкай яе, адначасова — не чужы, не староннi ўсяму, што адбываецца на зямлі: «Мне зразумелы гул вякоў далёкі, // Адкрыты мне жывой прыроды тайны».

Паступова ўзрастае жаданне не проста быць часцінкай прыроды, а і адчуваць сябе часткай зямнога космасу:

Зарніцы ў жыце лашчацца і ціха
Грамы гуляюць дзесьці самапасам.
У гэты міг душа, што знала ліха,
Гатова зліцца з вечнасцю і часам.

Паэтычны малюнак спакваля становіцца больш аб'ёмным. Аднachасова ён набывае тую канкрэтыку, калі кожнае прамоўленае слова не толькі звяно ў шэрагу іншых, але само па сабе надзіва шмат убірае ў сябе. У заключных строфах эпічнасць малюнка настолькі відавочная, што прыкмячаеш, як паэт выступае ў ролі першаадкрывальніка. Паэт здолеў у тэме не такой і новай, якраз убачыць новае, яшчэ не раскрытае і не прамоўленае:

Шалеюць сполахі над нівай з краю.
Цякуць хвіліны, каб застацца ў зерні.
Іду ў сутонь, і проста назіраю
Нябесных сіл таемны бляск вячэрні.

Адтуль, з вякоў, чуваць, як мелюць жорны.
Хай будзе хлеб! І чыстыя крыніцы!
Відаць, таму начамі ў жнівень зорны
Аж давідна трывожацца зарніцы.

Таму і спыняешся на вершы «Жніўныя зарніцы», бо гэты твор сімптаматычны для ўсёй сённяшняй творчасці В. Гардзея. Пра што б ні пісаў ён, паэтычны малюнак настолькі зрокава ўспрымальны, які ён можа быць толькі на жывапісным палатне таленавітага мастака. А гэта, вядома, найперш сведчанне таленту, але разам з тым нельга забываць, што паэзія В. Гардзея, як ужо адзначалася, — традыцыйная ў сваёй аснове, ці, інакш кажучы, яна належыць да класічнай плыні. Паэт далёкі ад эксперыментатарства, яго не вабіць мастакоўская мудрагелістасць і вобразная рэбусавасць. І ў гэтым добра праяўляецца блізкасць В. Гардзея да самой народнай стыхіі. Ніхто не збіраецца, канечне, адмаўляць права паэта на пошук новых выяўленчых сродкаў, але не будзем забываць, што беларускай паэзіі больш уласцівы традыцыяналізм. У асобе В. Гардзея нацыянальная паэзія мае свайго годнага прадаўжальніка.

Паэт уступіў у тую часіну свайго жыцця і творчасці, калі з'яўляецца не толькі жаданне падсумаваць назапашанае, а і глыбей і далей зазірнуць у таямніцы жыцця. Чытаючы «Межань», заўважаеш: В. Гардзей, нязменна застаючыся традыцыяналістам, пашырае жанравыя магчымасці і межы сваёй паэзіі. Адбываецца па сутнасці свайго роду абнаўленне. Усё лепшае, набытае на працягу не аднаго дзесятка гадоў плённай працы ў літаратуры, вядома ж, застаецца, але адначасова яно робіцца і стартавай пляцоўкай, з якой пачынаецца выхад на новыя творчыя прасцягі.

Невыпадкова ў выдавецкай анатацыі было заяўлена: «У паэтычным зборніку «Межань», які ствараўся на самай высокай ноце хвалявання і ўзрушэння чалавечага духу, моцна адчуваецца «сум імпрэсій неўтаймоўных», «горыч сімвалаў святых». Але суб'ектыўнага погляду на жыццё тут няма, што цалкам ламае рамкі традыцыйных уяўленняў пра літаратурныя плыні. Мімалётныя ўражанні і настрой паэта перапоўнены смуткам і болем, выкліканымі як суровай рэчаіснасцю, так і жорсткімі абставінамі ўласнага лёсу».

Не лішне нагадаць і пра само паходжанне назвы гэтай кнігі. Межанем у прыродзе называюць той летні час, калі ў выніку моцнай гарачыні паўсюдна на рэках і азёрах назіраецца стаянне нізкіх узроўняў вады.

Толькі гэта часовая з'ява: «Вады сезоннае стаянне, // Ды межань пройдзе, і знутры // Рака ўзарве слаты дыханне // І зноў закруцяцца віры». Так і ў жыцці кожнага чалавека бываюць спады і ўзлёты, песімістычны настрой змяняецца аптымістычным. Зразумела, што падобная зменлівасць у жыцці, настроі не можа не выклікаць і адпаведныя матывы ў творчасці. А чым больш жывеш, тым і настрой часцей мяняецца, бо, на жаль, у жыцці не адны светлыя палосы. Таму і ў кнізе «Межань», у параўнанні з папярэднімі зборнікамі, куды больш тугі, самотнасці.

Асабліва калі гэта звязана з душэўнай неўладкаванасцю. У тым ліку і таму, што лірычны герой паэта — так званы гараджанін першага пакалення. І гэтым ён мала чым адрозніваецца ад многіх іншых. Тым не менш адрозненне ўсё ж ёсць. Развітаўшыся з вёскай, знайшоўшы сталае прыстанішча ў тлумным горадзе, ён не толькі адчувае сябе ў ім шмат у чым чужым. Яго, перад усім іншым, пастаянна гняце віна за тое, што ў свой час ён як быццам здрадзіў «малой радзіме», пакінуў яе, шукаючы лепшае месца ў жыцці.

Тэма таксама не новая, але ў вершах В. Гардзея яна гучыць па-свойму. Дасягаецца гэта найперш дзякуючы высокаму майстэрству паэта, таму, што ўсё напісанае ім — уласна-перажытае, выпакутаванае. Вёска для паэта — скарбніца яго лепшых дзён. Як і ўся прырода роднае аселіцы: «За вёску іду, як у храм».

Роднай вёсцы ў «Межані» ён прысвяціў шмат якія вершы. І хоць яна не праходзіць пад сваёй назвай, але выразна праглядваецца. Пішацца пра ўсё не толькі з любоўю, прамаўляецца яшчэ і з болем усведамлення незваротнасці страчанага. Але гэты асабісты боль лірычнага героя, дзякуючы глыбокаму пранікненню ў сутнасць з'явы, становіцца і болем кожнага з нас:

Каб не пабег я рана-раным
За вёску і яшчэ далей,
Дык не хадзіў бы знерваваным
І жыў бы, можа, весялей.

Не азіраўся б я праз далі
І не хадзіў бы сам не свой,
Каб так шалёна не свісталі
Шпакі ў тым ранку за смугой.

Аднак і замілаванне паэта — таксама частка замілавання кожнага, хто любіць вёску, зямлю, беларускую прыроду ў яе нерушавасці. Любіць у розную пару года, а ў кнізе В. Гардзея хораша, па-гардзееўску замілавана апяваюцца зіма і вясна, лета і восень, ва ўсёй іх першароднай чысціні. Гэтая еднасць — ад простых, народных ісцін, а яны ў тым, што ўсё на зямлі ўзаемазвязана.

Але сённяшняе ягонае ўспрыманне ўжо не тое, якім было раней. Многае змянілася, змяніўся і сам лірычны герой:

У лясах, што аж да небакраю,
Нехта тут блукае ўжо другі.
Стану я на выспе — пагукаю
Сам сябе, вясёлага, з імгі.

Дае аб сабе знаць і іншая, балючая нота. І не толькі таму, што ў родных мясцінах дасюль адчувальны чарнобыльскі прысмак. Прысутнічае і асабісты боль, ад якога нікуды не дзенешся, не схаваешся. Таму і нараджаюцца творы драматычнага зместу, з трагічнай падсветкай:

Чаму ж так? Гляджу вінавата.
Лёс вырваў з пагляду майго
І сына-салдата, і брата,
І брата яшчэ аднаго.

Ды паэт на тое і паэт, што ў стане ўзвысіцца, каб разважаць і пра жыццё ўвогуле, і пра смерць як заканамернае завяршэнне зямнога існавання чалавека. Пры гэтым ён ідзе найперш ад асабістага, прамаўляючы вуснамі лірычнага героя:

Вунь Харона чаўны. І — бязмоўе.
Кінуў лёс пакаленні на тлум.
У бяроз, як і ў нас, белакроўе,
І няма прасвятлення для дум.

Але ён дасягае і той высновы, якая дазваляе зразумець, што жыццё бясконцае ў сваёй хадзе, і кожны, хто жыве, павінен напоўніцу радавацца яму, ведаючы, што наперадзе чакае штосьці новае, яшчэ нязведанае і неспазнанае.

Паэт знаходзіць у сабе сілы пераадолець песімізм, душэўную адзіноту, таму ягоны лірычны герой спяшаецца жыць, дзяліцца сваімі вялікімі і малымі радасцямі. Гэта асабліва добра відаць па вершах, у якіх апяваецца прырода, што аднолькавая ў сваім хараstве ў розныя поры года. Удыхаючы гэтае хараство на поўныя грудзі, пачынаеш упэўнівацца ў тым, што сам ты таксама жывая часцінка гэтага вялікага хараства: «Разумею: я патрэбен // Полю шэраму ў вясне. // Момант ісціны, што ў хлебе, // Па жыцці вядзе мяне».

Відавочна: В. Гардзей сёння адзін з найбольш яркіх прадстаўнікоў сучаснага сярэдняга пакалення ў беларускай паэзіі, якое неўзабаве стане старэйшым. Па-зямному хораша і ўсцешна ў храме ягонай паэзіі, дзе гэтак лёгка кладзецца радок да радка. А там, дзе сапраўдны талент, няма неабходнасці кідацца ў марнае эксперыментатарства. Проста пішы, як думаеш, і цябе зразумеюць:

Весялей і лягчэй, і суцішней —
Штось жывое чуваць ля вакон.
То душа, прытварыўшыся вішняй,
Мой трывожны падсвечвае сон.

Думаў, знікла — не вернеш бяглянку,
І тады стане млосна зусім,
Але бачу, прачнуўшыся ўранку,
Як святлее ў пакоі маім.

Разам з тым, В. Гардзей валодае і яшчэ адной якасцю, важнай для любога пісьменніка — назіральнасцю. Праходзіць прамежак часу (у залежнасці ад значнасці назіранняў — меншы, ці большы) і нараджаецца чарговы твор. Так з'явіўся і гэты верш — адзін з лепшых не толькі ў «Межані», а і ва ўсёй творчасці паэта:

Азалела чырвань на каліне,
Ды і дождж ужо не грыбасей.
Сёння з болем у пралётным кліне
Налічыў я толькі сем гусей.

У адным са сваіх вершаў, змешчаных у зборніку «Касавіца», малады на той час паэт прызнаваўся:

І заўсёды ў выраі не блізкім
Ёсць патрэба бачыць родны дом:
Да зямлі сваёй хілюся нізка
Ластаўкай перад дажджом.

Гэты выраз — «Ёсць патрэба бачыць родны дом» у дачыненні да В. Гардзея набывае сёння больш значны і больш шырокі сэнс. У жыцці і творчасці пісьменніка прысутнічае патрэба пастаянна бачыць родную Беларусь — Беларусь, як той дом, у якім жыць усім нам разам. І які будаваць супольна. У меру таленту кожнага. Што і робіць упэўнена паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, перакладчык В. Гардзей.

Я ж заўсёды, калі бяру ў рукі ягоную кнігу — найчасцей з «дарослай» паэзіі, бо часам хочацца прачытаць што-небудзь для душы, не-не ды ўспомню той жнівеньскі, на самым зыходзе лета дзень, калі жыхары Малых Круговічаў так радасна і гэтак урачыста віталі свайго земляка з ягоным паўвекавым юбілеем. Менавіта з паўвекавым юбілеем, а не з 50-годдзем, тым самым ставячыся да В. Гардзея з асаблівай пашанай. Яны, у пераважнай большасці сваёй простыя людзі, разумелі, што «-годдзі» праходзяць і адыходзяць, а паўвека — гэта не проста ўзроставы рубеж, а як бы тая кладка, па якой, ступіўшы ўпэўнена, што і зрабіў В. Гардзей, можна рухацца гэтаксама ўпэўнена і далей, каб напаткаць свой векавы юбілей.

Прадбачу пярэчанне скептыкаў. Бач ты, куды «загнуў»! Каму гэта ўдаецца столькі пражыць? Яно і сапраўды так. Як у той вядомай песні: «на земле мы живем не вечно». Ды толькі гэта тычыцца простых смяротных. У паэтаў жа, асабліва ў творцаў гэткага вялікага і жыццядайнага таленту, якім валодае В. Гардзей — сваё жыццё. Такое жыццё, што не паддаецца законам прыроды. А таму ім і наканавана вечнасць, пакольні вечна жыць на зямлі паэзіі. Асабліва той, што збіраецца пад вокладкай унікальнай літаратурнай бібліятэкі «Залатое пяро», а яна ж хутка папоўніцца кнігай В. Гардзея «Трыадзінства». Золата ж ніколі не блякне, яно з гадамі набывае яшчэ большую прывабнасць і становіцца больш каштоўным.

**Ксенафонт ЛЕЦКА**

# У СВЯТЛЕ БІБЛЕЙСКІХ ВЫТОКАЎ

## *1. Эклезіяст*

**Багаты** і цікавы матэрыял для пошуку вытокаў і вызначэння генезісу беларускага рамантызму XIX стагоддзя дае літаратура Беларусі рэлігійнага паходжання, якая ў плане пастаўленай праблемы разглядаецца ўпершыню аўтарам гэтага артыкула. Асобных прац, прысвечаных узнятаму пытанню, да апошняга часу не было. Натуральна, што біблейскія вытокі і генезіс беларускага рамантызму вышэйназванага перыяду заставаліся дасюль зусім не даследаванымі.

Заўважым, што вырашэнне ўзнятай праблемы непазбежна прыводзіць да пошукаў тыпалагічна роднасных рамантызму тэндэнцый у кнігах Святога Пісання, што выклікае з боку асобных даследчыкаў адмоўнае стаўленне да разгляду такога пытання. Зразумела, што ў часавым вымярэнні Біблія ўяўляе іншы тып культуры і цывілізацыі, а таму гаварыць пра яе рамантызм у поўным значэнні гэтага слова не прыходзіцца. Разам з тым Святое Пісанне паслужыла не толькі крыніцаю, але і з'явілася ў пэўнай ступені пачаткам рамантычнага светаўспрымання ў сусветнай літаратуры з рэлігійнаю тэматыкай. «Для рамантыкаў, — слушна адзначае сучасная польская даследчыца Данута Піваварская, — Біблія была перш за ўсё ўзорам паэзіі прароцкай, таму часцей яны звярталіся да прароцкіх кніг Старога Запавету і да Апакаліпсісу, а таксама да псалмоў. Іх прыцягвае паэтычная форма прароцкага бачання, якое выражаецца ў няяснай, загадкавай, часта грознай сімволіцы. Кнігі прароцкія Святога Пісання былі для творцаў рамантычных кнігамі святых таямніц…» Акрамя таго, роднасныя рамантызму тэндэнцыі знайшлі пазней выражэнне і ў хрысціянскай рэлігіі, пра што слушна пісаў у свой час вядомы дацкі вучоны і даследчык Георг Брандэс у сваёй фундаментальнай працы «Галоўныя плыні ў літаратуры XIX стагоддзя: Рамантычная школа ў Германіі 1873 г.», дзе, у прыватнасці, гаворыцца: «Зародак рамантызму заўважаецца ў тым бліску хрысціянскага настрою, якім прасякнута ўсё яго напаўсучаснае абагатварэнне сусвету». Пытаннямі тыпалагічнага супастаўлення раннехрысціянскага і рамантычнага светаўспрымання займаюцца на сучасным этапе і некаторыя расійскія вучоныя. Але для большай аргументацыі і пераканаўчасці вышэйсказанага мы спынімся даволі падрабязна на канкрэтным матэрыяле па ўзнятай намі праблеме, правядзём свае ўласныя назіранні, якія стануць падставаю для шматлікіх высноў і абагульненняў.

Пошукі рэлігійных крыніц рамантычнага светаўспрымання пачнём з разгляду некаторых тэкстаў Бібліі, паколькі яна з'явілася не толькі адным з вытокаў сусветнага (у тым ліку і беларускага) рамантызму, але і стала трывалаю асновую для ўзнікнення духоўных вершаў і царкоўных песнапенняў, якія знайшлі шырокае распаўсюджанне і на Беларусі. Менавіта з біблейскай Кнігі Эклезіяста або Праведніка і Псалтыра ў многім пачынаюцца тыпалагічна роднасныя раман-

тызму тэндэнцыі, цягнуцца глыбокія яго карані. Матыў змрочнага Эклезіяста вельмі характэрны для рамантыкаў, у тым ліку і для беларускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя. Іх песімізм зыходзіць з бязвыхадна няўцешнага эклезіястаўскага плачу, якому няма канца: «Наймарнейшая марнасьць, сказаў Эклезіяст, пустая марнасьць, — усё марнасьць! Якая карысьць чалавеку ад усёй працы ягонай, якую ён робіць пад сонцам? Род прыходзіць, і род праходзіць, а зямля векавечна стаіць... Я, Эклезіяст, быў царом над Ізраілем у Ерусаліме. І паклаў я на сэрца помысел мой, каб шукаць і дасьледаваць мудрасьцю ўсё, што пад небам робіцца: гэты прыкры занятак даў Бог сынам чалавечым, каб кіраваліся ім. Я ўсе дзеі пабачыў, якія пад сонцам чыняцца, і вось, усё — марнасьць і пагоня за ветрам!» (Экл. 1, 2-4; 12-14)[1].

У Трэцяй кнізе Царстваў Саламон выступае як самы багаты і магутны, самы разумны і мудры цар, роўнага якому няма ні на Усходзе, ні нават у Егіпце. Для яго няма невыканальных жаданняў, непераможных ворагаў, любáя мудрасць даступна яго розуму. Але ўсё — марнасць! Пра дарэмнасць усяго зробленага і набытага распавядае Эклезіяст, у якога ўсе мары, задумы і жаданні таксама лёгка і беспярашкодна ажыццяўляліся, але дасягнутае ў рэшце рэшт аказвалася нікчэмным: «Учыніў я вялікія дзеі: дамы я сабе збудаваў, насадзіў сабе вінаграднікі; завёў сабе сады і гаі, насадзіў у іх розных пладовых дрэваў; нарабіў сабе сажалак, каб паліваць зь іх гаі, у якіх дрэвы растуць; наняў сабе слуг і служанак, і дамачадцы былі ў мяне; а таксама буйной і дробнай худобы было ў мяне болей, чым ва ўсіх, што жылі да мяне ў Ерусаліме; сабраў сабе срэбра і золата й скарбаў каштоўных ад цароў і правінцыяў; завёў у сябе сьпевакоў і сьпявачак і асалоду сыноў чалавечых — мноства жонак і наложніц. І ўзьвялічыўся я і ўзбагацеў над усімі, што жылі да мяне ў Ерусаліме; і мудрасьць мая засталася пры мне. І нічога, чаго вочы мае ні прагнулі, я ім не адмовіў; ад ніводнае радасьці сэрца майго ня ўхіліў, бо сэрца маё суцяшалася кожнаю працай маёю; і гэта было маёй доляй ва ўсіх маіх працах. І калі я зірнуў на ўсе дзеі мае, якія ўчыняў я сваімі рукамі, на працу, якую рабіў я: і вось, усё — марнасьць і пагоня за хукам, і ніякай карысьці пад сонцам!» (Экл. 2, 4-11).

Бязмежны смутак Эклезіяста: нішто не мае сэнсу — ні багацце, ні царства, ні сіла, ні сама мудрасць і вучонасць, «Бо пры многасьці мудрасьці множыцца й скруха; і хто памнажае спазнаньне, той памнажае і боль» (Экл. 1, 18). Усякая раскоша, весялосць, улада, мудрасць і веды мінучыя, зменлівыя і марныя, бо ўсё канчаецца смерцю і забыццём. Няма нічога вечнага — ні маленства, ні юнацтва, ні маладосці, ні прыгажосці, ні сілы, ні вучонасці. Усяму адзін канец — ператварэнне ў прах, забыццё, марнасць.

Паводле Эклезіяста, нішто не нова на гэтым свеце, бо ўсё было, і ўсё будзе, і няма канца вярчэнню гэтых кругоў, як няма канца кругазвароту сонца, цячэнню вод і кружэнню ветру, якія зноў і зноў вяртаюцца да свайго пачатку: «Сонца ўзыходзіць, і сонца заходзіць і сьпяшаецца ў месца сваё, дзе ўстае. Вее вецер на поўдзень і на поўнач вяртаецца, віруе, віхурыцца веючы, і на шлях віраваньня вяртаецца вецер. Рэкі ўсе ў мора плывуць, а мора не перапаўняецца; да месца таго, адкуль рэкі плывуць, вяртаюцца зноў, каб далей пацячы. Што было, тое і будзе; што рабілася, тое й рабіцьмецца, і нічога новага пад сонцам няма. Бывае такое, пра што *людзі* кажуць: «Дзівіся, вось гэта новае»; але *яно* ўжо было спрадвеку, да нас» (Экл. 1, 5-7; 9-10). Усё бясконца, і ўсё паўтараецца, і няма нічога сталага, пастаяннага, нават памяці, усё часовае, недаўгавечнае. Поўнасцю расчараваны ў жыцці, Эклезіяст прызнае бессэнсоўнасць і абрыдласць сваёй дзейнасці на зямлі і даходзіць да той незадаволенасці рэальнасцю, якая аказалася пазней адной з вядучых асноў светаўспрымання многіх рамантыкаў: «І зьненавідзеў жыцьцё я: бо апрыкрылі мне ўсе ўчынкі, якія пад сонцам

зьдзяйсьняюцца; бо ўсё — пустая марнасьць і пагоня за ветрам! І зьненавідзеў усю маю працу, якую рабіў я пад сонцам; бо мушу пакінуць яе чалавеку, які прыйдзе пасьля мяне. І хто ведае: мудры ён будзе альбо дурны? А валодаць ён будзе ўсёй працай маёю, якую рабіў я і ў якой паказаў сябе мудрым пад сонцам. І гэта — марнасьць!» (Экл. 2, 17-19).

Цяпер прывядзём адзін з самых вядомых фрагментаў, які цалкам або асобнымі ўрыўкамі цытаваўся незлічоную колькасць разоў і з якога чэрпалі тэмы і ідэі для сваіх твораў многія-многія літаратары, у тым ліку і пісьменнікі-рамантыкі. Размова, канечне, пойдзе пра славутыя «времена» Эклезіяста, якія на працягу стагоддзяў і тысячагоддзяў нязменна прыцягваюць да сябе ўвагу таемнаю прастатою, якая не паддаецца разгадцы, і светлаю мудрасцю, якая навявае горыч і ціхі роздум над сваім жыццём і жыццямі тысяч людзей. Міжволі ўзнікае самотны роздум пра безліч памёрлых і пра тое, што яшчэ зноў можа адбыцца ці паўтарыцца: «Ўсё мае свой час, і гадзіна кожнае дзеі — пад небам. Ёсьць час нарадзіцца, і час памерці, час насаджаць, і час вырываць пасаджанае. Час забойства, і час гаеньня; час разбураць, і час будаваць; час плачу, і час весялосьці; час бедаваць, і час танцаваць; час раскідаць камяні, і час зьбіраць камяні; час абдымаць, і час ухіляцца абдоймаў; час шукаць, і час губляць; час ашчаджаць, і час выкідаць; час разьдзіраць, і час зашываць; час маўчаць, і час прамаўляць; час кахаць, і час ненавідзець; час вайне, і час міру» (Экл. 3, 1-8).

Гэты ўстаноўлены Богам парадак ніхто не ў сілах перайначыць, бо менавіта Яго воля вечная ў гэтым зменлівым свеце. Толькі прырода нятленна, усё астатняе няўстойлівае, падуладна разбурэнню і смерці. Вось чаму і вечны смутак на зямлі. Французскі пісьменнік Франсуа Рэне дэ Шатабрыян, уражаны відовішчам вулкана Везувія, якое прымусіла яго па-філасофску задумацца над эфемернасцю чалавечай славы, пісаў: «Што значыць дзяржаўныя перавароты ў параўнанні са з’явамі прыроды, якія змяняюць лікі зямлі і мора? Наколькі шчаслівейшыя былі б людзі, не затрачвай яны столькі часу і энергіі на варожасць адзін да аднаго. Паглынаючы гарады, Везувій ні разу не раскрываў сваёй жахлівай бездані без таго, каб не быць сведкаю патокаў людской крыві і слёз, якія праліваюцца ўзаемнаю нянавісцю і варожасцю. Якія першыя прыкметы існавання чалавека, знойдзеныя ў патухшым попеле гэтага вулкана? — прылады катаванняў і закаваныя ў кайданы шкілеты». А паколькі зло і варожасць — вялікае няшчасце, то трэба старацца быць добрым, гэта адзінае, што мы можам. Па словах Эклезіяста, «Бог стварыў чалавека праведнага, а людзі кінуліся ў вымудры ўсякія» (Экл. 7, 29). Таму высакародная справа і прыстойнае імя лепш за ўсякія даброты. Але складаны і супярэчлівы свет прыводзіць да таго, што «справядлівы гіне ў сваёй справядлівасьці; бязбожны доўга жыве ў бязбожнасьці сваёй» (Экл. 7, 15). Тыпалагічнаю набліжанасцю да рамантычнага светаадчування вызначаюцца пошукі аўтарам ідэальнай чалавечай асобы, якая цалкам адпавядала б нормам Боскай маралі і святасці. Аднак узнікае разлад паміж мараю і рэальнасцю: «Няма чалавека справядлівага на зямлі, які рабіў бы дабро і не грашыў» (Экл. 7, 20).

Якое ж выйсце з гэтага беспрасветнага і бясконца марнага жыцця? — міжволі ўзнікае заканамернае пытанне. Разважаючы над сэнсам чалавечага жыцця і прызнаючы яго нікчэмнасць, Эклезіяст, паводле адной прадмовы да гэтай кнігі, «аднак, не ўпадае ў песімізм». Ён раіць карыстацца радасцямі зямнымі, але помніць, што за ўсе трэба будзе даць адказ перад Богам. Без Бога нельга знайсці ні сэнсу жыцця, ні шчасця на зямлі. Свае разважанні Эклезіяст заканчвае парадай: «Выслухаем сутнасьць усяго: бойся Бога і запаведзяў Ягоных трымайся, бо чалавеку ў гэтым — усё. Бо ўсякі ўчынак Бог прывядзе на суд і ўсё таемнае, ці яно добрае, а ці благое» (Экл. 12, 13-14).

А зараз мы прасочым, як праявіліся асноўныя эклезіястаўскія матывы ў святле біблейскіх вытокаў і генезісу беларускага рамантызму XIX стагоддзя. Крылатае і часта паўтараемае выслоўе Эклезіяста — «Наймарнейшая марнасць, пустая марнасць, — усё марнасць!» — чырвонаю ніткаю праходзіць праз усю сусветную літаратуру. Гэтыя высокапаэтычныя словы сумнай песняй пранесліся праз стагоддзі. Праўда бессмяротнай паэзіі, заключаная ў ёй, асвяціла яркім святлом выдатныя вершаваныя радкі паэтаў розных эпох, народаў і літаратурных кірункаў. Асэнсаванне марнасці свету, якую так аплаквае Эклезіяст, з'яўляецца адной з характэрных тэм рамантызму, дзе ўвасобіліся вышэйназваныя матывы. Тэма нікчэмнасці быцця была вельмі распаўсюджанай сярод многіх літаратур свету эпохі рамантызму. Сугучная рамантычнай настраёвасці, яна знайшла настолькі дакладнае адлюстраванне ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя, што і аднаго погляду на яе дастаткова, каб пераканацца ў гэтым. У дадзенай сувязі варта прыгадаць некаторыя творы, каб узнікла адчуванне вялікай традыцыі, здольнай закрануць душу і сэрца чытача. Для большай аргументацыі нашых назіранняў і высноў па ўзнятай праблеме мы прааналізуем творчасць многіх пісьменнікаў Беларусі XIX стагоддзя, якія ў сваёй літаратурнай дзейнасці карысталіся не толькі беларускай, але і польскай мовамі.

Уласцівы для рамантызму эклезіястаўскі матыў найбольш выразна праявіўся ў польскамоўнай лірыцы Яна Аношкі, якая, акрамя таго, не пазбаўлена відавочных рыс сентыменталізму і рэалізму з яго сатырычнай афарбоўкай. Тут разлад паміж марай і рэальнасцю, спалучаны з узмоцненай сентыментальнай пачуццёвасцю, гучыць вельмі абвострана і песімістычна. У элегічных вершах Аношкі «W rozpaczy» («У роспачы»), «Rospacz czarna» («Чорная роспач») знайшла даволі яркае выражэнне адна з самых распаўсюджаных у рамантычнай лірыцы тэм — тэма трагедыйнасці чалавечага існавання, адзіноты героя, даведзенага да адчаю, безвыходнасці. Тут лірычныя героі поўныя глыбокіх хваляванняў і пакутных роздумаў. Яны валодаюць незвычайна высокай духоўнай актыўнасцю: інтэнсіўнасцю эмацыянальных душэўных перажыванняў, каласальнай канцэнтрацыяй пачуццяў, што вызначае ўвогуле адметную, спецыфічную рысу рамантычнага стылю.

У элегіі «Чорная роспач» ужо ёсць прамы зварот лірычнага героя да Бога і сумненні ў добразычлівасці Усявышняга:

Jeszcze dotąd w mem sercu trzymałem nadziei,
Dzisiaj znam, że się Niebo z próśb ziemianów śmiei.

З вобразам Бога складана перапляліся чалавечыя летуценні і ашуканыя надзеі, спадзяванні і радасці, нязбдзейсненыя жаданні. Жыццёвыя беды, нягоды і пакуты чалавека ў недасканалым зямным свеце ўвасабляюцца ў постаці лірычнага героя, які канчаткова разупэўніўся, зняверыўся ва ўсім. Жыццё для паэта становіцца невыносным, і ў яго ўзнікаюць думкі аб смерці, якая ўспрымаецца як жаданая збавіцелька. І сутнасць гэтага збаўлення даволі ясна сфармулявана ў наступным чатырохрадкоўі:

Lecz co mówię? Zbrzydziałem świat, ludzi i siebie,
Błąkam się, bluźnię, jęczę, duch się w cieniach grzebie.
Gniew Nieba nad mą głową wznosi się nad miarę:
Połknę śmierć, i uczynię sam z siebię ofiarę.

Гэты выклік жыццю, якое аказалася пакутлівым і невыносным, надзвычай характэрны для часу крушэння ўсіх надзей. Смерць пазбаўляе ад прыгнёту і няволі. Гэта тэма прасочваецца і ў лірыцы іншых паэтаў-рамантыкаў. Аднак

герой вершаў Яна Аношкі, у адрозненне ад рамантычных герояў твораў некаторых іншых пісьменнікаў, не канчае жыццё самагубствам. На яго думку, шлях да шчасця і лепшай долі праходзіць праз зямныя пакуты і цяжкія выпрабаванні, праз веру ў Бога, што цалкам адпавядае біблейскай маралі.

Як бачым, тыпова рамантычныя, трагедыйныя матывы пакуты, нуды і смутку не зусім песімістычныя, што назіралася ў біблейскім Эклезіясце. Для лірычнага героя Яна Аношкі ўласцівы сваё зачараванне і свой станоўчы змест, ідэал заключаны ў смутку, які блізкі мары і, паводле рамантычных уяўленняў, служыць асноваю паэтычнага, сродкам унутранага спасціжэння таемнага. Смутак — гэта парыванне ў глыбіню і асаблівы ірацыянальны шлях пазнання. Матывы маркоты і пакуты заключалі ў самой бязрадаснасці высокае паэтычнае суцяшэнне. Як заўважыў у свой час Георг Гегель, для рамантычнага мастацтва былі ўласцівы асалода ў журбе і ўцеха ў пакутах.

У рамантычным вершы Яна Баршчэўскага «Nic mie się tu nie podoba» («Мне нішто тут не падабаецца») смутак лірычнага героя настолькі змрочны, што пераходзіць у выразна акрэсленае адмоўнае светаўспрыманне, у крайні песімізм. Жальба агортвае героя, калі ён глядзіць на свет. Яго, як і біблейскага Эклезіяста, не захапляюць ні прыгажосць, ні весялосць, ні багацце, ні слава:

Nic ci się tu nie podoba,
O wiem ja co to znaczy, —
Nie od pychy lub rospaczy,
Niczem dla ciebie każda ozdoba,
I każda zaleta świata.
Wiem czemu obojętnie,
Patrzysz na złoto i na blask sławy,
Wiem czemu niechętnie...

Усёй істотай самотнік Яна Баршчэўскага прагне апынуцца «w krainie ducha», імкнецца туды, дзе «stron nie ziemskiej harmonji słucha». Сумныя ноты адчувальныя таксама ў вершах паэта «Smutek» («Смутак»), «Rospacz» («Роспач»), «Czas wszystko rujnuje» («Час усё руйнуе») і інш.

Тужлівы настрой біблейскага Эклезіяста, тыпалагічна роднасны рамантызму, знайшоў даволі шырокае адлюстраванне ў кнізе Яна Баршчэўскага «Szlachcic Zawalnia, czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach» («Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях»). Так, яшчэ перад пачаткам дадзенага твора яго аўтар малюе знешні воблік беларускіх сялян у чорных фарбах: «Жыхары гэтага краю… спрадвеку пакутуючы, зусім змяніліся характарам; на іх тварах заўсёды адбіты нейкі смутак і змрочная задумлівасць» («Колькі слоў ад аўтара»). Гэты стан чалавека, паводле аўтарскага аповеда, часам пераходзіць у слёзна-рыдаючы плач: «Там на могілках можна бачыць сцэны, якія наводзяць на душу смутак. Вось удава з малымі дзецьмі ля драўлянага крыжа, які стаіць над магілаю яе мужа, а там сірата над магілаю бацькоў выказваюць сваю журбу голасам, які раздзірае сэрца; калі хто наблізіцца да іх і падслухае іхнія словы — яны зайздросцяць мёртвым, і гэтыя слёзныя скаргі, здаецца, працялі б і каменныя грудзі» («Нарыс Паўночнай Беларусі»). Пры гэтым чалавечая маркота ў апавяданні «Арганісты Андрэй» трактуецца як нейкая загадкавая таямніца, якую нельга прадбачыць: «Зацьменні сонца людзі прадказваюць, — адказаў Андрэй, — але не могуць прадказаць тое зацьменне, якое можа акунуць іх сэрцы ў смутак»[2].

Рамантычнаю настраёвасцю прасякнуты ў апавяданні Яна Баршчэўскага «Бура» эклезіястаўскі матыў пра тленнасць і нядоўгавечнасць быцця: «Нічога не забяром на той свет, і цяжка грашыць хцівы, што не верыць ва ўсемагутнасць Божую»; «… ім (людзям. — **К. Л.**) здаецца, што яны не памруць; на цэлую вечнасць хочуць забяспечыць сябе на гэтай зямлі». Пра vanitas vanitatis (марнасць марнасцяў. — лац.) згадвае адзін з герояў апавядання Яна Баршчэўскага «Арганісты з Расонаў». Пра час, што ўсё руйнуе, гаворыцца

ў апавяданні «Успаміны пра наведванне роднага краю» таго ж аўтара. Або яшчэ: «… Чалавеку не дадзена сапраўднае весялосці: багатыя, калі сонца сядае, маркоцяцца, што як адзін дзень, так і цэлае жыццё іх міне, схаваецца ад іх назаўсёды, смерць забярэ ў іх уцехі і вясёлыя забавы» («Таварыш у падарожжы»).

Эклезіястаўскі матыў тленнасці ўсяго існага Ян Баршчэўскі скіроўвае і праецыруе ў апавяданні «Думкі самотніка» і на з'явы прыроды: «Хутка зменіцца надвор'е — вецер з усходу; бялееца над вадою надзьмуты ветразь. О, людзі вялікага свету! Гляньце на неба з вашых высокіх і пышных гмахаў! Над горадам вісяць густыя воблакі, а з іх нараджаюцца ўгары дзіўныя прывіды, у паветры будуе нехта велізарны замак, валы і сцены акружаюць яго, вырастаюць высокія гмахі і вежы, непадалёк становяцца ў баявы парадак на конях волаты-рыцары, а праз колькі хвілін відаць толькі руіны, а ўсё войска перамянілася ў клубы дыму; як вужака, прабегла вогненная маланка пасярод хмары». Затым зменлівасць і непастаянства ўсяго гэтага незвычайнага відовішча, што ствараецца прыродаю па волі Бога на воблачным небе і потым хутка знікае, суадносіцца, як і ў біблейскім Эклезіясце, з тленнасцю матэрыяльных каштоўнасцей, з недаўгавечнасцю, знікненнем і забыццём людской велічы, раскошы і знатнасці: «О, людзі вялікага свету! Гляньце на неба з вашых высокіх і пышных гмахаў, зразумейце гэтыя знакі ў пэўных абрысах аблокаў, якія заўсёды перад вашымі вачыма; Божая рука папярэджвае вас, што няма нічога сталага на зямлі, гмахі вашыператворацца ў руіны, моц, багацце, гонар і слава рассеюцца і знікнуць, як лёгкі дым у паветры».

Паказчыкам хуткаплыннасці і пераходнасці ўсяго зямнога (у тым ліку і чалавечага жыцця) выступае тут вясновая пара, пасля якой неўзабаве праходзіць лета і наступае восень, што лучыцца з марнасцю і забыццём памяці тых «знакамітых людзей», якія ў сваім жыцці не ішлі дарогаю праўды. Дарэчы, і спасціжэнне ісціны ў Яна Баршчэўскага рэлігійна-філасофскае і рамантычнае: «Праўда — пасланніца неба ў гэту юдоль цярпення — ты анёл, вартаўніца і настаўніца ў жыцці, асвятляй нас сваімі прамянямі, калі праўдзівую веру — найдаражэйшы скарб нашых бацькоў, найчысцейшае святло неба — хочуць зацьміць туманы вытанчанае мудрасці пыхлівых і хлуслівых філосафаў».

Вызначаючы далей змрочныя настроі біблейскага Эклезіяста ў апавяданні «Думкі самотніка» Яна Баршчэўскага, мы разам з тым заўважым, што названы твор заканчваецца жыццесцвярджальным пафасам, які выражаецца ў форме вершаванага звароту да «слыннага продка»:

O zacne prochy ojców! Bóg z niebios sklepienia,
Poszle anioła prawdy do stroskanych dzieci,
Tam powie o was światu; młode pokolenia
Natchnie waszemi cnoty, wiek złoty zaświeci.
Kiedy przyjdzie dzień sądu, świat przeniknie trwoga,
Obudzi trąba zmarłych, zadrzy ziemia cała,
Wy staniecie w jasności przed obliczem Boga,
Wielka was czeka sława, wielka czeka chwała!

У апавяданні «Таварыш у падарожжы» Яна Баршчэўскага можна ўбачыць вельмі блізкі да біблейскага Эклезіяста барочны матыў «жыццё ёсць сон», які выразна праявіўся ў эпоху рамантызму: «Пуцявіны нашага жыцця, — сказаў я (аўтар-апавядальнік. — **К. Л.**) — як пуцявіны жахлівых сноў». Своеасабліваю канцоўкаю гэтага твора служаць духоўныя вершы «W smutku» («У смутку»), «Nadzieja» («Надзея») і «Bóg» («Бог»), якія наскрозь прасякнуты спалучэннем тужлівых і аптымістычных настрояў. Праз узаемасувязь прыроды, чалавека і

Бога пісьменнік праводзіць думку аб тым, што душэўны стан чалавека залежыць ад змен, якія адбываюцца ў навакольным асяроддзі.

З першымі прыкметамі наступаючага дня, калі на ўсходзе ружавее неба і прадвяшчае світанак, у людзей ажывае надзея, якая атаясамліваецца з самаю яркаю нябеснай зоркаю. Як і ў рамантыкаў, метафарызацыя гэтых паняццяў непасрэдна лучыцца тут з вобразамі весляра і зямных падарожнікаў, лёс якіх нагадвае нялёгкія жыццёвыя пуцявіны чалавека.

Як бачым, у семантыка-стылёвай сістэме Яна Баршчэўскага святло і асабліва зорка ўсяляе надзею. У рамках маральна-рэлігійнай эстэтыкі пісьменніка сімваліка-алегарычны вобраз весляра цесна знітаваны з вобразам зоркі, якая, у сваю чаргу, уяўляе метафарызацыю надзеі і абазначае святую веру праведнага чалавека, які заўсёды знаходзіцца пад апекаю Бога.

Новыя рэлігійныя крыніцы рамантычнага светаўспрымання на Беларусі XIX стагоддзя адкрывае нам эпічная вершаваная творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, якая, як і лірыка гэтага пісьменніка, у дадзеным кантэксце амаль не даследавалася. Апелююючы галоўным чынам да Бога і Ісуса Хрыста, пісьменнік хоць і абапіраецца на біблейскі Эклезіяст пра нядоўгавечнасць чалавечага жыцця, аднак наводзіць сваім героям жаданне быць у нябесным царстве. Выразнікам такіх поглядаў выступае стары Ананій з марцінкевічаўскай вершаванай аповесці «Вечарніцы», дзе, у прыватнасці, гаворыцца:

А ўжо як дасць Бог — так яно і будзе,
Круці не вярці, а памерці трэба;
Хаця б спамянулі да добрыя людзе,
Даў бы міласэрны бачыць сваё неба!
Воля Яго свята! не тут жа журыцца!

Да ўсхвалення міласэрнасці Бога, што «дасць … шчасну долю і дабытак верны!», зводзіцца прамова Халімона Наклікі з вершаванай аповесці «Купала» В. Дуніна-Марцінкевіча. У «Быліцах, расказах Навума» таго ж аўтара прыгонны селянін Акула звяртаецца з маленнем да Бога, каб на нейкі час забыцца пра сваё гора і беды. Пры гэтым смутак героя цалкам суладны стану нябесных свяцілаў сонца і месяца:

…стары Акула вячэрняй парою,
Седзячы на прызбе, бедаваў думою;
У лад наровіць думцы на западзе сонца,
І месячка смутна глядзіць у аконца.
На сэрцы старога налягла кручына,
Із вачэй ракою кацілась слязіна;
Уздыхне цяжэнька, на неба пагляне
Дый, штоб забіць гора, маліцца ён стане.

Тэме марнасці свету, жыцця і смерці, хуткаплыннасці і зменлівасці быцця прысвечаны некаторыя вершы Францішка Багушэвіча. Гэта галоўным чынам тыя паэтычныя творы, якія былі напісаны ў апошнія гады жыцця пісьменніка, а, дакладней, у канцы XIX стагоддзя. Ф. Багушэвічу, як і яго папярэднікам, прыходзілася лічыцца з логікаю непазбежнага: смерць ёсць незваротнасць, адыход у нябыт. З настойліва падкрэсленым пастаянствам паэт вяртаецца да гэтай думкі. Ствараецца ўражанне, што песімістычныя настроі цалкам авалодалі ім. Сумныя ноты ўзмацняюцца асабліва тады, калі выяўляецца, што багушэвічаўскі песімізм абумоўлены не толькі багаццем асабістых жыццёвых назіранняў і, магчыма, няўдач, але і навеяны змрочнымі старонкамі біблейскага Эклезіяста. Напрыклад, у адным польскамоўным вершы Ф. Багушэвіча (гэты вершаваны

твор без назвы на мове арыгінала захоўваецца ў рукапісе) эклезіяставскі матыў наканаванасці лёсу чалавека ўжо загадзя прадвызначаны:

Czując, że udział człowieka
Śmierć — dobrodziejka już niedaleka...

Як і Ян Баршчэўскі, так і Францішак Багушэвіч у сваім вершы «Reszta drewek dogorywa...» («Рэштка дроўцаў дагарае...») выкарыстоўвае прыём мастацкага паралелізму, які значна ўзмацняе паказ дыялектыкі жыцця і смерці, багацце і разнастайнасць пачуццяў лірычнага героя:

Reszta drewek dogorywa
Na kominku w chacie…
A coś w sercu się odzywa:
«Tak i z tobą, bracie!»
Większy płomień z duszy buchał,
Ogrzewał i świecił…
Każdy patrzył weń i słuchał
I swój płomyk niecił…

Dziś światełko ledwo miga,
Niema już płomienia,
Wszystko wkoło cię zastyga
I w popiół się zmienia.
Już nie buchnie płomień więcej,
Nie zaświeci łuna,
Jak myśl z duszy twej dziecięcej
Z liry z jedną struną.

Па сваёй тэматыцы і ідэйна-эстэтычнай накіраванасці да разгледжанай намі лірыкі цесна прымыкаюць іншыя элегічныя творы Ф. Багушэвіча. Развітальным акордам гучаць у вершы «Вецер дзьме і вые…» словы песняра аб яго расставанні назаўсёды са сваёй паэтычнай музай:

Вецер дзьме і вые,
Што аж мыслі рвуцца,
Змоўклі песні тые,
Што іграў на дудцы.

Раз яшчэ зайграю
У астатняй хвілі
Для тых, што жаль маю,
Што мяне забылі…

У вершы «Coraz cięższe chwile…» («Штодзень слабнуць сілы…») Ф. Багушэвіча можна назіраць тыя ж матывы нядоўгавечнасці і тленнасці жыцця чалавека, якія знаходзяць выражэнне ў форме рамантычнай іроніі:

Coraz cięższe chwile…
Coraz cięższe czas
Uśmiecha się mile
I pożera nas.

Менавіта так успрымалі марнасць быцця рамантыкі і менавіта так успрынялі яе Ян Баршчэўскі і Францішак Багушэвіч, светапогляд і некаторыя мастацкія творы якіх жывіліся шматвяковым смуткам біблейскага Эклезіяста.

Песімізм рамантыкаў, які, як згадвалася вышэй, пачынаецца з безвыходна няўцешнага эклезіяставскага плачу, стварае пачуццё бясконца тужлівага настрою. Прапаведуючы марнасць і нікчэмнасць быцця, Эклезіяст нічога не супрацьпастаўляе ёй, а толькі раіць людзям карыстацца зямнымі радасцямі, за якія давядзецца адказваць перад Богам. Не бачыць і не вызначае эклезіяставская пропаведзь і таго выхаду, які бачаць аўтары біблейскіх псалмоў ці хрысціянскіх царкоўных песнапенняў. Відаць, па гэтай прычыне безнадзейна-скептычныя сентэнцыі Эклезіяста не заўсёды і не ва ўсім аказаліся сугучнымі рамантычнаму светаадчуванню, і таму песімізм некаторых рамантыкаў некалькі адрозніваецца ад біблейскай першакрыніцы. Прызнаючы нікчэмнасць свету, не ўсе рамантыкі мірацца з ёю і праяўляюць пасіўнасць, што з'яўляецца вызначальнаю рысаю іх творчасці. У гэтым нас пераконвае рамантычная лірыка Гераніма Марцінкевіча — паэта Беларусі сярэдзіны XIX стагоддзя. Многія яго вершы перадаюць жыццярадасны ўзнёслы настрой чалавека, які заклікае людзей да еднасці і згоды, каб разам лягчэй было адольваць цяжкасці і беды. У вершы «Głos Życia» («Голас жыцця») Гераніма Марцінкевіча пра гэта гаво-

рыцца даволі эмацыянальна з паўторамі асобных слоў і выкарыстаннем клічных інтанацый:

Hej bracia do choru! do choru! do koła!
Głos życia nas woła:
Bo w chorze, bo w kole
Zabijem niedolę,
Pieśń z pieśnią się zleję,
Rozkwiecim nadzieje!

Лірычны герой імкнецца перамагчы сум, бо, паводле Святога Пісання, існаванне чалавека зыходзіць ад Бога: «Co z jęków? — żyć trzeba, Bo życie dar Nieba». Нават недаўгавечнасць і тленнасць усяго існага на зямлі, што прапаведуецца ў біблейскім Эклезіясце і творах некаторых рамантыкаў, саступаюць месца ў вершы «Trzeba żyć» («Трэба жыць») Геранімa Марцінкевіча праслаўленню неўміручасці мужных людзей, і таму такі чалавек: «...Żyć będą w swych czynach, żyć będą bez końca: Bo wieki nie zerwą, co dzielny człek sprzężе...».

Падагульняючы сказанае, варта адзначыць, што біблейскі Эклезіяст мае тыпалагічна роднасныя рамантызму тэндэнцыі, якія сталі адным з вытокаў і генетычнай асновай рамантычнага светаўспрымання ў рэлігійнай літаратуры Беларусі XIX стагоддзя.

## *2. Псалтыр*

Тэма пераходнасці, дарэмнасці быцця свету не была адзінай крыніцай, якая жывіла і насычала паэзію хрысціянскага свету з самага яе зараджэння і да ўзнікнення рамантызму. Яшчэ да таго, як былі напісаны кнігі Новага Запавету і чалавецтва знайшло і ўбачыла ў новай рэлігіі радасць і надзею, існаваў Псалтыр, які прапаведуе вечнае шчасце ў згодзе з Богам, хоць у гэтай частцы Святога Пісання не было яшчэ сфармулявана крэда новай рэлігіі, не была арганізавана сістэма таго вучэння, якое павінна было асвятліць промнем надзеі і ратунку змучаны дух чалавецтва. Нельга таксама не адзначыць, што ў Псалтыры, нягледзячы на яго адметнасць у параўнанні з Эклезіястам, мы знаходзім адзіны тыпалагічна роднасны рамантызму эклезіястаўскі матыў хуткаплыннасці, недаўгавечнасці і марнасці чалавечага жыцця, якое, цалкам залежыць ад Божай волі і зрокава ўпадабняецца кароткачасовай здані: «Вось, Ты (Гасподзь. — **К. Л.**) далоняю вымераў дні мае, а век мой — як нішто прад Табою. Сапраўды, поўная марнасьць — кожны жывы чалавек. Сапраўды, чалавек ходзіць, як прывід; і марны клопат яго, зьбірае і ня ведае, каму дастанецца гэта» (Пс. 38, 6-7). Аднак, нягледзячы на асобныя песімістычныя настроі, гэтая частка Бібліі, якая нас цяпер цікавіць, прынесла для ўсіх людзей свету вялікія духоўныя каштоўнасці. «Псалтырь же, — пісаў у XVI стагоддзі Францыск Скарына ў прадмове да гэтага помніка, — сама едина вси тые речи в собе замыкаеть, и всех тых учить и все проповедуеть, — суть бо в ней псалмы, якобы сокровище всих драгых скарбов, всякии немощи, духовныи и телесныи, уздаровляють, душу и смыслы освещають, гнев и ярость усмиряють, мир и покой чинять, смуток и печаль отганяют, чювствие в молитвах дають, людей в приязнь зводять, ласку и милость укрепляють, бесы изгоняють, ангелы на помощь призывають». У беларускай літаратуры XIX стагоддзя, у эпоху рамантызму, яркім прыкладам такога ўплыву стала кніга Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», якая, акрамя матываў Эклезіяста, у многім паўтарае, як мы пакажам у далейшым, асноўныя думкі і маральнае крэда Псалтыра.

Адзначым, што ўзнікненне Псалтыра звязана з імёнамі многіх аўтараў, сярод якіх асабліва вылучаецца імя біблейскага цара Давіда. Песнапенні Давіда — гэта маленне да Бога, якое ў многім аказваецца тыпалагічна роднасным рамантызму тым, што яно не толькі напоўнена болем, але і здолела ўзняцца над усімі чалавечымі пакутамі; яно — шчасце, асалода для душы і вера ў вылячэнне і збаўленне ад душэўных ран, якое магчыма толькі дзякуючы споведзі і звароту да Бога як да вышэйшага дабра: «Сваім голасам клічу да Госпада, — і Ён чуе мяне са сьвятое гары Свае (Пс. 3.5). Калі клічу я, — акажыся мне, Божа праўды маёй! Ты даваў мне прастору ў цясноцьці. Умілажалься зь мяне і пачуй малітву маю (Пс. 4.2). Госпадзе Божа мой! я паклікаў Цябе, і Ты мяне вылечыў (Пс. 29.3). У сумненьні маім я думаў: адхілены я ад вачэй Тваіх; але Ты пачуў голас малітвы маёй, калі я паклікаў Цябе (Пс. 30.23). Цьвёрда я спадзяваўся на Госпада, і Ён да мяне прыхіліўся і крык мой пачуў (Пс. 39, 2). Наступныя пакаленні чалавецтва болі і спадзяванні Давіда ўспрынялі як супакой душы і вялікую надзею на вечнае дабро, здольнае перамагчы, асіліць марнасць жыцця і тыя бязмежныя пакуты, якія яна прыносіць людзям. Давід пакладзе канец пакутам у межах вялікага дабра — маленнем і ачышчэннем душы.

Не меншай увагі заслугоўвае тыпалагічна роднасны рамантычнай настраёвасці прарочы псалом 21, у якім Давід, прадказваючы сабе небяспеку, перадае свае душэўныя ўзрушэнні і перажыванні і просіць ва Усявышняга заступніцтва і падтрымкі: «Божа мой! Божа мой! нашто Ты пакінуў мяне? Далёкія словы крыку майго ад ратунку майго. Божа мой! я клічу ўдзень, — і Ты не аказваешся, уначы — і няма мне супакаеньня. Усе, што бачыць мяне, клянуць мяне; кажуць вуснамі, галавою ківаюць: «ён спадзяваўся на Госпада, — хай вызваліць яго, хай уратуе, калі ён даспадобы Яму». Табе я даручаны ад нараджэньня; ад улоньня маці маёй Ты— мой Бог. Не адыходзь ад мяне, бо блізіцца скруха, а памочніка няма» (Пс. 21, 2-3, 8-9, 11-12). Аўтар таго ж псалма інтуітыўна ўжо прадчувае і ўяўляе карціну свайго пакарання. Па-прарочы апісаны жахі распяцця, якія з цягам часу павінны адбыцца: «Бо сабакі мяне атачылі, хэўра злыдняў мяне абступіла, прабілі рукі і ногі мае; можна было палічыць усе косткі мае, а яны дзівяцца, робяць зь мяне відовішча, дзеляць рызы мае між сабою; і за адзежу маю кідаюць жэрабя» (Пс. 21, 17-19).

Па сведчанні евангелістаў, як адзначаецца ў каментарыях да гэтай часткі Псалтыра, уяўна паказаныя Давідам пакуты ва ўсім змесце псалма 21, асабліва ў толькі што прыведзеных радках, з усёю паўнатою і дакладнасцю вымяшчаліся на Ісусе Хрысце, аб чым падрабязна апавядае Святое Евангелле (Мацв. 27, 35; Марк. 15, 24; Лук. 23, 34; Іаан. 19, 23). Нават вышэйпрыведзеныя Давідам словы: «Божа мой! Божа мой! нашто Ты пакінуў мяне?» тут прамаўляе ўжо Ісус Хрыстос, які прымае мучэнні на крыжы (Мацв. 27, 46; Марк. 15, 34). Больш за тое, Святое Евангелле расказвае не толькі пра пакуты Сына Божага, але і пра Яго Уваскрасенне, якое, паводле біблейскіх крыніц, было галоўнаю мэтаю з'яўлення на зямлю Богачалавека Ісуса Хрыста. Калі Сын Чалавечы ўваскрос, як Бог, і вярнуў сабе свой ранейшы стан і аблічча, то паколькі Ён у той жа час быў чалавекам, то з ім разам уваскрэсла ўсё чалавецтва — Галгофа адкрыла ім шлях да выратавання. Ісус Хрыстос — Сын Божы, Збавіцель, які ўвасобіўся і прыйшоў у свет, каб цаною свайго жыцця вызваліць чалавецтва ад улады прыгнятальнага граху і Сваім Уваскрасеннем прынесці людзям у дар перамогу над смерцю. Біблейскі сюжэт пра Уваскрасенне Хрыстова не раз знаходзіў творчае пераасэнсаванне ў многіх літаратурах свету, у тым ліку і ў беларускай літаратуры. «Нацыянальнае адраджэнне Беларусі, — як справядліва заўважае І. Багдановіч, — мыслілася ў хрысціянскай традыцыі як святкаванне і прыход Уваскрасення. У паняцце гэтае ўваходзіла безумоўнае вяртанне ў нацыянальна-

гістарычны кантэкст «веры» і «мовы», што асабліва ярка прагучала ў публіцыстыцы К. Каліноўскага, а потым у «Дудцы беларускай» Ф. Багушэвіча». Разам з тым з'яўленне названай часткі Бібліі прынесла для ўсіх людзей свету вялікія духоўныя каштоўнасці.

Высокая мастацкасць абумовіла бяссмерце псалмоў, незгасальную цікавасць да іх. Псалмовая паэзія і яе ўзвышаны, узнёслы ідэал аказаліся вечнаю крыніцаю, якая напаўняе і насычае жывіцельным духам будучыя пакаленні. У старажытнейшыя часы яна служыла духоўнай спажывай для яўрэйскага народа, а пазней — як частка Святога Пісання — і для паслядоўнікаў хрысціянскай рэлігіі, а таксама для ўсёй сусветнай паэзіі, якая раздзяліла яе эстэтыку і мараль. Паводле Георга Гегеля, «псалмы Давіда з іх бліскучым праслаўленнем усемагутнасці Госпада ў яго дабрыні і гневе, як і глыбокі смутак прарокаў, яшчэ і цяпер адпавядаюць нашаму настрою і жывыя для нас, нягледзячы на тое, што ў іх гаворыцца аб Вавілоне і Сіоне». Паслядоўнікі Новага Запавету прызналі аўтара многіх псалмоў прарокам, а Псалтыр — прарочымі песнапеннямі пра з'яўленне Бога і яго дабрыні. Па закліку і волі Бога Давід завалодаў прастолам Іудзеі, перамог і асіліў безліч ворагаў, бо кіраваўся запаведзямі Усявышняга і давяраў Яму душэўныя намеры, думкі, памкненні, каб паказаць сваёю магутнасцю — волю Божую, голас ісціны. Ён увайшоў у гісторыю як боскі цар, папярэднік усяго вялікага рэлігійнага руху і найвялікшы паэт. Яго паэзія разнеслася песняй па ўсім свеце.

У песнапеннях Псалтыра — шчасце і збавенне ад душэўных ран — тое, што зачэрпнута з глыбіні стагоддзяў нараўне з вялікай мастацкай творчасцю і ўзята паэтычным мысленнем наступных пакаленняў людзей свету. Сюды прычынілася ўласна беларуская і іншамоўная літаратура Беларусі старажытнага перыяду і XVIII стагоддзя, а затым, у эпоху рамантызму, і пісьмовая славеснасць XIX стагоддзя. Калі ж гаварыць пра яе блізкасць да настрояў Псалтыра, да яго ўзвышаных духоўных імкненняў і містычнага духу, то варта зноў звярнуцца да кнігі Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», хоць у ёй аўтар непасрэдна не цытуе Біблію ці Евангелле, а толькі апелюе да Бога і Багародзіцы. Паводле разваг некаторых герояў згаданага твора, толькі праведны і сумленны чалавек заўсёды можа разлічваць на міласэрнасць Усявышняга, які прыносіць людзям шчасце і радасць у жыцці.

«— Не байку вам раскажу, а тое, што было ў сапраўднасці, што здарылася нават са мною (падарожным. — **К. Л.**). Горкім бывае часам нашае жыццё, але хто спадзяецца на Бога, — Бог злітуецца і ўсё пераменіць на лепшае. Бяда таму, хто, прагнучы багацця, прадае сваю душу пеклу» («Пра чарнакніжніка і пра цмока, што вылупіўся з яйка, знесенага пеўнем»).

«О, як соладка спазнаць міласэрнасць Божую!» («Ваўкалак»).

«— То праўда, — сказаў ксёндз — што людзі грэшнікаў раяць забіваць камнямі, забываючы, што сказаў Хрыстос: «Няхай кіне камень той, хто без граху». Але нельга і людзям пярэчыць, што няма чараў на свеце. Аднак таму, хто просіць Бога, няма чаго баяцца… Жывіце з Богам, і Бог вас не пакіне» («Радзімы знак на вуснах»).

«…Аліна стаяла ля маці, твар яе быў белы, як лілея; з надзеяю і спакоем душы, як анёл-суцяшальнік, казала дзяўчына бацькам пра волю і міласэрнасць Божую» («Успаміны пра наведванне роднага краю»).

«— Нешчаслівае стварэнне! Будзе (Сын Буры. — **К. Л.**) туляцца па ўсім свеце і ўсюды пакутаваць. Чаму ж ён не прыйдзе да Бога: заступніцтва Божае ўваскрашае надзеі. Госпад супакоіў бы ягоны смутак» («Сын Буры»).

«— … там толькі шчасце, дзе чалавек жыве так, як Бог загадаў: працуе рупліва і без хцівасці, не забывае бліжніх, спадзяецца на лепшае» («Рада»).

У той жа час, калі Эклезіяст — плач па марнасці ўсяго існага, то Псалтыр у многім глядзіць на свет інакш. Псалтырныя песні — падзяка Богу, што стварыў гэты дзівосны свет з любоўю і дабрынёй. Ён стварыў чалавека, мала чым адрозніўшы яго ад анёлаў і даў яму ў вялікі дар жыццё — сусвет з сонцам, зорамі, марамі, зямлёю з яе насельнікамі, паставіў яго ўладаром усіх гэтых прыгожых стварэнняў. Вось чаму і заслугоўвае Бог найвялікшай падзякі, таму і ўслаўляе Яго поўны ўдзячнасці Давід. Стварэнне свету і чалавека — найвышэйшая творчасць, праяўленне найвялікшай любові Творцы: «Калі я гляджу на нябёсы Твае, — твор Тваіх рук, на месяц і зоркі, якія Ты паставіў, дык што *ёсьць* чалавек, якога Ты памятаеш, і сын чалавечы, якога наведваеш Ты? Нядужа Ты зьменшыў яго перад анёламі: славаю, гонарам увянчаў яго; паставіў яго ўладаром над творамі рук Тваіх; пад ногі паклаў яму ўсё... (Пс. 8, 4-7). Гасподняя зямля і ўсё, што на ёй, сусьвет і ягоныя жыхары... (Пс. 23, 1). Як многа дзеяў Тваіх, Госпадзе! Усё стварыў Ты мудра; зямля поўная твораў Тваіх» (Пс. 103, 24).

У духоўным вершы «Dziecie i matka» («Дзіця і маці») В. Дуніна-Марцінкевіча ўсемагутны і ўладарны Бог выступае як выразнік добрых светлых надзей, якія прыносяць асалоду і задавальненне набожным людзям. Носьбітам божства, што зыходзіць з Бібліі і заснавана на ёй, служыць абагульнены вобраз святой маці, у адказе якой на няпростыя пытанні свайго дзіцяці пра Усявышняга і паходжанне свету знайшлі рамантычнае выражэнне думкі і настроі ўсяго рэлігійнага чалавецтва:

Bóg stworzył wszystko swą potężną siłą;
Kto wierzy w Boga pewno się nie myli:
Ja wierzę duszą, bo i wierzyć miło,
I tak Ojcowie wierzyli.

Арыгінальны па сваёй аўтарскай задуме і кампазіцыйнай структуры духоўны верш В. Дуніна-Марцінкевіча «Wiosna!» («Вясна!»), дзе веснавое абуджэнне прыроды, яе рамантычнае адухаўленне атаясамліваецца з надыходам маладосці, кахання і скіроўваецца на праявы Боскага розуму і міласэрнасці. Як і пазней у Максіма Багдановіча, прырода ў В. Дуніна-Марцінкевіча прасякнута радасцю адчування зямнога жыцця, якое яднае чалавека з навакольным светам і поўна ўсеабдымнай любові:

Jako zbudzona nadobna dziewica
Z przyjemnych marzeń, pocałunku echem,
Zdobiąc szkarlatem anielskie swe lica,
Darzy kochanka wstydliwym uśmiechem;
Tak i natura, wiosny usciśnieniem
Szczęśliwa, barwę nadziei przywdziewa,
Zefir jej wtórząc swym łagodnym tchnieniem,
O nowem życiu, o miłości spiewa.

Узнікае ідылічны малюнак казачнага царства надыходзячай вясны, якая нясе любоў, радасць і волю для ўсяго існага ў свеце. Асабліва прывабны вобраз сонца — нябеснага свяцілы, якое «nawet weselej uśmiecha» і ажыўляе прыроду ад зімовага сну. Характэрна, што ў вершы «Вясна!» В. Дуніна-Марцінкевіча адбываецца сакралізацыя прыроды, якая пазбаўлена матэрыяльнай асновы і поўнасцю вызначаецца вышэйшаю воляю Бога, Творцы. Гэтае па-рамантычнаму адухоўленае абуджэнне прыроды, яе хараство падпарадкаваны тут рэлігійна-маралістычнай ідэі грэшнасці людзей і ўслаўленню Божай міласэрнасці да іх.

Дарэчы, заўважым, што духоўны верш «Вясна!» В. Дуніна-Марцінкевіча пры яго несумненнай жанрава-стылёвай і зместавай адметнасці мае пэўнае

тыпалагічнае падабенства з вершам «Wiosenne Dumanie» («Веснавы роздум») Гераніма Марцінкевіча.

Пра біблейскія вытокі і генезіс беларускага рамантызму XIX стагоддзя ёсць усе падставы гаварыць і тады, калі звярнуцца да іншых крыніц Псалтыра, дзе таемна-загадкавы Бог паўстае ва ўсёй велічы і ўладарнасці над людзьмі: «Гасподзь у сьвятым Сваім храме, Гасподзь — трон Ягоны на нябёсах, вочы Ягоныя бачаць, павекі Ягоныя выпрабоўваюць сыноў чалавечых. Гасподзь выпрабоўвае праведніка; а бязбожніка і ліхадзея ненавідзіць душа Ягоная» (Пс. 10, 4-5). Адначасова заўважым, што ў гэтай частцы Святога Пісання прыкметна ўжо абазначыўся тыпалагічна роднасны рамантызму матыў віны і Божага пакарання ці самапакарання: «Вось напраўду зачаў бязбожны, зацяжарыў крыўдаю і ману сабе спарадзіў, капаў дол і выкапаў яго, і ўпаў у яму, якую выкапаў» (Пс. 7, 15-16).

Жыццё Давіда складаецца не з аднаго шчасця. Апошняе выпакутавана і заваявана ім праведнасцю і шчырасцю. У псалмах Давіда людзі ўбачылі прарочы твор, паколькі вынеслі з яго ідэал чалавецтва — імкненне да найвялікшага дабра і барацьбы за яго. На шляху гэтага змагання — многа пакут, якія прадстаўляюць цяжкія жыццёвыя выпрабаванні не аднаго чалавека ці адной эпохі, гэта — спрадвечныя мукі ўсяго чалавецтва, таксама як і дасягнутае шчасце — агульнае для ўсіх прадстаўнікоў роду чалавечага. Псалмы насычаны біблейскімі міфамі пра стварэнне чалавека і далейшы перыяд яго існавання.

Тэндэнцыі, тыпалагічна роднасныя рамантызму, заўважаюцца ў адным з тэкстаў, дзе гаворыцца аб выратаванні ад ворагаў і падаецца надзея на дапамогу Божую: «Навошта бязбожнік грэбуе Богам, кажучы ў сэрцы сваім: «Ты не спагоніш?» Зламай мышцу бязбожнаму і ліхому, каб шукаць і не знайсьці ягонага грэху» (Пс. 9, 34, 36). Тыпалагічна сугучны рамантычнай настраёвасці псалом 17 Давіда, які перадае хвалебную песню Богу, Збавіцелю ад усіх ворагаў: «Паклічу Госпада, годнага пакланеньня, і ад ворагаў маіх уратуюся. Агарнулі мяне пакуты сьмяротныя, і патокі бяспраўя напалохалі мяне; ланцугі пекла аблеглі мяне, і сеткі сьмерці аблыталі мяне. У цеснаце маёй паклікаў я Госпада, і да Госпада майго зьвярнуўся. І пачуў Ён зь сьвятых харамаў Сваіх голас мой, і енк мой дайшоў да слыху Ягонага» (Пс. 17, 4-7). Душэўныя перажыванні і пакуты Давіда агульначалавечыя, у іх знайшлі выражэнне мукі і спадзяванні ўсяго рэлігійнага чалавецтва. Ён з прароцкай прадбачлівасцю ўгадвае будучыню, празорліва прадказвае наступныя мучэнні, якія чакаюць чалавецтва. Як лічаць, тое, што Давід перажываў у сваім  уяўленні, што было здабыткам яго думкі, знайшло поўнае, знешне-фактычнае выражэнне ў рэальных пакутах Месіі.

І яшчэ адна з жамчужын песнапенняў — псалом 41, які належыць святым сынам Карэевым і  дзе перададзена малітва аб выратаванні чалавека, выгнанага ў чужы край. Гэта прылучэнне да святлейшага сонца, Бога з дапамогаю найвышэйшай паэзіі. Цяжка знайсці словы, якія здольны выказаць надзвычай узвышаную прыгажосць гэтай паэзіі, сілу яе вобразаў, зместавую глыбіню вершаў: «Як сарна імкнецца да водных патокаў, так душа мая імкнецца да Цябе, Божа! Душа мая прагне Бога моцнага і жывога: калі я прыйду і зьяўлюся прад аблічча Божае! Сьлёзы мае былі мне хлебам удзень і ўначы, калі мне казалі штодзень: дзе твой Бог? Чаго ты падупадаеш, душа мая, чаго непакоішся? Май надзею на Бога; бо я буду славіць Яго, Збаўцу майго і Бога майго. Падупадае ўва мне душа мая, бо я пра Цябе ўспамінаю зь зямлі Ярданскай, зь Ярмона, з гары Цаар. Бездань прорву заклікае голасам вадаспадаў Тваіх; усе воды Твае і хвалі Твае прайшлі нада мною» (Пс. 41, 2-4, 6-8).

У аспекце тыпалогіі набліжанасцю да рамантычнага светаадчування вызначаецца ў псалме 118 невядомага аўтара цудадзейная сіла Слова Божага:

«Разамкні вочы мае і пабачу дзівосы закону Твайго. Хай прыйдзе мне Твой мілажаль, і буду я жыць; бо закон Твой — суцяшэньне маё. Душа мая прападае па ратунку Тваім; спадзяюся на слова Тваё. Вавек не забуду загадаў Тваіх, бо імі Ты ажыўляеш мяне. Праўда Твая — праўда вечная, а закон Твой — ісьціна. Вялікі мір у тых, што любяць закон Твой, і не спатыкаюцца яны» (Пс. 118; 18, 77, 81, 93, 142, 165).

Як ужо адзначалася вышэй, пакуты біблейскага цара Давіда — аўтара многіх псалмоў, не ёсць пакуты адной асобы, аднаго народа або людзей адной эпохі. Гэта пакуты ўсяго чалавецтва, усіх эпох, усіх рэлігійных напрамкаў. Маленне Давіда і паратунак, прывіды вышэйшага дабра, святая вера ў існаванне таго вечнага вялікага дабра, якое аўтар псалмоў лічыць асноваю быцця — спрадвечныя і агульныя, — як і плач Эклезіяста, які прапаведуе супрацьлеглы шлях пошукам той найвышэйшай ісціны, у якой Псалтыр бачыць супакаенне і надзею. Апошнія разам з вялікай паэзіяй вынесла з Псалтыра будучае чалавецтва як суцяшэнне за мукі быцця, як сэнс вечнага існавання, што знайшло пазней адлюстраванне і ў беларускай літаратуры эпохі рамантызму. Псалмы цара Давіда, прасякнутыя найвышэйшым Божым дарам паэзіі, ідуць са старажытнейшых біблейскіх крыніц пісьменнасці. Заканадаўцы новай рэлігіі ўключылі іх у лік святых кніг, у выніку чаго, прайшоўшы выпрабаванне часам, псалмы сталі неад’емнаю часткаю маралі і эстэтыкі новай эпохі. Псалтыр і яго песнапенні аказалі ўплыў на далейшае развіццё творчай паэтычнай думкі сусветнай літаратуры.

Многія рамантычныя творы пераважна польскамоўнай літаратуры Беларусі XIX стагоддзя больш усяго адпавядаюць настрою псалмоў, тым маленням, што звернуты да першакрыніцы вечнага дабра і любові — Богу. Усявышні ў разуменні рамантыкаў — універсум, таемная сутнасць светабудовы, адсюль вынікае іх абсалютная верацярпімасць. Дастаткова назваць чатыры аднайменныя духоўныя вершы «Do Boga» («Да Бога») Яна Аношкі, Тадэвуша Лады-Заблоцкага, Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча) і Аляксандра Грот-Спасоўскага. Апошні прадстаўляе Збавіцеля ў арэоле велічы і ўсемагутнасці:

…Jeńcem grzecha, rospaczy, nadzieją zbawienia…
O mój Ojcze! mój Panie! Twoja to prawicą
Zapalone kagańce miriadów świecą
Na błękitnych sklepieniach swiątyń przyrodzenia.

Ва ўяўленні Аляксандра Грот-Спасоўскага Усявышні агорнуты тайнаю, якая не паддаецца разгадцы, што цалкам адпавядае паэтыцы рамантычнага стылю.

У санеце «O miłości Boga» («Пра любоў Бога») Юліяна Грымалоўскага замілавана і эмацыянальна перададзены любоў і дабрыня Збавіцеля, што «krwią swoją od wiecznej zaguby ocalił, I wśród tysiącznych przygód użyczył pomocy». Як і ў Святым Пісанні, так і ў гэтым вершы Бог выступае стваральнікам нябесных свяцілаў: «… słońce niebieskie zapalił, Rozsiał gwiazdy, i księżyc darował dla nocy». Лірычны герой санета поўнасцю захоплены загадкава рамантычнай постаццю Усявышняга і выражае самыя запаветныя пачуцці:

O zdroju wszelkich pociech! o moja radości!
O jasna, niepojęta, niebieska piękności!
Opuść mię — wźdy ja ciebie jeszcze kochać będę.

Сярод рэлігійных твораў польскамоўных паэтаў Беларусі XIX стагоддзя асабліва вылучаецца духоўная паэзія Габрыелі Пузыны, якая прысвяціла гэтай тэматыцы даволі многа сваіх вершаў. Звернутыя пераважна да Бога, яны не

страчваюць сваёй сувязі з біблейскай першакрыніцаю і разам з тым абнаўляюцца рамантычнай вобразнасцю. Гэтыя вершаваныя творы паэтэсы «Jaki śpiew najmilszy Bogu» («Які спеў наймілейшы Богу»), «Z Bogiem» («З Богам»), «Bogu duszę winien» («Богу душою вінаваты»), «Boże Stworzenie» («Божае стварэнне»), «Niech go Pan Bóg kocha» («Няхай яго Пан Бог любіць»), «Dla miłości Pana Boga» («Для любові Пана Бога») і інш.). Духоўны верш «Modlimy się» («Малісеся») Габрыелі Пузыны прапаведуе маленне як адзін з важнейшых рытуалаў рэлігійнага веравызнання:

Wy! w których sercu czysta wiara świeci,
O chwalcie Boga w swych czynach i w mowie!
By przyjął modły za te biedne dzieci,
Których się nigdy nie modłą ojcowie!!!

Споведная прырода рамантызму прыводзіла паэтаў да рытуальных формаў выражэння запаветнага слова, сярод якіх адметнае месца займае хрысціянская малітва, таінства малітоўнага звароту да Бога. Значную цікавасць уяўляе развіццё гэтай жанравай формы ў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя: гісторыя зараджэння і фармавання «малітвы», асаблівасці яе існавання ў рамантычнай паэзіі, засваенне ёю традыцый хрысціянскага таінства, а таксама інтэрпрэтацыя рамантыкамі розных тыпаў малітоўных сітуацый. Уяўляючы рэлігійна-філасофскі жанр, дадзеная разнавіднасць духоўнай паэзіі, паводле ўкраінскай даследчыцы Ірыны Бетко, «з’яўляецца патаемным выражэннем рэлігійнага духу. Будучы фундаментальнаю састаўною ўсякага рытуальна-культавага абраду, яна асэнсоўваецца як апеляцыя чалавечай душы да Бога».

Спачатку нагадаем пра біблейска-хрысціянскую традыцыю, дзе малітва ўспрымаецца як зварот верніка да Вышэйшага Боскага пачатку з хвалою і просьбаю аб пазбаўленні зла і дараванні дабра. У дадзенай сувязі выдзяляюцца дзве разнавіднасці малітваў: падзячныя (хвалебныя песні з падзякаю) і прасіцельныя. Узорам такога святога таінства служыць Малітва Гасподская, якой Ісус Хрыстос навучыў сваіх апосталаў: «Дык вось, малецеся так: Войча наш, Які ёсьць на нябёсах! Хай сьвяціцца імя Тваё; хай прыйдзе Царства Тваё; хай будзе воля Твая як на небе, так на зямлі; хлеб наш надзённы дай нам сёньня; і даруй нам правіны нашыя, як і мы даруем вінаватым перад намі; і не дапусьці нас да спакусы, але ратуй нас ад ліхога; бо Тваё ёсьць Царства і сіла і слава навекі. Амін» (Паводле Мацвея 6, 9-13). Прыведзены намі тэкст са Святога Евангелля складаецца з заклiку, сямі прашэнняў і ўслаўлення і канцэнтруе ў сабе абодва тыпы малітоўных зносін з Усявышнім. Пачынаючы з першых стагоддзяў хрысціянства, таінства гэтае і малітвенае слова былі арганічна засвоены культурай многіх народаў, у тым ліку і духоўнай спадчынай беларускага народа. У храмавой службе з’явілася мноства малітвеных зваротаў, народная вера прыводзіла да ўзнікнення апакрыфічных малітваў. Малітвенае слова, выконваючы «магічную функцыю», пранікае ў творы вуснай народнай творчасці: казкі, быліны; становіцца асноваю многіх замоў.

У развіцці «малітвы» на Беларусі XIX стагоддзя можна заўважыць не толькі цікавасць паэтаў да спецыфічнай малітоўна-споведнай сітуацыі, але і да фарміравання асаблівага лірычнага жанру — малітвы, росквіт якога назіраецца ў творчасці паэтаў-рамантыкаў. Гэты род духоўнай паэзіі прыкметна ўжо абазначыўся ў арыгінальным вершы Яна Чачота «Boże wszystkim zmarłym wieczne odpocznienie» (W dzień zaduszny r. 1840) («Божа ўсім мёртвым вечны адпачынак» (У памінальны дзень 1840 г.)).

Калі ж гаварыць пра блізкасць пісьмовай славеснасці Беларусі XIX стагоддзя да настрояў біблейска-хрысціянскай малітвы, то ніяк нельга абысці

ўвагаю рамантычныя вершаваныя «Modlitwy na Obrazkach» («Малітвы на абразках») Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча), дзе праз абразовы лік Ісуса Хрыста, Маці Боскай, Бога і святых выяўляюцца не толькі погляды і пачуцці паэта, але і раскрываюцца біблейскія і хрысціянскія вытокі і станаўленне яго духоўнай паэзіі «Hymn do P. Jezusa na Snipiszkach w Wilnie» («Гімн П.Езусу на Сніпішках у Вільні»), «Hymn do Zbawiciela w kościele katedralnym w Wilnie» («Гімн Збавіцелю ў катэдральным касцёле ў Вільні»), «Hymn do N. P. Maryi Ostrobramskiej» («Гімн Н. П. Марыі Вастрамбрамскай») і інш. Малітва, што звернута да Ісуса Хрыста ў першым з названых намі твораў, гучыць велічна і ўрачыста, сентыментальна пачуццёва і па-рамантычнаму ўзнёсла:

Z Ojcem Przedwiecznym stolicę dzieli,
Na twarz padają przed nim Anieli,
Na Jego imię piekło się trwoży:
Oto Syn Boży.
Obarczon krzyżem, w koronie z cierni,
Dręczą go ludzie niemiłoserni,
Krew płynie z czoła, łza tryska z powiek:
Oto jest Człowiek!

Праз абразовы лік гэтай святыні аўтар верша-гімна сцвярджае, што мучэнні і крыжовая смерць Ісуса Хрыста, які аднaчасова быў і Чалавекам, служылі выратаванню людзей ад зямных бед і пакут. Малітоўна просіць набожны лірычны герой Усявышняга ўсяліць у душы людзей пачуццё любові і дапамагчы ім адольваць няшчасці і суровыя выпрабаванні на жыццёвым шляху.

Прачула кранальнае маленне да іконы Багародзіцы, якое набліжана да фальклорна-рамантычнага стылю, перададзена лацінкаю па-беларуску ў зместце верша-гімна «Do obrazu Cudownej Matki Boskiej Białynickiej nad Dnieprem» («Да абраза цудоўнай Божай Маці Бялыніцкай над Дняпром») Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, які, у адрозненне ад Уладзіслава Сыракомлі, даволі часта выкарыстоўвае традыцыйныя народна-песенныя звароты:

Białynicka nasza maci!
My dzietak Twaich hramada
Molim: pamoż nam dychaci!
Trudnińkaż nam — a żyć nada!
… Zoryńka! wocz Twaich siła,
Niechaj ozaryć śwet celyj!

Tyż baćkow naszych lubiła,
Łubiż nas — ich ćwiet nia śpielyj!
Matulaczka! jak bywała,
I ciapier prytul nas hetak!
Silkiż użo nam nie stała;
Sounińka! hlańżeż na dzietak!

Не менш відавочныя адзнакі рамантызму, вытокі якога ў дадзеным выпадку бяруць пачатак з Біблії, заўважаюцца ў духоўным вершы В. Дуніна-Марцінкевіча «Modlitwa na dzień zaduszny» («Малітва на памінальны дзень»). У ім выразна выступае на першы план пропаведзь маральнага ўдасканалення чалавека на аснове рэлігійнага веравызнання. Акрамя таго, сучасны беларускі даследчык Язэп Янушкевіч бачыць у творах В. Дуніна-Марцінкевіча з рэлігійнаю тэматыкаю праявы польскага сентыменталізму і адзначае яе відавочную блізкасць да творчай спадчыны Францішка Карпіньскага. Аднак, як мы гэта пакажам у далейшым, кожны з названых паэтаў пры несумненнай агульнасці іх мастацкіх прынцыпаў не пазбаўлены і творчай індывідуальнасці.

Паводле спасылкі В. Дуніна-Марцінкевіча, у яго «Малітве на памінальны дзень» выкарыстаны ўзятыя з Псалтыра асобныя рэмінісцэнцыі псалма 14 Давіда. У ім гаворыцца пра дабрачыннасць выбранага кола людзей: «Госпадзе! Хто можа быць у жытле Тваім? хто можа жыць на сьвятой гары Тваёй?

Той, хто ходзіць бязгрэшна і робіць па праўдзе, і гаворыць ісьціну ў сэрцы сваім; хто не паклёпнічае языком сваім, хто ня робіць блізкаму шкоды і ня прымае naганы суседу; той, хто пагарджае злачынцам, але славіць богабаязных; хто прысягае, хай хоць ліхому, і ня здраджвае; хто срэбра сваё на ліхву не здае, і ня купляецца супроць невінаватага. Хто робіць так, не пахісьнецца ніколі!» (Пс. 14., 1-5). Праз абрад ушанавання продкаў у малітоўным вершы В. Дуніна-Марцінкевіча спачатку праходзіць матыў біблейскага Эклезіяста пра нікчэмнасць летуценняў чалавека, а затым безнадзейна-скептычную настраёвасць змяняе дыдактычна-павучальны зварот да людзей, якія праз пакаянне і маленне павінны з дапамогай Бога пазбавіцца ад розных заганаў у жыцці:

Nędzny prochu! człowieku, ty nicości maro!
Ukorz się wtym przybytku przed Boga ofiarą;
A wznosząc głos za zmarłych ojców swoich cienie,
Wejdź we własne przestępstwa i oczyść sumnienie.

Мастацкая рэцэпцыя такой арыгінальнай жанравай формы духоўнай паэзіі, як малітва-споведзь, ставіла на мэце абудзіць у чалавеку асэнсаванне ім сваёй грэшнасці і пакаяння перад Богам. Менавіта гэтая святая запаведзь, якая складае самую важную і істотную частку Старога Запавета, набыла ў «Малітве на памінальны дзень» В. Дуніна-Марцінкевіча ярка выражанае рамантычнае гучанне:

Lecz dobroć Twoja bez końca,
Wyrzekłeś tak przez Proroka;
W niej wiernych cała opoka,
A Syn Twój wiernych obrońca.
Przez Jego się więc wstawienie,
Odpuść nam i daj zbawienie.

А цяпер у кантэксце нашай папярэдняй гаворкі спашлёмся на пачатак псалма 14 Давіда ў вершаванай апрацоўцы польскага паэта і празаіка XVIII стагоддзя Францішка Карпіньскага:

Panie! kto mieszkać w twoim domu będzie?
Lub kto na górze twej świętej usiędzie?
Ten, który chodzi bez zmazy; ten, który
Drogą praw twoich dosięga góry.

Супастаўленне прыведзеных урыўкаў і далейшае параўнанне вершаваных мастацкіх тэкстаў выяўляе іх пэўную агульнасць у звароце абодвух паэтаў да адной і той жа крыніцы псалма. Магчыма, «Малітва на памінальны дзень» В. Дуніна-Марцінкевіча напісана пад уздзеяннем псалмовага верша Францішка Карпіньскага. Але ж, як паказваюць нашы назіранні, тэматычна сугучныя два вершы розных аўтараў маюць і сваё істотнае адрозненне. Псалом 14 Давіда ў паэтычнай апрацоўцы Францішка Карпіньскага захаваўся амаль без змен. У вершаванай малітве В. Дуніна-Марцінкевіча маральна-павучальныя сентэнцыі гэтага псалма падрабязна не перадаюцца і не раскрываюцца. Галоўная ўвага аўтара сканцэнтравана тут на дыдактычна-прамоўніцкай пропаведзі малення людзей да Бога, каб Той даў ім збавенне ад грахоў у дзень ушанавання памяці продкаў.

Апісанне старажытнага абраду ўшанавання продкаў знайшло адлюстраванне ў «Стаўроўскіх дзядах» — другой частцы вершаванай аповесці «Вечарніцы» В. Дуніна-Марцінкевіча. Ёй, як вядома, папярэднічае напісаная значна раней паэма «Dziady» («Дзяды») Адама Міцкевіча. Гэты твор, як лічыць А. Лойка, «вершыцца першаснай яго ідэяй, што ідзе ад абрадава-драматызаванай II часткі «Дзядоў», самай яе пачатковай, заснаванай на веры ў дзядоў — у продкаў,

у першасуддзяў свету, людзей, носьбітаў вышэйшай справядлівасці, боскага пакарання за зямныя ці іншыя ўчынкі. Суд дзядоў — продкаў і суд Божы — гэта звышсуды і, па сутнасці, адзін суд, адна караючая справядлівасць». Ідучы ўслед за А. Міцкевічам, В. Дунін-Марцінкевіч разам з тым спалучаў рамантычны паказ рэлігійнага абраду ўшанавання памяці душ продкаў з вельмі дакладнаю падачаю этнаграфічна-бытавых рэалій.

Рацыяналістычнай думкай аб неабходнасці бачыць і браць для пераймання ў звароце да Усявышняга лепшыя чалавечыя якасці наскрозь прасякнуты верш Ф. Багушэвіча «Афяра». Гэты твор «паводле жанру з'яўляецца тыповай для рамантыкаў малітвай-заклінаннем» (У. Калеснік). Маленне героя да Бога вуснамі старой жанчыны ставіць на мэце ачышчэнне асобы ад усяго дрэннага, прывіццё ёй высокіх маральна-этычных якасцей:

Маліся ж, бабулька да Бога,
Каб я панам ніколі не быў:
Не жадаў бы ніколі чужога,
Сваё дзела як трэба рабіў.
...Каб грэх свой прад сабой я пазнаў,
У другіх каб не відзеў віны...
...Каб людзей прызнаваў за братоў,
А багацтва сваё меў за іх,
Каб за край свой умёрці гатоў,
Каб не прагнуў айчызны чужых.
Каб я Бога сваго не акпіў,
Каб не здрадзіў за грошы свой люд,
Каб сваго я дабра не прапіў.
І нізашто не меў чужы труд.
...Дык прасі ж ты ў Бога, малі,
Каб я панам ніколі не быў!

Аднак разлад паміж абнадзейваючай марай і рэальнасцю часам прыводзіў багушэвічаўскага летуценніка да глыбокага роздуму адносна праўдзівасці Усявышняга, як гэта відаць з верша «Бог не роўна дзеле». Паэтычны настрой гэтага роздуму нараджаўся ў форме пытання, пакрытага тайнай, чагосьці невядомага і жаданага быць асэнсаваным. Невыпадкова таму ў паэзіі Ф. Багушэвіча так часта сустракаюцца «сутыкненні» супрацьлегласцей, а таксама рытарычныя, «скрытыя» і дапытлівыя пытанні. «Чым то дзеіцца на свеце, Што не роўна дзеле Бог?» — вось пытанне-загадка, якое хвалявала не адно пакаленне набожных людзей свету. Выкарыстоўваючы ў якасці эпіграфа да верша народную прыказку «Бог сіроты любе, але долі не дае», пісьменнік праводзіць рэзкі кантраст паміж багаццем і беднасцю ў свеце сацыяльнага зла. Закранаючы ў свой час рэлігійную тэму ў кантэксце Багушэвічавага ўспрымання, Антон Луцкевіч слушна заўважае: «Гэта ўсё яшчэ бунт не проці ідэі Бога, а проці бяссілля гэтае ідэі перавярнуць, перастроіць чалавечае жыццё на асновах праўды, справядлівасці. Гэта бунт проці таго, што прадстаўленне аб Богу, як аб Ідэале, на кожным кроку сустракаецца з фактамі, якія пярэчаць атрыбутам божства. Гэта выяўленне страшнага болю душы, якая мучыцца ад расчаравання, ад немагчымасці знайсці ў жыцці апраўданне для свайго ідэалу божства».

Даследаваны матэрыял сведчыць пра тое, што вытокі і генетычныя карані беларускага рамантызму XIX стагоддзя ў многім зыходзяць з Псалтыра, які ў адрозненне ад змрочнага Эклезіяста, пераважна выражае жыццясцвярджальныя, аптымістычныя настроі.

## 3. Па шляху далейшых крыніц

Біблейскія вытокі і генезіс беларускага, як і сусветнага рамантызму XIX стагоддзя, неаддзельныя і ад такіх важных паняццяў, як рэлігія і каханне. Апошняе, як і вера ў бажаство, з'яўляецца першапрычынаю і адною з форм натуральнага імкнення чалавека да чысціні, святасці і вернасці сваім інтым-

Аніякая радасць чалавека не можа параўнацца з той радасцю, якую адчувае хрысціянін, калі сузірае святое Божае святло.

Хто не адчуў радасці ў той дзень, — той не верыць усім, хто распавядае пра сыходжанне святога святла.

Аднак мудрыя і верныя людзі цалкам вераць у тое і з асалодай слухаюць пра сапраўдную падзею ў тых месцах святых. Верны ў малым — і ў вялікім верны, а злы і няверны чалавек — праўду ў хлусню ператварае.

У мяне ж, небаракі, ёсць сведка — Бог, і святая Труна Гасподняя, і ўсе спадарожнікі — рускія сыны, што знаходзіліся ў Іерусаліме ў той дзень. Ноўгарадцы і кіяўляне: Ізяслаў Іванавіч, Гарадзіслаў Міхайлавіч Кашкіча і шмат хто іншы. Яны добра ведаюць пра мяне, бедака, і пра гэтае сказанне.

Але вернемся да ранейшага аповеда.

Калі святло запылала ў Труне святой, тады і спевы спыніліся. І ўсе ўсклікнулі: «Кірые, елеісон!» І рушылі з царквы з запаленымі свечкамі, і з вялікім узрушэннем, хаваючы свечкі свае, каб іх не загасіла ветрам. Кожны пайшоў сваім шляхам.

І ад таго святога святла запальваюць кандзілы ў сваіх цэрквах і заканчваюць спевы вячэрнія дома.

А ў вялікай царкве, ля Гасподняй Труны, адныя папы, без людзей, заканчваюць спевы вячэрнія.

Тады і мы з ігуменам і з братамі сваімі пайшлі ў манастыр, несучы запаленыя свечкі. І там скончылі спевы вячэрнія, і пайшлі ў келлі свае, хвалячы Бога, які дазволіў нам, нявартым, Божую даброць сузіраць.

І па ютрані ў святую нядзелю, пасля спеваў і цалавання з ігуменам і братамі, пасля адпушчэння а першай гадзіне дня, мы ўсе супольна — ігумен з братамі — скіраваліся да Труны Гасподняй. Па дарозе спявалі кандак: «Хоць сышоў у труну, але несмяротны!»

І ўвайшлі ў святую Труну жыватворную, і абцалавалі святую Труну Гасподнюю з шанаваннем і слязамі цёплымі.

І атрымалі асалоду вялікую ад чароўнага водару прышэсця Святога Духа і тых кандзілаў, што гарэлі ярка і дзіўна.

Тыя тры кандзілі загарэліся ў час сыходжання Духа Святога. Так нам сказалі эканом і ключар Труны Гасподняй. Ігумену пацвярджалі абодва:

— Тыя тры кандзілі, што ўнізе стаялі на Труне Гасподняй, тады загарэліся.

Іншыя пяць кандзілаў віселі над Труной, але цяпер і яны гарэлі. Святло іх надта адрознівалася ад тых трох кандзілаў, што незвычайна і дзіўна свяціліся.

А потым мы выйшлі з Труны праз усходнюю браму і ўвайшлі ў вялікі алтар, і тут учынілі цалаванне з праваслаўнымі. Пасля адпушчэння ігумен з братамі і ўсе мы пакінулі царкву святога Уваскрэсення і пайшлі ў свой манастыр, і там спачывалі да літургіі.

І праз тры дні пасля Уваскрэсення Гасподняга, па літургіі, пайшоў я да ключара Труны Гасподняй і сказаў яму:

— Хацеў бы забраць кандзіла сваё.

Ён ласкава прыняў мяне, дапусціў да Труны толькі аднаго. Я ўвайшоў у Труну і ўбачыў кандзіла сваё, што стаяла на святой Труне і свяцілася святлом святым.

І пакланіўся Труне той святой, і абцалаваў з шанаваннем і слязамі месца тое святое, дзе ляжала найчысцейшае цела Госпада нашага Ісуса Хрыста.

І затым я зрабіў замеры Труны ўшырыню, у даўжыню і ў вышыню. Пры людзях немагчыма выканаць замеры яго.

І ўшанаваў я Труну Гасподнюю як мог, і таму ключару падаў штосьці з маіх сціплых зберажэнняў і дабраславіў яго.

Ключар бачыў маё вялікае шанаванне Труны Гасподняй, таму адсунуў дошчачку каля галавы святой Труны Гасподняй і аддзяліў мне ад таго святога

каменя невялічкае дабраславенне. І забараніў мне пад клятвай каму-небудзь распавядаць аб гэтым у Іерусаліме.

Я ж пакланіўся Труне Гасподняй і ключару, узяў кандзіла сваё з ялеем святым і пайшоў з святой Труны Гасподняй з радасцю невымоўнай. Узнагароджаны ласкай Божай, нёс у руцэ дарунак святога месца і знаменне святой Труны Гасподняй.

І крочыў з радасцю, нібы нёс багацце і скарб. Накіраваўся ў сваю келлю, бясконца ўсцешаны і ўзрадаваны.

Бог і святая Труна Гасподняя сведкі таму, што падчас знаходжання ў тых святых мясцінах я не забываў імёнаў рускіх князёў і княгінь, і дзетак іх, епіскапаў, ігуменаў і баяраў, і дзяцей маіх духоўных; і ўсіх хрысціянаў не забываў, але ўва ўсіх святых месцах памінаў.

Найперш, я кланяўся за ўсіх князёў, а потым за свае грахі маліўся.

І за тое прыношу хвалу добраму Богу, што дазволіў мне, небараку, запісаць імёны рускіх князёў у лаўры святога Савы. І цяпер прыгадваюцца іх імёны ў экценіі, з жонкамі і з дзецьмі іх. Вось імёны іх: Міхаіл Святаполк, Васіль-Уладзімір, Давыд Святаславіч, Міхаіл-Алег, Панкрат Святаславіч, *Глеб Менскі*. Толькі іх імёны я памятаў, іх і ўпісаў.

Апрача ўсіх князёў рускіх, маліўся я таксама за баяраў перад Труной Гасподняй і ва ўсіх святых месцах.

І адспявалі мы літургіі за князёў рускіх і за ўсіх хрысціянаў. Усяго 50 літургій. А за памерлых адспявалі 40 літургій.

Няхай будзе дабраславенне ад Бога, ад святой Труны Гасподняй і ад усіх святых месцаў усім, хто чытае гэта пісанне з верай і шанаваннем. Прымуць яны ўзнагароду ад Бога нароўне з тымі, хто хадзіў па святых месцах. Тройчы дабраславёныя тыя, хто верыць, хоць і не бачыў. Бо праз веру Аўрам прыйшоў у зямлю абяцаную. Сапраўды, вера — роўная добрым справам.

Дзеля Бога, браты і гаспадары мае, не дакарайце мяне за беднасць майго розуму і грубасць маю!

Няхай не абражана будзе гэтае пісанне дзеля мяне, Труны Гасподняй і святых месцаў!

Той, хто прачытае паважліва, здабудзе ўзнагароду ад Бога, Выратавальніка нашага Ісуса Хрыста.

І Бог свету з усімі вамі на вякі!

Амінь.

***Падрыхтоўка да друку і пераклад***
***Івана Саверчанкі.***

# ВЯРТАННЕ Ў БУДУЧАЕ

**Імя** беларускага вучонага І. І. Ліштвана сёння дастаткова вядома ў нашай краіне і за яе межамі. Член-карэспандэнт, затым сапраўдны член Акадэміі навук БССР, кавалер ордэнаў Дружбы народаў, Францыска Скарыны, заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, замежны член Акадэміі горных навук Расіі, замежны член Польскай акадэміі навук. Іван Іванавіч Ліштван з'яўляецца таксама намеснікам экалагічнага савета Парламенцкага Саюза Расіі і Беларусі.

Уплыў яркай асобы акадэміка дзесяцігоддзямі распаўсюджваўся на тых, хто быў побач, жыве ў іх справах штодзённа. Рознабаковыя навуковыя інтарэсы вучонага ахопліваюць пэўныя раздзелы хіміі, фізікі, экалогіі. Да дамінантаў асобы І. І. Ліштвана на працягу ўсяго жыцця адносіцца вастрэйшае пачуццё новага ў навуцы. Сёння  акадэмік Іван Іванавіч Ліштван — госць нашай рэдакцыі, ён паважна згадзіўся адказаць на некаторыя актуальныя пытанні, звязаныя з экалогіяй і аховай навакольнага асяроддзя, далейшым развіццём энергетыкі і рэсурсазберагальных тэхналогій.

## *Мы даўжнікі перад унукамі*

*— Некалькі гадоў таму была распрацавана праграма «Нацыянальная стратэгія ўстойлівага развіцця Рэспублікі Беларусь» з магутным экалагічным блокам. Як яна выконваецца?*

— Не ўсе паказчыкі гэтай стратэгіі дасягнуты. Цэлыя галіны прамысловасці вымушаны былі перабудоўвацца на эколагабяспечныя тэхналогіі. На агульным фоне мы выглядаем нядрэнна дзякуючы таму, што вытворчасці, якія «нагружаюць» навакольнае асяроддзе, скарацілі аб'ёмы выпуску прадукцыі. Практычна з крыніц энергетычнай сыравіны выключаны цвёрдыя віды паліва, якія давалі вялікія выкіды ў атмасферу...

Але ўнутраныя і знешнія пагрозы засталіся. Аўтатранспарт усё больш забруджвае паветра. Непакояць выкіды прамысловасці і ЦЭЦ. Неспрыяльная абстаноўка ў Магілёве, Гомелі, Светлагорску, Віцебску, Бабруйску...

Сярод знешніх пагроз у атмасферы — трансгранічныя пераносы забруджваючых рэчываў з-за пануючых вятроў з захаду на ўсход. Мы бездапаможныя перад глабальнымі працэсамі змянення клімату. Па перыметры нашых граніц у сумежных краінах знаходзяцца некалькі АЭС...

*— Іван Іванавіч, ці не спасцігне гэтую праграму лёс дакумента, аб якім толькі што гаварылі?*

— У мяне ёсць упэўненасць, што да 2020 года мы дасягнем запланаваных вынікаў. Гэта адносіцца і да аховы навакольнага асяроддзя, і да прагнозаў выкідаў, ачышчэння атмасферы, зямлі, аднаўлення біярэсурсаў... У новай стратэгіі ўлічваюцца ўсе параметры жыццядзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь, каб наша дзяржава развівалася ўстойліва.

Больш за тое, мы хацелі б у рамках гэтай стратэгіі выпрацаваць рэкамендацыі-індыкатары экалагічнай бяспекі, усяляк выкарыстоўваць рэсурсазберагаль-

ныя, навукаёмістыя тэхналогіі, у тым ліку і па перапрацоўцы адыходаў вытворчасці. Урэшце, мы павінны навучыцца на аснове сучаснай камп'ютэрнай базы кіраваць экасумяшчальным прыродакарыстаннем.

*— Значыць, з аднаго боку — высокая адказнасць за чысціню біясферы, з другога — чыста эканамічныя рычагі?*

— Не трэба баяцца істотна павялічыць штрафы за забруджванне навакольнага асяроддзя, павысіць адказнасць кіраўнікоў гаспадарчых суб'ектаў. Многія прадпрыемствы тады самі скіруюцца на новыя, безадыходныя або малаадыходныя біясфернасумяшчальныя тэхналогіі. Гэта адкрые спектр новых магчымасцей. Адпадзе праблема утылізацыі, у вялікіх гарадах стане больш чыстым паветра.

Людзі будуць менш хварэць. Нераўнадушных да прыроды і навакольнага асяроддзя стане больш. Свет, падараваны нам, — гэта багацце, якое мы не павінны страціць. Ён належыць усім пакаленням, што прыйдуць на зямлю пасля нас.

## *Увесь свет эканоміць. Час эканоміць і нам!*

*— У адносінах да энергазабеспячэння Беларусі яшчэ да нядаўняга часу не было ніякіх падстаў хвалявацца. У Расіі і ў рэспубліках Сярэдняй Азіі маецца дастаткова вялікі запас крыніц першаснай энергіі. Вялікія запасы нафты і газу знаходзяцца ў арктычным шэльфе, да якога яшчэ не дайшла чарга. Заходняя Еўропа будуе сваю энергетычную палітыку з разлікам на патокі энерганосьбітаў з Усходу. Многія ў нашай краіне таксама арыентаваліся на гэта.*

— Дарэчы, нямецкія вучоныя і інжынеры разлічылі і спраектавалі высакавольтную лінію электраперадачы пастаяннага току Ямал — Заходняя Еўропа праз Маскву, Мінск, Берлін і далей на захад. Пры гэтым электраэнергія ў Мінску на гэтай лініі атрымліваецца таннейшай, чым на электрастанцыях, пабудаваных у нашай краіне. Так што Беларусі, якая займае выгаднае геаграфічнае становішча, больш эканамічна атрымліваць энергію з Расіі.

*— Так думалася, так хацелася многім. Але «накат» расійскіх алігархаў, падтрыманых кіраўніцтвам сваёй краіны, на Беларусь з мэтай пакласці ў сваю кішэню некалькі мільярдаў долараў, прымусіў задумацца многіх. Краіна павінна была перайсці да шматвектарнай канцэпцыі энергетычнай бяспекі.*

— У новай канцэпцыі энергетычнай бяспекі, распрацаванай міжведамаснай камісіяй, упершыню ў якасці новых крыніц энергіі ўведзены вугаль у колькасці 2 мільёнаў тон умоўнага паліва (ТУП) і ядзерная энергетыка. Акрамя таго, да 2015 і 2020 года ў энергабаланс будуць дабаўлены яшчэ па 100 тысяч тон умоўнага паліва, атрыманага з перапрацаваных бурых вуглёў беларускіх радовішчаў. Да 2020 года плануецца пабудаваць вугальную электрастанцыю магутнасцю 600 МВт і мадэрнізаваць дзве станцыі па 100 МВт.

## *Нельга сядзець на адной трубе*

*— Ранейшая палітыка арыентацыі на аднаго пастаўшчыка энергарэсурсаў была, канечне, няправільнай. Як гаворыцца, нельга сядзець на адной трубе.*

— Так, геаграфічнае супрацоўніцтва павінна пашырацца. Вялікія аб'ёмы вугалю могуць прапанаваць Украіна, Польшча. Паўднёвага суседа Беларусь разглядае і як аднаго з магчымых стратэгічных партнёраў у будаўніцтве на тэрыторыі нашай краіны цеплавых электрастанцый на вугалі.

Дзякуючы гэтым мерам і энергазберагальным тэхналогіям доля прыроднага газу ў выпрацоўцы электрычнасці знізіцца з цяперашніх 95 працэнтаў да 75. У цэлым у энергабалансе газ будзе займаць каля 50 працэнтаў. Праўда, кіраўнікі Міністэрства энергетыкі Рэспублікі Беларусь мараць аб ідэальным варыянце: 30-працэнтныя суадносіны цвёрдых відаў паліва, газамазутнага гаручага і атамнай энергіі.

*— За апошнія гады Беларусь назапасіла магутны эканамічны патэнцыял. Тым не менш, без новых адкрыццяў, дасягненняў, ідэй эканоміку і іншыя сферы жыццядзейнасці нашага грамадства не паднясць на новы ўзровень. І галоўную ролю ў вырашэнні гэтых пытанняў павінны адыграць вучоныя. На святкаванні Дня беларускай навукі Прэзідэнт адзначыў: «Наспеў час яшчэ раз уважліва паглядзець на арганізацыю навукі ў нас у краіне. Кожны ўкладзены рубель павінен прыносіць максімальную аддачу. Гэта адносіцца да ўсіх галін. І да навукі найперш».*

— Вось чаму апошнім часам мы актыўна займаемся праблемай асваення радовішчаў бурых вугалёў у нашай краіне. Звязана гэта з тым, што перад вучонымі востра пастаўлена задача па энергетычнай бяспецы нашай дзяржавы, праблемы рэсурсазберажэння, пошуку альтэрнатыўных відаў паліва і крыніц энергіі. І ў гэтай агульнай стратэгіі, агульнай канцэпцыі энергетычнай бяспекі асаблівая роля адводзіцца выкарыстанню мясцовых паліўных рэсурсаў у вытворчасці цеплавой і электрычнай энергій. На першае месца тут выходзяць бурыя вугалі, запасы якіх у краіне вельмі значныя. Задача беларускіх вучоных, на маю думку, у тым, каб у максімальна кароткія тэрміны стварыць або знайсці патрэбныя нам тэхналогіі, тыя спосабы, якія з найменшымі выдаткамі дазволілі б здабываць гэты вугаль у незвычайных прыродных умовах, ва ўмовах поўнага яго абваднення. І каб здабыча бурых вугалёў не нанесла сур'ёзнай шкоды навакольнаму асяроддзю. Вядуцца работы па давывучэнні Брынеўскага радовішча бурых вугалёў і распрацоўцы тэхналогій па іх выкарыстанні ў якасці сыравіны для атрымання цвёрдых, вадкіх і газападобных высокакаларыйных энерганосьбітаў. НАН выпрацавала шэраг прапаноў, у тым ліку з калегамі з Украіны і Расіі, па арганізацыі вытворчасці маторнага паліва і метанолу з бурых вугалёў. Задачы стаяць вельмі цяжкія, але мы ўпэўненыя ў поспеху справы. Зарукай поспеху тут з'яўляецца вялікая рэсурсная дапамога дзяржавы, абяцаная вучоным.

Беларускія навукоўцы вядуць даследаванні і па гаручых сланцах, дзе таксама трэба будзе знайсці найбольш эканомныя і высокаэфектыўныя спосабы іх здабычы і перапрацоўкі. У вырашэнні гэтых важных задач мне даводзіцца выступаць у якасці навуковага кіраўніка.

*— У рэспубліцы сталі ўдзяляць належную ўвагу так званым мясцовым крыніцам.*

— На сёння і ў прагназіруемым перыядзе найбольш значнымі ў агульным балансе мясцовых паліўна-энергетычных рэсурсаў з'яўляюцца нафта і газ, якія здабываюцца ў краіне. На жаль, іх разведаныя запасы знікаюць, таму і аб'ёмы здабычы да 2010 года знізяцца да 1,5 мільёна тон і 220 мільёнаў кубаметраў адпаведна. Нафта і газ дадуць нам прыкладна 2,5 мільёна тон умоўнага паліва, а трэба каля 7 мільёнаў тон.

## Аднаўляемы рэсурс

*— Астатнюю колькасць трэба будзе дабраць за кошт іншых энерганосьбітаў?*

— Так, і тут на першым месцы стаіць, канечне, драўніна, якая ў прынцыпе

з’яўляецца аднаўляемым рэсурсам. І вельмі важным! Дровы — паліва, якое дае такой вялікай краіне, як ЗША, столькі ж энергіі, колькі атамныя электрастанцыі, прычым без пастаяннай небяспекі радыяцыі.

У нашай краіне плануецца будаўніцтва міні-электрастанцый, якія працуюць на адыходах з драўніны. Вядома, што 36 працэнтаў тэрыторыі Беларусі займаюць лясы, актыўна вядуцца лесанарыхтоўчыя работы. І тут вельмі важна выкарыстаць тыя адыходы, якія не знаходзяць сёння прымянення і могуць быць выкарыстаны як паліва. Прычым выкарыстанне біямасы ацэньваецца на ўзроўні 3,6 мільёна тон умоўнага паліва ў год. Ды і з пункта гледжання забруджвання атмасферы, калі можна так выказацца, гэтая біямаса больш пажаданая, чым мазут, буры вугаль, торф, паколькі з’яўляецца больш «сяброўскім» для прыроды відам паліва. Яна мае практычна «нулявы эфект» па выкідах парніковых газаў, найперш $CO_2$. З улікам далучэння РБ да Кіёцкага пратакола і прыняцця на сябе колькасных абавязацельстваў па абмежаванні і скарачэнні выкідаў парніковых газаў сёння ўсе віды біямасы разглядаюцца як найбольш перспектыўныя па зніжэнні іх уздзеяння на клімат.

На другім месцы стаіць торф, які таксама з’яўляецца павольна аднаўляемым прыродным рэсурсам. Але калі для выкарыстання драўніны ў энергетыцы пакуль яшчэ не наладжана дастаткова строга вытворчая інфраструктура, пачынаючы ад нарыхтоўкі драўніны, яе вывазу, затым перапрацоўкі ў паліва, то торф нам больш даступны. Больш за 70 гадоў у нас, у Савецкім Саюзе і ў Беларусі, інтэнсіўна развівалася тарфяная справа. Быў час, калі амаль уся наша энергетыка працавала на торфе.

У цяжкія пасляваенныя гады менавіта торф выступаў асноўным відам паліва ў вытворчасці цеплавой і электрычнай энергіі. Але ў тыя гады для патрэб энергетыкі толькі ў Беларусі здабывалі больш як 20 млн. тон торфу, цяпер жа — у дзесяць разоў менш.

*— Некаторыя вучоныя і спецыялісты звязвалі такое падзенне здабычы з тым, што быццам бы вычарпаны рэсурсы буйных радовішчаў.*

— З такім сцвярджэннем я не згодны катэгарычна. Беларусь па-ранейшаму з’яўляецца адной з самых багатых на гэты від сыравіны краін свету. Запасы торфу ў нас ацэньваюцца ў 4,2 млрд. тон! Намечана за пяцігодку давесці аб’ём здабычы торфу да 3,33 млн. тон. У прынцыпе аб’ём здабычы торфу для патрэб сельскай гаспадаркі, малой энергетыкі і вытворчасці камунальна-бытавога паліва можна лёгка павялічыць у 2,5 раза. Праўда, у гэтых планаў ёсць і праціўнікі, занепакоенасць якіх таксама зразумелая — водна-балотныя ўгоддзі неабходна ахоўваць. Але не будзем забывацца, што гаворка ідзе пра энергетычную бяспеку краіны, якую пры дарагоўлі нафты і газу і не пабудаванай яшчэ АЭС нароўні з драўнінай можа забяспечыць толькі торф.

*— Ёсць эксперты, якія сцвярджаюць, што спальванне торфу наогул з’яўляецца эканамічна неэфектыўным. Маўляў, больш выгадна выкарыстоўваць яго залежы ў якасці плошчаў для вырошчвання шматгадовых травяных культур.*

— Але вось іншы прыклад. Фінляндыя, дзе пра экалогію клапоцяцца не менш, здабыла ў 2006 годзе 15 млн. тон торфу і не баіцца, што сапсавала навакольнае асяроддзе. Доля яго ў вытворчасці цеплавой энергіі склала 17,5; электрычнай — 5,3 працэнта. Як бачым, фіны аказаліся больш дальнабачнымі і даўно сталі на шлях дыверсіфікацыі энерганосьбітаў. І не толькі яны. Прывяду таксама вопыт шведскага горада Упсала. Па шведскіх мерках гэта даволі буйны горад — каля 200 тысяч жыхароў. Дык вось, мясцовая ЦЭЦ працуе галоўным чынам на торфе, да якога дабаўляюць бытавыя адыходы. Скандынавы — практычныя людзі. Дарэчы, яны ахвотна купляюць наш торф, прытрымліваючы свой на запас!

У Беларусі, як бачым, існуе тарфяная галіна прамысловасці, яе не трэба ствараць наноў. Варта толькі яе падтрымаць, рэанімаваць, і тады яна дасць тое,

што неабходна нашай краіне для вырашэння праблемы энергетычнай бяспекі.

## *Альтэрнатыўныя крыніцы*

*— Колькі слоў пра альтэрнатыўныя крыніцы энергіі.*

— На першым месцы тут стаіць водная энергія, гэта значыць, вытворчасць электрычнасці за кошт водных рэсурсаў. Плануецца будаўніцтва буйных гідраэлектрастанцый на Нёмане (Гродзенская ГЭС) і Заходняй Дзвіне (Полацкая ГЭС). Будаўнічыя работы тут пачнуць ужо бліжэйшым часам. Іх магутнасці складуць прыкладна 100 тысяч тон умоўнага паліва. Гэта, канечне, мала, бо ў нашай эканоміцы для нармальнага функцыянавання неабходны энергетычныя магутнасці ў 35 мільёнаў тон умоўнага паліва! Канечне, водная энергія — найбольш танная з усіх відаў энергіі, але справа ў тым, што ў нас няма горных рэк, у нас раўнінная тэрыторыя. Таму будаўніцтва гідрастанцый любой магутнасці патрабуе стварэння падпору вады, а гэта выкліча затапленне вялікіх тэрыторый, зменіцца гідралагічны рэжым тэрыторый у месцах наяўнасці водаўпору. А гэта негатыўна адаб'ецца на развіцці сельскай гаспадаркі, на функцыянаванні прыродных экасістэм.

Яшчэ адна альтэрнатыўная крыніца — энергія ветру. Мы ведаем, што ў Германіі, Нідэрландах, Даніі і ў шэрагу іншых краін выпрацоўваецца шмат электраэнергіі з дапамогай ветраўстановак. Гэтыя ўстаноўкі працуюць у паўночных шыротах, на ўзбярэжжы Атлантыкі. Сумарны аб'ём долі электраэнергіі, якая выпрацоўваецца «ветракамі» ў краінах Еўрасаюза, складае не менш за 5 працэнтаў. І гэта значная велічыня, паколькі перавышае 700 ГВт электраэнергіі. Запасы энергіі ветру больш чым у сто разоў пераўзыходзяць запасы гідраэнергіі ўсіх рэк Зямлі.

У Рэспубліцы Беларусь прыродныя ветраныя калідоры размешчаны толькі ў Гродзенскай, Мінскай і Віцебскай абласцях. Менавіта там знаходзяцца пляцоўкі, на якіх можна ўстанавіць «ветракі», але хуткасць ветру ў нас на мяжы нармальных умоў — 6 м/сек. Гэта тая мінімальная мяжа хуткасці ветру, якая можа зрабіць ветраўстаноўку эфектыўнай. Першыя «ветракі» ўжо з'явіліся ў Карэліцкім раёне. Кампаніі Швецыі могуць стаць галоўнымі інвестарамі праекта па стварэнні на тэрыторыі Дзяржынскага раёна парка ветраэнергетычных установак. Цяпер удакладняецца парадак іх размяшчэння.

У Беларусі ёсць вучоныя і інжынеры, якія працуюць над удасканаленнем ветраўстановак, яны канструююць асаблівыя лопасці, якія могуць «захопліваць» нязначныя ветраныя патокі.

З'явілася нават пастка для ветру. Брытанскі архітэктар Лоры Чэтвуд вырашыў экалагічна «акультурыць» краіны былога Савецкага Саюза, бо не ўсё ў нас гладка з эканоміяй электраэнергіі, асабліва з выкарыстаннем бяспечных для навакольнага асяроддзя тэхналогій. На возеры ставіцца яхта або баржа, на ёй мацуюцца не якія-небудзь банальныя ветракі, а велізарная турбіна, прыладкаваная да ветравой плаціны. Знешне плаціна падобна на вялізны, у 25 метраў, трохкутны парус. І расцягваецца гэта мудрагелістая канструкцыя на 75 метраў у вышыню і шырыню. На думку Чэтвуда, такая форма вельмі функцыянальная, яна не дазваляе ветру вырывацца, у адрозненне ад аналагічных прылад на аснове прапелераў. І ўсё-ткі я думаю, што гэта не той энергарэсурс, які хутка і сур'ёзна паправіць энергетычны складальнік нашай эканомікі. Хоць у Мінпрыроды лічаць, што будаўніцтва ветраэнергетычных установак у Беларусі па ўдзельных затратах на выпрацоўку адной кілават-гадзіны электраэнергіі і тэрміну акупнасці падобна на будаўніцтва вугальнай электрастанцыі і станцый на прыродным газе. Ёсць прапанова аб выдзяленні ветраэнергетыкі ў асобны накірунак энергетычнай галіны з укараненнем да 2023 года 2400 ветраэнергетычных установак з выпрацоўкай імі 7,9 мільярда кВт/г электраэнергіі ў год, або 18 працэнтаў ад агульнага электраспажывання краіны.

*— Шмат гавораць сёння і аб сонечнай энергіі.*

— На жаль, сонечных дзён у нас у годзе не больш за 50. Асобныя сонеч-

ныя батарэі могуць, канечне, абаграваць катэджы, але яны не ўнясуць сур'ёзны ўклад у энергетычную сістэму нашай краіны. А вось прыродны біягаз валодае такімі ж высокімі экалагічнымі ўласцівасцямі, што і прыродны газ. Цяпер вызначаны патэнцыял уводу ў эксплуатацыю 148 біягазавых установак магутнасцю 236 МВт, укараненне якіх з'яўляецца найбольш рацыянальным з пункта гледжання аховы навакольнага асяроддзя. Сутачная выпрацоўка біягазу складзе 700 тысяч кубічных метраў. Тым самым мы зможам забяспечыць эканомію 254 тысяч тон умоўнага паліва ў год. Такога аб'ёму біягазу будзе дастаткова для штогадовай вытворчасці 620 мільёнаў кВт/г электраэнергіі і 1 мільёна Гкал цеплавой энергіі.

У краіне ўжо будуюцца чатыры буйныя біягазавыя ўстаноўкі, якія будуць працаваць на адыходах жывёлагадоўчых і птушкагадоўчых комплексаў.

Стаіць сур'ёзнае пытанне аб выкарыстанні гаручых арганічных адыходаў, у тым ліку і камунальна-бытавых. У краіне існуюць заводы па сартаванні адыходаў, але няма яшчэ заводаў па іх выкарыстанні. Ёсць шмат адыходаў і ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Гэта найперш салома, якая ў вялікіх аб'ёмах гніе па палях. У Інстытуце праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі ў свой час былі распрацаваны розныя газагенератарныя ўстаноўкі. Цяпер яны ўдасканальваюцца. Адна такая ўстаноўка магутнасцю да двух мегават можа забяспечыць газам невялікі пасёлак. А газагенератарная ўстаноўка з водаабменнікам дазволіць атрымліваць нават цёплую ваду.

*— Спецыялісты падлічылі, што ўсе віды альтэрнатыўных крыніц энергіі ў Рэспубліцы Беларусь могуць даць максімум 300—400 тысяч тон умоўнага паліва, што непараўнальна мала з патрэбамі нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі.*

— Ёсць два падыходы да гэтага пытання. Нам патрэбна да 2020 года давесці долю прыроднага газу ў вытворчасці цеплавой і электрычнай энергіі да 50 працэнтаў. Шэраг краін, у прыватнасці Фінляндыя, за кошт уласных энергетычных крыніц выпрацоўвае 30—35 працэнтаў цеплавой і электрычнай энергіі. Прэзідэнт А. Р. Лукашэнка паставіў задачу да 2012 года мець 25 працэнтаў. Краіне не хапае 6,7 млн. тон умоўнага паліва для таго, каб выканаць гэтую задачу.

## *Крыху аб энергазберажэнні*

*— Як быць і што рабіць?*

— Шэраг вучоных і спецыялістаў лічыць, што праблему можа вырашыць будаўніцтва АЭС. Іх праціўнікі гавораць аб тым, што ў нашай краіны маецца дастаткова энергетычных магутнасцей у выглядзе цеплаэлектрастанцый. Трэба толькі ўвесці ў дзеянне гэтыя энергетычныя магутнасці, мадэрнізаваць прамысловасць і сельскую гаспадарку і выйсці такім чынам на рэжым высокаэфектыўнага энергазберажэння.

Што мы ведаем, напрыклад, пра фінаў? Што ў іх краіне няма ніякіх багаццяў, акрамя лесу і «тысячы азёраў». На гэтым, здавалася б, не разбагацееш. А фіны змаглі — узровень жыцця найвышэйшы. Таму што даражаць яны і кропляй вады, і галінкай хвоі. І кілаватам. І гігакалорыяй. Кілаграмам металу. Хвілінай працоўнага часу. Што і дазволіла ім узрасціць «хай-тэк» таксама найвышэйшага сусветнага ўзроўню.

Група вучоных акадэміі правяла экспертызу на 31 прадпрыемстве краіны, падчас якой былі прапанаваны варыянты зніжэння энергаспажывання імі на 10—70 працэнтаў ад сённяшняга ўзроўню. Гэтую работу вучоным неабходна прадоўжыць, дайсці да кожнага завода і вытворчасці. І гэта трэба зрабіць абавязкова, паколькі ў нас у 2—3 разы больш спажываецца энергіі на адзінку валавога ўнутранага прадукту, чым у іншых краінах. У любым выпадку нам

трэба значна знізіць энергаёмістасць ВУП — да ўзроўню Канады, Карэі і іншых дзяржаў. Калі цяпер гэты паказчык у нас складае каля 460 кілаграмаў умоўнага паліва на тысячу долараў ВУП, то ў перспектыве ён павінен знізіцца да 250 кілаграмаў. Асноўным нашым спажыўцам трэба будзе кардынальным чынам змяніць многія тэхналагічныя і вытворчыя працэсы і перавесці іх на энергазберагальныя тэхналогіі. Але ў нашай краіны ніколі не было лёгкіх задач! Тут я выкажу думку, на першы погляд, парадаксальную: мы павінны быць удзячныя расійскім алігархам за тое, што ў нас узяліся за вырашэнне гэтай праблемы ўсур'ёз і надоўга.

Другое пытанне — гэта прынятае на ўзроўні кіраўніка дзяржавы рашэнне аб будаўніцтве ў краіне АЭС, першы блок якой магутнасцю ў 1 тысячу мегават з'явіцца ў 2016 годзе. У 2018 годзе запрацуе яшчэ адзін блок такой жа магутнасці. Не выключаецца будаўніцтва дадатковых магутнасцей. Пляцоўка, на якой вяліся даследаванні, гэта дазваляе. Месцам будаўніцтва выбрана Астравеччына. Тут найбольш прыдатны ўзровень інжынерна-транспартнай інфраструктуры. Плюс зручная сістэма водазабеспячэння — побач Вілія. Поўную бяспеку Астравецкай пляцоўкі падцвердзіла Міністэрства па надзвычайных сітуацыях: на гэты конт былі праведзены сур'ёзнейшыя выпрабаванні.

Акрамя таго, па праекце АЭС вялася работа з магчымымі партнёрамі, з МАГАТЭ і іншымі міжнароднымі арганізацыямі. Прыярытэтам пры выбары партнёра і праекта — пытанне надзейнасці і бяспекі станцыі. Аб іх асаблівай важнасці ва ўмовах Беларусі гаварыць не даводзіцца!

Распрацаваныя ў Расіі вода-вадзяныя рэактары трэцяга пакалення ў плане бяспекі карыстаюцца ў свеце высокім аўтарытэтам. Выбар схіляецца на карысць расійскіх вытворцаў абсталявання АЭС. Тым больш, што ЗАТ «Атамбудэкспарт» можа забяспечыць прадстаўленне Беларусі крэдыту пад гарантыі ўрада на будаўніцтва АЭС. А гэта аргумент — сур'ёзнейшы!

Акрамя таго, у свеце існуе практыка: калі генпадрадчык пастаўляе галоўнае абсталяванне для АЭС, то вытворчасць цэлага шэрага дадатковых сістэм асвойваюць прадпрыемствы краіны-заказчыка. Айчынныя прадпрыемствы здольны выканаць гэтыя заказы. А гэта значыць — праца для тысяч нашых людзей.

Але без двайных стандартаў не абышлося і тут. Што «законна» для іншых, тое спрабуюць паднесці як «канец свету» для РБ. Але гэтыя людзі не крытыкуюць Злучаныя Штаты за валоданне самай магутнай ядзернай энергетыкай на планеце. Або Францыю, якая забяспечвае каля 80 працэнтаў патрэб у электрычнасці за кошт работы ўласных АЭС.

## *АЭС і чарнобыльскі сіндром*

*— Не трэба мець ніякіх ілюзій — альтэрнатывы АЭС у нас няма. Па перыметры нашых граніц стаяць атамныя станцыі. Вось яшчэ і Польшча прыняла рашэнне будаваць АЭС. У Заходняй Еўропе ў сярэднім трэцяя частка ўсёй электраэнергіі, якая выкарыстоўваецца, выпрацоўваецца на АЭС.*

— Я прадоўжу. ЗША ўжо плануюць павялічыць да 2050 года колькасць рэактараў да 300 адзінак. У Швецыі былі зняты абмежаванні на будаўніцтва АЭС, на іх сёння там выпрацоўваецца 46 працэнтаў усёй электраэнергіі. Расія будзе ўводзіць у эксплуатацыю па два энергаблокі ў год і плануе пастаянна нарошчваць аб'ёмы іх будаўніцтва. Не думаю, што ёсць нейкі іншы выхад. Гэта сусветная тэндэнцыя. Энергетычныя войны, што ўспыхваюць то там, то тут, паказваюць: той, хто валодае энергіяй, валодае светам.

Яшчэ да Чарнобыля ў БССР было пачата будаўніцтва Мінскай АЦЭЦ на 2 млн. кілават электраэнергіі. І планавалася на 6 млн. кілават Беларуская АЭС.

Але пасля аварыі на ЧАЭС усе гэтыя планы былі перакрэслены.

Адным словам — «Чарнобыль» — у рэспубліцы была перакрэслена не толькі атамная энергетыка, але нават навуковыя даследаванні па гэтай тэматыцы. У Інстытуце атамнай энергетыкі — цяпер гэта Інстытут ядзерных і энергетычных даследаванняў НАН — быў невялікі даследчы рэактар. Яго закрылі адразу ж пасля Чарнобыльскай аварыі! А самалёты ж, скажам, падаюць дзесяткамі, але ж ніхто не адмяніў авіяцыю! Дык вось ядзернае паліва, якое там было, да гэтага часу захоўваецца пад вадой у спецыяльных ёмістасцях.

*— Немалаважнае пытанне — надзейнасць АЭС і якасць падрыхтоўкі спецыялістаў, якія будуць працаваць на будучай атамнай станцыі.*

— Што да Чарнобыльскай аварыі, то там адыграў сваю негатыўную ролю менавіта чалавечы фактар. Калі б там не сталі эксперыментаваць, не адключылі абарону (?!), нічога сур'ёзнага б не адбылося. Але справа не толькі ў гэтым: на ЧАЭС не было прадугледжана абаронных каўпакоў-абалонак. Зэканомілі, разумееш! А ў выніку атрымалася так, што на ўсіх грошай не хапае...

Найбольш бяспечная, паводле меркавання шэрага спецыялістаў, падземная станцыя. Напэўна, нам неабходна пераняць у французаў сістэму стараннай падрыхтоўкі абслуговага персаналу. Французы будучых работнікаў шукаюць у школах з псіхолагамі. Гэта павінны быць ад прыроды дысцыплінаваныя і абавязковыя людзі, якія валодаюць хуткасцю рэакцыі. Трэба будзе адбіраць і рыхтаваць спецыялістаў па спецыяльных методыках. У французскіх «атамшчыкаў» вельмі высокі прафесійны і грамадскі статус.

Пазітыўны вопыт Кітая, у якога ў 1992 годзе фактычна не было ядзернай энергетыкі, а сёння атамныя энергаблокі гэтай краіны выпрацоўваюць 10 млн. кВт/г штогод.

*— А што робіцца ў нас? Хто будзе працаваць на АЭС?*

— Праблема існуе: дэфіцыт кадраў. У «Соснах» былы двухтысячны штат звужаны да 450 супрацоўнікаў — у асноўным тэарэтыкаў і эксперыментатараў. А патрэбны вопытныя практыкі. Якім бачыцца выйсце з сітуацыі? Бо па агульнапрынятых нарматывах за два гады да ўводу ядзернага рэактара ў эксплуатацыю станцыя павінна быць поўнасцю ўкамплектавана персаналам. Спатрэбіцца каля 1200 прафесіяналаў, мінімальны тэрмін падрыхтоўкі якіх — да 8 год. Частку спецыялістаў-практыкаў давядзецца прыцягваць з-за мяжы, сярод іх нямала беларусаў. Яны вернуцца на радзіму, калі прапанаваць ім высокі заробак, жыллё, школы, медцэнтры...

Кадры для будучай беларускай АЭС пачалі рыхтаваць у Міжнародным дзяржаўным экалагічным універсітэце імя А. Д. Сахарава. Сёлета ёсць дамоўленасць аб праходжанні вытворчай практыкі студэнтамі кафедры ядзернай і радыяцыйнай бяспекі ў Обнінскім дзяржаўным універсітэце атамнай энергіі.

*— Тут узнікае шэраг пытанняў. Наша краіна павінна быць у прынцыпе незалежнай, быць дзяржавай са шматвектарнай сістэмай сувязі са светам. Арыентацыя на адну толькі Расію ў галіне газу і нафты і прывяла, уласна, да той сітуацыі, у якой мы цяпер знаходзімся.*

— І калі мы вырашаем пытанне аб будаўніцтве АЭС, то зноў узнікае праблема нашай залежнасці ад кагосьці, бо свайго ядзернага паліва ў нас няма. Але з іншага боку мы бачым палітыканства Захаду: дай ім «дэмакратычныя» свабоды, дай ім тое, дай ім гэта, тады яны, можа быць, пачухаюцца і дадуць нам патрэбныя тэхналогіі. Канечне, гэта дрэнны прыём.

*— Разам з будаўніцтвам атамнай электрастанцыі непазбежна паўстане і пытанне аб утылізацыі адыходаў АЭС.*

— Гэта вельмі сур'ёзнае пытанне. Бо мы добра памятаем, колькі ўзнікла

праблем у міждзяржаўных адносінах з Літвой, калі там вырашылі пабудаваць могільнік для ядзерных адыходаў Ігналінскай АЭС паблізу нашай граніцы. А пад шумок шустрыя літоўцы хацелі пахаваць і адыходы АЭС з Заходняй Еўропы! Не бясплатна, канечне.

Пакуль ішлі дыскусіі аб будаўніцтве АЭС, нашы вучоныя-ядзершчыкі з Інстытута энергетычных і ядзерных даследаванняў займаюцца эксперыментамі, якія могуць вырашыць адну з асноўных праблем выкарыстання атамнай энергіі, — захаванне радыеактыўных адыходаў. Больш таго, нашы вучоныя б’юцца над тым, як зменшыць тэрмін іх захавання. Электраядзерная ўстаноўка ў «Соснах» дазваляе скараціць тэрмін актыўнасці адпрацаваных ядзерных матэрыялаў з мільёнаў год да некалькіх гадзін, нават секунд. Праўда, пакуль на лабараторным узроўні.

З пачатку 2009 года ў Астравецкім раёне разгарнулася маштабная работа. Пачалося будаўніцтва 9-павярховых дамоў для спецыялістаў, якія будуць узводзіць АЭС. А будоўля непасрэдна прамысловай пляцоўкі ў раёне Астраўца павінна пачацца ўжо праз год.

Уласная атамная станцыя дазволіць штогод эканоміць 5 млрд. кубаметраў газу, што дабратворна паўплывае на энергабяспеку рэспублікі. Паводле папярэдніх разлікаў, будаўніцтва АЭС запатрабуе да 5 мільярдаў долараў інвестыцый. Сума немаленькая! І тут трэба глядзець, каб дзеля энергетычнай бяспекі мы не патрапілі ў фінансавую залежнасць ад каго б там ні было або каб гэта негатыўна не адбілася на ўзроўні жыцця нашых грамадзян.

Адно відавочна: будаўніцтва АЭС прыцягне ў краіну буйныя інвестыцыі, бо ядзерныя аб’екты валодаюць стопрацэнтнай акупнасцю пры мінімальных інвестыцыйных рызыках.

## *Думаць пра будучыню*

*— Якія перспектывы на будучыню? Для многіх вучоных адзіным выратаваннем уяўляецца «вадародная энергетыка», якая выдзяляе ў атмасферу кісларод.*

— Вадарод пры згаранні дае 30 тысяч кКал. Параўнаем: бензін дае 10 тысяч кКал, вугаль — 8 тысяч кКал, дровы — 2,5 тысячы кКал (на 1 кг). Вадарод як паліва здымае канфлікт энергетыкі і біясферы, паколькі пры згаранні дае ваду.

Акадэмік Яўгеній Паўлавіч Веліхаў сцвярджае, што тэрмаяд ужо бліжэйшым часам гатовы даць практычна невычэрпную крыніцу энергіі. «Навуковых праблем, — гаворыць Я. Веліхаў, — ужо няма. Засталіся толькі інжынерныя». І нарэшце ён так сказаў пра галоўнае: «Але думаць, што ў энергетыцы XXI стагоддзя будзе дамінаваць нейкі накірунак, напрыклад, тэрмаядзерныя электрастанцыі, — наіўна. Да сярэдзіны стагоддзя, думаю, па-ранейшаму будзем паліць нафту. У прынцыпе яе павінна хапіць».

*— Тут міжвольна ўспамінаюцца словы вялікага рускага вучонага Дзмітрыя Іванавіча Мендзялеева аб тым, што спальваць нафту — гэта ўсё роўна, што паліць печ асігнацыямі. І ці не жывём мы, такім чынам, за кошт наступных пакаленняў?*

— Над гэтым пытаннем таксама варта задумацца. Тым больш што ўжо ў пачатку XX стагоддзя была распрацавана так званая «дактрына Вітэ-Мендзялеева», у якой прапаноўвалася на дзвесце гадоў «замарозіць» вываз з Расіі сыравіны... Ужо тады выдатныя вучоныя і палітыкі краіны задумваліся аб будучым сваёй Айчыны.

Сваю кнігу «Расія ў імгле» Герберт Уэлс закончыў словамі: «Так я тлумачу пісьмёны на ўсходняй карце Еўропы». Перафразуючы словы вялікага пісьменніка, скажу: «Так я тлумачу пісьмёны на карце экалогіі».

***Гутарыў Валерый Алешка.***

**Юрка СОХАР**

# «ТЭАТР — ДЛЯ ФАНАТЫКАЎ...»

*А той мут, што жыццём называем,*
*Страсяні і да дна ўскалышы,*
*Няхай сэрца ў грудзях узыграе*
*І зазвоняць ўсе струны душы...*
Якуб Колас

***Мілаванаў** Аўгусцін Лазаравіч — акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, народны артыст Беларусі (1989), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1988). Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут скончыў у 1961 годзе ў майстэрні Д. А. Арлова і В. В. Броўкіна. Асноўныя ролі: Арэшкін («Крыніцы» — у тэатры імя Якуба Коласа), Гэлі Гэй («Што той салдат, што гэты»), Нейгаўз («Канстанцін Заслонаў»), Доктар Маер («Апошні шанц»), Стыў («Футбол»), Тата («Зацюканы апостал»), Герастрат («Забыць Герастрата!»), Еўдакімаў («Яшчэ раз пра каханне»), Міхай Груя («Святая святых»), Філіп Круглы («Гросмайстарскі бал»), Шындзін («Мы, што ніжэй падпісаліся»), Зурыко («Я, бабуля, Іліко і Іларыён»), Тэўе («Памінальная малітва»), Ромул («Ромул Вялікі»), Прэзідэнт («Каварства і каханне»), Крэонт («Антыгона»), Амількар («Месье Амількар...»), Праспер («Бура»), Арнхольм («Жанчына з мора»), Тоні («Ноч памылак»), Кудраш («Навальніца»), Арцыбіскуп («Князь Вітаўт») і інш. Здымаўся ў кіно і на тэлебачанні. З 1967 па 1987 год выкладаў майстэрства акцёра ў БДТМІ і Мінскім інстытуце культуры, дацэнт.*

...Аднойчы, размаўляючы з гэтым знешне спакойным, высокаадукаваным, абаяльным артыстам, я спытаў пра яго дзяцінства. Аўгусцін задуменна прамовіў: «А ці было яно ў мяне, гэтае дзяцінства?..» Так, сапраўды... Яму было чатыры гады, калі пачалася вайна. Немцы рваліся да Сталінграда... Бацька пайшоў на фронт, а сям'я Мілаванавых аказалася на своеасаблівай нейтральнай паласе — нашы адступілі, а немцы яшчэ не прыйшлі. Абстрэльвалі, бамбілі з двух бакоў. «Нягледзячы на тое, што я быў зусім дзіцем, — узгадвае Міланаваў, — добра памятаю гэтае пекла восенню 1942 года... Мы сядзелі ў акопах, варонках, побач разрываліся снарады, свісталі кулі, усюды целы забітых, кроў, крыкі, стогны... Як мы тады засталіся жывымі — толькі аднаму Богу вядома...»

У хуткім часе немцы «накрылі» гэты плацдарм. Салдат расстрэльвалі на месцы, а мірных жыхароў узялі ў палон і пагналі ў Растоўскую вобласць, там рассялілі ў сёлах і станіцах. Групу людзей, дзе аказаўся Аўгусцін з маці, загналі на адкрыты рынак на станіцы Белая Калітва. Там яны і жылі, чакаючы сваёй долі, — галодныя, халодныя: ужо быў лістапад. Няцяжка прадказаць, што было б з гэтымі няшчаснымі — некаторых адправілі б у канцлагер, нехта апынуўся б у Германіі, а можа, і ў гета. Але, як кажуць, «не было б шчасця, дык няшчасце дапамагло». Гуляючы з падлеткамі пад рыначнымі навесамі, Аўгусцін ударыўся галавой аб нейкі востры металічны прадмет і страціў пры-

томнасць. Падхапіўшы на рукі паміраючага сына, маці кінулася ў нямецкі шпіталь і там упрасіла-ўмаліла ўрача аказаць дапамогу. Нямецкі хірург трэпанаваў чэрап і зрабіў найскладанейшую аперацыю… Хлопчык выжыў… Потым гадамі аднаўляў здароўе, блукаў па чужых дварах, хатах, кватэрах. Дзякуючы мудрай і працалюбівай маці сям'я ўцалела і выжыла ў цяжкі ваенны час. А потым пасляваенная неўладкаванасць у цалкам разбураным Сталінградзе… Вось такім яно было, «шчаслівае дзяцінства» Аўгусціна Мілаванава.

Ён нарадзіўся 16 чэрвеня 1937 года ў Сталінаградзе (Валгаград).

У школе Аўгусцін вучыўся старанна, любіў літаратуру, гісторыю, цягнуўся да мастацкай творчасці. Выступаў на школьных вечарынах, натхнёна чытаў вершы, вёў канцэрты. Ведаў увесь рэпертуар гарадскога тэатра і марыў толькі аб адным — стаць артыстам. Атрымаўшы атэстат сталасці (1956 год), разам са школьным таварышам паехаў у Маскву паступаць у ГІТІС. Экзамен Аўгусцін здаў паспяхова, але з салідарнасці з сябрам, які «праваліўся», вярнуўся ў Сталінград…

Паколькі ў гарадскім тэатры яго добра ведалі, дык адразу ж узялі на працу памочнікам рэжысёра. Аўгусцін удзельнічаў у масоўках, іграў невялікія эпізоды, спазнаў усю «машынерыю» сцэны. Але самае галоўнае, — у якасці памочніка рэжысёра ўдзельнічаў у пастаноўцы спектакля «Бег» па М. Булгакаву. Так сталася, што ў Сталінградскі драматычны тэатр прыехалі два акцёры з Брэста і расказалі, што ў Мінску ёсць добры тэатральны інстытут і што сёлета курс будзе набіраць вядомы ў краіне майстар Д. А. Арлоў. Не раздумваючы, Аўгусцін хуценька сабраўся і паехаў у Беларусь…

На той час А. Мілаванаву ішоў ужо дваццаць першы год, таму да выбару прафесіі ён падыходзіў свядома. Лёгка паступіў і самазабыўна вучыўся. Як бывае ў творчым студэнцкім асяроддзі? Адны амбіцыйна лічаць, што яны геніяльныя, а праца — справа другасная. Іншыя марнатравяць час, а перад сесіямі днямі і начамі наганяюць упушчанае. Аўгусцін належаў да трэціх — сістэматычна вучыўся, настойліва працаваў, рыхтаваўся да будучай прафесіі. Ён не ўдзельнічаў ні ў якіх вечарынках, застоллях, выездах «на прыроду». Як ён узгадвае: «Многія аднакурснікі мяне не ўспрымалі (дакладней будзе сказаць, недалюблівалі. — **Ю. С.**). Я ні ў якіх мерапрыемствах не ўдзельнічаў, а проста «цягнуў, як конь». Таму і да кожнага курсавога экзамена ў мяне было падрыхтавана па сем-восем урыўкаў… Самы светлы ўспамін студэнцкага жыцця — гэта наш педагог Дзмітрый Аляксеевіч Арлоў. Яго ўрокі, разважанні аб прафесіі, адзнакі былі і застаюцца для мяне самымі галоўнымі. Яго я ніколі не забываў і не забуду…»

Сапраўды, стасункі паміж вучнем Мілаванавым і прафесарам Арловым былі трапяткімі. Хто ведаў Дзмітрыя Аляксеевіча, той пацвердзіць, што яго любоў можна было заваяваць толькі працай, дысцыплінай, творчасцю. Яго крылаты выраз: «У мяне вучыліся многія, а вучняў мала», — шмат аб чым гаворыць. Пазней, калі я ўжо быў студэнтам, калі на занятках нешта не атрымлівалася, Арлоў з горыччу вымаўляў: «Да-а-а… Не пашчасціла мне з курсам… Такіх, як быў Мілаванаў, няма….»

Да дзяржаўных экзаменаў Аўгусцін падрыхтаваўся грунтоўна. У дыпломных спектаклях ён іграў вядучыя ролі: Паўла Пратасава («Дзеці сонца» М. Горкага), Шута («Дванаццатая ноч» У. Шэкспіра), Рыгора Галкіна («Няроўны бой» В. Розава). Старшыня дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі П. С. Малчанаў хваліў ігру Мілаванава і прапанаваў размеркаваць яго ў тэатр імя Я. Купалы. Але выпускнік чамусьці пажадаў разам з іншымі аднакурснікамі (тады было модна ад'язджаць па размеркаванні групамі) паехаць у Віцебск, у тэатр імя Якуба Коласа. Было гэта ў 1961 годзе.

За год творчага жыцця ў гэтым калектыве ён сыграў некалькі роляў, найбольш значная з якіх — Арэшкін у спектаклі «Крыніцы» па І. Шамякіну. Як чалавек прагматычны, А. Мілаванаў хутка зразумеў, што гэта не яго тэатр. Ён ад'язджае ў Мінск з жаданнем працаваць у Рускім тэатры імя Максіма Горкага. Тады і адбылася сустрэча з рэжысёрам Юрыем Шчарбаковым, які працаваў у тэатры імя Янкі Купалы, — ён і ўгаварыў Аўгусціна ісці ў купалаўскі…

З 1962 года і па сённяшні дзень А. Мілаванаў працуе ў гэтым славутым калектыве. Сярод яго першых роляў — Стыў («Футбол» П. Кантэна і Д. Белака), Гэлі Гэй («Што той салдат, што гэты» Б. Брэхта), Доктар Маер («Апошні шанц» паводле В. Быкава), Нейгаўз («Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона). Крытыка адразу ж заўважыла своеасаблівую акцёрскую манеру Мілаванава, калі знешняе абаянне арганічна перапляталася з унутранай «цвёрдасцю». У рэцэнзіях на спектаклі адзначалася, што акцёру ўласцівы строгая манера выканання, аналітычны розум, выразны пластычны малюнак кожнага вобраза, тонкая іронія, а часам і сарказм. «Першыя ролі А. Мілаванава, — пісала крытык Таццяна Арлова, — пераканаўча дэманструюць вельмі яркі, самабытны і індывідуальны талент маладога артыста. …Калі ў пачатку спектакля «Футбол» яго герой Стыў падобны на «вынаходлівага вампіра», то з развіццём сюжэта ён ператвараецца ў «звычайнага фашыста». …А вось у ролі Гэлі Гэя артыст паказаў цэлы каскад захапляльных сцэнічных трукаў — дзе і гумар, і сатыра, і сарказм адначасова. Яго герой «абаяльны драпежнік» і ветлівы, далікатны махляр з міжнароднай прапіскай, які імкнецца ўсюды знайсці выгаду. Вельмі яркая акцёрская праца, якая адкрывае Мілаванаву значную сцэнічную перспектыву на купалаўскай сцэне». Да сказанага хачу дадаць, што ў той далёкі час (шасцідзесятыя—сямідзесятыя гады XX ст.), ствараючы так званыя «адмоўныя тыпы», А. Мілаванаў шчодра ўзбагачаў іх характары своеасаблівым цынізмам, што надавала вобразам яшчэ больш вобразную характэрнасць і своеасаблівасць.

У 1965 годзе купалаўцы ўзялі да пастаноўкі п'есу грузінскіх аўтараў Н. Думбадзе і Р. Лордкіпанідзе «Я, бабуля, Іліко і Іларыён», і талент Мілаванава зазіхацеў новымі яркімі гранямі. Замест манеры «адмоўнасці», якая паспела надакучыць, у акцёра «ўсплылі» дабрыня, адкрытасць, юнацкая непасрэднасць. Побач з майстрамі — С. Станютай, У. Дзядзюшкам, П. Кармуніным — Аўгуст Мілаванаў, «купаўся» ў светлым вобразе Зурыко. Крытыка шчодра ацаніла працу А. Мілаванава і мне няма неабходнасці штосьці паўтараць. Толькі прывяду словы Барыса Платонава, які на пасяджэнні мастацкага савета тэатра сказаў: «… Я шчаслівы, што ў нашым тэатры з'явіўся такі добры, маляўнічы, яркі спектакль, а праца Мілаванава — сур'ёзны акцёрскі поспех… Ды ўсе акцёры іграюць адзіным ансамблем — праўдзіва, з вялізнай самаадданасцю. Хацелася б, каб гэтая радасць творчасці перайшла і ў іншыя спектаклі».

Пажаданне вялікага купалаўца А. Мілаванаў улічыў у новай працы — у ролі Еўдакімава («Яшчэ раз пра каханне» Э. Радзінскага). У цэлым гэты спектакль (рэж. Б. Ганага) нічым асаблівым не вызначаўся — прымітыўная «маралізатарская» тэма са супрацьпастаўленнем «фізікаў і лірыкаў». Але для А. Мілаванава ён быў цікавы тым, што ў аснове яго было каханне дваіх маладых людзей — рацыянальнага Еўдакімава (Электрон) і пяшчотнай Наталлі, якую іграла Г. Талкачова. «Разыграць» каханне на сцэне з такой чароўнай партнёркай, няхай нават на слабым драматургічным матэрыяле, для Аўгусціна Лазаравіча было вельмі важна. Да таго ж Мілаванаў і Талкачова знаходзіліся ў такім жа «стане», як і іх героі. Не ўдаючыся ў падрабязнасці, скажу, на сцэне была прыгожая пара таленавітых людзей…

Этапнай працай Мілаванава, на мой погляд, з'яўляецца вобраз Таты ў спектаклі «Зацюканы апостал» А. Макаёнка. У гэтай працы акцёр паказаў сябе выдатным знаўцам прыроды камічнага і сатырычнага, усімі выразнымі сродкамі «высвечваў» унутраную сутнасць персанажа, у аснове якой — хлусня. Прыкідваючыся дэмакратам, які выхоўвае дваіх дзяцей інтэлектуальнымі і інтэлігентнымі, ён, па сутнасці, робіць іх жыццё невыносным. Тата А. Мілаванава — цынік, грубіян і пашляк. Ён, не саромеючыся, расказвае сваім дзецям пра «культурную сувязь» са сваёй палюбоўніцай, якую называе «японскай рыбкай», лічачы, што так паводзяць сябе ўсе «нармальныя» людзі ў дэмакратычным грамадстве. Але, «апранаючы» маску ўсемагутнага, на самай справе ён слабы і баязлівы. Схіляючыся перад законам і тымі, хто яго напісаў, Тата паступае сёння так, як яму выгадна, а заўтра будзе рабіць усё наадварот — зноў жа толькі, калі выгадна. Гэта пацвярджае размова з Сынам, калі той нагадаў, што ў свой час пісьменніка Дэфо за сатырычны артыкул прывязалі да ганебнага слупа і прахожыя павінны былі пляваць яму ў твар. «І некаторыя плявалі. Тата, а ты плюнуў бы?» — правакацыйна пытаецца ў яго Сын. Тата-Мілаванаў моршчыцца, папраўляе гальштук, прычоску, а потым цынічна адказвае: «Я?.. Я не пайшоў бы на плошчу…» І рассмяяўся… Акцёр прыёмамі «грубай комікі» ад эпізоду да эпізоду «вядзе» героя да фінальнага «ўзрыву», калі, быццам бы скінуўшы маску, яго герой істэрычна крычыць Сыну: «…Хопіць! Дастаткова! Цярпенне лопнула! Вон!..» Гэта была яркая, запамінальная акцёрская работа А. Мілаванава.

Не меней яскравым быў і вобраз Герастрата («Забыць Герастрата» Г. Горына). Дзеля таго, каб задаволіць свой эгаізм, Герастрат гатовы ахвяраваць чалавечымі жыццямі і вялікімі святынямі. Акцёр вырашае аўтарскую задуму ролі ў трагікамічнай форме. Яго Герастрат — і злачынец, і ахвяра адначасова. Але ахвяра ўласнага эгаізму, дзеля якога ён гатовы ўскалыхнуць увесь горад, увесь свет. Аднак, у адрозненне ад вобраза Таты, дзе «клекаталі страсці і тэмперамент», характар Герастрата быў вырашаны артыстам знешне ў «спакойных тонах». Крытыка адзначала: «Мілаванаў не «аддаецца» ролі поўнасцю, не іграе «з усяе сілы». У яго адсутнічаюць эмацыянальныя акцэнты і «націскі», яму быццам бы «не хапае» акцёрскага тэмпераменту». На мой погляд, А. Мілаванаў стварыў асаблівую «партытуру ролі», калі «за знешняй «статыкай» хавалася бурлівая «дынаміка». Мілаванаў іграе не толькі ролю, а перадае з'яву «герастратаўшчыны», ён стварае рэальны гістарычны персанаж, які ўчыніў «злачынства стагоддзяў» свядома, і ў гэтым артыст быў унікальны. «Акцёр не імкнецца «пужаць» гледача, — адзначалася ў друку. — Герастрат у Мілаванава знешне абаяльны, з сарамлівай усмешкай, а па сутнасці — ён нахабны, цынічны і вытанчаны злачынец.

…Час ішоў. Усё складвалася ў артыста добра, са значнай творчай перспектывай. Але раптам у тэатральным асяроддзі «пайшлі» чуткі, што Мілаванаў з сям'ёй збіраецца ад'язджаць у Ізраіль. Хутчэй за ўсё гэтую «вутку» запусцілі свае ж «добразычліўцы-купалаўцы». Чуткі дайшлі да высокіх інстанцый, да Міністэрства культуры — артыста сталі метадычна «падтраўліваць». Будучы чалавекам уражлівым, Аўгусцін упаў у дэпрэсію і ўжо збіраўся пакінуць тэатр. У гэтую подлую «гісторыю» ўмяшаўся народны артыст Беларусі Сцяпан Сцяпанавіч Бірыла — добры, справядлівы чалавек. Ён быццам бы ўзяў апеку над таленавітым акцёрам, прайшоў усе «кампетэнтныя органы» і развеяў гэты гнусны нагавор. Што тут скажаш? Значыць, трэба было яму перажыць і гэта…

У 1989 годзе А. Мілаванаву было нададзена званне народнага артыста Беларусі.

У ліку значных, этапных работ гэтага вострахарактарнага акцёра можна назваць вобраз Тэўе («Памінальная малітва» Г. Горына). У гэтай ролі акцёр пераўвасобіўся ў мудрага яўрэйскага старога, які раз-пораз сыпле прыказкамі, прытчамі і прымаўкамі, мае на кожны выпадак жыцця якую-небудзь павучальную гісторыю. Роля Тэўе — абсалютна новая грань таленту А. Мілаванава. Незабыўнымі застаюцца вобразы Міхая («Свята святых» І. Друцэ), Ромула («Ромул Вялікі» Ф. Дзюрэнмата), Прэзідэнта («Каварства і каханне» Ф. Шылера), Крэонта («Антыгона» паводле Ж. Ануя і Сафокла ў Тэатры юнага гледача), Амількара («Месье Амількар…» І. Жаміяка), Арнхольма («Жанчына з мора» Г. Ібсена), Арцыбіскупа («Князь Вітаўт» А. Дударава). Усе яны створаны ва ўласцівай акцёру манеры: інтэлект, іронія, душэўныя пакуты, філасофскія разважанні.

Акрамя працы ў тэатры А. Мілаванаў шмат здымаўся ў кіно, на тэлебачанні, займаўся рэжысёрскай практыкай у аматарскіх тэатрах. Але самай любімай яго справай была педагагічная дзейнасць у БДТМІ (цяпер Акадэмія мастацтваў). Больш за дваццаць гадоў ён рыхтаваў маладыя акцёрскія кадры, і не адзін дзесятак яго выхаванцаў сёння з поспехам іграюць на сцэне. Але раптам ён пакінуў гэтую працу. Прычыну свайго рашэння растлумачыў так: «З майго пункта гледжання, на тэатральным факультэце склалася ганебная сітуацыя — хваляць адзін аднаго, усё, што ні робіцца, аб'яўляецца геніяльным. Я гэтай думкі не раздзяляў. Увогуле, клімат такі для мяне аказаўся шкодным, давялося педагагічную працу пакінуць…» Мілаванаў — чалавек бескампрамісны, ён не ўмее прыстасоўвацца і хітраваць, у сваіх учынках і меркаваннях незалежны.

Сваё стаўленне да сучаснага тэатральнага працэсу А. Мілаванаў вызначае наступным чынам: «…Зараз у купалаўскім тэатры вельмі шмат танчаць, а размаўляць са сцэны не ўмеюць. Наш тэатр драматычны, нам не трэба канкурыраваць з балетам. …Сёння ва ўсіх тэатрах — пераважна драматургія Аляксея Дударава. Ці гэта нармальна? Адсутнасць канкурэнцыі — першая прыкмета правінцыяльнасці. …Тэатр нельга дзяліць з чымсьці яшчэ. Нават антрэпрызы, на мой погляд, — гэта адыходны промысел… Мне заўсёды было крыўдна бачыць, як творчыя сілы трацяцца на змовы, інтрыгі, высвятленне адносін. Усё жыццё я прыходзіў у тэатр на працу і ні ў якіх групоўках ніколі не ўдзельнічаў. Акцёр павінен захоўваць душу. Гэта галоўнае, адзінае, што ў яго ёсць…»

Мілаванаў — вялікі майстар сцэны. Ён адчувае сябе аднолькава камфортна ў любых тэатральных жанрах — ад трагедыі і камедыі да гратэску, эксцэнтрыкі і найтанчэйшай псіхалагічнай драмы. Як і яго настаўнік Д. Арлоў, прыхільны да рускай класікі — Чэхава, Гогаля, Горкага, Астроўскага. Адзінае, што яму непрыхільна, — гэта бясстрасная драматургія, абыякавы акцёр, маркотны рэжысёр. «Тэатр — для фанатыкаў» — такое сёння крэда Аўгусціна Лазаравіча Мілаванава.

**Уладзімір СКАРЫНКІН**

# ХОДЗІЦЬ МУДРЫ ДЗЕД ПА СВЕЦЕ

*М. Чарняўскі.* **«Сонечны кошык».** Мастацкая літаратура, 2009.

Для мяне лягчэй напісаць паэму, чым рэцэнзію, аднак не сказаць шчырае і добрае слова пра новыя кнігі для дзяцей Міколы Чарняўскага я не магу, бо яны цікавыя, вясёлыя, мудрыя і сонечныя, як сам паэт, і маюць такія ж сонечныя назвы — «Сонечны кошык» і «Колькі ў сонейка сяброў», якія адпаведна выпушчаны ў свет выдавецтвамі «Мастацкая літаратура» і «Кнігазбор». І знамянальна, што выданню другой кнігі фінансава паспрыялі супрацоўнікі ТДА «МАКСДА» і яго дырэктар Валерый Яўгенавіч Францкевіч, які выхоўваўся на вершах Міколы Чарняўскага з маленства і з кім паэт сустрэўся ў бальнічнай палаце. Сонечным людзям звычайна шанцуе на добрых людзей. А прысвяціў гэтую кнігу Мікола Чарняўскі свайму дапытліваму ўнуку Мікітку і шчабятлівай унучцы Ангелінцы, якія «ў лясной прыгожай старонцы Беларусь жывуць ды падрастаюць», і спадзяецца, што маленькія чытачы пасябруюць з імі і палюбяць нявыдуманыя гісторыі, героямі якіх яны з'яўляюцца.

Вось адна з такіх гісторый:

«Тата вядзе Мікітку з дзіцячага садка.

— Вазьмі мяне на рукі, — папрасіўся сын.

— Які ты лянівы стаў, Мікітка: не хочаш сваімі ножкамі хадзіць, — сказаў дакорліва тата.

Мікітка прайшоў колькі крокаў моўчкі, а потым кажа тату з тым жа дакорам:

— Сам ты лянівым стаў, татка! Не хочаш на рукі сына ўзяць».

А вось другая:

«Выйшла Ангеліна ўвечары з бабуляй на вуліцу. На небе ўзышоў сярпок маладзічка. Убачыла маладзічок малая, усклікнула ў захапленні:

— Баба, глядзі, літара «С» з майго буквара на неба заляцела. Як яна змагла?»

Ну як гэтыя нявыдуманыя гісторыі могуць не спадабацца такім жа маленькім хітрунам і шчабятушкам? Шкада толькі, што на літару «С» падобны не маладзічок, а веташок.

Мікола Чарняўскі, як мне здаецца, можа ўсё. Пра гэта сведчаць і вершы, і казкі, і прымаўлянкі-забаўлянкі, і скорагаворкі, і лічылкі, і загадкі, і песні, і навагодняя казка-п'еса «Пад Новы год не без прыгод», напісаныя ім. Яны не могуць не падабацца дзецям, бо паэт сам умее па-дзіцячы радавацца і здзіўляцца і таму добра разумее дзіцячыя душы.

Любоў да роднай мовы і мастацкі густ прышчапляюцца да нашых сэрцаў у дзяцінстве. Таму надта важна, каб беларускамоўныя дзіцячыя кнігі былі займальныя і высокамастацкія, як «Міхасёвы прыгоды» і «Рак-вусач» Якуба Коласа, як «У краіне райскай птушкі» і «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра, як «Вавёрчына гора» і «Чытанка-маляванка» Васіля Віткі, як вершы, казкі і п'есы Артура Вольскага. У гэты рад я стаўлю і кнігі Міколы Чарняўскага, дзе ўсе падзеі адбываюцца «ў дзівосна-казачнай краіне пад назваю Дзяцінства». Яны дапамагаюць маленькім штукарам і дурасліўцам, якія жывуць у гэтай краіне, палюбіць і сваю радзіму з чысцюткай і прыгожай назвай Беларусь, трапна выкарыстоўваючы іх гукавыя і выяўленчыя магчымасці. Музычны лад яго вершаў мілагучны і чароўны, і таму яны лёгка чытаюцца і запамінаюцца. Але галоўнае — ён шчыра любіць і разумее сваіх чытачоў і знаходзіць для іх патрэбныя словы.

Ягоныя кнігі не могуць не падабацца дзецям, бо, як некалі адзначаў Уладзімір Гніламёдаў, Мікола Чарняўскі ўмее досыць трапна перадаць ход і лад дзіцячага мыслення.

Кніга Міколы Чарняўскага «Сонечны кошык» займальная, мудрая, вясёлая, сонечная і аздоблена прыгожымі малюнкамі Надзеі Барай і Алены Карповіч. Вершы, якія ўвайшлі ў гэтую кнігу, кладуцца на душу і лёгка запамінаюцца, а самае галоўнае — вучаць дабру. Ёсць у гэтай кнізе верш «Дабрадзей», якія пачынаецца такою страфой:

Ходзіць мудры дзед па свеце,
Як у даўні час, пяшком.
Любіць з дзецьмі ён сустрэцца,
Зазірнуць у кожны дом.

І хоць гэты верш пра сон, я, калі пачынаў яго чытаць, падсвядома падумаў, што гэты дабрадзей сам паэт, бо ён, нягледзячы на свае хворыя ногі, дагэтуль часты і жаданы госць як у школах, так і ў дзіцячых садках.

Мікола Чарняўскі дэманструе ва ўсіх сваіх творах тонкае адчуванне слова, але найбольш ярка, як мне здаецца, у прымаўлянках-забаўлянках, якія так любяць дзеці. Вось адна з іх:

У вярблюда
Дзень народзін,
Не прыйшоў з гасцей
Ніводзін.
Дабра знаюць:
Як злуецца,
Ён тады на ўсіх плюецца.

Леанід Галубовіч, ухваліўшы «Сонечны кошык» у «ЛіМе», выказаў неўразуменне, чаму ў дзядулі, які захацеў пачаставаць унукаў і «прынёс (ім)... капялюш, ... паўнюткі груш», «знік настрой і ўсмешка знікла», калі «на дне глыбокай міскі (убачыў ён) адны агрызкі «(верш «Капялюш»). Сапраўды, гэтыя радкі могуць выклікаць такое ж неўразуменне і ў маленькіх чытачоў гэтага верша. І, можа, на самай справе трэба было б растлумачыць змену яго настрою, хаця б такімі радкамі : «Бо ўнук ніводзін у дзядулі не запытаў, ці еў ён дулі». Мудрыя і дасціпныя і казкі паэта. Асабліва казка «Ласіны хутар і дзіва-камп’ютэр». Лось камп’ютэр «У турыста ля дарогі // Задарма купіў— за рогі» якраз тады, калі «час настаў скідаць» іх. І ля камп’ютэра адразу «Пагарбелі ласяняты». Дзікі захацелі «Ў клавішы камп’ютэра // Тыцнуць хоць разок лычом». А кошка, якая прыняла да ласся свой «вывадак кашачы» звяртаецца да яго з такой просьбай: «Пагуляць дазволь хоць крышку // Нам з камп’ютэрнаю мышкай». І ў рэшце рэшт «Лось гульцоў турнуў рашуча» і вырашыў занесці камп’ютэр у «лясную школку», дзе ад яго «будзе болей толку». Такой жа дасціпнасцю вылучаюцца і астатнія казкі з гэтай цудоўна кнігі.

Не выключэнне і казка «Воўк-прадпрымальнік», хоць я асабіста лічу, што ў дзюбу Сарокі (калі можна так сказаць) паэт не зусім абгрунтавана ўклаў такія «палітызаваныя» словы:

Я да вас з Ляснога Фронту.
Хто не з намі — супраць нас!
Бачылі ад фірмы плён той?
Р-разабрацца самы час.
Прачытаеце лістоўку —
Пачынайце забастоўку.

Малыя дзеці, магчыма, нават не ведаюць (а калі ведаюць, дык лепей, каб не ведалі), што такое забастоўка і што такое фронт, тым болей невядомы — Лясны. Хто тут змагаецца і супраць каго? Але гэта мая прыватная думка.

Захапляцца вершамі і казкамі Міколы Чарняўскага і цытаваць іх можна бясконца, але, напэўна, лепей, каб іх прачыталі самі дзеці і адчулі асалоду, якую прыносіць маленькім чытачам рэдка якая кніга.

Напачатку 1971 года Мікола Чарняўскі падараваў мне сваю дзіцячую кніжку (таксама з сонечнай назвай) «Сонца ў хованкі гуляе» з такім надпісам: «Сябру Валодзю, каб часцей для дзетак цёплыя словы знаходзіў». Гэтыя словы я пераадрасую сёння самому Міколу.

Надзея СЕНАТАРАВА

# КАЗКІ АБ КАХАННІ І ЦІШЫНІ

*Таццяна Сівец.* **Таму, хто знойдзе…** Мінск, 2008.

У мінулым годзе выйшаў зборнік вершаў, прозы, п'ес і перакладаў Таццяны Сівец «Таму, хто знойдзе…». Аўтарка дастаткова вядома ўжо прыхільнікам літаратуры па кнігах «Праляцець па вясёлцы» і «Ліпеньская навальніца», дзе яна раскрылася як паэтэса з асабістым светапоглядам, якая знаходзіцца ў пастаянным пошуку свайго месца ў сучасным свеце. Несумненна, што Таццяна Сівец — яскравая прадстаўніца новага літаратурнага пакалення, пакалення XXI стагоддзя. Яна сучасная пісьменніца не толькі таму, што пачала сталець разам з новым стагоддзем, а найперш сваім адчуваннем хуткаплыннасці часу і адкрытасцю ўсяму найноўшаму. Яе творы сугучны пульсу электроннага стагоддзя, калі няма месца спакою і ціхамірнасці, а толькі палёт і хуткасць, хуткасць і палёт. Нельга сказаць, што вершы і проза Т. Сівец лёгкія для чытання і ўспрыняцця. Сэнс іх нярэдка нараджаецца ў працэсе чытання. Бывае, што сам чытач з'яўляецца крыніцай гэтага сэнсу. Адным з такіх шматсэнсавых, на маю думку, вершаў можна лічыць наступны:

Вырай — мой страчаны рай,
твой няйздзейснены дзень…
Паляцелі?
Я хварэю на сцень —
Мы з табой памяняліся ценямі…
Целы
Засталіся на месцах.
На месяц
Накінуць вяроўку — арэлі
Зрабіць бы… Згарэлі
Твае маякі.
І якія
Краіны, калі
Ты не ведаеш мовы маёй?!

Сённяшняя літаратурная моладзь знаходзіцца ў пошуку новых спосабаў самавыражэння, галоўнае, каб гэта спрыяла развіццю творчай асобы і прыводзіла да цікавых знаходак. Тонкае светаадчуванне пісьменніцы, яе незвычайны філасафічны падыход да паўсядзённасці напаўняюць творы свежым паветрам новых ідэй. Наш час і патрабуе ад творчага чалавека нестандартнага мыслення, новага падыходу да жыцця. Таццяна Сівец атрымала добрую гуманітарную адукацыю, закончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя М. Танка, аспірантуру Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, працуе на радыёстанцыі «Беларусь» у аддзеле падрыхтоўкі праграм на замежных мовах. Можна зазначыць, што і вучоба, дзе яна сустрэла нямала выдатных настаўнікаў і дарадцаў, і цікавая праца дапамагаюць маладой, багата адоранай дзяўчыне знайсці правільны напрамак у розных праявах творчага жыцця. А пакуль Т. Сівец толькі пачала асвойваць свежыя літаратурныя струмені, спрабуе сваімі крыламі намацаць іх сілу, гатова спазнаць радасць і расчараванне. Таму яна спрабуе сваё пяро ў розных жанрах, выпрацоўвае свой асабісты стыль, а галоўнае тое, што свае творы пісьменніца імкнецца напоўніць сапраўднай літаратурнай сутнасцю.

Маладое пакаленне беларусаў у наш час вандруе па свеце свабодна, не прызнаючы ніякіх межаў і абмежаванняў, а творчая моладзь падарожнічае не толькі на ўсіх прыдатных для падарожжа відах транспарту, а часта — з дапамогай слова па строфах і рыфмах вершаў. Верагодна, гэта самы варты з усіх вядомых спосабаў вандровак, ва ўсялякім выпадку, самы вытанчаны.

Давайце павандруем і мы з вамі па старонках новай кнігі Таццяны Сівец і пазнаёмімся з героямі яе твораў.

Прысутнасць самой паэтэсы ў кожным вершаваным творы абавязковая, яшчэ часта ў яе строфах можна напаткаць Яго... Многія вершы, якія ўвайшлі ў зборнік «Таму, хто знойдзе…», напоўнены каханнем, тым шчырым пачуццём, якое перапаўняе сэрца дзяўчыны. Неардынарнасць светапогляду дапамагае ёй перадаваць пачуцці вершаваным словам незвычайна, і таму ў вершах вы не знойдзеце простых уздыхаў на лаўцы і прагулак пад месяцовым святлом, затое можна наталіцца такім васьмірадкоўем:

Хутка сходнія дні,
Хутка сцішыцца шал месяцовы,
І засіліцца ветах
На лейчынах млечных дарог…
Ты павесіш свой німб
Над дзвярыма, нібыта падкову.
Я накладваю вета
На слова, што ты не збярог.

Каханне — гэта вялікае шчасце, збаўленне ад адзіноты і бессэнсоўнасці жыцця. Яно нараджае нешта незямное, светлае, лёгкае, радаснае, а верш напаўняецца такімі прыгожымі словамі, што на хвілю дранцвее сэрца і падступаюць слёзы:

Тады сутонь становіцца святлом,
Спатоліўшы ахвярныя надзеі.
Чужы палёт раўняецца падзенню
На памяжоўі між дабром і злом.

Але ж не ўся лірыка Т. Сівец такая пяшчотная і плаўная, большасць яе вершаў насычаны вельмі пякучымі эмоцыямі, пачуцці перададзены з невераґодным уздымам, прапушчаны праз сэрца з нервовым надрывам, на краі магчымасці вытрымаць усё пасланае звыш: «Гэты дзень — як праклён, гэта ноч — бы пухліна. // Рыхтаваны двубой — паляванне на боль. // Стогадовых надзеяў здабытак хвілінны — // Апатрыдная радасць сустрэчы з табой», а далей моц псіхалагічных суадносінаў яшчэ нарастае: «Мы палілі палацы былых паражэнняў, // Мы цалялі па крылах сівых галубоў, // А за кроквамі кратаў, стамлёны, зблажэлы, // Назіраў і не верыў у горшае Бог…».

Часты паэтычны вобраз вершаў паэтэсы — цішыня, якая жыве і дзейнічае нароўні з чалавекам: «Жыццё сабе пашыю з цішыні, // З пяску і сноў зляплю пустое сэрца, // Што будзе біцца ў сотню кілагерцаў, // Пакуль жывы ў нябёсах рэшні зніч», прычым вобраз гэты гучыць у творчасці паэтэсы з асаблівай сілай:

Цішыня…
  Быццам вар, апякае далоні і вусны,
Цішыня…
  У вузлы пазакручвала ўсе скразнякі.
Цішыня…
  Бы ў палонку, у снежна-блакітную
    вусціш…
О, мой кат і ўладар!
  Не жадаю табе цішыні…

А ў другім вершы Цішыня дзейнічае яшчэ больш энергічна: «Апускаю сцягі — у мой горад прыйшла Цішыня. // Заваёўцай нахабнай разбіла замкнёныя дзверы» і далей: «У агоніі крокаў растане надзея на крык, // Стане шэрая ноч Цішыні пашанотнаю прошчай… // Хай усцешыцца той, хто мой дом цішынёю скарыў // І сцягі запаліў над маёй безназоўнаю плошчай, — // Я вучуся маўчаць — пераможна, аблажна, наўзрыд!..». Што дало паэтэсе, для якой слова — гэта яе зброя, самавыяўленне, той нябачны штуршок, каб так уславіць цішыню і напісаць: «Пакідаю свой дом — ён даволі цярпеў галасы, // Каб агню нематы расчыніць аканіцы гасцінна!» і «Я сыходжу, каб быць з Цішынёю навечна «на Вы». Цішыня — гэта толькі адмысловая дзейная асоба творчасці ці нешта іншае і мае вялікі сэнс? Пра гэтым можна толькі здагадвацца...

Смутак — паўнавартасная дзейная асоба верша «Дыялог аўтаркі з урачом» і начны суразмоўца паэтэсы. Ён прыходзіць да яе, «п'е гарбату і глядзіць на манітор», потым задае такія вар'яцкія пытанні, на якія ніхто не зможа даць адказ: «Колькі будзе, калі дзень адняць ад ночы? // Як памножыць цень на сонца // І знайсці ўчарашні дзень? // Дзе вучыцца чара-

дзейству // І цярпенню, каб аднойчы // Затрымаць адбітак ветру на спалоханай вадзе?» Такія пытанні, верагодна, могуць пачуць, акрамя маладых паэтэс «а чацвёртай, па світанні…», хіба што ўрачы ад пацыентаў лячэбніц з кратамі на вокнах. Завітала ў верш і адзінота, якая ў кожнага свая, на думку паэтэсы: «Кожнаму — адзінота свая… // І крок, і рух у яе адрозны: // Каму — сумненні, камусьці — крозы, // А мне хай будзе вясёлы ямб».

Лірычная гераіня Таццяны Сівец і іншыя вобразы, што жывуць у яе вершах і не былі разгледжаны намі, своеасаблівыя і часта не вельмі радасныя, але без іх не бывае жыцця. Паэтычная мова аўтаркі вельмі сакавітая, арыгінальнасць яе метафар, параўнанняў, эпітэтаў, незвычайных вобразаў заваражвае: «Прачнуцца — і глядзець, як па мансардах // Рудое кацяня ганяе сум…», «На канапе маёй кацянём прытулілася ноч», «Замест гарбаты настойваць жаль», «Гэтак светла — маліцца слязьмі // І ў світанак захутвацца снежны…», «Поўня грэлася над вогнішчам…», «Ноч глядзела на нас // Касавурым каровіным вокам, // Учарашнія сны // Паміралі на мокрай траве», «І словы чаромхавай квеценню // Асыплюцца з вуснаў», «на захадзе сонца // Зязюляй шукае гняздо». «Нанізвае пачуцці на агонь // Наіўная танцорка Пражскіх пляцаў», «Яснавокая поўня, нібыта малая сястра, // Назірала за мною, забраўшыся на падаконне», «Бы восы, замкнёныя ў скрыні малой, // Гудзелі ўспаміны, зняважана-злосна». Палітра эмоцый і пачуццяў паэтэсы настолькі багатая, што прыклады гэтыя можна было б прыводзіць бясконца, многія з іх светлыя і добрыя, але ж у некаторых надта трапных, а падчас і страшнаватых, дамінуе чорны колер, што здольна выклікаць у чытача нават прымхлівы жах:

Дзве птушкі, перабітыя адной
Маланкай… Не ратуе безнадзейнасць
Ад слова, ператворанага ў дзею!

Многія вершы Т. Сівец — цудадзейная гармонія слова і сэнсу, накшталт апісання аднаго дня, «зняможана-кароткага», якому пашчасціла быць занатаваным у яе вершы. Ён так прыгожа расквечаны паэтычным словам, што купаешся ў ім, як у чысцюткай крынічнай вадзе:

Азёры сноў пілі тваё дыханне,
У прагнасці гублялі берагі…
І гэтак пачынаўся дзень другі
Ад нараджэння нашага кахання.

Ляжаў світанак на тваіх руках
Жвірынкаю ружовага мармуру,
Глытала сонца волкую пахмурнасць
З нясцерпам згаладалага звярка.

Зусім іншыя словы ляглі ў аснову другога верша, дзе чорнай хмарай наплывае ў словы напружанасць і з небывалай сілай паказаны неспакойны псіхалагічны стан аўтара: «Перабітых дарог // Заскарузлыя хцівыя пальцы… // Я іду напрасцяк, // Я хрыбты хрызантэмам крышу… // І данайскіх дароў // Не прымаю, // І хрып на распяцці // Я не чую… // Ёсць толькі святло // І, бы провад аголены, шум». Так разнастайна і ўмела карыстаецца паэтэса словам для прыдання рознай танальнасці творам, выяўлення рознага настрою.

Аўтарка трапна ўплятае ў карунак вершаў выразы сусветнавядомых герояў мінулых стагоддзяў: «Вітанне Цэзару ад тых, хто йдзе на смерць!», «Хай будзе рана мая смяротнай!» — // Казалі воі і слалі неба сабе пад ногі…», што служыць упрыгожваннем малюнка вершаў.

Валоданне некалькімі замежнымі мовамі дае магчымасць Таццяне Сівец лёгка жангліраваць асобнымі словамі і цэлымі выказваннямі з лацінскай, англійскай, нямецкай, французскай і іншых моў. Гэтая асаблівасць нагадвае творчую працу выдатнага шэф-повара, які, каб надаць фірменнай страве непаўторны смак і вытанчанасць, ужывае асобныя, вядомыя толькі яму спецыі. Такімі прыправамі ў вершах Т. Сівец з'яўляюцца іншамоўныя словы, якія яна ўжывае ў большасці вершаў да месца і вельмі трапна, і яны падкрэсліваюць асноўную думку твора. Так слова «свабода» ў вершы з ідэнтычнай назвай паўтараецца трохкратна на род-

най мове з рознымі знакамі прыпынку, а паўтарэнне гэтай жа сентэнцыі на французскай мове з'яўляецца тым апошнім неабходным штрыхом, які надае яшчэ большую вастрыню твору.

Вялікі сэнс, на маю думку, нясе падзагаловак зборніка — «Каханне ды іншыя казкі». Па-першае, адсюль выходзіць, што каханне — ёсць казка. Пра казачнасць найпрыгажэйшага на зямлі пачуцця хто толькі не пісаў і не гаварыў. Па-другое, усе іншыя творы, якія склалі зборнік, таксама казкі. Праўда, п'еса «Шафа» па сваім афармленні казка, але надта жудасная. Тэматыка нагадвае добра вядомыя нам часы сталінскіх рэпрэсій, аб гэтым жа гаворыць і сама аўтарка: «Дзеянне адбываецца ў трыццатыя гады мінулага стагоддзя», але каму, якой узроставай катэгорыі чытачоў і гледачоў, калі ставіць па п'есе спектакль, можна адрасаваць гэты твор — загадка. У падлеткаў п'еса наўрад ці выкліча цікавасць з-за сваёй прастаты, а адрасаваць яе маленькім чытачам таксама нельга, бо п'еса, якая напісана як бы на іх узрост, не зможа даць ім пазітыўнай сэнсавай нагрузкі і тэматычна, і з-за непрадуманасці сюжэта і яго незавершанасці. Усе знаходзяцца на раздарожжы, лёс бацькоў да канца не вырашаны, яны так і засталіся разлучанымі з дзецьмі, дабро не перамагло зло, ніякая чароўная палачка не зможа замяніць подзвіг чалавека, калі ён ратуе сваіх родных.

У лік «казак» трапіла адно вельмі рэалістычнае апавяданне, няхай і з незвычайнай назвай «Добрайраніцыдзецісядайцекаліласка». Яно распавядае пра адзін звычайны дзень студэнткі-практыканткі, якой некалі была і сама аўтарка гэтага твора, бо ўсе, хто атрымаў дыплом БДПУ, праходзілі практыку ў школе абавязкова. Чаму ж тады гэты аповед пра Ядвігу Францаўну Бурую ўвайшоў у раздзел «Казкі пра К»? Не магла ж аўтарка напісаць гэта беспадстаўна, пісьменнік усё павінен прадугледжваць і абдумваць. Фінал твора вельмі паказальны: «Апошні дзень педагагічнай практыкі. Ядвіга Францаўна, прыходзьце да нас яшчэ! Дзякуй, дзеці! (І няпрошаная сляза скацілася па ейнай шчацэ.) Не дачакаецеся!!!» Вось гэтае «Не дачакаецеся» ды яшчэ тры клічнікі ў канцы гавораць адназначна аб намерах студэнткі не звязваць сваё жыццё ў далейшым са школай. Але ж чаму няпрошаная сляза скацілася па ейнай шчацэ? Шкадаванне. Але аб чым? Пра гэта мы можам толькі здагадвацца, адказу ў тэксце няма. Вось таму і казка, што ўсё чараўніцтва, якое звязана са школай, з дзеткамі, з іх непасрэднасцю і даверам, можа ніколі не паўтарыцца. А можа, казка і зусім па іншай прычыне, проста, «каб зразумець іншага чалавека, трэба паглядзець на свет яго вачыма». Словы: «Мне сапраўды варта змяніць пагляд на жыццё!», якія прамаўляе юная чараўніца з п'есы «КМЧ», што таксама ўвайшла ў новы зборнік, могуць паслужыць заклікам аўтара і да ўсіх нас, чытачоў, каб мы па-новаму зірнулі на жыццё і ўбачылі паўсюль казку ў яе найлепшых праявах. А жаданне, якое выказвае яшчэ адна дзейная асоба гэтай п'есы-казкі, свойскі вуж Жалгуін-Каралюс — «Проста ва ўсім мусіць быць справядлівасць!», — спраўдзіцца наяве, толькі ў гэта трэба верыць.

***Леанід ЛЕВАНОВІЧ***
**«Палыновы вецер».**
**Мінск. Літаратура і Мастацтва. 2009**

Чарговая кніга Леаніда Левановіча зацікавіць прыхільнікаў айчыннай рэалістычнай прозы. А ім ужо добра вядомы і аўтар, і яго героі, бо пяць раманаў Леаніда Левановіча знітаваныя агульнымі персанажамі і месцам дзеяння. Раман «Палыновы вецер» стаў працягам папярэдніх раманаў «Шчыглы», «Паводка сярод зімы», «Дзікая ружа», «Сіняе лета», «Бесядзь цячэ ў акіян».

Чытач зноў сустрэне сваіх любімых герояў: Андрэя Сахуту, Пятра Махавікова, участковага Бравуса. Яны паўстаюць у «Палыновым ветры» ўжо людзьмі сталага веку, якім давялося многае перажыць, але і набыць пэўны жыццёвы вопыт.

Дзеянне твора адбываецца ў самы, бадай, супярэчлівы перыяд нашай новай гісторыі — у 80-я — 90-я гады XX стагоддзя. Фонам падзей рамана робяцца катастрафічныя змены ў грамадстве, выкліканыя развалам СССР і аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Але ў цэнтры «Палыновага ветру» гісторыя кахання і пошукаў чалавекам свайго месца ў жыцці.

***Алесь БАЧЫЛА***
**Радзіма мая дарагая.**
**Мінск. Літаратура і Мастацтва. 2009**

Выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва» выпусціла кнігу Алеся Бачылы. Назвай кнігі ўзяты радок аднаго з самых любімых чытачамі вершаў паэта, які стаў папулярнай песняй — «Радзіма мая дарагая…»

У кнігу ўключана вялікая падборка вершаў Алеся Бачылы, напісаных у 60-я — 80-я гады мінулага стагоддзя, а таксама эсэ.

У сваёй аўтабіяграфіі Алесь Бачыла прызнаваўся, што «…пісьменнік у сваіх творах не можа не пісаць пра сябе. Нават тады, калі піша пра іншых. Яго «я» ўгадваецца ва ўсім: у тым, з якіх пазіцый яго больш за ўсё цікавіць». Можна меркаваць, што паэта найбольш цікавіла жыццё землякоў. Нярэдка ў вершах Алесь Бачыла звяртаецца да падзей Вялікай Айчыннай вайны, але няменшая ўвага надаецца ў іх і рэаліям 60-х — 80-х гадоў.

Творы паэта напоўненыя глыбокай павагай да працавітага, добразычлівага беларуса. Аўтар паслядоўна праводзіў думку пра тое, што ў дзяржавы няма большага багацця, чым людзі.

У другой частцы кнігі змяшчаецца эсэ Алеся Бачылы «Дарогамі Максіма Багдановіча», у якім аўтар даследаваў і па-мастацку пераасэнсаваў жыццё і творчасць айчыннага класіка. І, нягледзячы на тое, што асобе Максіма Багдановіча і яго творчай спадчыне заўсёды надавалася вялікая ўвага, асабліва цікава чытаць развагі аб жыцці і творчасці паэта, напісаныя таксама паэтам.

***Іван ЯРАШЭВІЧ***
**Чэрвеньшчына:**
**гісторыя ў тапонімах.**
**Мінск. Літаратура і Мастацтва. 2009**

Горад з прыгожай назвай Чэрвень (а да 18 верасня 1923 года ён насіў не менш прыгожую, загадкавую назву Ігумен) з'яўляецца цэнтрам Чэрвеньскага раёна. Іван Паўлавіч Ярашэвіч зацікавіўся гісторыяй і этымалогіяй назваў населеных пунктаў гэтага краю. Вынік яго росшукаў — кніга, якая выйшла ў 2009 годзе ў РВУ «Літаратура і Мастацтва». Яна называецца «Чэрвеньшчына: гісторыя ў тапонімах».

З гэтага выдання чытач даведаецца аб паходжанні такіх назваў, як Адынь,Валадута, Зайцы, Каліта, Малая Ганута, Падар, Убель, Чыславое і многіх-многіх іншых.

Складзена кніга надзвычай удала. Адкрываецца яна нарысам гісторыі Чэрвеньшчыны, далей жа ідуць раздзелы, прысвечаныя асобным сельскім саветам. Завяршаецца кожны раздзел тлумачэннем назваў яго вёсак, якія падаюцца ў алфавітным парадку.

Трэба адзначыць, што ў канцы кнігі прыведзены алфавітны паказальнік тапонімаў — ён дазваляе хутка адшукаць звесткі аб паходжанні той ці іншай назвы.

***Уладзімір ШУГЛЯ***
**Рытмы лёсу.**
**Мінск. Літаратура і Мастацтва. 2009**

Паэтычная паліца РВУ «Літаратура і Мастацтва» ў 2009 годзе папоўнілася кнігай рускага паэта, жыхара Цюмені Уладзіміра Шуглі. На беларускую мову вершы пераствораныя, бадай, самым маладым беларускім майстрам паэтычнага перакладу Андрэем Цяўлоўскім. І пераствораны сапраўды па-майстэрску. Пераклад цудоўна перадае эмацыянальны настрой і тонкі малюнак арыгінала.

Фармат кнігі, класічнае афармленне, выкананая ў стрыманых колерах вокладка — усё гэта падкрэслівае змястоўнае напаўненне зборніка. Паэт імкнецца да лаканізму, дакладнасці і выразнасці думкі. Вершы Уладзіміра Шуглі натхнёныя жыццёвымі назіраннямі, успамінамі, развагамі над сённяшнім быццём. Але ў першую чаргу яго творы — лірыка, якая ідзе ад сэрца.

Юры КЛЕВАНЕЦ

# ВАРЫЯНТ РЭКАНСТРУКЦЫІ ЗНЕШНЯГА ВЫГЛЯДУ СВІСЛАЧЫ XII—XIII СТАГОДДЗЯЎ

«**Краязнаўчая** газета» ўжо неаднаразова пісала пра адметны гістарычны і археалагічны помнік — Свіслацкі замак, які знаходзіцца ў вёсцы Свіслач Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці.

Замак двойчы грунтоўна вывучаўся археолагамі. Першы раз — пад кіраўніцтвам Э. Загарульскага ў 1962—1972 гадах. Другі — падчас раскопак, якія праводзіліся А. Ільюцік і В. Кошманам у 2000—2008 гадах. Кожны сезон археалагічных росшукаў адкрывае ўсё новыя старонкі мінуўшчыны, паглыбляючы нашыя веды як пра жыццё на канкрэтным паселішчы, так і ўвогуле — пра тую далёкую эпоху.

З цягам часу назапашана шмат разнастайных матэрыялаў, якія сведчаць аб жыцці Свіслачы 800—900 гадоў таму. Прыйшла пара абагульнення засведчаных фактаў.

Па-першае, мы маем падставу гаварыць пра даволі доўгую і не вельмі простую гісторыю паселішча часоў Старажытнай Русі. Вадзім Кошман прасочвае два этапы забудовы на замчышчы той эпохі. Першы этап пачынаецца ў першай трэці XI стагоддзя (знойдзена, напрыклад, бусіна «з вочкам». Такімі знаходкамі ганарацца, між іншым, наўгародскія музеі), доўжыцца некалькі дзесяцігоддзяў і звязаны, хутчэй за ўсё, з адасабленнем Полацкага княства і спробамі яго ўладальнікаў пашырыць сваю тэрыторыю за кошт суседзяў. Далей ідуць часы, калі Полацкая зямля сама трапляе ў віхуру раздробленасці. Новы ўздым будаўніцтва ў Свіслачы В. Кошман слушна звязвае з дзейнасцю няўрымслівага князя Глеба Менскага. Гэты князь, таксама як яго папярэднікі, родзічы і нашчадкі, усё жыццё паклаў на тое, каб рознымі спосабамі павялічыць прастору свайго ўдзелу.

Але ж, як вядома, час княжання Глеба быў не вельмі доўгі, яго энергіі, волі і розуму не хапіла дзеля таго, каб спыніць ці хаця б прыпыніць драбленне валоданняў і маёнткаў. Таксама, прынамсі, як не здужалі затрымаць кола часу і іншыя валадары Русі, нават больш моцныя і аўтарытэтныя.

У наступным пакаленні княжацкага роду ўжо бачна, што правіцелямі маленькіх удзелаў вялікай «шматковай імперыі Рурыкавічаў» маніпулююць больш моцныя суродзічы. Замест хаатычных сутыкненняў вайсковых атрадаў асобных зямель цяпер усё часцей можна ўбачыць больш-менш трывалыя кааліцыі — кожная са сваёй «праўдай».

Уплыў гэтых кааліцый — як Манамахавічаў, так і Вольгавічаў — на падзеі на тэрыторыі сучаснай Беларусі цяжка не заўважаць. Так, нельга ігнараваць паслядоўнае пашырэнне ўладання Вольгавічаў (галоўнае валоданне — Чарнігаў) на Беларусі ў сярэдзіне XII стагоддзя. Гомель, горад не меншы за Полацк, існаваў у трывалым падпарадкаванні Чарнігаву, потым да Вольгавічаў адышлі Слуцк і Клецк. У 1150—1160-х гадах Чарнігаўскае княства набыло рысы вялікай дзяржавы. Чарнігаўскі князь рукамі князёў Друцкіх, на якіх меў уплыў, не меней амбітных і няўрымслівых, чым менскі Глеб, наўмысна падтрымліваў, гаворачы

сучаснымі словамі, «кіруемы хаос» на тэрыторыі сучаснай Беларусі. З аднаго боку ён падштурхоўваў сваіх саюзнікаў на варожыя дзеянні супраць Менска і Полацка, а з другога — рабіў міратворчыя захады, прыпадобіўшыся такім чынам лісе з венгерскай казкі, якая дзяліла кавалак сыру паміж двума мядзведзямі, адкусваючы патрошку ад кожнай паловы.

Але, паводле італьянскай прымаўкі, усе лісы калі-небудзь сустрэнуцца ў футравай краме. Праз некалькі год пасля смерці чарнігаўскага Святаслава (1164 год) хваля драбленняў ахапіла і гэтае княства, што толькі дабавіла супярэчнасцей у агульны лёс Старажытнай Русі.

Такі шматслоўны экскурс у гісторыю зроблены дзеля таго, каб мець магчымасць паразважаць пра лёс Свіслачы. Трэба толькі папярэдзіць чытача, што гэтыя высновы маюць у значнай меры імаверны характар, бо ў вядомых нам летапісах XII — пачатку XIII стагоддзяў не сказана пра Свіслач ніводнага слова.

Атрымаўшы значны кавалак зямель на захадзе (ужо адзначаныя Клецк і Слуцк), чарнігаўскі князь не мог не імкнуцца набыць і Свіслач як мосцік паміж гэтымі ўдзеламі і трывала «сваімі» Гомелем і Рэчыцай. У Свіслачы і Бабруйску здаўна перакрыжоўваліся шляхі — як водныя, так і сухапутныя ў розных напрамках — у прыватнасці, на Друцк, Пінск, Слуцк і Гомель, што было вельмі зручна тым жа князям Друцкім для зносін з чарнігаўскім валадаром. Сляды гэтых шляхоў існуюць і дагэтуль у выглядзе ланцугоў здаўна закінутых паселішчаў і ўрочышчаў з назвамі накшалт «Татарскага Броду», «Лысай Гары», «Чортава Моста» і гэтак далей.

Здаецца, Свіслач усё ж такі адышла ад Мінскага княства і болей ніколі не падпарадкоўвалася яму як васальная адзінка — пра гэта сведчаць дакументы больш позняга часу. Трэба лічыць, што пасля смерці Святаслава чарнігаўскага ў ёй з’явілася сваё адгалінаванне шматлікага роду Рурыкавічаў, якое мела больш сувязей з паўднёвымі землямі, чым з Менскам ці Полацкам.

Такім чынам, канец 1160-х — пачатак 1170-х гадоў — мяжа пачатку існавання яшчэ аднаго «шматка» ў імперыі Рурыкавічаў.

Разабраўшыся са свіслацкай гісторыяй, звернем увагу на знешні выгляд гарадзішча эпохі Старажытнай Русі.

Па-першае, пляцоўка гарадзішча была вельмі шчыльна забудавана. У час раскопак 1962—1972 гадоў выяўлены рэшткі чатырох невялікіх пабудоў. Яны месціліся бліжэй да паўночнай і ўсходняй сцен. Даследаваннямі 2000—2008 гадоў выявілі сляды двух больш вялікіх дамоў, якія месціліся бліжэй да ракі, на поўдзень ад увахода на замчышча. Усвядоміўшы гэта і ўспомніўшы з інстытуцкіх часоў вядомае «размеркаванне Гаўса», трэба лічыць, што цэнтр града знаходзіўся не ў геаметрычнай сярэдзіне пляцоўкі, а дзесьці каля паўднёвай сцяны, у самым трывалым для абароны кутку замка. Тут трэба ўдакладненне: помнік у Свіслачы зараз называецца «замкам» па завядзёнцы, якая ідзе з часоў ВКЛ, але за 300 год да таго гэта было гарадзішча. Яно мела выгляд умацаванага паселішча з пабудовамі, якія належалі розным уласнікам. У часы Старажытнай Русі, як і ў эпоху ВКЛ, князі мелі свае ўласныя замкі, напрыклад, Любеч, рэканструяваны Б. Рыбаковым, але ж Свіслач падобна не да яго, а да горада, праўда, маленькага.

У цэнтры паселішча, верагодней за ўсё — на месцы рэшткаў старажытных муроў у атачэнні баярскіх дамоў (а знойдзеныя ў 2000—2008 гадах пабудовы хутчэй за ўсё баярскія) — стаялі харомы князя.

Толькі не трэба ўяўляць харомы і дамы баяр часоў Старажытнай Русі ў выглядзе палацаў з галівудскіх стужак. За рэдкім выключэннем вярхоў тагачаснага грамадства жыла па сённяшніх мерках сціпла: спалі на лаўках і палацях, грэліся хутчэй за ўсе каля курных печак, якія былі і ў хатах простага люду, елі ў асноўным з драўлянага ці глінянага посуду. Дом памерам 6х8 метраў лічыўся вялікім. Іншая справа, што ў харомах было часцей за ўсё два паверхі: святліцы —

наверсе, грыдні — унізе. Але ж і такая хата па сённяшнім часе не выглядае вельмі вялікай.

У адным з маленькіх дамкоў, адкрытых Э. Загарульскім, жылі свіслацкія рамеснікі. Т. Скрыпчанка, даследчыца свіслацкіх шкляных бранзалетаў, зрабіла, праўда, не вельмі ўпэўнена, выснову, што нейкая частка шкляных бранзалетаў, знойдзеных падчас даследаванняў 1962—1972 гадоў, была зроблена непасрэдна ў Свіслачы. В. Кошман лічыць, што тут рабіліся і іншыя жаночыя ўпрыгожванні, напрыклад, з каляровага металу. Падставай для такога меркавання кіраўнік апошніх раскопак называе не вельмі высокую якасць вырабаў. Можна, такім чынам, уявіць, што свіслацкія майстры былі рамеснікамі шырокага профілю: браліся за любую справу, але рабілі яе «па ўзору» і не вельмі якасна.

Даволі складаным пытаннем да сённяшняга часу з'яўляецца выгляд свіслацкіх умацаванняў. Што там было: астрог ці гародні? У часы ВКЛ на замкавых валах месціліся гародні, таму можна меркаваць, што падобныя ж гародні стаялі там і раней. Валы трымалі іх вагу і раней, і пасля, бо былі пэўным чынам умацаваны ўнутры. Толькі сцены часоў Старажытнай Русі былі ўсё ж такі больш архаічныя. Вежы для лучнікаў ставіліся ў асноўным над варотамі. Так сцвярджаюць даследчыкі абарончай архітэктуры.

Вось мы і атрымалі прыблізную выяву града Свіслач 800-гадавой даўніны. Яна вельмі падобная на іншыя даследаваныя гарадзішчы тых часоў. А ці трэба было чакаць істотных адрозненняў?

## *Як быў зроблены макет Свіслацкага замка*

Аднойчы ў маім доме прагучаў тэлефонны званок. Незнаёмы чалавек назваўся Аляксандрам Дорашам і сказаў, што чытаў мае артыкулы пра Свіслацкі замак і Свіслацкую воласць ды прапанаваў пабудаваць макет замка. Я адказаў, што сам пра гэта ўжо думаў, але адзін такую працу не адолею. Самае цяжкае ва ўсёй справе тое, што патрэбна некалькі тысяч «бярвенняў». Іх можна зрабіць з запалак, але ж запалкі не зусім падыходзяць па памерах, калі браць маштаб 1:100, а ў іншым маштабе будзе цяжка вылічаць памеры збудаванняў. Да таго ж запалкі будуць кідацца ў вочы гледачу, што таксама дрэнна, бо калі рабіць такі макет, то не для сябе, а для якога-небудзь музея.

Але мой суразмоўца глядзеў на ўсё больш аптымістычна і прапанаваў сустрэцца.

Саша Дораш аказаўся токарам з аўтаагрэгатнага завода, на той момант яму было сорак гадоў. Мяне зноў здзівіла, што ён, на мой погляд, не зразумеў цяжкасці той справы, за якую яму так хацелася ўзяцца. Але ж, тым не менш, мы дамовіліся, што я знайду ўсю неабходную літаратуру, і ўвогуле — на мне інжынерная справа, а бярвенні... што ж, з бярвеннямі ён неяк сам разбярэцца.

Для ўяўлення канструкцыі замка мы карысталіся, па-першае, вядомым інвентарным актам 1560 года, які я слова ў слова перапісаў у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, таксама працамі археолага і гісторыка архітэктуры П. Рапапорта, апісаннямі і рэканструкцыямі Віцебскага замка і астрогаў рускіх казакоў у Сібіры. Мы знайшлі, што артыкулы Дз. Даўгялы, які ўпершыню даследаваў акт 1560 года, не зусім адпавядаюць тэксту самога дакумента. Так, у інвентары гаворыцца, што і мястэчка, і замак былі абведзены астрогам, а замак у дадатак — яшчэ і гароднямі. Даўгяла звесткі пра астрог вакол замка апусціў. Але ж разлікі, зробленыя Даўгялам наконт даўжыні гародняў і вежаў замка, відавочна, блізкія да ісціны.

Вельмі складаным было пытанне — дзе стаялі гародні. На першы погляд, працей нічога няма: яны месціліся па перыметры пляцоўкі, як гэта і намалявана ў ілюстрацыях да артыкулаў Даўгялы. Але ж такі выбар размяшчэння гародняў

патрабуе доказу. На самай справе, пляцоўка абведзена валам, і калі гэты насып быў зроблены ў часы ВКЛ, то на ім нельга было ставіць ніякія пабудовы, бо тую эпоху абарончыя валы насыпалі проста з пяску. На пяску не паставіш ніякіх сцен — усё роўна яны не ўтрымаюцца. У папярэднюю эпоху, у часы Кіеўскай Русі, замкавыя валы ўзмацнялі клецямі з бярвення, сценкамі з неабпаленай цэглы, іншымі адмысловымі збудаваннямі. Таму яны не толькі маглі несці на сабе абарончыя сцены і вежы, але і не асыпаліся вельмі доўгі час. Напрыклад, Мінскі замак эпохі ВКЛ меў у сваёй аснове той самы вал, які быў пабудаваны яшчэ ў часы Глеба Менскага.

Каб вызначыць, дзе стаялі гародні ў Свіслачы, вясною мы з Аляксандрам выехалі ў гэтую вёску. Там мы абмералі пляцоўку замка. Пры дапамозе компаса, рулеткі і падрыхтаваных загадзя калкоў на ўсёй паверхні замчышча праз кожныя 10 метраў мы правялі паралелі ў напрамку поўдзень — поўнач, а потым перанеслі ўсе нашыя вымярэнні на паперу-міліметроўку ў маштабе 1:100. Дз. Даўгяла выкарыстоўваў у сваёй працы абмеры, зробленыя студэнтамі Шутавым і Улашчыкам у 1926 годзе. Форма і памеры замка, вылічаныя намі, з Дорашам адпавядалі тым, што прыводзіліся ў артыкулах 1920-х гадоў. А паколькі агульную даўжыню абарончых сцен Дз. Даўгяла вылічыў, карыстаючыся актам 1560 года, і гэтая даўжыня прыкладна раўнялася перыметру пляцоўкі замка, вымеранаму як Шутавым і Улашчыкам у 1926 годзе, так і намі з Дорашам амаль праз стагоддзе, то нам трэба было пагадзіцца з тым, што гародні стаялі на валах. Да таго ж, у час раскопак пад кіраўніцтвам Эдуарда Загарульскага, была зроблена прарэзка вала. У працах, надрукаваных па выніках гэтых раскопак, гаворыцца толькі пра тое, што даследаваны вал быў насыпаны ў XI стагоддзі, але пра яго дадатковае ўмацаванне нічога не сказана. Нам давялося ўзяць на веру тое, што вал, як, верагодна, і схілы равоў, якія засталіся і па сёння, у час будавання замка ўсё ж такі былі ўмацаваны.

Ну, а потым, калі асноўныя пытанні былі між намі вырашаны, пачалася праца. Для самай складанай яе часткі — вырабу мініяцюрных бярвенняў Саша змайстраваў маленькі такарны станочак. Відавочна, ён адразу вырашыў яго зрабіць, таму і быў з самага пачатку нашага знаёмства такі ўпэўнены і аптымістычны. За асноўны матэрыял была ўзята вольха, бо яна вельмі добра рэжацца. Для пляцоўкі замка была выкарыстана вялікая пліта будаўнічага пенапласту. Каб зрабіць ланцугі пад’ёмнага моста праз роў, Саша Дораш бязлітасна «раскулачыў» уласную жонку. Затое цяпер мост паднімаецца і апускаецца, як у сапраўдным замку.

Яшчэ некалькі пытанняў узніклі пры нашых спробах уявіць сабе знешні выгляд Прачысцінскай царквы, пра якую паны-рэвізоры Свіслачы пісалі ў 1560 годзе, быццам яе паставіў замест вежы «князь Ковельскі» (Васіль Сангушка, увогуле вельмі набожны чалавек). Мы вырашылі зрабіць царкву тыповым трохаб’ёмным будынкам, упісаным у лінію сцен. Перад царквой Саша паставіў і званіцу са званамі.

У працы прайшоў амаль год.

Калі макет быў зроблены, узнікла яшчэ адно пытанне — а каму ён патрэбны. На жаль, у Асіповічах не было краязнаўчага музея, таму мы дамовіліся, што яго возьме сабе Свіслацкая школа. У ёй у асобным памяшканні была сабрана невялікая музейная калекцыя ў асноўным намаганнямі мужа і жонкі настаўнікаў Ірыны Іванаўны і Аляксандра Ануфрыевіча Цімошчанкаў. Некалькі месяцаў доўжыліся перамовы. І вось нарэшце летам 2003 года макет усё ж такі набыў сваё месца і цяпер з’яўляецца цэнтральным экспанатам гістарычнай часткі школьнага музея.

Калі вы цікавіцеся мінулым — завітайце ў Свіслач, у вёску, што стаіць на паўвыспе паміж Свіслаччу і Бярэзінай, да цяперашняй загадчыцы музея Ніны Сакавай. Не пашкадуеце.

## Студзень

**1**

— 100 гадоў з дня нараджэння Герцовіча Якава Бенцыянавіча (1910—1976), беларускага крытыка, нарысіста, сатырыка.

— 85 гадоў з дня нараджэння Клачко Георгія Якаўлевіча (1925—1977), беларускага скрыпача і педагога, заслужанага артыста БССР.

— 85 гадоў з дня нараджэння Марцэлева Станіслава Віктаравіча (1925—2003), беларускага гісторыка культуры.

— 80 гадоў з дня нараджэння Шырына Лявона (Леаніда Іванавіча; 1930—1994), беларускага паэта, крытыка, дзіцячага пісьменніка.

— 75 гадоў з дня нараджэння (1935) Петэрсона Эльмарта Адэльбертавіча, беларускага мастацтвазнаўца, педагога.

— 70 гадоў з дня нараджэння (1940) Смыкоўскай Валянціны Іванаўны, беларускага літаратуразнаўца.

— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Карнеева Віталя Майсеевіча, беларускага жывапісца.

— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Хмыза Генадзя Вікенцьевіча, беларускага мастака, кінарэжысёра.

— 50 гадоў з дня нараджэння (1960) Шаметавец Таццяны Рамуальдаўны, беларускай артысткі балета, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

— 20 гадоў таму (1990) заснаваны Слонімскі беларускі драматычны тэатр.

**3**

— 105 гадоў з дня нараджэння Хадыкі Уладзіміра Марцінавіча (1905—1940), беларускага паэта, перакладчыка.

— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Трафімчука Міколы (Мікалая Мікалаевіча), беларускага паэта.

— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Шыёнка Аляксандра Сяргеевіча, беларускага мастака-акварэліста.

**4**

— 60 гадоў з дня нараджэння Барэйшы Міхася (Міхаіла Уладзіміравіча), (1950—1990), беларускага празаіка, паэта, перакладчыка, журналіста.

**5**

— 70 гадоў з дня нараджэння (1940) Матрунёнка Альфрэда Пятровіча, беларускага літаратуразнаўца.

— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Кіршчынай Тамары Іосіфаўны, беларускага мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

**6**

— 95 гадоў з дня нараджэння Дрэчына Сямёна Уладзіміравіча (1915—1993), беларускага артыста балета і балетмайстра, народнага артыста Беларусі.

**7**

— 85 гадоў з дня нараджэння Карпечанкі Васіля Васільевіча (1925—2005), беларускага паэта.

— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Антановіча Васіля Васільевіча, беларускага скульптара.

— 60 гадоў з дня нараджэння Рудэрмана Аркадзія Абрамавіча (1950—1992), беларускага рэжысёра дакументальнага кіно.

**9**

— 105 гадоў з дня нараджэння Каліноўскай (па мужу Баначыч) Таццяны Антонаўны (1905—1997), беларускай спявачкі.

— 95 гадоў з дня нараджэння Зуба Валянціна Андрэевіча (1915 — 1980), беларускага празаіка, драматурга, фельетаніста.

— 95 гадоў з дня нараджэння Шыкіна Васіля Кірылавіча (1915—1999), беларускага жывапісца.

**10**

— 100 гадоў з дня нараджэння Галубовіча Васіля Васільевіча (1910—1991), беларускага мастака тэатра, заслужанага дзеяча мастацтваў Казахстана.

— 70 гадоў з дня нараджэння (1940) Клімуця Яраслава Іванавіча, беларускага крытыка, літаратуразнаўца.

**11**

— 100 гадоў з дня нараджэння Булінскага Андрэя Аляксандравіча (1910—1984), беларускага кінааператара, рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

— 85 гадоў таму (1925) выйшла ў свет «Беларуская доля», грамадска-палітычная газета прагрэсіўнага кірунку ў Заходняй Беларусі. Выдавалася ў Вільні да 22 мая 1925 г.

— 80 гадоў з дня нараджэння Пінчука Аркадзя Фёдаравіча (1930—2008), беларускага празаіка, драматурга, журналіста.

— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Руцкай Алены Вітальеўны, беларускай паэтэсы, педагога, заслужанай настаўніцы Рэспублікі Беларусь.

**12**

— 85 гадоў з дня нараджэння (1925) Лявонава Аляксандра Міхайлавіча, расійскага і беларускага акцёра, заслужанага артыста Расіі.

— 85 гадоў з дня нараджэння Прагіна Лазара Якаўлевіча (1925—1993), беларускага графіка.

— 75 гадоў з дня нараджэння (1935) Красоўскай Раісы Ермалаеўны, беларускай артысткі балета, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

— 50 гадоў з дня нараджэння (1960) Шалюты Андрэя Ігаравіча, беларускага плакатыста.

**13**

— 140 гадоў з дня нараджэння Адамовіча Багуслава (1870—1944), беларускага мастака.

— 90 гадоў з дня нараджэння Афанасьева Барыса Ігнатавіча (1920—1992), беларускага скрыпача, дырыжора, народнага артыста Расіі.

**14**

— 90 гадоў з дня нараджэння (1920) Аўрамчыка Міколы (Мікалая Якаўлевіча), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

— 70 гадоў з дня нараджэння (1940) Кузняцова Анатоля Васільевіча, беларускага спевака, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Спрынчана Вадзіма Браніслававіча, беларускага паэта, перакладчыка.

**15**

— 75 гадоў з дня нараджэння (1935) Рагоўскай Валянціны Георгіеўны, беларускага тэатральнага дзеяча, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь.

— 75 гадоў з дня нараджэння (1935) Ратнікава Генадзя Васільевіча, беларускага мастацтвазнаўца.

— 70 гадоў з дня нараджэння (1940) Мураўчука Пятра Іванавіча, беларускага жывапісца.

**16**

— 105 гадоў з дня нараджэння Пальчэўскага Алеся (Аляксандра Восіпавіча; 1905—1979), беларускага празаіка, драматурга.

**18**

— 80 гадоў з дня нараджэння (1930) Міско Сцяпана Міхайлавіча, беларускага тэатразнаўца.

— 75 гадоў з дня нараджэння (1935) Паўлава Мікалая Георгіевіча, беларускага кінарэжысёра.

**19**

— 100 гадоў з дня нараджэння Ушакова Івана Міхайлавіча (1910—1966), беларускага тэатральнага мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Ганчаровай Людмілы Мікалаеўны, беларускага мастака тэатра.

— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Мардачовай Лідзіі Міхайлаўны, беларускай актрысы.

**20**

— 95 гадоў з дня нараджэння Гайдучыка Сяргея Міронавіча (1915—1984), беларускага мовазнаўца-германіста.

— 80 гадоў з дня нараджэння (1930) Шпака Леаніда Аляксандравіча, беларускага жывапісца, графіка, плакатыста.

**21**

— 105 гадоў з дня нараджэння Рамановіча Яўгена Сцяпанавіча (1905—1979), беларускага драматурга, празаіка, тэатральнага дзеяча, заслужанага артыста БССР.

— 80 гадоў з дня нараджэння Шэліхіна Уладзіміра Аляксеевіча (1930—2002), беларускага канцэртмайстра, дыктара радыё і тэлебачання, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

— 70 гадоў з дня нараджэння (1940) Курмакіна Анатоля Дзмітрыевіча, беларускага музыканта, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

**22**

— 120 гадоў з дня нараджэння Простага Пётры (сапр. Бобіч Ільдэфонс; 1890—1944), беларускага празаіка, драматурга, публіцыста, перакладчыка.

— 75 гадоў з дня нараджэння Ракава Віктара Апанасавіча (1935—2000), беларускага паэта.

— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Лісіцы Івана Ігнатавіча, беларускага графіка, жывапісца.

**23**

— 90 гадоў з дня нараджэння (1920) Данеліі Пятра Аляксеевіча, беларускага жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

— 80 гадоў з дня нараджэння Лакшына Арнольда Ісакавіча (1930—1994), беларускага і расійскага спевака, педагога.

— 50 гадоў з дня нараджэння (1960) Залознай Наталіі Мікалаеўны, беларускага жывапісца.

**24**

— 125 гадоў з дня нараджэння Тарыча (сапр. Аляксееў) Юрыя Віктаравіча (1885—1967), беларускага і расійскага кінарэжысёра, сцэнарыста, заснавальніка беларускай мастацкай кінематаграфіі, заслужанага дзеяча мастацтваў Расіі.

**26**

— 110 гадоў з дня нараджэння Моркаўкі Аркадзя Андрэевіча (1900—1957), беларускага паэта.

**27**

— 80 гадоў з дня нараджэння Звярко Міхаіла Мартынавіча (1930—1989), беларускага мастака керамікі.

— 80 гадоў з дня нараджэння Чуркіна Аскольда Мікалаевіча (1930—1985), беларускага графіка, плакатыста.

— 75 гадоў з дня нараджэння Бабія Зіновія Іосіфавіча (1935—1984), беларускага спевака, народнага артыста БССР.

— 70 гадоў з дня нараджэння Вышынскага Міхася (Міхаіла Антонавіча, (1940—1996), беларускага празаіка, крытыка.

— 70 гадоў з дня нараджэння (1940) Карэтнікава Валерыя Іванавіча, беларускага кампазітара.

— 50 гадоў з дня нараджэння (1960) Букацінай Галіны Мікалаеўны, беларускай актрысы.

**28**

— 70 гадоў з дня нараджэння (1940) Дайнекі Леаніда Мартынавіча, беларускага паэта, празаіка.

**29**

— 80 гадоў з дня нараджэння Лебедзевай Ганны Андрэеўны (1930—1990), беларускай спявачкі, заслужанай артысткі БССР.